што той застанецца ў Кіеве і там зацвердзіць свой мітрапалічы прастол. Для Фоція такая ўмова была непрыймальна: ён абяцаў часта наведваць Кіеў, але стала жыць адмаўляўся. Першы час Фоцій выконваў сваё абяцанне і прыязджаў у Кіеў у 1411 і 1412 гг., але пасля стаў бываць тут радзей, бо быў заняты ў Маскве.

Рэдкія і кароткачасовыя візіты мітрапаліта Фоція не задавальнялі Вітаўта і астатніх вялікалітоўскіх князёў. Вялікім жаданнем князя было мець мітрапаліта ў сваёй дзяржаве, а не ў Маскве, якая здаўна была ворагам княства. Незадавальненне мітрапалітам Фоціем больш узмацнілася, калі стала вядома, што ён вывозіць з Кіеву каштоўныя царкоўныя рэчы і асаджае царкву вялікімі падаткамі. Такія паводзіны мітрапаліта Фоція далі падставу Вітаўту выкарыстаць рашучыя меры супраць яго. Перш за ўсё вялікі князь выслаў з Кіева намесніка мітрапаліта, а калі Фоцій паспяшаўся ў Кіеў, каб вырашыць гэтае пытанне, то быў затрыманы на мяжы, абрабаваны і вярнуўся ў Маскву. Мітрапаліт Фоцій, як іншаземец і грэк, не разумеў і не ведаў сапраўднага стану царкоўных спраў у ВКЛ, дзе праваслаўныя неаднаразова мелі свайго самастойнага мітрапаліта і імкнуліся мець яго стала. Маскве яны не жадалі падпарадкоўвацца ні ў палітычных, ні ў царкоўных адносінах. Залежнасць ад мітрапаліта, які жыў у Маскве, не вырашала важнага царкоўнага пытання ў ВКЛ. Акрамя вышэйадзначаных падстаў, існавалі ўнутрыпалітычныя праблемы ў ВКЛ: у выніку заключэння Гарадзельскай уніі паміж князем Вітаўтам і каралём Ягайлам, згодна з якой каталіцтва стала прывилеяванай рэлігіяй дзяржавы, узнікла пагроза сацыяльнага выбуху з боку праваслаўных вернікаў, якія складалі большасць насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага. Такім чынам, стварэнне незалежнай ад Масквы праваслаўнай мітраполіі было адной з магчымасцяў папярэдзіць грамадзянскую вайну [6].

Паводзіны мітрапаліта Фоція дазволілі Вітаўту дамагацца прызначэння асобнага мітрапаліта для ВКЛ. Вялікі князь ведаў, што Літоўская мітраполія ўжо мела сваіх мітрапалітаў, якіх прызначаў Канстанцінопальскі патрыярх. Адмова патрыярха на запыт прызначыць на мітраполію ВКЛ Феадосія вельмі яго абурыла. Ад сваёй думкі князь не адмовіўся, а пачаў думаць, як дасягнуць мэты ў гэтым важным царкоўным пытанні. Добрага кандыдата на мітрапалітаву кафедру ён знайшоў у асобе архімандрыта Рыгора Цамблака, пляменніка мітрапаліта Кіпрыяна, чалавека адукаванага, былога настаяцеля двух манастыроў: Дзячанскага ў Старой Сербіі і Плінаірскага грэцкага. Вітаўт пазнаёміўся з Рыгорам у Вільні, калі той ехаў наведаць свойго дзядзьку мітрапаліта ў Маскву, але, даведаўшыся аб яго смерці, затрымаўся на доўгі час у ВКЛ, дзе служыў у розных царквах і стаў знакамітым сваімі пропаведзямі. Рыгор спадабаўся Вітаўту, апошні знайшоў яго найлепшым кандыдатам у мітрапаліты для ВКЛ.

Але перад Вітаўтам стаяла вельмі важнае пытанне: якім чынам дамагчыся прызначэння Рыгора ў сан мітрапаліта. Звяртацца да патрыярха па гэтай справе ён не жадаў па дзвюх прычынах: па-першае, адчуваў моцную крыўду на патрыярха за адказ узвесці Феадосія ў сан мітрапаліта, а па-другое, не меў ніякай упэўненасці ў тым, што новы запыт будзе задаволены. Для вырашэння гэтага пытання ён склікаў сабор усіх епіскапаў ВКЛ і Галіччыны.

Сабор быў прызначаны на восень 1414 года ў г. Навагрэдку, што сведчыць аб прызнанні яго як галоўнага царкоўна-рэлігійнага цэнтра ВКЛ. Пры адкрыцці сабора Вітаўт выступіў з прамовай, у якой сказаў: «Жаль мне смотреть на все это, что чужие люди станут толковать: «Вот государь не

той веры, так и Церковь оскудела; так чтоб этих толков не было, а дело явное, что все нестроение и запущение Церкви от митрополита, а не от меня». Епіскапы адказвалі: «Мы и сами не в первый раз слышим и видим, что Церковь скудеет, а император и патриарх строителя доброго к нашей Церкви не дают... Пошлем еще раз в Царьград к императору и патриарху». Вітаўт згадзіўся з епіскапамі [5].

Вырашана было накіраваць у Канстанцінопаль кандыдата ў мітрапаліты Рыгора Цамблака і паслоў ад Вітаўта. Патрыярх Яўфімій II ад прызначэння Рыгора адмовіўся.

Разззлаваны Вітаўт вырашыў дзейнічаць больш рашуча для дасягнення сваёй мэты. У сярэдзіне 1415 года ён склікаў у другі раз сабор епіскапаў і запатрабаваў узвядзення ў сан мітрапаліта Рыгора Цамблака без патрыяршай згоды. Епіскапы спрабавалі прадставіць Вітаўту кананічныя забароны, але раззлаваны князь, па словах летапісца, сказаў ім: «Аще не поставите ми митрополита в моей земли на Киев, то зле умрете». Аднак, саступаючы просьбам епіскапаў, ён згадзіўся на прапанову зрабіць яшчэ адну спробу атрымаць блаславенне патрыярха. Ізноў былі накіраваны паслы да патрыярха з граматамі, якімі быў вызначаны тэрмін для адказа, а менавіта – Ільін дзень, 20 ліпеня, а апошні тэрмін – Успенне, 15 жніўня таго ж 1415 г., але па прапанове патрыяршых паслоў, прысутнічаючых у той час у Наваградку на адваротным шляху з Масквы, працягнулі тэрмін да Філіпавага дня, 14 лістапада [1, с. 79].

Прайшлі ўсе тэрміны, а згода патрыярха не была атрымана. Тады Вітаўт ізноў склікаў Сабор епіскапаў і прапанаваў ім прызначыць Рыгора ў сан мітрапаліта без патрыяршага блаславення. Епіскапы згадзіліся. 15 лістапада 1415 г. у Наваградку, у Барыса-Глебскім храме, заснаваным яшчэ ў часы Міндоўга [2, с. 9], была здзейснена хіратонія на епіскапа архімандрыта Рыгора Цамблака з узвядзеннем яго ў сан мітрапаліта. Гэта быў смелы акт, здзейснены епіскапамі пад уплывам свецкай улады. З дзяржаўнага пункту погляду гэты акт быў неабходны, але кананічна не можа быць апраўданы.рЕпіскапы разумелі свой падман і для апраўдання выдалі акруговае пасланне, у якім абвінавачвалі мітрапаліта Фоція ў тым, што ён забірае прыбыткі з цэркваў ВКЛ у іншую дзяржаву, туды, дзе жыве. Таму яны, па прапанове вялікага князі, князей, баяр, вяльмож, архімандрытаў, ігуменаў, інакаў і святароў, прызначылі Рыгора на сан мітрапаліта, кіруючыся Апостальскімі правіламі і папярэднім прыкладам рускіх епіскапаў, якія пры вялікім князе Ізяславе самі паставілі мітрапаліта Кліма, а таксама прыкладам адзінапляменных балгар і сербаў. Пасланне падпісалі восем епіскапаў: полацкі, чарнігаўскі, луцкі, уладзіміра-валынскі, перамышльскі, холмскі, тураўскі і смаленскі. Галіцкая мітраполія і епіскапія ў той час ужо не існавала, таму што была зачынена польскім каралём [5].

Вітаўт не пакінуў без увагі гэтую важную дзяржаўную падзею. Ён выдаў акруговую грамату, у якой адзначыў тыя ж прычыны прысвячэння Рыгора ў мітрапаліта, што і епіскапы. У заключнай частцы граматы ён пісаў: «Пишем вам, чтоб вы знали и ведали, как дело было. Кто хочет по старине держаться под властью митрополита киевского — хорошо, а кто не хочет, то как хочет, знайте одно: мы не вашей веры, и если б мы хотели, чтоб в наших владениях вера ваша истреблялась и церкви ваши стояли без устройства, то мы бы ни о ком и не хлопотали; но когда митрополита нет или епископ, который умрет, то мы бы наместника своего держали, а доход церковный, митрополичий и епископский себе бы брали. Но мы, желая, чтоб ваша вера не истреблялась и церквам вашим было устроение, поставили собором митрополита на Киевскую митрополию, чтоб русская честь вся стояла на своей земле» [3, с. 19].

Справа Рыгора Цамблака вельмі абурыла мітрапаліта Фоція. Ён напісаў да праваслаўных ВКЛ пасланне, у якім абражаў мітрапаліта Рыгора і епіскапаў, якія яго прысвяцілі. Ён паведаміў, што Рыгор ездзіў у Канстанцінопаль для прысвячэння ў мітрапаліты, але там у яго адабралі сан і жадалі казніць, і выратаваўся ён толькі ўцёкам. Пры гэтым Фоцій запэўніваў праваслаўных не звяртацца да Рыгора і тых епіскапаў, якія стварылі разлад у царкве. Пасланне гэта, натуральна, не знайшло адказу ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Абражаныя выступленнем мітрапаліта Фоція епіскапы Літоўскай мітраполіі склалі новае пасланне і распаўсюдзілі яго. Гэтым пасланнем епіскапы выкрылі мітрапаліта Фоція ў нейкім страшэнным граху. Гэтае пасланне сведчыла аб поўным разрыве паміж мітрапалітам Фоціем і епіскапамірЛітоўскайрмітрапалііо[1, с. 79].

Незалежнае абранне мітрапаліта ў ВКЛ на саборы ў Наваградку ў 1415 г. сведчыць аб самастойнасці і незалежнасці гэтай дзяржавы як у палітычных, так і ў рэлігійных пытаннях. Вітаўт стаў галоўным ініцыятарам і дзеячай асобай у справе ўсталявання асобнай мітраполіі для Вялікага Княства Літоўскага. Той факт, што Наваградак становіцца афіцыйнай рэзідэнцыяй мітрапаліта, абранага ў выніку сабора, праведзенага менавіта ў гэтым горадзе, падкрэслівае галоўнае значэнне гэтага горада ў царкоўна-рэлігійным жыцці ВКЛ.

The author of this article refers to a very interesting and for some researchers to a controversial topic in the national historiography – the establishment of the lands of the Grand Duchy of Lithuania in the early XV century own Metropolia without the consent of the patriarch. In a lot of attention is paid to the political factor in the formation of an independent Orthodox Archdiocese in Novogrudok that could be and for some time for the ruling circles of the Principality evidence not only the state independence, and spiritual autonomy of the local Orthodox population. Also raises the question of recognition Novogrudok cultural and religious center of the Grand Duchy of Lithuania in this period.

Спіс крыніц і літаратуры

1. Жарскі, М. Наваградак – сталіца мітраполіі ВКЛ / М. Жарскі // Памяць. Навагрудскі раён. – Мінск, 1996. – С. 78 – 80.
2. Киселев, В. Святой путь митрополита из Новогородка в Киев / В. Киселев // Новогрудские епархиальные ведомости. – 2004. – 8 июля. – С. 8 – 9.
3. Лыч, Л. Наваградак і беларуская незалежніцкая ідэя / Л. Лыч // Навагадскія чытанні: матэрыялы навуковай канферэнцыі да 950-годдзя г. Навагрудка і 400-годдзя герба; навук. рэд. В. Ф. Кушнярэвіч. – Мінск: Беларускае выдавецкае таварыства Таварыства «Хата», 1996. – С. 17 – 21.
4. Марозава, С. В. Наваградак – царкоўная сталіца Вялікага Княства Літоўскага / С.В. Марозава // Гарады Беларусі ў кантэксце палітыкі, эканомікі, культуры: зб. навук. арт. / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал.: І.П. Крэнь [і інш.] – Гродна: ГрДУ, 2007. – С. 228 – 235.
5. Мартос, А. Беларусь в исторической государственности и церковной жизни / Режим доступа: http//www.kursmda.ru/books/ Belarus_athanasy_martos. htm. – Дата доступа: 3.04.2010.
6. Нячай, К. Выдатны славянскі пісьменнік, царкоўна-рэлігійны дзеяч / К. Нячай // Новае жыццё. – 2002. – 7 жн. – С. 14.
7. Петров, А. Мечты о золотом столе / А. Петров // Родина. – 2002. – № 11/12. – С. 168 – 172.

Навуковы кіраўнік – ***С. В. Марозава,*** доктар гістарычных навук, прафесар.

УДК 340(474/476)ВКЛ(091)“15/17”

*В. А. Быль*
*(Мінск, БДУ)*

## *ЮРЫДЫЧНЫ БОК ВЕДАЎСКІХ ПРАЦЭСАЎ У ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ У XVI – XVIII стст.*

В статье рассматривается формирование и использование антиведовского законодательства ВКЛ, а также судебная практика ведения ведовских процессов. Выделяются три составляющие законодательства: традиционные представления, официальное государственное право и заимствованные в Западной Европе правовые и религиозные нормы. Ведовские дела рассматривались различными судебными инстанциями, от копного суда до Главного трибунала, причем для разных судов характерны свои особенности. Процессы не имели религиозного или политического характера. Неразработанность антиведовского законодательства свидетельствует об относительно скромных масштабах «охоты на ведьм» в Великом княжестве Литовском.

Стаўленне да чараўнікоў было неадназначным ва ўсе эпохі, ад старажытнасці да нашых часоў. Да іх звярталіся за дапамогай у справах, іх баяліся і паважалі, часам каралі. Але часцей за ўсё гэта не выходзіла за межы міжасабовых стасункаў ці справаў асобнай грамады. Дзяржаву цікавілі чараўнікі хіба толькі ў выключных выпадках. Толькі ў XVI – XVIII стст., калі казаць пра Вялікае Княства Літоўскае, дзяржава актыўна ўмешваецца ў гэтую сферу. Менавіта санкцыянаваны дзяржавай пераслед чараўнікоў варта разглядаць як «паляванне на вядзьмарак». Важным аспектам вывучэння з'яўляецца разгляд юрыдычнага боку гэтай з'явы.

Найбольш старажытнай прававой сістэмай на землях Вялікага Княства Літоўскага з'яўлялася звычаёвае права, якое выкарыстоўвалася копнымі судамі ва ўсе часы існавання гэтай дзяржавы. Разгляд злачынстваў, здзейсненых пры дапамозе чараў, уваходзіў у кампетэнцыю копнага суду. Што тычыцца кадыфікаваных прававых нормаў, то яны доўгі час знаходзіліся ў неакрэсленым і нераспрацаваным стане. Аднак актыўнае ўключэнне ВКЛ у заходнееўрапейскае прававое поле прыводзіла да пэўных зменаў.

Дакументам, які палягаў у аснове ўсёй прававой сістэмы Вялікага Княства Літоўскага («права земскае»), быў Статут 1588 года. Менавіта ў ім упершыню на дзяржаўным узроўні была пазначана адказнасць за чараўніцтва. У артыкуле 30 раздзела 4 чарадзейства пералічваецца побач з разбоем, згвалтаваннем, падпалам і іншымі цяжкімі злачынствамі. Яно падлягае юрысдыкцыі свецкага суду – ваяводам, старастам, дзяржаўцам. Акрамя згадвання чарадзейства, Статут не дае ніякай дадатковай інфармацыі аб яго відах ці ступені цяжкасці. Разам з іншымі злачынствамі яно «караецца горлам» [1, с. 162]. Таму часта суддзі вырашалі падобныя справы па аналогіі з тымі цяжкімі злачынствамі, што былі пералічаны ў згаданым раздзеле.

Неакрэсленасць норм Статута выклікала нараканні ў сувязі з павелічэннем колькасці і ўскладненнем чараўніцкіх працэсаў у XVII ст. Гэта было выклікана ўзмацненнем пазіцый касцёла, недастатковасцю звычаёвага права і дзяржаўнага заканадаўства, а таксама пашырэннем ведаўскіх працэсаў. Падчас разгляду чарадзейскіх спраў суддзі наракалі, што «въ праве земскомъ о чарахъ достаточне не описуетъ» [2, с. 305]. Для падобных выпадкаў артыкулам 54 раздзела 4 Статута 1588

года прадугледжвалася магчымасць звароту да замежнага права: «А где бы чого в томъ статуте не доставало, тогды судъ... прикладомъ иншыхъ правъ хрестияньскихъ то отправовати и судити маеть» [1, с. 183]. І гэта была даволі распаўсюджаная практыка: недахопы ўласнага заканадаўства актыўна запаўняліся нормамі «Майдэборскага» (магдэбургскага), «Цэзарскага» (рымскага) і «Божага» (царкоўнага) права.

Магдэбургскае права грунтавалася на так званым «Саксонскім люстры» («Speculum Saxonum»). Паводле яго, для чараўніцы прадугледжвалася кара смерцю на вогнішчы. У Рэчы Паспалітай шырока выкарыстоўваліся яго польскамоўныя пераклады Паўла Шчэрбіца (выдадзены ў 1581, а пасля – у 1602 гг.), а таксама ў выглядзе перакладу і дапаможніка для суддзяў, зробленых Барталамеем Граіцкім (выйшаў у 1559 г., пазней шматразова перавыдаваўся) [3, с. 98]. Так, у вядомай справе пападдзі Грамычынай абвінаваўца заяўляе: «Тогда зажывавшы о поволаных въ злодействе ... также права цесарского Майдебурского въ контроверсыи цытованого, которое о чародейцахъ розныхъ подобенствъ и знаковъ зажывати, а подейзраного и поволаного безъ доводу прысеги на муку всказовати и выдавати кажетъ» [4, с. 127].

Нашмат часцей можна сустрэць зварот і нават цытаванне права «Цэсарскага». Асноўнай яго крыніцай быў Каралінскі кодэкс («Carolina») – агульны крымінальны кодэкс для ўсіх дзяржаў, якія ўваходзілі ў Святую Рымскую імперыю, прыняты рэгенсбургскім рэйхстагам у 1532 г. падчас кіравання Карла V. Ён рэгламентаваў парадак допыту, катаванні, неабходныя доказы, пакаранне і інш. [5, с. 210 – 211]. У Рэчы Паспалітай «Караліна» была вядома таксама ў перакладах і тлумачэннях Граіцкага («Ten postępek wybran jest z praw cesarskich ... », Kraków, 1559) [3, с. 98]. У ведаўскіх працэсах досыць часта спасылаюцца на чатырнаццаты артыкул «права Цэсарскага» і нават цытуюць яго па-польску ці па-старабеларуску [4, с. 119, 136].

Для суддзяў існавалі і іншыя дапаможнікі, складзеныя знакамітымі юрыстамі. Адным з такіх юрыстаў, папулярных і ў Рэчы Паспалітай, быў Бенедыкт Карпцоў. Гэты дзяржаўны дзеяч паўплываў на развіццё вядзьмарскай істэрыі ў Германіі мацней, чым хто-небудзь іншы. Празваны «заканадаўцам Саксоніі», ён быў сынам вядомага прафесара права ў Вюрцбургу, сам з'яўляўся прафесарам у Лейпцыгу, засядаў у Вярхоўным судзе Лейпцыга. Яго праца «Practicae Rerum Criminalum» («Пра крымінальныя законы»), упершыню апублікаваны ў 1635 г. і перавыдадзены 9 разоў, да 1723 г. быў чымсьці накшталт «Malleus Maleficarum» для пратэстантаў. Але галоўнымі крыніцамі Карпцова былі вядомыя каталіцкія дэманолагі. Карпцоў пайшоў у пераследзе вядзьмарак далей за досыць непаслядоўную «Караліну». Ён лічыў, што за вядзьмарскія злачынствы трэба судзіць толькі па інквізітарскай методыцы і што не варта абмяжоўваць мясцовых суддзяў заканадаўчымі тэхнічнымі фармальнасцямі ў атрыманні сведчанняў. Час ад часу ён выказваў меркаванне, што мясцовы суддзя павінен валодаць шырокімі паўнамоцтвамі пры разглядзе «выключных» злачынстваў [6, с. 211 – 212]. Праца Карпцова была вядома і на землях Рэчы Паспалітай. Так, нават у 1745 годзе Я. Чаховіч у сваёй «Практыцы крымінальнай» напісаў раздзел пра чары на падставе ідэй Карпцова [3, с. 98].

Таксама ў падобных справах часта адзначаецца спасылка на Біблію як на юрыдычную крыніцу. Сапраўды, у розных кнігах Старога Запавету можна сустрэць наказы супраць рознага кшталту магічных і найперш гадальных практык. Але з-за спецыфікі перакладу тэкстаў Пісання і

асаблівасцяў светапогляду тагачаснага грамадства гэтыя запаветы ўспрымаліся як законы супраць вядзьмарак. У судовых дакументах ВКЛ можна сустрэць спасылкі на «книги Мойжешовы» (кнігі Майсея): Выхад, Лявіт, Другі закон [4, с. 136 – 137] – «Варажбіткі не пакідай жывою» (Выхад, 22, 18), «Хай то мужчына, хай жанчына, калі будуць яны выклікаць мёртвых альбо чарадзейнічаць, хай будуць аддадзены смерці» (Лявіт, 20, 27).

Як відаць, у Вялікім Княстве Літоўскім не склалася ўласнага антыведаўскага заканадаўства. Здавалася б, гэта сведчыць пра нерэгулярны і выключны характар ведаўскіх працэсаў. З іншага боку, у другім складніку федэрацыі – у Кароне Польскай такога заканадаўства таксама не склалася, больш таго, у асноўных крыніцах права не згадваецца пра чарадзейства. Тут за пачатак эпохі палявання на вядзьмарак прымаецца соймавая канстытуцыя 1543 года. Але польскія даследчыкі сцвярджаюць, што гэтая канстытуцыя не мела вялікага ўплыву. Часцей у матэрыялах польскіх спраў сустракаюцца спасылкі на права рымскае, нямецкае ці Біблію [3, с. 96 – 99]. Тым не менш, маштабы палявання ў Польшчы былі большыя, чым у ВКЛ. Гэта сведчыць, па-першае, пра досыць цесную інтэграцыю Польшчы і ВКЛ у еўрапейскую прававую сістэму, а па-другое, ізноў жа, пра прыўнесены характар ведаўскіх працэсаў.

У заканадаўчым плане канец палявання на вядзьмарак не быў працяглым працэсам. Вялікі розгалас атрымаў працэс, які адбыўся ў 1775 годзе ў вёсцы Дарухова на сілезскай мяжы, калі было спалена чатырнаццаць жанчын. Праўда, сучасныя гісторыкі вельмі крытычна ставяцца як да інфармацыі аб гэтых падзеях, так і да ролі яго ў адмене пакарання за чары [3, с. 96]. Так ці інакш, на сойме 1776 года кароль Станіслаў Аўгуст прапанаваў адмяніць катаванні, а кашталян бецкі Войцэх Клюшэўскі – смяротнае пакаранне за чараўніцтва. Сейм гэта адзінадушна ўхваліў, была выдадзена асобная канстытуцыя, якая забараняла пры расследаванні чараўніцкіх спраў ужываць катаванні і караць смерцю падобных злачынцаў [8, с. 194]. Такім чынам быў пакладзены канец двухсотгадоваму санкцыянаванаму дзяржавай «паляванню на вядзьмарак».

Разгледзім больш падрабязна юрыдычную практыку ў ведаўскім пытанні.

Справы, дзе фігурыравала нанясенне шкоды праз чараўніцтва, «мели судите воеводове, старостове и державцы» [1, с. 162], г. зн. свецкія суды. Калі казаць пра Рэч Паспалітую ў цэлым, то духавенства ўвесь час спрабавала дамагчыся перадачы іх пад сваю юрысдыкцыю. Тлумачылі гэта некампетэнтнасцю свецкіх суддзяў у такіх складаных злачынствах, як чараўніцтва. Аб гэтым піша аўтар «Чараўніцы абвінавачанай», гэта ж згадваецца і ў царкоўных дакументах, як, напрыклад, у біскупскіх пастырскіх лістах віленскай дыяцэзіі (1717, 1744 гг.) [3, с. 97]. Сітуацыю не здолее змяніць нават рэскрыпт Аўгуста II ад 5 траўня 1703 года, які прадпісваў свецкім суддзям звяртацца да касцельных уладаў для папярэдняга разгляду імі сутнасці злачынства [9, с. 711]. Калі ў Польшчы духавенства яшчэ мела нейкі ўплыў у ведаўскіх справах, то ў Вялікім Княстве для гэтага не было нават юрыдычных падстаў (нагадаем, што Статут 1588 г. перадаваў гэтыя справы свецкаму суду). Калі ў 1645 г. у Верцялішках, што належалі касцёлу, падданыя звярнуліся са скаргаю аб чарах, капітул накіраваў справу паводле Статута ў свецкі суд [10, с. 31]. Прычына гэтага зыходзіць з месца царквы ў дзяржаўнай сістэме Вялікага Княства, якое было куды больш сціплым, чым у Кароне.

Вялікія паўнамоцтвы ў дачыненні да чараўнікоў, што прыносілі шкоду, меў вясковы копны суд, дзе вялікае значэнне мела звычаёвае права. Капа займала месца ніжэйшай інстанцыі,

падпарадкаванай гродскаму суду, якому была падсправаздачная і куды адсылала справы пры ўзнікненні цяжкасцяў. Іх сувязь забяспечвалася прысутнасцю на капе пэўнай службовай асобы, найперш вознага, які складаў рэляцыю для запісу ў гродскія кнігі. У надзвычайных выпадках, да якіх часта адносілі чараўніцкія справы, адначасова прысутнічала нават некалькі службоўцаў [11, с. 9 – 10]. Але калі магічныя дзеянні не мелі шкодных наступстваў, то яны не лічыліся злачынствам, такога абвінавачанага капа апраўдвала [2, с. 263 – 265, 513, 514].

Капа дзейнічала найбольш хутка і аператыўна, па гарачых слядах. Яе як правіла, збіраў той, хто высоўваў абвінавачанне. На капу мог адразу дастаўляцца злачынца, злоўлены на месцы злачынства – як быў дастаўлены Барыс Славіковіч, схоплены на чужым полі за магічнымі дзеяннямі, ці Міхалка Кучмук, які чараваў невядома на каго [2, с. 263 – 265, 498 – 499]. Дзеля таго, каб дабіцца прызнання віны, на капе выкарыстоўваліся «туртуры», «проба», «мука». Абавязак арганізацыі катавання ляжаў на абвінаваўцы: ён за свой кошт запрашаў «містра» (ката). У ведаўскіх копных справах гэта працэдура падаецца без дэталяў, але можна рабіць высновы па матэрыялах капы, што датычацца іншых злачынстваў. Першай, лёгкай «пробай» быў «хлост» – біццё розгамі, калі гэта не мела плёну, звярталіся да больш цяжкіх прыёмаў. Заканадаўства накладвала пэўныя абмежаванні на катаванні: яны не павінны былі нявечыць, іх колькасць была абмежавана і г.д., але ва ўмовах капы гэта не заўсёды выконвалася. Так, напрыклад, падазраванага ў крадзяжы «на муку взяли, и, почавши съ полудни, ажъ до вечора самого мучили, палечи его соломою, нарогами и сковородою, лучиною, на очеп ставма и къгоре ногами вешали; семь раз на муку его брали, пытаючи своихъ шкодъ, волосы его опалили, члонки надольные спалили и на нихъ вечне охромили» [2, с. 167 – 169].

Варта адзначыць, што ў матэрыялах копных судоў практычна не сустракаецца выпрабаванне чараўнікоў вадой, што было вельмі распаўсюджана і ў Заходняй Еўропе, і ў Польшчы. Лічылася, што чыстая вада не прыме чараўніка. Сярод рэдкіх згадак варта назваць браслаўскую справу 1615 года, калі трох падазраваных, звязаўшы, кідалі ў ваду, але тыя «tonąnc nie chcieli". Тады быў праведзены «следчы эксперымент": укінуты ў ваду «prawdziwy czlowiek" адразу пайшоў на дно, «asz odratowali zaliedwo". Такім чынам відавочна была высветлена віна падсудных [12, с. 14].

Капа магла выносіць смяротны прыгавор. Чарадзеяў, як і святататнікаў, прыгаворвалі да спалення [11, с. 16 – 17]. Але пра тое, як менавіта ажыццяўляўся падобны вырак, інфармацыі бракуе. У дзейнасці капы адзначаецца ўзаемадзеянне тагачаснай дзяржаўнай прававой сістэмы з прававымі і светапоглядным традыцыямі насельніцтва з перавагай апошніх. Гэтая інстанцыя параўнальна найменш зведала знешнія ўплывы. Таму матэрыялы копных судоў даюць важнейшую інфармацыю аб працяканні «палявання на вядзьмарак» у вясковым асяроддзі, якое, па сутнасці, змяшчала большасць насельніцтва краіны.

У сельскім асяроддзі шырока дзейнічаў і такі судовы інстытут, як вотчынны суд. Судаводства ў іх ажыццяўляў сам феадал ці службовыя асобы яго дваровай адміністрацыі. Меры пакарання часам прызначаліся адвольна, цяжкія злачынствы павінны былі судзіцца паводле Статута [13, с. 467]. Антычараўніцкая дзейнасць такога суда залежала ад поглядаў і энтузіязму службовай асобы. Так, у судзе Біржанскай воласці, што належала Радзівілам, разбіраліся толькі тры справы, звязаныя з чарадзействам: дзве справы аб знаходцы скарбу з дапамогай магічных дзеянняў і адна – аб забойстве. Прычым чары разглядаліся не як злачынства, а як зусім натуральныя абставіны

паўсядзённага жыцця [14, с. 112 – 119, 184 – 191]. Мелі месца і адваротныя выпадкі: у чэрвені 1758 года кіраўнік аднаго з маёнткаў графа Тышкевіча паведамляе ўладальніку, што спаліў шэсць чараўніц і зараз поўны рашучасці працягваць гэтую справу. Там жа згадваецца яшчэ адзін службовец, які спаліў двух чараўнікоў – мужчыну і жанчыну [15, с. 178]. Адзначыўся сваёй дзейнасцю і старэйшы сын Льва Сапегі Ян Станіслаў, у якога з цягам часу праявіліся сімптомы псіхічнай хваробы, што паўплывала на распачынанне ў 1630-я гг. у яго маёнтках палявання на чараўніц [16, с. 21]. Трэба адзначыць, што ў Заходняй Еўропе якраз падобныя «энтузіясты», што дзейнічалі або з ахвоты нажыцца, або са свайго фанатызму (а часам – з таго і другога), часта давалі пачатак масавым расправам, заражаючы сваімі поглядамі забабонны народ. Пра антыведаўскую дзейнасць у ВКЛ вотчынных судоў і асобных паляўнічых захавалася мала звестак.

Ведаўскімі справамі займаліся войтаўска-лаўніцкі, бурмістраўска-радзецкі і гродскі (замкавы) суды. Тут працавалі асобы, шмат больш дасведчаныя ў працэсуальных прыёмах. Менавіта для гэтых судоў уласцівы як найбольш характэрныя рысы заходняй традыцыі, так і найбольш яскравыя асаблівасці. Абодва бакі мелі права на абарону сваіх інтарэсаў кваліфікаванымі «ўмацаванымі» [17, с. 340 – 345; 4, с. 114]. Праўда, часта, нягледзячы на ўсё іх красамоўства, лёс абвінавачаных быў прадвызначаны. Так адбылося ў справе пападдзі Раіны Грамычынай супраць Яна Станіслава Сапегі. Нягледзячы на талент абаронцы і шматлікія працэсуальныя парушэнні, Сапега дасягнуў таго, што кабета трапіла на стос [10, с. 25].

Вырак суда можна было абскардзіць, апелюючы да вышэйшых інстанцый. Найвышэйшым апеляцыйным судом у працэсах над чараўніцамі быў створаны ў 1581 годзе Галоўны трыбунал. Здаралася, што ведаўскія справы траплялі і ў іншыя суды: вядома, што такую справу судзіў каптуровы суд падчас аднага з бескаралеўяў [16, с. 21 – 22]. Але гэта ўсё ж былі выключэнні, большасць ведаўскіх працэсаў тым ці іншым чынам звязаны якраз з гродскімі судамі, асабліва калі ўлічваць сувязь з ім капы. Тым не менш, з-за вельмі дрэннай захаванасці «чорных» гродскіх кніг вялікі масіў інфармацыі па падобных справах страчаны [18, с. 37].

Судовы працэс пачынаўся са скаргі, якую падаваў пацярпелы бок. У першай палове XVII ст. скаргі, звязаныя з чараўніцтвам, часта проста занатоўваліся ў гродскія кнігі і пакідаліся без належнага разгляду, асабліва калі яны не называлі канкрэтнага абвінавачанага і не было нанесена вялікай шкоды [19, с. 97]. У скарзе былі пазначаны прычыны звароту – пэўны малефіцыум, г.зн. шкоднае чарадзейства. Часцей за ўсё скардзіліся на чараванне на жыццё і здароўе людзей, счараванне дома і гаспадаркі, хваробу і падзеж жывёлы, адбіранне малака ў кароў і інш. Як можна заўважыць, часцей за ўсё падаўца скаргі рэальна верыў у віну абвінавачанага, хаця мелі месца і наўмысныя паклёпы. Важнай рысай, характэрнай для працэсаў у ВКЛ, была адсутнасць непасрэднай матэрыяльнай зацікаўленасці бакоў: маёмасць злачынцы не канфіскоўвалася на карысць суддзяў ці заявіцеля, даносчык не атрымліваў ніякай узнагароды. Больш таго, «бок пратэстуючы» плаціў судовыя выдаткі, нават на катаванне абвінавачанага, а калі той пасля «пробы» не прызнаваўся, дык яшчэ і плаціла яму «навязку». Гэтая асаблівасць, відавочна, паўплывала на колькасць судоў [10, с. 21].

Больш рэдкай з'явай было прыцягненне да суду праз «поволане» (абвінавачванне) іншай чараўніцай. Распаўсюджанасць падобнага спосабу ў Заходняй Еўропе была адной з прычын

масавых працэсаў. У ВКЛ ён з'яўляецца досыць нераспаўсюджаным, але мае месца. Менавіта так распачалася знакамітая слонімская справа Раіны Грамычынай аб счараванні маршалка Сапегі: іншая кабета, якую таксама дапытвалі падчас следства аб чарах, назвала пападдзю Грамычыну магутнай чараўніцай, якая да таго ж чаравала на самога пана маршалка [4, с. 99 – 102]. Прыцягненне да суду Грамычынай адбылося, відаць, з-за таго, што ў справу была ўцягнута высакародная асоба. Звычайна названыя чараўнікамі на допытах «калегі» не ставіліся перад судом.

Нагодай да абвінавачвання магло быць нават падазрэнне, якое выклікалася нейкімі загадкавымі ды пагрозлівымі словамі ці дзеяннямі [20, с. 216 – 217].

Допыт быў вусны і цялесны. Суд цікавіла наступнае: як навучыўся чараваць, ад каго і як даўно? калі і якім чынам чараваў? якіх чараўнікоў ведаеш? Цікавіліся таксама і матывамі злачынства. Як вынікае з судзебных матэрыялаў, гэта найчасцей была асабістая варожасць, але сустракаецца і эканамічная канкурэнцыя або якая іншая матэрыяльная зацікаўленасць.

Пасля распытання адбываліся катаванні, якія паводле Статуту (раздзел 14, артыкул 18) можна было паўтараць тры разы: «три кроть одного дня можеть мучыти, толко бы на которомъ члонку не образилъ» [21, с. 685]. Часам механічнае перанясенне інквізіцыйных нормаў прыводзіла да таго, што катаванні прымяняліся без усякай патрэбы, нават калі віна была даказана і ўсе неабходныя звесткі атрыманы, як, напрыклад, здарылася ў гучнай полацкай справе Васіля Брыкуна [17, с. 345] ці гарадзенскай справе Максіма Знака [22, с. 20].

Пасля допыту абвінавачанай асобы адбывалася апытанне сведкаў – суседзяў, знаёмых. Яны давалі паказанні аб чараўніцкіх дзеяннях абвінавачанага, яго падазроных словах, пагрозах. «Пахвалкі»-праклёны самі па сабе выступалі як наўмысна шкодныя дзеянні, бо слова ў вуснах чараўніка мела вялікую сілу. Але нават станоўчыя выказванні, якія здзейсніліся, маглі разглядацца як сведчанне звышнатуральных здольнасцяў [16, с. 21]. Характэрнай рысай ведаўскіх спраў з'яўляецца выступленне ўскосных сведкаў, якія самі не мелі дачынення да справы, але чулі аб розных здарэннях. Грамадская думка такім чынам з'яўлялася важным фактарам у апраўданні ці абвінавачванні падсуднага [23, с. 56].

Часам для высвятлення віны выкарыстоўвалі такую ўжо згаданую, вельмі папулярную на Захадзе «экспертызу», як выпрабаванне вадой. Важным, часам нават вырашальным фактарам былі рэчавыя доказы. Падчас вобыску следчыя шукалі нешта незвычайнае, што, на іх думку, магло быць звязана з чарамі. Гэта мог быць мяшэчак з канапляным зернем [23, с. 56], скрутак з пяском і перцам [17, с. 344 – 345] і інш. Яшчэ адным рэчавым доказам лічыліся знакі, якія д'ябал быццам бы выціскаў на скуры – ізноў жа важны элемент заходніх уяўленняў, які рэдка сустракаецца на нашых землях.

Прысудам у выпадку абвінавачання было, як правіла, спаленне на вогнішчы. Пры гэтым пакаранне магло суправаджацца пэўнымі рытуальнымі дзеяннямі, кшталту спалення чараўніка прывязваным да драбінаў [12, с. 16]: па драбінах душа можа хутчэй трапіць на той свет. Часам чараўнікі, не чакаючы выканання прысуду, заканчвалі жыццё самагубствам, як згаданы Васіль Брыкун, тады палілі іх цела.

Падводзячы высновы, варта адзначыць, што ў Вялікім Княстве Літоўскім склалася адметная традыцыя ведаўскіх працэсаў, заснаваная на: 1) традыцыйных уяўленнях, 2) пісаным дзяржаўным праве і 3) заходніх юрыдычных і тэалагічных уплывах. Гэта можна лічыць паказчыкам ступені

інтэграванасці ВКЛ у агульнаеўрапейскае прававое і ідэйнае поле. «Паляванне на вядзьмарак» ахапіла розныя слаі грамадства, выражаючыся ў розных формах. Ведаўскія працэсы практычна не мелі рэлігійнай ці палітычнай афарбоўкі, часцей за ўсё засноўваліся на прычынах бытавога ці нават псіхалагічнага характару. Пераслед чараўнікоў не набыў надзвычай шырокіх маштабаў, тым не менш гэтая з'ява застаецца змрочнай старонкай айчыннай гісторыі.

The article deals with formation and implementation of antisorcerous legislation in the Great Duchy of Lithuania as well as with court practice of judicial proceedings on witchcraft. One can define three constituents of legislation: traditional notions, formal law of the state and legal as well as religious norms borrowed from Western Europe. Cases dealing with sorcery were submitted for consideration of various judicial institutions from kapa (people's court) to The Tribunal of GDL, each kind of courts having its pecularities. Trials were not of religious or political charachter. Underdevelopement of antisorcerous legislation indicates relatively modest scale of witch-hunt in the Great Duchy of Lithuania.

Спіс крыніц і літаратуры

1. Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года. Тэксты. Даведнік. Каментарыі. – Мінск.: Беларуская савецкая энцыклапедыя імя П. Броўкі, 1989.
2. Акты, издаваемые Виленскою Археографическою комиссиею. – Т. XVIII.: Акты о копных судах. – Вильно, 1891.
3. Ostling, M. Konstytucja 1543 r. i początek procesów o czary w Polsce / M. Ostling // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. T. XLIX. – Warszawa: Semper, 2005. – S. 93 – 103.
4. Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. – Т. III. – Вильно, 1867.
5. Каролинский кодекс // Роббинс Р. Х. Энциклопедия колдовства и демонологии. – М.: Локид: МИФ, 1995.
6. Карпцов, Бенедикт // Роббинс Р. Х. Энциклопедия колдовства и демонологии. – М.: Локид: МИФ, 1995.
7. Czary i czarownice // Gloger Z. Encyclopedia Staropolska ilustrowana. – T. 1. – Warszawa: PWN, 1978. – S. 192 – 199.
8. Czary w dawnej Polsce // Wielka encyklopedia powszechna ilustrowana. T. XIV. – Warszawa: Drukarnia Artystyczna S. Sikorskiego, 1894. – S. 710 – 712.
9. Pilaszek, M. Litewskie procesy czarownic w XVI – XVIII w. / M. Pilaszek // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. T. XLVI. – Warszawa: Semper, 2002. – S. 7 – 35.
10. Спрогис, И. Древний народный копный суд в Северо-Западной Руси / И. Спрогис. – Витебск: Губернская типография, 1895. – 19 с.
11. Спрогис, И. Народный суд литвинов над колдунами (чародеями) 1615 года / И. Спрогис. – Витебск: Губернская типография, 1896. – 18 с.
12. Доўнар, Т. Вотчынны суд / Т. Доўнар // Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя: у 2 Т. – Мінск: Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2007. – Т. 1. – 688 с.
13. Biržų dvaro teismo knygos 1620 – 1745 / Raudeliūnas V., Firkovičius R. – Vilnius: Mintis, 1982. – 475 p.
14. Канторович, Я. Средневековые процессы о ведьмах / Я. Канторович. – М.: Книга, 1990. – 221 с.
15. Чвалэк, А. Як палявалі на чараўніц у маёнтках Яна Станіслава Сапегі / А. Чвалэк // Беларускі гістарычны агляд. – Т. 16. – С. 121–137.
16. Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси.– Вильно, 1867. – Т.1.
17. Марзалюк, І. Ведаўскія працэсы ў Беларусі XVI – XVIII стагоддзяў / І. Марзалюк // Беларускі гістарычны часопіс. – 2003. – № 8. – С. 32 – 37.
18. Лобач, У. Чараўніцтва ў Беларусі на тле сярэднявечных судовых працэсаў / У. Лобач // Крыўя. Crivica. Baltica. Indogermanica. – 1998. – № 1. – С. 92 –97.
19. Довнар-Запольский, М. Чародейство в Северо-Западном крае в XVII-XVIII вв. / М. Довнар-Запольский // Исследования и статьи. – Т. 1. – Киев: Типография 1-й Киевской артели печатного дела, 1909. – С. 214 – 231.
20. Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. // Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя. – Т. 3. Дадатак. –

Мінск: Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2010. – 696 с.
21. Лобач, У. Вядзьмарскі працэс 1691 г. у Гародні: да тыпалогіі чарадзейскіх спраў у сярэднявечнай Беларусі / У. Лобач // Культура Гродзенскага рэгіёну: праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа: зб. навук. прац. – Гродна: ГрДУ, 2003. – С. 20 – 32.
22. Лобач, У. Да механізму чарадзейскіх працэсаў у сярэднявечнай Беларусі: на прыкладзе справы палачаніна В. Брыкуна (1643 г.) / У. Лобач // Беларускі горад у часе і прасторы: 500 гадоў Полацкай магдэбургіі: зб. навук. прац. – Наваполацк: ПДУ, 2001. – С. 52 – 59.

Навуковы кіраўнік – ***Ю. Л. Казакоў***, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

УДК 94 (476)

*В. А. Валадковіч*
*(Мінск, БДУ)*

## *ЗЕМСКІ СУД У ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ*

Статья посвящена истории существования земских судов в Великом княжестве Литовском после реформы 1564 года. Рассматриваются такие проблемы, как причины и предпосылки возникновения нового типа судов, их компетенция, принцип комплектации, особенности функционирования. Автор стремится проследить историю возникновения земских судов, проанализировать их изменения и динамику, рассмотреть юридическое оформление и закрепление нового типа судов в законодательных актах. Главной целью является попытка определить место земских судов в новой судебной системе, показать прогрессивность земских судов, их роль в укреплении прав и позиций шляхецкого сословия.

Судовыя органы – неад'емная частка дзяржавы. Яны, як і іншыя органы дзяржаўнага кіравання, адыгрываюць ролю фундамента ў арганізацыі грамадства і яго кантраляванні, нясуць у сабе распрацаваныя традыцыі.

На Беларусі іх сістэма складалася паступова. Нарэшце стала відавочным раздзяленне ўсіх судоў на дзве асноўныя катэгорыі: агульныя суды для ўсяго насельніцтва (агульнасаслоўныя) і саслоўныя (для духавенства, шляхты, мяшчан, сялян). Усе суды Вялікага Княства Літоўскага, як і ў любой іншай дзяржаве, старажытнай або сучаснай, адносіліся да вышэйшых судовых органаў дзяржавы або да мясцовых судовых органаў. Да вышэйшых судовых органаў дзяржавы адносіліся: гаспадарскі (вялікакняжацкі) суд, суд паноў–рады, соймавы, камісарскі, маршалкоўскі суды, Галоўны суд (Трыбунал), скарбавы трыбунал, а таксама духоўны суд. Мясцовымі судовымі органамі былі замкавы, каптуровы, земскі, падкаморскі, магістрацкі, копны, вотчынны суды.

Да канца XV – пачатку XVI стст. у Вялікім Княстве Літоўскім дзейнічаў тыповы для раннефеадальнага перыяду прынцып, згодна з якім органы дзяржаўнай улады адначасова выконвалі судовыя функцыі. У гэты час судовая ўлада належала вялікакняжацкім ураднікам ці чыноўнікам – ваяводам, старастам і дзяржаўцам, якія з'ўляліся судовай і адміністрацыйнай уладай. Такое становішча заставалася і пасля выдання Статута 1529 г., які прадпісаў ваяводам, старастам і

дзяржаўцам выбраць кожнаму ў дапамогу сабе двух «сялян». Апошнія павінны былі пры адсутнасці ваявод, стараст і дзяржаўцаў разам з іншымі враднікамі разглядаць судовыя справы. І толькі ў перыяд паміж першым і другім Статутамі былі праведзены рэформы ў галіне заканадаўства і судаводства, заканчэннем якіх з'явілася заснаванне Галоўнага Літоўскага трыбуналу як спробы аддзялення суда ад адміністрацыі. Такім чынам, на працягу XVI ст. назіраецца адыход ад парадку разгляду судовых спраў органамі дзяржаўнай улады.

У XV–XVI стст. у судовую сістэму Вялікага Княства Літоўскага былі ўнесены значныя змены. У выніку судовай рэформы 60-х гг. XVI ст. з'явіліся новыя судовыя органы – земскія і падкаморскія суды. У Статуце 1566 г. упершыню намячалася аддзяленне суда ад органаў улады і кіравання. Для гэтага і ствараліся земскія і падкаморскія суды. У Статуце 1588 г. гэтая лінія была падтрымана і працягнута. Судовая ўлада была замацавана за велікакняжацкім і галоўным судамі, а таксама за мясцовымі судамі.

Самай важнай падзеяй судовай рэформы, яе пікам стала ўтварэнне земскіх судоў. У 1555 г. вялікі князь Жыгімонт-Аўгуст са згоды паноў радных увёў у судовую сістэму дзяржавы земскія суды для шляхты і прызначыў суддзямі мясцовых шляхціцаў, адмовіўшыся пры гэтым ад судовых даходаў на іх карысць.

Аднак толькі ў 1564 г. на Бельскім сойме ўсе ваяводы, старасты і іншыя земскія враднікі ("врядники") таксама адмовіліся ад сваіх выключных судовых правоў і даходаў. Такім чынам, у дзяржаве былі створаны рэальныя перадумовы для новай арганізацыі суда. З'явілася магчымасць пакласці ў аснову яго дзейнасці больш прагрэсіўныя прынцыпы. «Привильями его королевское милости у Бельску и у Вильни» былі ўведзены адзіная падсуднасць шляхты земскаму суду, роўнасць шляхціца перад судом і законам, неўмяшанне адміністрацыі ў судовыя справы [1, с. 181]. Больш таго, упершыню ў гісторыі нашай дзяржавы пачаўся працэс аддзялення судовай улады ад адміністрацыйнай.

Аднак нельга не адзначыць, што ваявода меў пэўны ўплыў на дзейнасць земскага суда. Так, менавіта яму павінны былі паведамляць пра смерць члена земскага суда; ён склікаў шляхту ў некаторых выпадках на новыя выбары членаў суда; за яго пячаткай накіроўваўся князю ліст з кандыдатамі на судовыя пасады. Тым не менш усе паўнамоцтвы ваяводы ніяк не тычыліся непасрэдна ажыццяўлення правасуддзя. Увогуле ж земскія суды былі першымі, якія абаранялі пераважна інтарэсы прыватных асоб, а не дзяржаўныя.

Некаторыя навукоўцы адзначаюць, што земствы (земскія шляхецкія суды) былі заснаваны яшчэ ў 1447 г. у перыяд праўлення Казіміра Ягелончыка [2, с. 697]. Яны складаліся з суддзі, засядацеляў і пісара, і першапачаткова вырашалі толькі малазначныя грамадзянскія справы шляхты. Пазней Жыгімонт І ліквідаваў кашталянскую судовую ўладу, што надала земствам больш значныя паўнамоцтвы. Калі прасачыць гісторыю з'яўлення земскага шляхецкага суда, то першы падобны суд можна сустрэць на Падляшшы – гэта значыць у той частцы княства, якая, будучы памежнай з Польшчай, раней за іншыя вобласці пачала засвойваць польскія інстытуты. Факты, якія сабраў М.К. Любаўскі, сведчаць, што ўжо ў XV ст. у Мельніцкім павеце дзейнічалі суддзі, падсудак і пісар [3, с. 20]. Да часу выдання статута 1529 года гэты выбраны шляхтай і зацверджаны каралём, але часам без выбару шляхты прызначаны ім суд ужо судзіць князёў, паноў і шляхту падляшскіх паветаў, не маючы,

аднак, яшчэ поўнай самастойнасці ў вырашэнні ўсіх спраў, разбіраючы справы разам са старастамі і дзейнічаючы самастойна толькі ў справах замацавання маёнткаў натарыяльным парадкам да канчатковага зацвярджэння іх з боку караля [3, с. 874, 637, 638]. Але такі суд быў толькі ў Падляшшы. Ва ўсіх астатніх частках Вялікага Княства Літоўскага ў пачатку XVI ст. суд знаходзіўся ў руках ваявод, стараст і дзяржаўцаў. Статут 1529 года пастанаўляе, каб ваяводы, старасты і дзяржаўцы выбралі кожны ў сваім павеце па два зямяніна, «людей добрых а годныхъ веры» і прывялі іх да прысягі; калі сам ваявода, стараста ці дзяржавец «за некоторыми справами» дзяржаўнымі ці земскімі «не поспешны будут которыхъ правъ судити», тады гэтыя два зямяніна павінны разам з намеснікамі і маршалкамі тварыць суд «водле тых писаных прав», гэта значыць статута [4, р. VI, арт. 3]. Намеснік ці маршалак не меў права судзіць, калі абодва «присяжные» зямяніна адсутнічаюць – «нежли бы одинъ с тых земянинъ вставичне при них мел быти» [4, р. VI, арт. 3]. Такім было патрабаванне статута, але памылкова лічыць, што яно адразу ўвайшло ў юрыдычную практыку. Але і тыя суды, што пачалі ўзнікаць, яшчэ вельмі адрозніваліся ад земскіх судоў. Яны не мелі поўнай самастойнасці ў вырашэнні ўсіх спраў [5, с. 32]. Толькі ў працэсе судовай рэформы XVI ст. земскія суды атрымалі поўную самастойнасць і былі распаўсюджаны па ўсёй тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Аднак факт іх існавання ў XV ст. заслугоўвае ўвагі і служыць доказам значна ранейшых прагрэсіўных працэсаў у судаводстве.

Эпоху ў гісторыі земскага суда складае 1564 год. У гэтым годзе быў выдадзены Бельскі прывілей, які абвяшчаў, што ўступаючы патрэбе «ровной а однакой справедливости всемъ», каб «стародавный обычай владности суду воеводъ, старостъ и иныхъ врадовъ старыхъ уступилъ судомъ новымъ, порадкомъ в семъ часе учиненымъ» [1, с. 181]. За гэтым прывілеем у 1566 годзе быў выдадзены другі статут, які ствараў у княстве новыя суды і вызначаў парадак іх дзейнасці і кампетэнцыю. Статут 1566 г., займаючы цэнтральнае месца ў сістэме прынятых у сувязі з судовай рэформай заканадаўчых актаў, усебакова рэгламентаваў дзейнасць выбарных земскіх судоў. Згодна з ім «вряд земский судовый» складалі: суддзя, падсудак і пісар, якія і называліся «врядниками земскими судовыми» [6, р. IV, арт. 1].

Трэба падкрэсліць, што ўвядзенне земскіх судоў стала магчымым дзякуючы папярэдняму стварэнню пісанага заканадаўства, што, у сваю чаргу, выклікала неабходнасць узнікнення новай прафесіі – юрыста. Важнасць прававых ведаў у XVI ст. становіцца настолькі значнай, што з'яўляюцца першыя ўласныя юрыдычныя навучальныя ўстановы, у якіх выкладаюць не толькі замежныя, але і айчынныя правазнаўцы [7, с. 55–60]. Падрыхтоўка юрыдычных кадраў вялася і персанальна, шляхам практыкавання ў дзеючых юрыстаў, навучання ў прыватных школах – «палестрах».

Навукоўцы звяртаюць увагу на тое, што гісторыя земскага суда Вялікага Княства Літоўскага з'яўляецца гісторыяй усяго шляхецкага саслоўя [5, с. 264; 8, с. 77]. Тым не менш адносна дзейнасці земскіх судоў у сучасных архівах Беларусі захавалася мала матэрыяла. Так, зусім няшмат дакументаў пра Віцебскі, Мсціслаўскі земскія суды, што не дае падстаў для належнага аналізу іх дзейнасці.

Значна больш актаў засталося па Мінскім земскім судзе. У фондзе № 1769, вопіс за перыяд з XVI ст. па 1795 г., захавалася 154 справы. У асноўным гэта т. зв. актавыя запісы куплі-продажу зямлі,

арэнды, запісы аб выплаце судовых штрафаў, а таксама судовыя пастановы (дэкрэты) па розных справах, скаргі на рашэнні і інш. Захаваліся за пэўны перыяд часу некаторыя архівы Брэсцкага, Гродзенскага, Драгічынскага, Ашмянскага, Пружанскага земскіх судоў.

У Актах Віленскай археаграфічнай камісіі (39 тамоў) многія кнігі маюць кароткія ўводзіны з пералікам судовых спраў, а часам і іх аналізам. Асобныя зборы непасрэдна прысвечаны дзейнасці земскіх судоў. Аднак гэта толькі невялікая частка таго судовага матэрыяла, які быў назапашаны. Напрыклад, у Вільні за адзін год (з 1877 па 1878 г.) было складзена каля 200 кніг з актамі магістрата і земскіх судоў. Апошнія пры гэтым стваралі значную частку ўсяго матэрыяла. Трэба, аднак, падкрэсліць, што, нягледзячы на беднасць айчынных архіваў, дакументальна-прававая спадчына Вялікага Княства Літоўскага, у тым ліку і спадчына беларускага народа, недастаткова глыбока вывучана і прааналізавана, таму і патрабуе шмат увагі.

Склад і кампетэнцыя земскіх судоў змяняліся на працягу стагоддзяў. З іх заснаваннем звязаны выпадкі канкурэнцыі падсуднасці паміж земскімі і гродскімі судамі. Тым не менш з цягам часу такія калізіі знікаюць, а земскі суд пачынае выконваць функцыю нагляду за законнасцю функцыяніравання гродскага суда. Яму прыносяцца скаргі на проціпраўныя дзеянні (і залішнюю жорсткасць пры назначэнні пакаранняў) судовых службовых асоб дадзенай інстанцыі. У выпадку адмовы ваяводы ці старасты судовага перавырашаць справу, што была, па меркаванню ўдзельніка суда, няправільна вырашана гродскім врядам, «сторона укривжоная» бярэ ліст «упоминальный» ваяводзе ад земскага суда з прапановаю апошняга «учинить справедливость» [9, р. IV, арт. 37]. Земскаму суду прыносяцца скаргі на несправядлівасць службовых асоб, яму ж заяўляецца аб парушэнні закона гродскім судом. Гэтая апошняя функцыя ўзвышае земскі суд побач з іншымі судамі, што з'яўляюцца першымі інстанцыямі ў складанай сістэме судаўладкавання, гэта значыць, з судамі гродскім, падкаморскім і местскім. Але ж ён усё ж першая інстанцыя, а таму на яго вырашэнні можна апеляваць да вышэйшых судовых інстанцый – трыбунала і дворнага каралеўскага суда.

Камплектаванне суда адбывалася ў наступным парадку: выбары прызначаліся вялікім князем, а ў яго адсутнасць – ваяводам, старостай або іншай службовай асобай мясцовай адміністрацыі. Павятовую шляхту паведамлялі аб гэтым за чатыры тыдні. У адзначаны дзень усе з'язджаюцца ў адміністрацыйны цэнтр павета і, не чакаючы непрыбыўшых, выбіраюць са свайго асяродка чатырох кандыдатаў на месца памерлага врадніка, а затым пасылаюць аб гэтым свой ліст каралю, які зацвярджае аднаго з чатырох кандыдатаў. У тым выпадку, калі на месца памерлага члена суда выбіраюць другога члена таго ж суда, тады «иншихъ електовъ» прадстаўляць не трэба, а толькі чатырох кандыдатаў на месца, якое засталося вакантным пасля перамяшчэння падсудка ці пісара [6, р. IV, арт. 1]. «Електы» павінны быць абавязкова шляхціцы, «люди добрые, побожные, цнотливые, годные, в праве умеетные, писати умеючіе», пры гэтым абавязкова «родичи того паньства великого князьства» літоўскага і не новааселыя ў павеце [6, р. IV, арт. 1]. Кароль выбірае з іх аднаго, якого і зацвярджае сваім прывілеем на вряд «до живота его, альбо до вывышенья з ласки» сваёй «на иншій який вышъший врядъ або достоеньство» [6, р. IV, арт. 1]. Увесь гэты працэс выбараў і зацвярджэння павінен адбывацца безадкладна, каб не затрымлівалася «отправленіе справедливости» [6, р. IV, арт. 1]. Членамі земскага суда не могуць быць: 1) духоўныя асобы, 2) асобы, якія займаюць які-небудзь «вряд» у тым жа павеце, 3) асобы, якія займаюць пасаду врадніка

судовага земскага ў якім-небудзь іншым павеце; сумяшчаць з выконваннем абавязкаў суддзі, падсудка ці пісара «вряд» не судовы ў якім-небудзь іншым павеце можна. Калі хто-небудзь займае два «вряда» і не хоча ад аднаго з іх адказацца, будучы «напомненымъ отъ шляхты на рокох судовыхъ або на соймику» ён страчвае права на абедзве пасады [9, р. IV, арт. 2]. Члены земскага суда могуць атрымліваць розныя часовыя даручэнні ад караля – быць камісарамі, рэвізорамі і інш.

Як адзначае М.М. Навакоўскі, члены земскага і гродскага судоў выбіраліся са складу аселай шляхты і павінны былі мець узрост не менш за 23 гады [10, с. 16]. Трэба сказаць, што толькі ў яго працы сустракаецца ўзгадванне аб патрабаванні закона адносна ўзросту суддзяў. Пры гэтым М.М. Навакоўскі спасылаецца на соймавую пастанову (канстытуцыю) 1764 года. Можна зрабіць вывад, што ў ранейшы перыяд узрост суддзяў нарматыўна не рэгламентаваўся.

Такім чынам, выбранымі маглі быць толькі ўраджэнцы Вялікага Княства Літоўскага, шляхціцы, землеўладальнікі, дабрачынныя, хрысціянскай веры, якія ведалі права, умелі пісаць, не займалі іншых духоўных, дзяржаўных і судовых пасад. У сувязі з тым, што стварэнне земскіх судоў не адбывалася ў адзін момант, да 1566 г. мелі месца пэўныя складанасці з працэсам выбрання суддзяў — часам парушалася працэдура, не ўсюды былі арганізаваны соймікі і г.д. [11, с. 504–507; 2, с. 697]. Але паступова элекцыйны працэс стабілізуецца.

Кожны новаабраны член суда павінен быў на першай судовай сесіі («роках земскіх») прынесці прысягу. Трэба адзначыць, што ў той перыяд прысягалі шматлікія службоўцы дзяржавы. Напрыклад, толькі ў восьмай кнізе публічных спраў Літоўскай метрыкі знаходзіцца 36 тэкстаў прысяг [12]. Аднак прысяга члена земскага суда была першай, якая дакладна вызначалася законам (упершыню — Статутам 1566 г., затым Статутам 1588 г.), была абавязковай і прыносілася суддзямі публічна.

Суддзя і падсудак прысягалі па аднолькавай формуле. Па Трэцім статуце суддзі абавязваліся вырашаць усе справы справядліва і адпаведна закону, «не водлуг ведомости своей», пры гэтым судзіць «ничого же прикладаючи и не выймуючы, не фолькгуючи высоким и подлым станом, на достойностях и врядах седячих, на богатого и на вбогого, на приятеля кровного заховалого, а ни на неприятеля, не з вазни, не с приязни, не з боязни, не за посулы и дары, ани сподеваючися потом даров и якого нагороженья, и не радячи стороне, ане боячися казни, помсты и погрозок, але самого Бога и его святую справедливость и право посполитое, и сумненье свое перед очима маючи … » [9, р. IV, арт. 1]. Напрыканцы прысягі гаварылася, што калі суддзя будзе судзіць несправядліва, то – «Боже мя убей» [9, р. IV, арт. 1].

Пісар, як член земскага суда, у сувязі са спецыфікай сваіх абавязкаў ва ўласнай прысязе абяцаў быць акуратным і сумленным у судовых запісах: «...сказанья судовные вписывати и пильновати и догледати, абы водле сее присяги моее справедливе были вписаны» [9, р. IV, арт. 1]. Ён кляўся «записывати и радити судьи и подсудку … справедливе водле бога и того права писаного и водлуг мовенья и споров сторон ничого не прикладаючи и не уймуючи» і запісваць усё ў кнігі судовыя правільна і дакладна, прычым «по руску, литерами и словы рускими», г. зн. на тагачаснай беларускай мове. Безумоўна, што асноўным патрабаваннем да пісара з'яўлялася яго пісьменнасць [9, р. IV, арт. 1; 13, с. 4]. Ён мог мець падпіска, часам і некалькіх, аднак адказваў перад павятовай шляхтай за правільнасць запісаў толькі асабіста [9, р. IV, арт. 4].

М.М. Навакоўскі адзначае, што пісар меў выключна дарадчы голас пры вынясенні рашэнняў [10, с. 21]. Але з гэтым нельга пагадзіцца, як і з тым, што ён уносіў свой голас толькі тады, калі меркаванні суддзяў былі супрацьлеглымі. Пісар быў паўнапраўным членам суда, аб чым сведчыць той факт, што ў перыяд зараджэння земскіх судоў сустракаюцца выпадкі, калі ён без суддзяў разглядаў і запісваў справы. Матэрыяльна суддзі былі добра забяспечанымі, што відаць з тых дакументаў, якія былі ўпісаны ў земскія кнігі [5, с. 9]. Праца іх узнагароджвалася пэўным прыбыткам ад кожнай разгледжанай справы або запісанага ў кнігі дакумента, аб чым гаворыць і сам закон [9, р. IV, арт. 5, 6].

Акрамя суддзі, падсудка і пісара, актыўную ролю на пасяджэннях суда адыгрывае возны. Пасада вознага не была ўведзена пры земскім суддзе спецыяльна; возныя былі службовымі асобамі павета, яны належалі ўсім судам павета. Утвораны яны былі для таго, каб «въ кожъдомъ праве на врядехъ … земъскомъ, кгродъскомъ, подъкоморскомъ и комисаръскомъ, завжды порядокъ и справа обычайне шла» [9, р. IV, арт. 8]. Колькасць іх не вызначана дакладна законам: іх павінна быць «так много яко бы водлугъ широкости повету потреба указывала» [9, р. IV, арт. 8]. Зацвярджае вознага ваявода, але выбірае кандыдата ў вознага вряд земскі і шляхта павета. Пасля зацвярджэння свайго ваяводаю возны прыносіць прысягу на выконванне сваёй пасады. Акрамя радавога вознага, трэці статут уводзіць аднаго вознага «надъ иншые», такога, «которого латиньскимъ езыкомъ зовуть генералъ» [9, р. IV, арт. 104]. Такі генерал павінен быць у кожным павеце. Прызначае яго гаспадар «за обраньемъ» ваявод, стараст судовых і шляхты павета. Абавязкі генерала аднолькавыя з абавязкамі простых возных, і толькі ён займае першае месца без пэўных праў начальніка над падначаленымі. Засведчанне перад судом бачанага і чутага ў справах падсудных асоб і выконванне прыгавора суда – абавязкі возных. Да гэтага далучаецца яшчэ іх прысутнасць на пасяджэннях суда ў якасці вяшчальнікаў, судзебных прыставаў і часткова паліцэйскіх служачых, якія назіраюць за добрапрыстойнасцю ў часы судовай сесіі. У земскіх кнігах возныя фігуруюць ці як «приданные з ураду» для якой-небудзь патрэбы прыватных асоб, ці як асобы, якія дзейнічаюць без даручэння вряда. Возныя таксама прысутнічаюць у якасці сведак пры грамадзянскіх угодах, куплях, продажах, падзелах. Возны не толькі прысутнічае пры той справе, для разгляду якой яго ўзялі, не толькі аглядвае тое, што патрабуе яго сведчанне, ён дае свой ліст, у якім піша, што прадстаўляе сабой гэтая справа, што ён даведаўся аб ёй, і замацоўвае яго подпісам і пячаткаю, а таксама подпісамі і пячаткамі бакоў.

Недатыкальнасць земскага суда забяспечана законам, і той, хто асмеліцца нанесці яго членам удар ці рану, «не паважаючи местъца зверхности господарское», судзіцца самім каралём на сейме і караецца стратаю гонару і смерцю [9, р. IV, арт. 95]. Але і суд не павінен забываць вышыні свайго становішча і не парушаць яе супраціўнымі дзеяннямі. Калі хто-небудзь з враднікаў судовых, «седячы на суде кого словы неучстивыми соромотилъ», ён караецца шасцідзённым арыштам. Калі ж ён «кгвалтъ местъцу господарскому и суду учинилъ» тым, што параніў каго-небудзь на судзе, то караецца смерцю [9, р. IV, арт. 63].

Закон патрабаваў ад суддзяў, каб яны асабіста адпраўлялі судовыя абавязкі. Аднак суддзі маглі быць абраны дэпутатамі на сойм або захварэць і інш. У такіх выпадках яны абавязваліся апавясціць сваіх калег і шляхту, назваўшы прычыну сваёй адсутнасці. Апошнія выбіралі ў такім

выпадку намесніка на судовую сесію. Калі ж шляхта не згаджалася на тую ці іншую кандыдатуру, то два суддзі без чыёй-небудзь згоды выбіралі сабе таварыша і «засаджвалі» ім месца адсутнага суддзі. Зразумела, што гэтая асоба павінна была адпавядаць агульным патрабаванням.

Пасады суддзі займалі пажыццёва або да прызначэння на іншую працу. У выпадку няздольнасці быць суддзёй і выконваць адпаведныя абавязкі яны самі складалі свае паўнамоцтвы. Калі паміраў хто-небудзь з членаў суда, «врядники живо позосталые» павінны былі адразу апавясціць аб гэтым вялікага князя лістом [9, р. IV, арт. 1]. Калі вялікі князь у той час не знаходзіцца ў Літве, то патрэбна паведаміць ваяводу, а ў зямлі жамойцкай старасту жамойцкага, які замяняў сабою ваяводу ў гэтай зямлі; у выпадку адсутнасці іх са свайго павета–кашталяна. Пры атрыманні паведамлення вялікі князь «без жадное проволоки» пасылае ў павет свой ліст гродскаму вряду для апублікавання запрашэння ўсім прадстаўнікам шляхты павета «отъ вышъшого до низшого стану» з'ехацца для выбару новага земскага ўрадніка ў замак ці двор каралеўскі, у залежнасці ад таго, замак ці двор павятовы з'яўляецца цэнтрам павета [9, р. IV, арт. 1]. У адсутнасць караля з княства такія лісты дасылае ваявода, а ў яго адсутнасць – кашталян. Ліст гэты павінны быць «обволанъ и обголошонъ» у павеце такім чынам, як і лісты сеймавыя, калі вряд гродскі рассылае яго праз возных павятовых сенатарам, князям, панам враднікам павятовым – наогул усім тым, каму дастаўляюцца на дом усялякія лісты, накіраваныя ў павет з каралеўскай канцылярыі, для ўсіх жа астатніх абывацеляў павета каралеўскі ліст чытаецца ў гарадах і мястэчках на таргах і пры касцёлах [9, р. IV, арт. 1].

Трэба адзначыць, што першапачаткова дзейнасць земскага суда не была абмежавана пэўнымі тэрмінамі. Справы разглядаліся і вырашаліся ва ўсякі час, калі ісцец і адказчык з'яўляліся ў суд, нават у нядзелю і святы. Аднак, згодна з Другім, а затым і Трэцім статутамі, справы ў земскім суддзе разглядаліся пасесійна, а сесіі, якія называліся «роки земския» (хаця часам і на лацінскі манер кадэнцыямі), збіраліся тры разы на год у замку або якім-небудзь «господарском дворе» [9, р. IV, арт. 4]. Рокі былі трохкрольскія, траецкія і міхайлаўскія, якія называліся так па святу «свята костела римского», вакол якога яны «отсуживались». Трохкрольскія (свята трох каралёў – 6 студзеня) рокі адбываліся зімою, траецкія (Троіцын дзень) – у самым пачатку лета, міхайлаўскія (св. Міхала 29 верасня) – восенню, пачынаючыся па закону «на завтрее» свята.

Статут 1588 г. абавязваў мець у кожным павеце дзяржавы спецыяльны судовы двор з будынкам суда – «избу судовую». Там, дзе не было такой «избы», трэба было перад сесіяй адвесці «особный дом престронный, где на судех заседати» [9, р. IV, арт. 52].

Акрамя зацікаўленых асоб, на земскія рокі з'язджаліся «прыяцелі», а таксама іншая шляхта, якая не была непасрэдна звязана з разглядаемымі справамі. Яны часам называюцца «сапрысяжнікамі». Родзічы, суседзі і сябры абаранялі і аказвалі падтрымку ў судзе аднаму з бакоў шляхам сведчання яго невінаватасці, але зыходзілі не з ведання справы, а са станоўчых якасцей самой асобы.

Суддзі павінны былі з'явіцца ў двор судовы за тры дні да пачатку сесій. У выпадку няяўкі члена земскага суда прысутныя выбіралі яму намесніка. На гэтай падставе, а таксама зыходзячы з іншых фактаў, І.І. Лапа называў земскія рокі разнавіднасцю соймікаў [11, с. 501].
Суддзі складалі спіс судовых позваў у адпаведнасці з чарговасцю паступлення спраў, «адчынялі» судовыя кнігі, якія захоўваліся ў спецыяльных скрынях, як правіла, з трыма замкамі (прычым у

кожнага суддзі быў ключ ад уласнага замка), выдавалі «выпісы» з кніг. У гэтыя ж дні складаліся рэестры, па якіх вызначаўся парадак разгляду спраў. Існавала правіла: хто раней з бакой упісваў у рэестры спіс справы, таго справа раней разглядалася [5, с. 17].

Пасяджэнні суда праходзілі з ранку да позняга вечара – «от поранку до нешпорное годины», часам ужо і са свечкамі (напрыклад, Троіцкія рокі 1593 года ў Віцебску) [9, р. IV, арт. 46]. Колькасць спраў для разгляду закон не вызначаў. Сесія звычайна працягвалася каля трох тыдняў, прычым пасяджэнні праводзіліся штодня, за выключэннем вялікіх рэлігійных свят і нядзелі [5, с. 18]. Да кампетэнцыі земскага суда адносіліся галоўным чынам справы шляхты, якія падзяляліся ў асноўным на дзве катэгорыі: адны толькі запісваліся ў судовыя кнігі (па якіх сам факт судовай рэгістрацыі меў юрыдычную значнасць), другія патрабавалі непасрэднага разгляду па сутнасці. Як правіла, прававыя запісы ўяўляюць сабой паведамленні аб заявах на разгляд справы, скаргі прыватных асоб, сведчанні і дзеянні прадстаўнікоў судовага апарату. Структура загалоўкаў праватных запісаў уключала: 1) тэрмін «запіс»; 2) вызначэнне кніг, у якіх рабіўся запіс; 3) формулы «заявы», «скаргі» і інш. у родным склоне; 4) вызначэнне асобы, якая падавала скаргу, заяву і інш. у родным склоне; 5) прыназоўнік «аб»; 6) вызначэнне сутнасці заявы, скаргі і г. д. у месным склоне. Напрыклад, так быў афармлены запіс у слонімскія земскія кнігі заявы зямяніна з с. Радзівілавічы Паўла Хмеля аб крадзяжы дакументаў [14, с. 96].

Справы першай катэгорыі маглі быць як грамадзянскага, так і крымінальнага характару: завяшчальныя запісы (тэстаменты), дагаворы куплі-продажу, мены і інш., лісты застаўныя і пазыковыя, гранічныя, вяноўныя, дарчыя, перадачы апекі, дзельчыя, пастановы палюбоўнага суда, велікакняжацкія прывілеі, лісты аб «увязаньи» і перадачы маёнткаў, лісты возных, розныя «сознанья» возных, а таксама заявы аб злачынстве, «гвалте», шкодзе, крыўдзе і заявы, «запісаныя для памяці, каб затым пачаць іск» [5, с. 19]. У актавай кнізе Гродзенскага земскага суда часцей за ўсё сустракаюцца акты продажу, дарэння, запісы аб нерухомых маёмасцях, пазыковых абавязацельствах. У кнізе Драгічынскага земскага суда значная частка запісаў тычыцца абавязацельстваў, але ёсць і іншыя.

Земскі суд запісваў таксама скаргі на незаконныя рашэнні і дзеянні службовых асоб [15]. У яго кнігі заносіліся розныя дакументы, выдадзеныя прыватным асобам, якія па сваім стане мелі права звярнуцца ў гэты суд. Да іх адносіліся і велікакняжацкія прывілеі, заявы, акты, якія былі ўжо ўпісаны ў кнігі іншых судоў. Пры гэтым судовыя акты пераносіліся не толькі з гродскіх судоў, чаго патрабаваў закон, але і з іншых судоў дзяржавы.

Сам гаспадар мог у некаторых выпадках прыцягвацца да земскага суда і абавязаны прыняць яго пастанову праз свайго «умоцованого» [9, р. I, арт. 8]. Земскі суд вядзе таксама справы аб незаконным зборы прыватнымі асобамі мыта, ці аб «подвышеніи» збора, які законна належыць ім. Гэтаму ж суду падаюцца скаргі на невыкананне пастаноў прыяцельскага і копнага судоў у справах, якія па сваёй сутнасці належаць да вядзення «земства». Акрамя розных актаў, што датычацца зямель, якія ляжалі ў павеце, суд земскі ўпісвае ў свае кнігі і пагадненні, прадметам якіх з'яўляюцца дворышчы, агароды, дамы, што знаходзіліся ў горадзе, а таксама і «речи рухомыя», рухомая маёмасць.

Справы другой катэгорыі таксама маглі быць як крымінальнымі, так і грамадзянскімі,

прычым вельмі разнастайнымі. Перш за ўсё суд разглядаў справы аб маёнтках «праву посполитому и службе земской военной подлеглым», аб незаконных зборах прыватнымі асобамі мыта або аб «подвышении яго» [9, р. IV, арт. 42; р. I, арт. 14]. Акрамя таго, яму былі падсудны даволі шматлікія спрэчкі аб прыналежнасці да шляхецкага саслоўя [16, с. 22]. У сувязі з апошнімі некаторыя навукоўцы нават вылучаюць судовы разгляд як адзін са спосабаў атрымання шляхецтва [17, с. 13]. У земскі суд падаваліся таксама скаргі на невыкананне рашэнняў прыяцельскага і копнага судоў, якія па сваёй сутнасці належалі да кампетэнцыі «земства». На практыцы суд разглядаў і іншыя шматлікія справы, прычым не толькі шляхецкія.

Трэба падкрэсліць, што пытанне аб падсуднасці было на той час дастаткова складаным і разглядалася супярэчліва нават у заканадаўстве. Аднак за парушэнне правілаў аб падсуднасці, прыцягненне каго-небудзь да іску ў неналежным судовым органе вінаваты падлягаў арышту на 6 тыдняў і грашоваму штрафу. Сама справа ў такім выпадку накіроўвалася ў належны суд [10, с. 15].

Вышэй адзначалася, што кампетэнцыя земскага суда змянялася. Так, Гродзенскі земскі суд да 1564 г. разглядаў разнастайныя справы: гвалты, забойствы, невыкананне абавязкаў і нявыплата доўгу, знявагі словам і дзеяннем, пагрозы, раздзелы маёнткаў, запісваў тэстаменты і розныя грамадзянскія здзелкі, разглядаў справы аб збегу слуг або наймітаў і г. д. [5, с. 38]. Для агляду шкод, ран, межаў суд пасылаў возных, віжаў (часам замест іх высылаліся (або самі вызываліся) прыватныя асобы), а для выканання прыгавораў — дзецкіх [5, с. 38]. Пазней кампетэнцыя суда ўдакладняецца. Тым больш, што пачынаюць дзейнічаць новыя судовыя ўстановы. Некаторыя справы спалучаліся з тымі, якія разглядаліся іншымі судамі. Сам закон дазваляе ў пэўных выпадках скардзіцца і «да гроду», і «да земства» [9, р. IV, арт. 42].

Трэба ўзгадаць, што ў перыяд свайго станаўлення земскія суды разглядалі не толькі справы шляхты. Напрыклад, разам са шляхтай належалі земскаму суду віцебскія копныя мяшчане, роўна як і «особы стану духовного», якія валодалі маёнткамі і таму «светскому праву посполитому и службе земской военной подлеглыми» [9, р. III, арт. 33]. З актавых кніг Гродзенскага земскага суда за 1555, 1658 гг. бачна, што судзіліся дваране, баяры, сяляне, яўрэі, панцырныя слугі, путныя слугі, татары. Бывала, звярталіся ў суд і сяляне. Аднак з цягам часу земскія суды становяцца пераважна шляхецкімі саслоўнымі судамі.

І.І. Лапа адзначае, што ў актавых кнігах Віцебскага земскага суда за 1592 – 1598 гг. можна адрозніць тры разрады асоб, якія стаялі перад судом:

1) непасрэдна зацікаўленыя ў справе асобы;
2) іх павераныя або слугі;
3) возныя, якія з'яўляліся на суд у сувязі са сваім службовым абавязкам.

Аналіз актаў дазваляе назваць таксама шэраговых шляхціцаў і службовых асоб. Яны мяняліся з кожнай справай. Часцей за ўсё прысутнічалі менавіта мясцовыя дзяржаўныя службоўцы. Аднак І.І. Лапа падкрэслівае, што сярод «добрых людей», якія былі ў судзе, сустракаюцца розныя «вряднікі», дваране, простыя зямяне, баяры, войт, бурмістры, мяшчане, асобы духоўныя [5, с. 35].

Часам і жанчыны самастойна прадстаўлялі свае інтарэсы ў судзе. Увогуле судоваму працэсу на Беларусі са старажытных часоў было ўласціва так званае «натуральнае» (сямейнае) прадстаўніцтва: выступленне сына за маці, мужа за жонку і г.д. [18, с. 586]. Радавітая ж шляхта

імкнулася прысылаць на суд замест сябе службоўцаў або т. зв. «прыяцеляў».

Немалаважна адзначыць, што афіцыйнай мовай судаводства ў земскіх судах была беларуская [9, р. IV, арт. 1]. Аднак з цягам часу сустракаюцца і справы, у якіх ужываюцца польская або лацінская мова.

У выпадку сумненняў пры разглядзе спраў суддзі маглі звяртацца да вялікага князя «за навукай» [19]. Рашэнне па крымінальнай ці грамадзянскай справе (судовую «згоду») пісаў асабіста суддзя ці падсудак або з іх дазволу пісар. Пасля падпісання суддзёй і падсудкам рашэнне зачытвалася, каб суддзя пераканаўся ў правільнасці зробленага запісу, а потым ўносілася пісарам у адпаведную судовую кнігу як «дэкрэт» суда, чым і заканчвалася «учиненье справедливости» [9, р. IV, арт. 3]. Затым пачыналася «отправа речи сужонае». Фактычна суд не прыводзіў у выкананне сваё рашэнне. Як правіла, гэта рабіла сама «старана», якая выйграла справу. Земскі «вряд» мог толькі дапамагчы выкананню рашэння, напрыклад, прадастаўленнем вознага.

Выкананне прыгавору адносна турэмнага зняволення або смяротнай кары даручалася гродскаму суду, які меў для гэтых мэт турму («вежу земляную» і інш.) і ката. Трэба адзначыць, што такія прыгаворы даволі рэдкія для земскага суда, бо справы падобнага роду, як правіла, разглядаліся судом гродскім. Для земскага суда характэрны грашовыя штрафы, якія ў асноўным спаганяліся з маёмасці («маетнасці») падсуднага.

Па заканчэнні «рокаў земскіх» суддзі раз'язджаліся па хатах. Аднак пасля разгляду спраў павінна было прайсці не менш чым тры дні. У гэты тэрмін выдаваліся выпіскі з судовых кніг, запісваліся заявы на разгляд іншых спраў [9, р. IV, арт. 2]. Затым суддзі хавалі судовыя кнігі ў «скрыню моцную» за трыма замкамі, ключы ад якіх захоўваліся адпаведна ў суддзі, падсудка і пісара [9, р. IV, арт. 6, 13]. Скрыні, акрамя таго, што запіраліся на замкі, запячатваліся суддзямі ўласнымі пячаткамі і павінны былі належным чынам захоўвацца. Кнігі мінулай сесіі знаходзіліся ў пісара «яко врядника присяглого» [9, р. IV, арт.13].

Такім чынам, з'яўленне земскіх судоў указвае на пастаянную тэндэнцыю да аслаблення ўлады вялікага князя ў дзяржаве і ўзмацнення ролі шляхты.
Заснаванне ў Вялікім Княстве Літоўскім земскіх судоў стала цэнтральнай падзеяй і значным дасягненнем судовай рэформы. З'явіліся аддзеленыя ад выканаўчай улады суды і прафесійныя суддзі. Фарміраванне і функцыяніраванне судовай улады пачало грунтавацца на прынцыпах законнасці, выбарнасці і калегіяльнасці.

The aim of the work is to study the history of zemsky court in the Great Lithuanian Principality. The article deals with issues such as causes and predictors of a new-type courts, their competence, the principle of complete, their features. The author seeks to trace the history of zemsky court to review their changes and dynamics, to consider the legal registration and consolidation of a new type of court in the legislation. The main purpose is to determine the location of zemsky court in the new judicial system, show progressive of the new court, its role in strengthening the rights and position of the gentry.

Спіс крыніц і літаратуры

1. Бельскі прывілей 1564 г. // Вішнеўскі, А. Ф. Гісторыя дзяржавы і права Беларусі (IX – пачатак XX стст.): курс лекцый / А. Ф. Вішнеўскі / Усход.- Еўрап. недзярж. ін-т бізнеса і права. – Мінск: Экан. тэхналогіі, 1996. – 204 с.
2. Любавский, М. К. Литовско-русский сейм: Опыт по истории учреждения в связи с внутренним строем и

внешнею жизнью государства / М. К. Любавский; Изд. Имп. о-ва истории и древностей Рос. при Москов. ун-те. – М., 1900. – 850, 232, LXXII с.
3. Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времена издания первого литовского статута / М. К. Любавский. М., 1934. – 248 с.
4. Статут Великого княжества Литовского 1529 года / под ред. академика АН Литовской ССР К.И. Яблонскиса. – Минск: Издательство Академии наук БССР, 1960. – 253 с.
5. Лаппо, И. И. Земский суд в Великом Княжестве Литовском в конце XVI века / И.И. Лаппо. – СПб.: Типография В. С. Балашева, 1897. – 64 с.
6. Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 года / Т.І. Доўнар [і інш.]. – Мінск: Тэсей, 2003. – 250 с.
7. Шалькевіч, В.Ф. Пачатак вышэйшай юрыдычнай адукацыі ў Беларусі і Літве / В. Ф. Шалькевіч // Право и демократия: сб. науч. тр. – Вып. 9. – Минск, 1998. – С. 55 – 60.
8. Мелешко, В. И. Судебная система и правовое положение судей (по Статуту Великого княжества Литовского 1588 г.) / В. И. Мелешко // Магдэбургскае права на Беларусі: матэрыялы навук. канф., прысв. 500-годдзю выдачы гораду Мінску граматы на магдэбургскае права, Мінск, 26 сак. 1999 г. – Мінск, 1999. – С. 77.
9. Статут Вялікага Княства Літоўскага, 1588 / пер. на сучас. бел. мову А. С. Шагун. – Мінск: Беларусь, 2002. – 206 с.
10. Новаковский, М. М. Очерк судоустройства и гражданского процесса по бывшим Статуту и Конституциям / М. М. Новаковский. – СПб., 1863. – 171 с.
11. Лаппо, И. И. Великое княжество Литовское во второй половине XVI ст. Литовско-Русский повет и его сеймик / И.И. Лаппо. – Юрьев, 1911. – 808с.
12. Литовская Метрика. 8 книга публичных дел (1566–1572). – Вильнюс, 1999. – 117 с.
13. Панізнік, С. Каб « ... лісты, выпісы і позвы пісаці» / С. Панізнік // Культура. – 1999. – № 4 – С. 4.
14. Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц у Беларусі (XIII–XVIII стст., перыяд Вялікага княства Літоўскага) / Бел. навук.-даслед. ін-т дакументазнаўства і арх. справы (БелНДІДАС); аўт.-склад. А.І. Груша. – Мінск: БелНДІДАС, 2003. – 166 с.
15. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в центральном архиве в Витебске и изданные под ред. Д. И. Довгялло. – Вып. 28. – Витебск, 1900. – № 43, 44, 49. – XVI, 356, 167, V с.
16. Документы Московскага архива Министерства юстиции. – М., 1897. – Т. 1. – 596 с.
17. Уваров, И. Ю. Социально-правовое положение шляхты в Великом княжестве Литовском в XVI веке / И. Ю. Уваров // Веснік Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. – 2000. – № 3. – С. 13.
18. Владимирский-Буданов, М. Ф. Обзор истории русского права / М. Ф. Владимирский-Буданов. – Ростов н/Д: Феникс, 1995. – 524 с.
19. Литовская Метрика. Книга публичных дел 10 (1569–1571). – Вильнюс, 2001. – №43. – 155 с.

Навуковы кіраўнік – ***П.А.Лойка,*** кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

УДК 94(474/476) ВКЛ“1602-1604” + 94(470+571) “1602-1604”

*А. Л. Ягораў*
*(Мінск, БДУ)*

## *СТАЎЛЕННЕ ЖЫХАРОЎ ВКЛ ДА ПЕРШАЙ ІЛЖЭДЗМІТРЫЯДЫ 1602-1606 гг.*

Статья «Отношение жителей ВКЛ к первой Лжедмитриаде 1602–1606» посвящена рассмотрению взглядов жителей ВКЛ на появление в Речи Посполитой и поход на Москву Лжедмитрия I. Автор описывает действия Самозванца на территории Речи Посполитой. Большое значение уделяется анализу настроений магнатов Речи Посполитой в отношении первого Лжедмитрия, в частности роль Юрия Мнишка и Льва Сапеги в развитии самозванчества на территории восточной Европы. Автор также анализирует отношение солдат и шляхты ВКЛ к военным действиям против Московского царства.

Напярэдадні Смуты і Рэч Паспалітая, і Маскоўскае царства знаходзіліся ў стане крызісу. Сітуацыя ў гэтых дзяржавах у многім была падобная: заканчэнне старой дынастыі, недавер з боку многіх арыстакратаў да кіраўніка дзяржавы, спробы змяніць лідара краіны, цяжкі эканамічны стан. Усё гэта патрабавала рашучых крокаў, што маглі б падняць аўтарытэт улады. Напрыклад, невялікая пераможная вайна.

У 1604 годзе Барыс Гадуноў вёў перамовы з імперыяй Габсбургаў пра праект кааліцыі супраць Рэчы Паспалітай. Прадугледжвалася, што, акрамя Маскоўскага царства і імперыі Габсбургаў, да яе далучацца Малдова і Сяміграддзе. У выпадку поспеху дадзенай кааліцыі Максіміліян Габсбург каранаваўся б у Кракаве каралём польскім і ажаніўся б на Ксеніі Гадуновай, а Барыс Гадуноў забраў бы ў склад Маскоўскага царства Вялікае Княства Літоўскае [7, с. 232].

У Рэчы Паспалітай існавала неабходнасць апераджальнага ўдару, які павінен быў адцягнуць увагу маскоўскіх уладаў ад кааліцыі альбо прывесці на маскоўскі трон лаяльнага кіраўніка. Такім ударам для Рэчы Паспалітай стаў паход Ілжэдзмітрыя на Маскву.

На тэрыторыі Рэчы Паспалітай самазванец з'явіўся ў 1602 годзе. З 1602 па 1603 год ён пераходзіў з аднаго месца ў другое і нідзе не мог заручыцца падтрымкай. За гэты час ён паспеў пабываць у Кіеве, у князя Астрожскага, у арыянскай грамадзе ў Гошчы, дзе правёў даволі доўгі час. У мястэчку Брагін Ілжэдзмітрый сказаў князю Адаму Аляксандравічу Вішнявецкаму, што ён Дзмітрый Угліцкі, і ў выніку атрымаў падтрымку роду Вішнявецкіх. Немалаважную ролю ў гэтым адыграла тое, што Вішнявецкія мелі асабістыя рахункі з Барысам Гадуновым, які спаліў некалькі спрэчных гарадкоў, што Вішнявецкія лічылі сваімі. Вішнявецкі, асцерагаючыся сілавога захопу Ілжэдзмітрыя маскоўскім урадам, перавёз яго далей ад мяжы з Маскоўскай дзяржавай, у горад Вішнявец, што на Валыні.

7 кастрычніка 1603 года Адам Вішнявецкі паведаміў Яну Замойскаму пра з'яўленне «царэвіча Дзмітрыя». Даведаўшыся пра гэта, Замойскі параіў Вішнявецкаму паведаміць пра самазванца каралю.

1 лістапада 1603 года кароль загадаў князю Адаму прывесці самазванца ў Кракаў. Аднак Вішнявецкі не быў упэўнены ў станоўчым для яго зыходзе гэтай справы і пачаў сам рыхтавацца да

вайны з Маскоўскай дзяржавай. У студзені 1604 года пачало збірацца асабістае войска Вішнявецкага ў горадзе Лубны на рацэ Суле.

Падчас гэтай падрыхтоўкі ўзніклі супярэчнасці паміж Ілжэдзмітрыем і Адамам Вішнявецкім. Вішнявецкі зусім не збіраўся ісці паходам на Маскву, для гэтага ў яго не было дастатковых сілаў. Мэтай яго прыватнай вайны з'яўляўся захоп некалькіх гарадоў на памежжы, а затым заключэнне мірнай дамовы з царом Барысам.

Не выключана, што падчас перамоваў самазванец мог стаць разменнай манетай. Барыс адправіў пасольства да Вішнявецкіх і «предложил ему в потомственное владение несколько московских крепостей и городов, расположенных на рубеже, и, кроме того, большую сумму денег, если он выдаст ему вора» [11]. Ілжэдзмітрыя, канешне, такая сітуацыя не задавольвала, і ён знайшоў новых апекуноў – Мнішкаў.

Юрыя Мнішка, які таксама «увераваў» у сапраўднасць самазванца, убачыў магчымыя дывідэнты. Да таго ж самазванец закахаўся і захацеў ажаніцца з дачкой Юрыя Марынай Мнішак. Мнішак зразумеў, якія выгады яму прынясе самазванец, калі ён сядзе на маскоўскі трон і ажэніцца з Марынай. У лютым 1604 года кароль афіцыйна звярнуўся да сойма з пытаннем падтрымкі самазванца, на што атрымаў адмоўны адказ. Грамадства Рэчы Паспалітай у гэты час было далёкім ад адзінства. Кароль не меў усёй паўнаты ўлады і ў многім залежаў ад сойма і магнатаў. Перш за ўсё трэба было вызначыць сапраўднасць «Дзмітрыя Угліцкага».

Самазванца пачалі прызнаваць сапраўдным царэвічам спачатку слугі Мнішка, што пабывалі ў маскоўскім палоне. Слугі, канешне, казалі тое, чаго ад іх хацелі іх гаспадары: запэўнівалі перад усімі, што ведалі і бачылі царэвіча ў Маскоўскай дзяржаве, і кляліся, што гэта сапраўдны царэвіч. Іх не пыталіся, як і дзе яны маглі бачыць царэвіча; усе рабілі выгляд, што верылі ім. Таксама самазванца прызналі многія ўцекачы з Маскоўскай дзяржавы. У выпадку няўдачы яны нічога не гублялі, а ў выпадку поспеху будучай авантуры маглі атрымаць пасады і ўзнагароды. Пасля гэтага было вырашана весці самазванца ў Кракаў.

Пры двары Мнішкаў Ілжэдзмітрый зразумеў, што для большага поспеху яго авантуры яму патрэбна падтрымка каталіцкага касцёла. І таму яшчэ да прыезда ў Кракаў стаў пісаць лісты папскаму нунцыю Рангоні. Нунцый на яго ліст не адказаў, аднак паведаміў Папе пра самазванца і чакаў далейшага развіцця падзей.

5 сакавіка 1604 года самазванец прыехаў у Кракаў. Там ён сустрэўся з нунцыем, і той паведаміў Ілжэдзмітрыю, што кароль і польская нацыя будуць яму дапамагаць толькі тады, калі ён прыме каталіцтва і прызнае верхавенства Папы Рымскага [3, с. 73]. Ілжэдзмітрыю нічога не заставалася, як пагадзіцца з нунцыем. 15 сакавіка самазванец атрымаў аўдыенцыю ў караля ў прысутнасці чатырох сенатараў. 20 сакавіка зноў сустрэўся з нунцыем, а 31 сакавіка пачаліся яго перамовы з езуітамі. Цягам двух тыдняў ішлі гэтыя перамовы, і 15 красавіка Ілжэдзмітрый пагадзіўся перайсці ў каталіцкае веравызнанне. Пасля гэтай згоды 16 красавіка адбылася нарада езуітаў, на якой прысутнічаў Пётр Скарга. Вынікам гэтай нарады стала тое, што 17 красавіка самазванец прыйшоў да кіраўніка кракаўскай суполкі езуітаў Каспера Савіцкага ў суправаджэнні кракаўскага ваяводы Зебжыдоўскага і канчаткова адмовіўся ад праваслаўя.

24 красавіка нунцый у сваёй хатняй капліцы адслужыў літургію, падчас якой яго прычасціў і мірапамазаў. Пасля гэтага Ілжэдзмітрый перадаў нунцыю ліст да Папы Рымскага, дзе ён абяцаў, калі

«Господь Бог откроет мне путь в столицу, принадлежащую мне по наследственному праву», то ён пастараецца, каб «Господь Бог расширил славу свою в обращении заблудших душ и в воссоединении в свою церковь великих народов» [14].

Пасля гэтага самазванец меў сустрэчу з каралём, які не адважыўся з-за вялікага супраціву з боку некаторых магнатаў адкрыта дапамагаць самазванцу, аднак паслаў Ілжэдзмітрыю невялікую суму грошай і адпусціў у Самбар, даўшы дазвол сандамірскаму ваяводзе Юрыю Мнішку збіраць прыватнае войска для паходу ў Маскоўскае царства [9, с. 58].

Восенню 1604 года самазванец выступае ў паход на Маскву на чале невялікага прыватнага войска Юрыя Мнішка. Пасля шэрагу баёў Ілжэдзмітрый апынуўся ў складаным становішчы, аднак смерць у красавіку 1605 года Барыса Гадунова падкошвае маральны стан царскага войска, і яно пераходзіць на бок самазванца, які ўзыходзіць на маскоўскі трон.

Як відаць, авантура пачалася паспяхова – самазванца сустракалі з хлебам і соллю, віталі яго як сапраўднага цара. Аднак паўстае пытанне: «Хто падтрымліваў самазванца у ВКЛ?» Непасрэднымі выканаўцамі былі Юрый Мнішак, Адам Вішнявецкі і Каспер Савіцкі. Але яны самі не маглі здзейсніць такі праект без падтрымкі кагосьці з кіраўніцтва краіны.

Праціўнікамі самазванца былі канцлер каронны Ян Замойскі, гетман каронны Станіслаў Жалкеўскі, гетман ВКЛ Ян Хадкевіч, князь Канстанцін Астрожскі і шэраг іншых магнатаў. Іх пазіцыю даволі лёгка зразумець і патлумачыць: Рэч Паспалітая вядзе вайну са Швецыяй, на поўдні актывізаваліся туркі, а татары патрабуюць «памінкі», і гэта ўсё адбываецца на фоне пустой казны і моцнага незадавальнення каралём.

У той час за самазванца выступаюць Мнішкі і Вішнявецкія, якія хацелі паправіць свае фінансавыя справы з дапамогай маскоўскай казны, Кардынал Бернард Мацяеўскі і езуіты, якія хацелі распаўсюдзіць уладу Папы Рымскага і на Маскоўскія землі, Жыгімонт III Ваза, які хацеў з дапамогай самазванца вярнуць сабе Швецыю. Ён 23 сакавіка звярнуўся да Замойскага з лістом, дзе пісаў пра карысць, што атрымае Рэч Паспалітая ад самазванца: маскоўскі цар, пасаджаны на трон палякамі, быў бы верным слугою Рэчы Паспалітай: тады Турцыя не адважылася непакоіць межы Польшчы; аб'яднанымі сіламі можна будзе супакоіць Крым, утрымаць Лівонію і дабіцца ад Швецыі саступак; цесная сувязь дзвюх дзяржаў прыцягнула б гандаль; і, нарэшце, Рэч Паспалітая пазбавілася б праблемы вялікай колькасці жаўнераў, што рабуюць маёнткі [3, с. 73].

Цікавай з'яўляецца пазіцыя Льва Сапегі. Падчас з'яўлення самазванца канцлер ВКЛ заявіў, што Ілжэдзмітрый вельмі падобны на памерлага цара Фёдара, і пасля абяцаў прыслаць для «царэвіча» 2000 вершнікаў. Перад тым, як паказаць самазванца каралю, было праведзена «апазнанне» Ілжэдзмітрыя. На службе ў Льва Сапегі на працягу двух год знаходзіўся маскоўскі ўцякач халоп Пятроўскі. Канцлер абвясціў, што яго слуга добра ведаў царэвіча Дзмітрыя па Угліччу. Пятроўскага тэрмінова прывезлі да Вішнявецкага ў Жалажніцы, дзе знаходзіўся самазванец. Па словах мазырскага харунжыя Іосіфа Будзілы, Пятроўскі адразу прызнаў Ілжэдзмітрыя за сапраўднага цара, паказаўшы на «знаки, что были на челе царевича» [10]. На самай справе сустрэча ў Жалажніцах амаль не скончылася скандалам. Пятроўскі, убачыўшы самазванца, не знайшоў што сказаць, і Ілжэдзмітрый, выратоўваючы сітуацыю, заявіў, што пазнае свайго былога слугу, і ўпэўнена стаў з ім размаўляць. Пасля чаго халоп адразу «прызнаў» самазванца.

Пазней, восенню 1604 года, калі самазванец выступаў са сваім войскам у межы Маскоўскага царства, ён не атрымаў абяцаныя 2000 вершнікаў ад канцлера ВКЛ [8, с. 84].

Падчас сойма 1605 года ўсе паслы выказваліся адносна Ілжэдзмітрыя адмоўна і патрабавалі пакарання тых асоб, якія мелі дачыненне да гэтай авантуры. Такія заявы адбываліся ў перыяд, калі ніхто не быў упэўнены ў станоўчым зыходзе авантуры і кожны хацеў адмежавацца сябе ад магчымага правалу. Аднак літаральна праз паўгады сітуацыя карэнным чынам змянілася. Леў Сапега, які на сейме 1605 года «...о московских делах ... говорил много и, между прочим, сказал, что писал к Сендомирскому воеводе, чтобы возвратился назад» [13]. Аднак у лістападзе таго ж года на вянчанні пасла Ілжэдзмітрыя з Марынай Мнішак Леў Сапега «от имени воеводы отвечал прекрасною речью». Наўрад ці ён там узгадваў, што раіў Юрыю Мнішку пакінуць Ілжэдзмітрыя. Таксама Леў Сапега сказаў, «что радуется счастливому вступлению на престол великого князя Московского и обещал показывать со своей стороны расположенность к нему». Аднак такая карэнная змена адбылася не толькі з ім. На вяселлі прысутнічалі каралеўская сям'я, «епископы Куявский и Перемышльский, воеводы — Лепчицкий и Серадский, кастелян Гнезненский, канцлер Великого княжества Литовского, кастелян Варшавский, Вышегродский, Малогосский и другие сенаторы» [13].

Такім чынам, пазіцыю Льва Сапегі зімой 1605 года можна назваць вымушанай. Ён павінен быў, па-першае, адмежавацца ад вельмі верагоднага правалу авантуры, а па-другое, існуе меркаванне, што канцлеру не спадабалася вялікая роля Юрыя Мнішка пры асобе самазванца [6, с. 55]. Існуе меркаванне, што менавіта Леў Сапега стаяў за Ілжэдзмітрыем і быў «хросным бацькам смуты». Такая трактоўка наўрад ці адпавядае рэчаіснасці. Леў Сапега мог быць адным з апекуноў самазванца, аднак не яго «аўтарам». Разгледзім асноўныя моманты «за» і «супраць».

Асноўным довадам «супраць» з'яўляюцца выказванні Льва Сапегі падчас сойма 1605 года, калі Ілжэдзмітрый быў на мяжы паразы, і прамовы другога дзесяцігоддзя XVII ст., калі Рэч Паспалітая прыступіла да непасрэднай інтэрвенцыі ў Маскоўскую дзяржаву. Аднак вышэй было паказана, як мяняліся выказванні Льва Сапегі адносна Ілжэдзмітрыя ў залежнасці ад палітычнай сітуацыі. Так што прымаць гэты довад як асноўны нельга.

Довадаў «за» нашмат больш.

Па-першае, Леў Сапега імкнуўся аб'яднаць Карону Польскую, Вялікае Княства Літоўскае і Маскоўскае царства пад адным кіраўніком. Дзеля гэтага ён вёў перамовы пра ўзвядзенне на трон Рэчы Паспалітай Фёдара Іванавіча, ездзіў з пасольствам у Маскву ў 1600 годзе. Пасля правалу дыпламатычных сродкаў было лагічным паспрабаваць іншыя. І самазванец быў добрым прэтэндэнтам на ролю прыступкі на шляху аб'яднання краін.

Па-другое, Леў Сапега як ніхто ў Рэчы Паспалітай разбіраўся ў маскоўскіх справах. Ён два разы бываў у Маскве з пасольствамі, менавіта праз яго ішлі ўсе перамовы з пasламі Маскоўскай дзяржавы. Хто, як не Сапега, мог ведаць пра дынастычную сітуацыю ў Маскве?

Па-трэцяе, адным з першых, хто прызнаў Самазванца, быў слуга Льва Сапегі Пятроўскі. А праз некалькі год слуга Льва Сапегі яўрэй Якуб прызнаў сапраўдным царом «шклоўскага настаўніка» Ілжэдзмітрыя II і прывёз у РП «царскі ліст» да Жыгімонта III [8, с. 362]. Супадзенні малаверагодныя.

Па-чацвёртае, існавала патрэба ў разбурэнні планаў Маскоўскага царства і Імперыі Габсбургаў супраць Рэчы Паспалітай

Па-пятае, ні ў кога не выклікае сумнення зацікаўленасць езуітаў і Ватыкана ў станоўчым заканчэнні паходу Ілжэдзмітрыя. Таму падаецца цікавым факт узнагароджвання жонкі Льва Сапегі Залатой Ружай – вышэйшай узнагародай Ватыкана для жонак каралёў і іншых вышэйшых асоб дзяржавы [2, с. 259]. Наўрад ці Ватыкан узнагароджваў бы жонку канцлера за тое, што Леў Сапега ў 1600 годзе працягнуў дзеянне мірнай дамовы паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскім царствам.

Па-шостае, 15 студзеня 1609 года Леў Сапега на Варшаўскім сойме першым выказаўся за неадкладны пачатак вайны з Маскоўскім царствам, нягледзячы на мірную дамову, што падпісаў сам жа некалькі год таму [6, с. 56].

Леў Сапега, калі і не граў першую скрыпку сярод арганізатараў Смуты, то знаходзіўся ў шэрагу людзей, што моцна паўплывалі на яе развіццё. Такім чынам, сярод магнатэрыі ВКЛ знаходзіліся і прыхільнікі авантуры Ілжэдзмітрыя, і яе ворагі.

У той жа час большасць соймікаў ВКЛ выступіла супраць падтрымкі самазванца і патрабавала пакараць тых, хто знаходзіцца на яго баку. Гэтая пазіцыя тлумачыцца боязню распачаць новую вайну з Маскоўскім царствам і нежаданнем паўтарэння жахаў Лівонскай вайны [7, с. 233].1

Вайскоўцы з ВКЛ таксама масава не падтрымлівалі самазванца. Вызначыць этнічны склад войска Ілжэдзмітрыя І, з якім ён выступіў супраць Барыса Гадунова, даволі складана. «Новы летапісец» піша, што самазванец з'явіўся на маскоўскіх землях «съ Литовскими людми и съ Черкассы» [4, с. 62]. Піскарэўскі летапісец таксама сцвярджае, што ён стаў моцным «литовскими и рускими людьми» [5, с. 215]. Баркулабаўскі летапіс сведчыць, што Ілжэдзмітрый, «собравши войско немалое люду низовского и козаков запорозких, также люду руского множество, с тым людом поехавши» [1, с. 31]. Падаецца больш верагодным, што войска складалася з выхадцаў з сучаснай тэрыторыі Украіны, а з тэрыторыі ВКЛ значных атрадаў не прыйшло, бо ў іншым выпадку аўтар Баркулабаўскага летапісу узгадаў бы людзей «Отселя з Литвы» [1, с. 33], як ён гэта зрабіў, апісваючы войска Другога Ілжэдзмітрыя. Узгадванні ж рускіх летапісаў пра людзей «литовских», хутчэй за ўсё, азначае агульную назву каталікаў з Рэчы Паспалітай. Сярод кіраўніцтва войска таксама не было выхадцаў з ВКЛ: галоўнакамандуючым быў Юрый Мнішак, Адам Жуліцкі і Адам Дваржэнка – палкоўнікамі, а Станіслаў Мнішак – кіраўніком гусарскай роты.

Таксама ў войску самазванца прысутнічалі данскія казакі і маскавіты. Адсутнасць значных атрадаў з ВКЛ тлумачыцца шэрагам прычын:

па-першае, у гэты час ваяры з ВКЛ былі заняты вайной у Прыбалтыцы, дзе вяліся актыўныя баявыя дзеянні супраць Шведскага каралеўства;

па-другое, у ваяроў ВКЛ не было такога багатага вопыту ўзвядзення на трон самазванцаў, які быў у запарожскіх казакаў і часткі польскай шляхты, што садзілі часам на малдаўскі трон розных гаспадароў. Таму ваяры з ВКЛ не былі ўпэўнены ў паспяховасці дадзенай авантуры, аднак ужо ў войску другога Ілжэдзмітрыя выхадцаў з ВКЛ было даволі шмат.

У 1605 годзе атрад шляхты з ВКЛ выехаў у Маскву да Ілжэдзмітрыя [12]. Самазванец іх ласкава прыняў, адарыў падарункамі і адправіў назад у ВКЛ.

Такім чынам, існавала падтрымка самазванца кіраўніцтвам ВКЛ і Рэчы Паспалітай, таксама Ілжэдзмітрыя падтрымлівала каталіцкае духавенства на чале з езуітамі. Простыя ж шляхціцы і ратнікі, за рэдкім выключэннем, яго не падтрымалі.

The article considers the views of the residents of the Grand Duchy of Lithuania on the creation of the Polish–Lithuanian Commonwealth and the march of False Dmitriy I to Moscow. The author depicts Impostor's deeds on the territory of the Polish–Lithuanian Commonwealth. A great emphasis in this article is given to the analysis of opinions of the Polish–Lithuanian Commonwealth's magnates about False Dmitriy I, particularly about the role of Yuriy Mnishek and Lev Sapega in the development of imposture in Eastern Europe. The author also studies the attitude of the Grand Duchy of Lithuania's soldiers and gentry towards military actions against the Tsardom of Moscow

Спіс крыніц і літаратуры

1. Баркулабовская летопись / под общ. ред. М. В. Довнар-Запольского. – Киев, 1908.
2. Винтер, Э. Папская дипломатия времен русской смуты / Э. Винтер // Тайна царевича Дмитрия / С.О. Прокофьев. – Москва: Evidentis, 2001. – 356 с.
3. Костомаров, Н.В. История Руси Великой: в 12 томах / составление, подготовка текста и коментарии С.Д. Олшевского. – Москва: ООО «Мир книги», 2004. – Т.7: Смутное время Московского государства в начале XVII столетия. – 477 с.
4. Новый летописец // Полное собрание русских летописей / под общ. ред. С. Ф. Платонова. – Санкт-Петербург, 1910. – Т. 14. – 154 с.
5. Пискаревский летописец // Полное собрание русских летописей / под общ. ред. Б. А. Рыбакова. – Москва: НАУКА, 1978. – Т. 34. – 304 с.
6. ПСРЛ. – Т. 34. – М., 1978. Піскарэўскі летапісец.
7. Саверчанка, І.В. Канцлер Вялікага Княства / І. В. Саверчанка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 61 с.
8. Сагановіч, Г. Смута і Беларусь / Г. Сагановіч // Нёман. – 1997. – № 6. – С. 226 – 246.
9. Скрынников, Р. Г. Три Лжедмитрия / Р. Г. Скрынников. – Москва: АСТ: Астрель, 2003. – 476 с.
10. Флоря, Б. Н. Польско-литовская интервенция в России и русское общество / Б.Н. Флоря. – Москва: Индрик, 2005. – 415 с.
11. Будило Иосиф. Дневник событий, относящихся к смутному времени (1603 – 1613 гг.), известный нам именем истории ложного Димитрия / Иосиф Будило. – Режим доступа: http://www.vostlit.info/Texts/rus11/Budilo/text1.phtml?id=203. – Дата доступа: 02.11.2010.
12. Бусов, Конрад. Московская хроника / Конрад Бусов. – Режим доступа: http://www.vostlit.info/Texts/rus11/Bussjv/text1.phtml?id=103. – Дата доступа: 02.11.2010.
13. Маскевич, Самуил. Дневник / Самуил Маскевич. – Режим доступа: http//www.vostlit.info/Texts/rus12/Maskevic/frametext1.htm. – Дата доступа: 02.11.2010.
14. Отрывки из дневника польского сейма 1605 г., относящихся к смутному времени. – Режим доступа: http://www.vostlit.info/Texts/Dokumenty/Polen/XVII/1600-1620/Sejm_1605/text.htm. – Дата доступа: 02.11.2010.
15. Письмо Первого Самозванца к Папе Клименту VIII. – Режим доступа: http://www.vostlit.info/Texts/Dokumenty/Polen/XVII/1600-1620/LzedmitrijI/brief_klementVII _28.04.1604.htm. – Дата доступа: 02.11.2010.

Навуковы кіраўнік – ***Ю. Л. Казакоў***, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

УДК 355.098:27 – 726.3 (470+571)”1817/1831”

*П. А. Некрашэвіч*
*(Мінск, БДУ)*

## *СВЯТАРЫ АСОБНАГА ЛІТОЎСКАГА КОРПУСА*

На протяжении более 14 лет, с 1817 по 1831 г., в состав армии Российской империи входил отдельный Литовский корпус. Он комплектовался уроженцами пяти западных губерний и Белостокской области. Отдельный Литовский корпус имел ряд особенностей, отличающих его от других формирований российской армии. Одной из них было присутствие в корпусе военных священников сразу трех христианских конфессий: православной, католической и униатской. Наличие священников нескольких конфессий было вызвано пестрой этноконфессиональной принадлежностью солдат и офицеров корпуса.

Адным з вынікаў напалеонаўскіх войнаў быў крах плана адраджэння Рэчы Паспалітай. Аднак імператар Аляксандр I з 1815 г. пачаў праводзіць ліберальную палітыку адносна «польскіх зямель» Расійскай імперыі. Было створана аўтаномнае Каралеўства Польскае, якое мела асабістую армію, канстытуцыю, фінансы. Грамадства беларуска-літоўскіх губерняў лічыла, што наступным крокам імператара павінна было стаць аб'яднанне Польскага каралеўства з паўночна-заходнімі губернямі. Як вядома, гэта не адбылося, але пэўныя крокі імператарам Аляксандрам I у гэтым кірунку былі зроблены.

1 ліпеня 1817 г. Аляксандр I падпісаў загад аб арганізацыі асобнага Літоўскага корпуса [1, с. 172]. Першапачаткова ён складаўся з 27-й (Брэсцкі, Беластоцкі, Літоўскі, Віленскі пяхотныя, 47-ы і 48-ы егерскія палкі) і 28-й (Валынскі, Мінскі, Падольскі, Жытомірскі пяхотныя, 29-ы і 50-ы егерскія палкі) пяхотных дывізій, а таксама 29-й артылерыйскай брыгады. Пазней у склад асобнага Літоўскага корпуса ўвайшлі Літоўская грэнадзёрская брыгада (Луцкі і Самагіцкі грэнадзёрскія палкі, Нясвіжскі карабінерны полк), Літоўская ўланская дывізія (Татарскі, Польскі, Літоўскі, Валынскі ўланскія палкі), 27-я артылерыйская брыгада (яна разам з былой 29-й брыгадай склала Літоўскую артылерыйскую дывізію), Літоўскі піянерны батальён, Літоўская фурштацкая брыгада, а таксама 5 гвардзейскіх палкоў (Лейб-гвардыі Валынскі і Літоўскі пяхотныя, Польскі грэнадзёрскі, Падольскі кірасірскі, Уланскі я. і.в. Цэсарэвіча, Гродзенскі гусарскі) [1, с. 172].
Рэкруты для корпуса набіраліся з ураджэнцаў пяці заходніх губерняў Расійскай імперыі: Валынскай, Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Падольскай, а таксама з Беластоцкай вобласці. Агульная колькасць корпуса дасягала 40 тысяч чалавек. Асобны Літоўскі корпус быў расквартараваны на тэрыторыі Валынскай, Гродзенскай, Мінскай губерняў і Беластоцкай вобласці. Гвардзейскія палкі размяшчаліся ў Варшаве. Камандаваць асобным Літоўскім корпусам па ўказе цара даручалася галоўнакамандуючаму арміі Каралеўства Польскага вялікаму князю Канстанціну Паўлавічу [1, ст. 173].

Асобны Літоўскі корпус, у адрозненне ад войска Каралеўства Польскага, уваходзіў у склад расійскай арміі, а таму першапачаткова меў агульную з іншымі войскамі арганізацыйную структуру. У кожным палку расійскай арміі павінен быў быць святар. Зразумела, што святар гэты звычайна быў

праваслаўнага веравызнання. Спачатку так было і ў асобным Літоўскім корпусе. Напрыклад, аб гэтым сведчыць склад Мінскага пяхотнага палка за 1819 г. [2, с. 155].

Але паколькі корпус складаўся з рэкрутаў заходніх губерняў, у адрозненне ад іншых часцей расійскай арміі, у ім служыла вялікая колькасць прадстаўнікоў адразу трох хрысціянскіх канфесій: праваслаўнай, каталіцкай і ўніяцкай. Палкавы святар адказваў не толькі за павышэнне маральнага стану салдат, але і за непасрэднае выкананне хрысціянскіх абрадаў: вянчання, хрышчэння дзяцей. Існаванне ў палках корпуса пасады толькі праваслаўнага святара магло прывесці да сур'ёзных канфліктаў на рэлігійнай глебе. Таму найбольш правільным вырашэннем гэтага пытання бачылася прызначэнне ў асобны Літоўскі корпус святароў уніяцкай і каталіцкай канфесій.

3 красавіка 1820 г. выйшаў імператарскі загад, згодна з якім у склад войск асобнага Літоўскага корпуса ўводзіліся, у дадатак да праваслаўных, каталіцкія і ўніяцкія святары [3, с. 138]. Згодна з традыцыйнай сістэмай расійскай арміі, у склад, напрыклад, пяхотнай дывізіі з 6 палкоў уваходзіла 6 святароў. Кожны святар быў замацаваны за пэўным палком. Згодна з загадам ад 3 красавіка да кожнай пяхотнай дывізіі асобнага Літоўскага корпуса было прылічана па два праваслаўныя, два каталіцкія і два ўніяцкія святары. Святары былі замацаваны за ўсёй дывізіяй, але не былі прыпісаны да пэўных палкоў. Гэта тлумачыцца тым, што інакш патрэбна было б мець утрая больш святароў (па адным святару кожнай канфесіі на адзін полк). Святары ўсіх трох канфесій павінны былі пераязджаць ад аднаго палка да другога па меры неабходнасці і спраўляць богаслужэнні. Загад аб прызначэнні ўніяцкіх святароў у асобны Літоўскі корпус быў аддадзены ўніяцкім мітрапалітам 30 красавіка 1820 г. [4, с. 256].

Прысутнасць у расійскай арміі святароў неправаслаўнага веравызнання не была адметнай з'явай. Варта прыгадаць, напрыклад, мусульманскіх святароў калмыцкіх палкоў падчас вайны 1812 года. Аднак прысутнасць святароў адразу трох канфесій у адной вайсковай адзінцы – спецыфічны, нехарактэрны для расійскай арміі выпадак. Усё гэта рабіла асобны Літоўскі корпус «сапраўдным» нацыянальным вайсковым фарміраваннем.

Між тым, ужо ў другой палове 1820-х гг. рэчаіснасць унесла свае карэктывы ў дзейнасць святароў корпуса. 10 жніўня 1827 г. быў выдадзены загад, згодна з якім уніяцкім і каталіцкім святарам дазвалялася праводзіць рэлігійныя абрады сярод праваслаўных салдат Беластоцкага, Літоўскага, Віленскага пяхотных і 47-га егерскага палкоў. Прычынай такой пастановы была «адсутнасць праваслаўных святароў грэкарасійскіх у тых палках і ў асяродку, дзе яны размешчаны» [5, с. 191].

З праблемай адсутнасці праваслаўных святароў сутыкнуліся і афіцэры іншых падраздзяленняў асобнага Літоўскага корпуса. Так, для правядзення рэлігійных абрадаў сярод салдат, якія былі раскватараваны ў г. Слуцку, камандзір 1-й брыгады Літоўскай уланскай дывізіі генерал-маёр Забарынскі быў вымушаны звярнуцца да Слуцкага духоўнага праўлення, якое не мела ніякіх адносін да ваеннага духавенства [6, арк. 4]. Вышэйазначаныя факты могуць сведчыць аб тым, што салдат праваслаўнага веравызнання ў вышэйназваных палках асобнага Літоўскага корпуса было не так і шмат або аб дрэннай арганізацыі дзейнасці праваслаўнай царквы на тэрыторыі Гродзенскай і Мінскай губерняў. Трэба адзначыць, што нават святары трох канфесій не забяспечвалі ўсіх духоўных патрэб салдат асобнага Літоўскага корпуса. У склад корпуса ўваходзіў Татарскі ўланскі полк, значная частка якога была ўкамплектавана літоўскімі татарамі, прычым

пытанні, якія б закраналі інтарэсы хрысціян (напрыклад, магчымы шлюб паміж мусульманінам і праваслаўнай), вырашаліся не на карысць мусульман [7, арк. 3].

Паколькі стварэнне асобнага Літоўскага корпуса было прадыктавана палітычнымі мэтамі, таму і лёс гэтай вайсковай адзінкі быў непасрэдна звязаны з грамадска-палітычным жыццём Расійскай імперыі. У снежні 1825 г. на расійскі трон узышоў Мікалай І. Новы расійскі імператар не быў прыхільнікам ліберальнай палітыкі ў адносінах да заходніх губерняў.

У снежні 1825 г. у Літоўскім піянерным батальёне адбылося хваляванне. Выступленне было хутка задушана. Значную дапамогу ўладам у правядзенні следства над беларускімі дзекабрыстамі аказаў святар Шлісельбургскага ваеннага сабора М. Бараноўскі. Ён быў спецыяльна накіраваны ў асобны Літоўскі корпус для правядзення рэлігійнай прапаганды сярод бунтаўшчыкоў. Святар дапамог следчай камісіі ў пошуках лідараў таварыства «Ваенных сяброў», за што быў узнагароджаны залатым наперсным крыжам і ўзведзены ў сан пратаіерэя [8, с. 124].

Хваляванні снежня 1825 г. наглядна прадэманстравалі Мікалаю І, што асобны Літоўскі корпус з'яўляецца ненадзейнай вайсковай адзінкай. Таму расійскі імператар праводзіў шэраг мер, накіраваных на паступовую рэарганізацыю корпуса. Паводле меркаванняў даследчыкаў А.А. Карнілава [9, с. 115] і Ш. Ашкеназі [10, с. 107], ужо ў час рэкруцкага набору 1827 г. рэкруты Падольскай і Віленскай губерняў адсылаліся ў іншыя вайсковыя часткі і замяшчаліся ў асобным Літоўскім корпусе рэкрутамі з Пскоўскай і Цвярской губерняў. Дадзены загад значна змяняў канфесійны склад корпуса.

8 ліпеня 1829 г. обер-святаром асобнага Літоўскага корпуса быў прызначаны пратаіерэй І. Канашэвіч [11, с. 138]. Обер-святары выконвалі функцыі галоўных духоўных асоб у буйных вайсковых частках (арміі ці асобнага корпуса) [12, с. 42]. У асобным Літоўскім корпусе да 1829 г. з-за яго спецыфічнага этнаканфесійнага складу такой пасады ўвогуле не існавала. З'яўленне пасады обер-святара сведчыла аб ліквідацыі адной з галоўных асаблівасцяў корпуса – дзейнасці святароў адразу некалькіх канфесій.

У канцы 1820-х гг. ізноў былі ўзноўлены пасады палкавых святароў. Так, падчас паўстання 1830 – 1831 гг. святары Літоўскага пяхотнага (П. Лагоўскі), Падольскага пяхотнага (Ф. Пракаповіч) палкоў разам з пратаіерэем І. Канашэвічэм трапілі ў польскі палон [8, с. 114].

Такім чынам, ідэя аб адначасовай дзейнасці ў расійскай арміі святароў адразу некалькіх канфесій не была ўтапічнай. Асобны Літоўскі корпус камплектаваўся ўраджэнцамі заходніх губерняў – рэгіёну шматнацыянацыянальнага і шматканфесійнага, а таму і адносна талерантнага. Гэта дазваляла адначасова ў вайсковых частках корпуса карыстацца паслугамі праваслаўных, каталіцкіх і ўніяцкіх святароў. Галоўнай праблемай была не рэлігія, а палітыка. Праваслаўныя ваенныя святары заўсёды былі правадырамі палітыкі самадзяржаўя. Такога нельга было чакаць ад каталіцкіх і ўніяцкіх святароў. Таму яшчэ ў 1829 г., за два гады да ліквідацыі асобнага Літоўскага корпуса, спецыфічная структура шматканфесійнага ваеннага духавенства была скасавана.

Separate Lithuanian corps was a part of Russian army from 1817 till 1831. This corps consisted of soldiers and officers from western gyberniyas. One of the peculiarities of the separate Lithuanian corps was using of military chaplains of three Christian denominations: Christian orthodox, Greek Catholic and Catholic. This institute was liquidated in 1829 as a part of reorganization of the separate Lithuanian corps.

Спіс крыніц і літаратуры

1. Швед, В. В. Паміж Польшчай і Расіяй: грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі / В. В. Швед. – Гродна: ГрДУ, 2001. – 416 с.
2. Любавский, П. Приложение к краткому историческому очерку боевой деятельности 54-го пехотного Минского его королевского высочества князя болгарского Фердинанда полка за 100 лет его существования / П. Любавский. – Кишинев: Тип. П. Л. Галантера, 1907. – 161 с.
3. Полное собрание законов Российской империи с 1649 г.: Собр. 1-е. Т. XXXVII: 1820 – 1821. – СПб.: Печатано в типографии II Отделения Собственной е. и. в. канцелярии, 1830. – 985 с.
4. Архіў уніяцкіх мітрапалітаў / рэдкал.: С. І. Паўловіч, Т. М. Мальцава. – Бел. навук.-даслед. ін-т дакументазнаўства і арх. справы, Полац. грэка-каталіцкая грамада. – Мінск: БелНДІДАС, Полацк: Сафія, 1999. – 383 с.
5. Полное собрание постановлений и распоряжений по ведомству православного исповедания Российской империи. Т. 1: Царствование государя императора Николая I / под ред. Ф. И. Виноградова. – СПб.: Тип. 1-й Петр. трудовой артели, 1915. – 938 с.
6. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. – Ф. 757: Слуцкое духовное правление. – Воп. 1. – Спр. 299. 7 арк.
7. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. – Ф. 136: Минская консистория. Воп. 1. – Спр. 8270. 5 арк.
8. Столетие Военного министерства. 1802 – 1902. – Т. XIII: Управление церквами и православным духовенством Военного ведомства. Кн. 1: Исторический очерк / сост.: А.А. Желобовский. – СПб.: Тип. Поставщиков Двора е.и.в. М. А. Вольф, 1902. – 130 с.
9. Корнилов, А. А. Русская политика в Польше со времени разделов до начала XX века: исторический очерк / А. А. Корнилов. – Петроград: Огни, 1915. – 93 с.
10. Аскенази, Ш. Царство Польское, 1815 – 1830 гг. / Ш. Аскенази. – М.: Книгоиздательство писателей в Москве, 1915. – 167 с.
11. Барсов, Т.В. Об управлении русским военным духовенством / Т. В. Барсов. – СПб.: Тип. Ф. Елеонского и К°, 1879. – 168 с.
12. Невзоров, Н. Исторический очерк управления духовенством Военного ведомства в России / Н. Невзоров. – СПб.: Тип. Ф. Г. Елеонской и А. И. Поповицкой, 1875. – 101 с.

Навуковы кіраўнік – ***А. М. Лукашэвіч***, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

УДК 94(476) 1921/1939

*А.С. Горны*
*(Гродна, ГрДУ імя Янкі Купалы)*

## *НЕАУНІЯ Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў АЦЭНКАХ БЕЛАРУСКІХ ПАЛІТЫКАЎ І ГРАМАДСКІХ ДЗЕЯЧОЎ*

Возрождение униатства было одним из ярчайших явлений в религиозной жизни Западной Беларуси. Данное событие вызвало горячие дискуссии в самых разных слоях белорусского общества, в том числе и в политических кругах. Автор статьи обобщает и анализирует различные точки зрения и предложения, которые были высказаны представителями некоторых белорусских общественно-политических организаций относительно целей, методов и форм распространения унии в Западной Беларуси.

З пачатку 1920-х гг. у Заходняй Беларусі, якая ўваходзіла ў склад Польшчы, рабіліся спробы аднаўлення ўніяцкай царквы. Гэты працэс, які ў гістарычнай літаратуры атрымаў назву «неаўніяцкай акцыі» ці папросту «неауніі», набыў вялікі рэзананс у тагачасным грамадстве і стварыў падставы для розных дыскусій і спрэчак. І гэта нездарма, бо праз 85 гадоў заняпаду на беларускіх землях упершыню, побач з праваслаўнымі і каталіцкімі храмамі, пачалі з'яўляцца ўніяцкія прыходы, а ў свядомасці народа спрабавалі адрадзіць даўно забытыя рэлігійныя ўяўленні. Больш таго, адраджэнне уніі закранала інтарэсы амаль усіх пластоў грамадства – праваслаўных і каталіцкіх вернікаў, нацыянальнай інтэлігенцыі, духавенства і дзяржаўных чыноўнікаў, што ставіла гэтую праблему ў ранг агульнанацыянальнай. Таму ацэнкі неауніі беларускімі палітыкамі і грамадскімі дзеячамі, якія ў сваіх асобах у шмат чым выказвалі думкі і меркаванні цэлага народа, былі вельмі важнымі для яе будучага існавання і пашырэння.

Перад тым, як непасрэдна звярнуцца да аналізу поглядаў беларускай эліты на неаўніяцкую кампанію, заўважым, што яна мела ў заходнебеларускім рэгіёне сваю істотную адметнасць. Пасля таго, як праваслаўе тут пазбавілася статуса дзяржаўнага веравызнання і апынулася фактычна пад кантролем польскага ўрада, Апостальская сталіца вырашыла выкарыстаць гэтыя землі як своеасаблівы палігон для назапашвання неабходнага вопыту ў будучай місіянерскай працы ў Расіі і сярод расійскай эміграцыі. Таму адраджэнне уніі праходзіла ў Заходняй Беларусі не ў форме старога грэка-каталіцтва, якое існавала тут да 1839 г. і было арганічна звязана з мясцовымі традыцыямі і культурай, а ў выглядзе візантыйска-славянскага, ці ўсходняга, абрада. Гэты абрад поўнасцю адпавядаў усходняй праваслаўнай традыцыі, быў набліжаны да рускага менталітэту і «рускай ідэі», што не зусім суадносілася з тутэйшымі асаблівасцямі. Праект візантыйска-славянскага абрада быў распрацаваны альбо былым магілёўскім біскупам Э. Ропам [1, с. 124], альбо бельгійскім езуітам кс. Мішэлем д'Эрбіны [2, с. 432] (магчыма, пэўнага аўтара ўвогуле не было), аднак імпульсы да яго стварэння, верагодна, зыходзілі ад прадстаўнікоў расійскай эміграцыі і расійскага каталіцкага ці «кафолического» руху, якія ўжо даўно імкнуліся ўвасобіць мадэль Адзінай царквы праз уваходжанне праваслаўных у каталіцкае адзінства [3].

Чым жа новы ўсходні абрад адрозніваўся ад класічнага «берасцейскага» грэка-каталіцтва? Па-першае, ён поўнасцю падпарадкоўваўся мясцовай рыма-каталіцкай іерархіі, у нашым выпадку – польскай. На адной кананічнай тэрыторыі не павінна было існаваць дзвюх паралельных царкоўных уладаў, неабходна было кіравацца прынцыпам «адзін епіскап для двух абрадаў» [1, с. 124]. Паўсюдна пачынаў прапагандавацца «бірытуалізм», г.зн. раўнаважнае суіснаванне ў каталіцтве двух абрадаў – лацінскага і ўсходняга. Калі раней усходні абрад прызнаваўся абрадам праваслаўнай царквы і для яго атрымання каталіцтву неабходна было ўступаць у пагадненне з праваслаўнай іерархіяй, то цяпер каталіцкая царква магла прапанаваць гэты абрад праваслаўным непасрэдна ад сябе. Паводле апалагетаў каталіцтва, ён існаваў нароўні з лацінскім яшчэ да падзелу хрысціянства і быў плёнам працы святых Айцоў царквы, якія «думалі і жылі па-каталіцку». Творцамі славянскай формы абрада лічыліся першаасветнікі Кірыл і Мяфодзі, яны прызнаваліся людзьмі каталіцкага духа. Многія публіцысты падкрэслівалі вялікае значэнне ўсходняга абраду для гісторыі каталіцтва, адзначалі яго глыбокі сімвалізм і эстэтычную вартасць [4, с. 78]. Але ўсё ж такі трэба прызнаць – «бірытуалізм» выконваў не столькі экуменічныя і духоўныя функцыі, колькі прагматычныя разлікі

каталіцкага кіраўніцтва. Праваслаўным святарам і вернікам, якія кансерватыўна захоўвалі ўсходнюю традыцыю, на падсвядомым узроўні лягчэй было далучыцца да ўсходняга абраду, чым да незразумелага лацінства.

Яшчэ адной рысай візантыйска-славянскага абраду, як ужо адзначалася, была поўная знешняя адпаведнасць сінадальнаму рускаму праваслаўю. Падабенства прасочвалася амаль ва ўсім: ад выгляду і аддзення духавенства да абраднасці і дагматыкі. Новы абрад спрабаваў адпавядаць і светапогляду праваслаўных вернікаў, асабліва рускіх па нацыянальнасці. Ва ўсім падкрэслівалася «руская ідэя», як гэта рабілася ў праваслаўнай царкве да рэвалюцыі. Напрыклад, адзін са святароў Віленскай епархіі, які перайшоў ва унію, на сваіх службах часта абвяшчаў «многае лета» цару Мікалаю II і ўсяму дому Раманавых [5, с. 55]. Зразумела, што пры такіх падыходах пануючымі мовамі ў царкве павінны былі быць царкоўнаславянская і руская. Нават назва спецыяльнай камісіі – «Pro Russia», у кампетэнцыю якой уваходзіла неауніяцкая кампанія на «ўсходніх крэсах», адлюстроўвала арыенціры будучай працы.

Як бачна, праект Ватыкана было б лепей за ўсё рэалізоўваць не ў Заходняй Беларусі, а дзе-небудзь пад Масквой. Ён, у адрозненне ад грэка-каталіцтва ва ўкраінскай Галіччыне, не ўлічваў спецыфіку дзейнасці ў мясцовых умовах і меў няшмат супольнага з нацыянальным адраджэннем, якое выходзіла на першы план у грамадска-палітычным жыцці беларусаў і ўкраінцаў. У прынцыпе, толькі такая канцэпцыя новага абрада магла не выклікаць пярэчанняў польскіх уладаў, якія баяліся пашырэння на ўсходніх тэрыторыях грэка-каталіцызму з яго нацыянальнай скіраванасцю. Варшаўскія чыноўнікі нават перастрахаваліся: у канкардаце паміж Польшчай і Ватыканам 1925 г. асобным пунктам прапісвалася палажэнне, паводле якога грэка-каталіцтва мела права на існаванне толькі ў межах Галіччыны [6].

Новая з'ява ў рэлігійным жыцці Заходняй Беларусі адразу ж выклікала рэакцыю з боку розных беларускіх грамадскіх і палітычных груповак. Аднымі з першых звярнулі ўвагу на неаунію дзеячы хрысціянска-дэмакратычнага руху, якія былі згуртаваны вакол аб'яднання, а потым партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя (БХД). З самага пачатку свайго існавання (з 1917 г.) гэтая палітычная сіла надавала значную ўвагу пошукам выйсця з галоўнай канфесійнай праблемы беларусаў – падзела на католікаў і праваслаўных. Гэтая праблема ў тыя часы ўскладнялася яшчэ і тым, што вернікаў гэтых канфесій імкнуліся перацягнуць да сябе альбо расійскі, альбо польскі культурныя асяродкі, перашкаджаючы такім чынам працэсам нацыянальнай кансалідацыі. Ужо ў першай праграме Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучнасці – правапрыемніцы БХД – ставілася «спецыяльная мэта: зблізіць усіх каталікоў і праваслаўных і аб'еднаць іх у аднэй веры з рознымі абрадамі» [7, с. 514]. На старонках друкаванага органа беларускай хадэцыі, газеты «Крыніцы», на працягу 1919 – 1921 гг. ідэя рэлігійнай уніі, упершыню пасля 1839 г., пачала абгрунтоўвацца і ўдакладняцца. Язэп Варонка, былы кіраўнік урада БНР, у адной са сваіх брашур нават крытычна заўважыў, што беларускія ксяндзы ў «Крыніцы» « … больш гавораць аб уніі, ніж аб бэзварунковым уводзе беларускай мовы ў касцеле» [8, с. 28]. У спецыяльна створанай дзеля гэтага рубрыцы «Куток аб Уніі» святары і публіцысты выказвалі аўтарскія меркаванні наконт сусветнай і рэгіянальнай уніі, цытавалі славутых філосафаў і багасловаў. А. Станкевіч, У. Талочка, Я. Германовіч і іншыя падкрэслівалі вялікае значэнне уніі для духоўнага аб'яднання беларусаў. Былыя навучэнцы Пецярбургскай каталіцкай акадэміі, яны годна ўспрынялі гістарычны вопыт развіцця ўніяцтва на

Беларусі і арганічна сумясцілі яго з пашыранымі ў той час ідэямі расійскага філосафа У. Салаўёва аб Сусветнай Царкве. Аналізуючы іх творы, можна вылучыць наступныя агульныя прынцыпы, згодна з якімі яны планавалі ажыццявіць адраджэнне ўніяцтва на Беларусі:

1. Унія як паразуменне паміж праваслаўем і каталіцтвам, умацуе беларускі народ духоўна, а праз пэўны час – і ўнутрана, і стане лепшай адпорай асіміляцыі з боку Польшчы [9, с. 22 – 24].
2. Унія была і павінна стаць выключна беларускай нацыянальнай рэлігіяй («каб як найбольш была незалежнай ад чужых варожых уплываў, каб як найбольш была зьядналая з народам і з патрэбамі душы ягонай, каб была ўрэшце ў пэўным значэньні больш-менш цэрквай сапраўды беларускага народу» Адам Станкевіч).
3. Унія перад усім павінна выконваць функцыі духоўнага аб'яднання беларускай нацыі, а не быць сродкам паланізацыі ці каталіцкага празелетызму [10].
4. Ажыццяўленне рэлігійнай уніі павінна адбывацца выключна на грунце беларускай мовы, палітыкі і культуры. Праводзіць унію па-за нацыянальнай ідэалогіяй немагчыма і нават шкодна («Унія, трэба зразумець назаўсёды, павінна быць згодна з беларускім народным і палітычным адраджэньнем» Адам Станкевіч [9, с. 25]).
5. Прыклад ва ўнійнай працы – грэка-каталіцтва ў Заходняй Украіне.
6. Унію трэба адраджаць «знізу», бо ў беларускага селяніна ў глыбіні душы захавалася памяць пра «старую мужыцкую веру» («Вось гэты люд просты і збудзіць Унію: ён або ніхто. Будзе яна вызнавам натуральным яго духа рэлігійнага – духа, каторы ў глыбіні сваёй не зламаўся прад згаршэньнем ... » Казімір Сваяк [11, с. 16]).
7. Паступовае набліжэнне да уніі праз развіццё беларусізацыі касцёла і царквы [10].

Як бачна, беларускія ксяндзы ў сваіх поглядах адносна уніі не паглыбляліся ў дагматыку і апалагетыку, што было іх пэўным недахопам. Калі б яны распрацоўвалі гэтыя рэлігійныя пытанні на даволі высокім багаслоўскім узроўні, магчыма, іх канцэпцыя уніі была б заўважана і ацэнена належным чынам у каталіцкіх духоўных цэнтрах і перад усім у Ватыкане. Але беларуская рэчаіснасць прымушала рабіць акцэнты менавіта на нацыянальны складальнік, на барацьбу з польскім і рускім уплывамі ў рэлігійным жыцці, і таму ўвесь час і ўсе сілы губляліся на пераадоленне гэтых праблемаў.

Між іншым, неабходна вылучыць тую талерантнасць, з якой сябры БХД падыходзілі да справы рэлігійнага аб'яднання. З'яўляючыся ў асноўным рыма-каталікамі, яны не чынілі закідаў у бок праваслаўя, як рабілі гэта некаторыя каталіцкія празеліты. Праваслаўныя вернікі не былі для іх «схізматыкамі» ці «заблукаўшымі авечкамі». Ксёндз Адам Станкевіч – прызнаны лідар БХД – напрыклад, вельмі горача абараняў праваслаўных з трыбуны польскага сойму. У сваіх гістарычных працах ён прызнаваў за праваслаўем дамінуючую ролю ў жыцці беларускага народа ў X – XVI стст. З павагай і разуменнем да гэтай канфесіі адносіўся і ксёндз В. Гадлеўскі. У 1921 г. на старонках «Крыніцы» ён палемізаваў з адным польскім публіцыстам, які вельмі непрыхільна ставіўся да праваслаўя. На рэпліку кшталту «праваслаўныя не маюць правільнага разумення Бога» Гадлеўскі грунтоўна адказваў, што навука праваслаўнай царквы аб Богу, за выняткам некаторых акалічнасцей,

ёсць такая ж самая, як і ў каталіцкім катэхізме, а пошукі новай розніцы толькі паглыбляюць прорву паміж абодвума вызнаннямі [12, с. 113]. Такія думкі вельмі часта былі аб'ектамі крытычных заўваг з боку каталіцкай іерархіі.

Зразумела, што ў будучым ідэі беларускіх хадэкаў аб нацыянальнай царкве, «незалежнай ад чужых варожых уплываў», аб мірным і паступовым аб'яднанні з улікам інтарэсаў усіх канфесій пойдуць уразрэз з планамі Ватыкана па распаўсюджванню «зверху» візантыйска-славянскага абраду. Аднак упершыню хадэкі сутыкнуцца з праблемамі «непаразумення» як раз не ў 1920-х гг., калі неаунія рабіла першыя крокі па Заходняй Беларусі, а ў 1919 г. У гэтым годзе мінскі біскуп Зыгмунт Лазінскі прапанаваў рэдакцыі «Крыніцы» пераехаць з Вільні ў Мінск з мэтай далейшага выдання газеты ў цесным кантакце з курыяй. Усе гэта матывавалася наданнем Мінску ў тыя часы ролі цэнтра беларускага нацыянальнага руху. Але праз некалькі дзён у прыватнай размове з біскупам ксёндз А. Станкевіч даведаўся аб сапраўдных планах духоўных уладаў. Аказаўшыся ў Мінску, «Крыніца» і група беларускіх ксяндзоў, якая гуртавалася вакол газеты, павінны былі адмовіцца ад нацыянальнай рыторыкі, прыняць праваслаўны характар і ў далейшым служыць ідэям царкоўна-касцёльнай уніі. Лазінскі так аргументаваў свае погляды: «Сярод каталіцкай люднасці «Крыніцы» няма чаго рабіць, бо каталікаў не трэба наварочваць на каталіцызм, а таксама не трэба… распаўсюджваць сярод іх беларускай нацыянальнай ідэі, бо прывыклі яны да польскасці…» [12, с. 112]. Пачуўшы такія «аргументы», Адам Станкевіч вырашыў пакінуць рэдакцыю ў Вільні.

З сярэдзіны 1920-х гг. беларускія хадэкі пачынаюць актыўна крытыкаваць неаўніяцкую акцыю. У 1925 г. у спецыяльным мемарандуме папскаму нунцыю Лауры, які быў прысвечаны нядаўна падпісанаму канкардату паміж Польшчай і Ватыканам, сябры БХД, акрамя іншага, выказалі пратэст супраць палітычных мэтаў уніяцкай кампаніі ў форме ўсходняга абраду і патрабавалі надаць гэтай кампаніі нацыянальны беларускі характар [13, с. 256]. На змену праўнійным артыкулам пачатку 1920-х гг. у рэдакцыю «Крыніцы» прыходзяць штораз больш крытычныя матэрыялы па гэтай праблеме. Скептычна ставіўся да неауніі і Адам Станкевіч. Ён быў незадаволены працай езуітаў па пашырэнню новага абрада (у 1924 г. пад Слонімам манахі гэтага ордэна адчынілі свой місіянерскі цэнтр), сцвярджаў, што да іх праваслаўны народ адносіцца з недаверам. У сваёй пазнейшай працы «Хрысціянства і беларускі народ» Станкевіч даволі слушна канстатаваў: вынікі ўнійнай працы ў Заходняй Беларусі былі зусім нязначныя, бо яна праходзіла не ў народным беларускім духу і не пад кантролем святароў-беларусаў [7, с. 387]. Такое фармальнае спалучэнне вернікаў розных канфесій, на думку ксяндза, прыводзіла да яшчэ большага раз'яднання і непаразумення. А. Станкевіч крытыкаваў нават беларускамоўны ўніяцкі месячнік «Да злучэння», якога «дзеля яго прымітывізму й убогасьці сароміліся нават самі уніяты…» [7, с. 387].

Дарэчы, моўнае пытанне ва ўсходнім абрадзе было значным пунктам крытыкі неауніі, пры тым не толькі з боку БХД. Розныя інструкцыі для місіянераў указвалі на неабходнасць выкарыстання нацыянальных моваў пры зносінах з вернікамі. У некаторых уніяцкіх прыходах такая практыка мела месца. Пры гэтым выкарыстанне той ці іншай мовы больш за ўсё залежала ад перакананняў самога святара – калі той быў, напрыклад, свядомым беларусам, то ён і карыстаўся беларускай мовай [2, с. 435]. Аднак, як ужо адзначалася вышэй, у пастырскай працы надавалася

перавага рускай мове, бо яна адпавядала канцэпцыі візантыйска-славянскага абрада, і, акрамя гэтага, яе ведала найбольшая колькасць першых місіянераў. Таксама на гэтай мове існавала вялізная літаратура; немалое значэнне мела перакананне, што яна зразумела большасці праваслаўным. Духавенства ўсходнеславянскага абраду, што паходзіла з праваслаўя, і так было вымушана карыстацца рускай мовай, паколькі, як правіла, іншай не ведала. Рэагуючы на крытыку ў свой адрас, уніяцкія святары часам заўважалі, што незалежна ад таго, на якой мове яны звярталіся б да вернікаў, гэта ўсё роўна заўсёды абуджала б супраціў ці то з боку польскіх уладаў, ці то з боку нацыянальнай інтэлігенцыі [14, с. 239].

Пазіцыі БХД па пытанню уніі адлюстроўвала і «Дэкларацыя ініцыятараў новай царкоўнай уніі ў Заходняй Беларусі», створаная ў красавіку 1929 г. Аўтары дэкларацыі падкрэслівалі, што ў беларусаў маюцца трывалыя сімпатыі да каталіцкага Захаду, аднак пры гэтым адмаўляліся ад канфесійнай аднабокасці і імкнуліся аб'яднаць у сваёй працы ўсіх жадаючых без розніцы веравызнання. Перад беларускім народам ставілася задача стварыць сапраўды народную унію ва ўмовах зліцця дзвюх культур – заходняй і ўсходняй. Народная унія зможа стаць дзейсным адпорам асіміляцыі з боку Польшчы і дапаможа беларусам у іх рэлігійна-нацыянальным адраджэнні [13, с. 257 – 258].

У 1930-х гг. праблемы канфесійнага аб'яднання зноў пачалі актыўна абмяркоўвацца ў друкаваным органе БХД – газеце «Беларуская крыніца». У адным з праграмных артыкулаў рэдакцыя газеты заклікала праваслаўных, католікаў і ўніятаў на сваіх старонках свабодна выказвацца наконт любых рэлігійных пытанняў, зразумела, не закранаючы ані дагматычнай, ані кананічнай вобласці [15, с. 1]. Пачалі з'яўляцца артыкулы як абаронцаў, так і праціўнікаў уніі. Напрыклад, аўтар артыкула «Неабходнасьць рэлігійнага злучэньня на Беларусі» сцвярджаў, што беларускі народ павінен быць аб'яднаны не толькі нацыянальнай свядомасцю, але і наднатуральным рэлігійным злучнікам, безумоўна, у выглядзе уніі. Яе існаванне магчыма толькі на беларускім грунце. Цікавы доказ, які аўтар прыводзіць у абарону апошняга тэзіса – унія ў краі развіваецца толькі там, дзе яна мае беларускі падмурак [16, с. 1]. Сапраўды, уніяцкія прыходы, у якіх служылі свядомыя беларускія святары, у адрозненне ад іншых, праіснавалі да пачатку Другой сусветнай вайны і нават падчас вайны час ад часу выконвалі свае функцыі.

Беларускія інтэлектуалы хрысціянска-дэмакратычнай арыентацыі працягвалі выказваць канкрэтныя прапановы па змяненню асноўных форм і метадаў неаўніяцкай акцыі. Па-першае, абураючыся дамінаваннем польскага духавенства ва ўніяцкай іерархіі, яны прапаноўвалі стварыць асобнае беларускае біскупства, залежнае непасрэдна ад Ватыкана. Прызначэнне ўкраінца Мікалая Чарнецкага на пасаду апостальскага візітатара ўсходняга абраду ў Польшчы не змяніла іх поглядаў адносна гэтага. Па-другое, унійнай работай сярод беларусаў павінна займацца выключна беларускае духавенства, якое «блізка да народу, знае народ і якому народ верыць» (нагадаем, што ў Заходняй Беларусі унію распаўсюджвалі не толькі рускія ці палякі, але нават галандцы, французы і інш.). Езуітам раілася спыніць сваю місіянерскую працу, бо яны на падсвядомым узроўні выклікалі недавер і страх у вясковай праваслаўнай інтэлігенцыі і сялянства, узгаданых пераважна на стэрэатыпах старой расійскай культуры. І нарэшце, па-трэцяе, камісію «Pro Russia» трэба адхіліць ад унійнай працы, а кіраўніцтва па распаўсюджванню уніі перадаць установе, якае мае чыста

рэлігійны характар, напрыклад, кангрэгацыі «Pro Ecclesia Orientali» (Для Усходняй Царквы) [17, с. 1]. Гэтыя палажэнні, выказаныя аўтарам пад псеўданімам «Вясковец», цалкам былі характэрны для поглядаў большасці сяброў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Аднак дзеля справядлівасці трэба заўважыць, што некаторыя дзеячы беларускай хадэцыі, як, напрыклад, Дамінік Аніська, станоўча ўспрымалі каталіцтва «ўсходняга абраду» і прызнавалі яго вартасць не столькі з нацыянальнага, колькі з рэлігійнага пункту гледжання [18, с.13 – 14].

Наконт неауніі выказваліся і прадстаўнікі беларускіх праваслаўных палітычных і грамадскіх аб'яднанняў. Зразумела, што ва ўніяцтве (у любых формах) яны бачылі варожую для сябе з'яву. Але ацэнкі паходжання і сутнасці гэтай з'явы ў іх былі даволі розныя. Напрыклад, лідар Праваслаўнага Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднання сенатар Вячаслаў Багдановіч называў неаунію новым сродкам, з дапамогай якога польскі ўрад плануе знішчыць праваслаўную царкву і адабраць царкоўную маёмасць [19, с. 1]. Гэтая заява сенатара выглядае даволі слушнай – сапраўды, асабліва на пачатковым этапе неауніяцкай кампаніі ўрад вельмі актыўна выкарыстоўваў новы абрад у барацьбе з праваслаўем. У некаторых мясцовасцях паводле рэвіндыкацыі праваслаўным не дазвалялі выкарыстоўваць пустуючы будынак храма, аднак калі з'яўляўся ўніяцкі святар, дзверы царквы адразу перад ім адчыняліся.

На старонках «Беларускай крыніцы» праваслаўныя таксама змаглі абгрунтаваць свае погляды па справах уніі. У адным з артыкулаў былі выказаны даволі аб'ектыўныя заўвагі праваслаўнага аб будучым лёсе ўніяцтва ў Заходняй Беларусі. Так, на думку аўтара артыкула, унія ў Польшчы будзе заўсёды залежаць ад польскага ўраду, як у свой час стала залежным ад яго і праваслаўе. «Калі гэтыя (польскія. – А.Г.) кругі патрафілі накінуць польшчыну ўжо часткова нават Праваслаўнай Царкве, – пісаў гэты дзеяч, – то трудна дапусьціць, каб унія была мацнейшай» [20, с. 1]. Залежнасць неауніі ад польскага рыма-каталіцкага духавенства таксама выклікала незадаволенасць аўтара перад усім з нацыянальнага пункту гледжання. Калі польскія біскупы адмоўна адносіліся да нацыянальнай эмансіпацыі беларускіх католікаў, то што тады будзе ў гэтым сэнсе з праваслаўнымі, прыняўшымі унію. Аўтар пытаў сваіх чытачоў: «Што цяпер унія дала беларусам? Ці па ўсіх унійных царквах ушанавана беларуская мова?» і сам жа адказваў на гэтыя пытанні – «Ні адно, ні другое». Спадзяванні на тое, што Ватыкан зможа абараніць уніятаў ад свавольства палякаў, таксама не вытрымлівалі крытыкі. Апостальская Сталіца, на думку аўтара, ніколі не дапамагала падняволеным народам у нацыянальным адраджэнні, не звяртае ўвагі яна і на барацьбу беларускіх католікаў з паланізацыяй касцёла. Таму праваслаўным беларусам трэба змагацца за свае нацыянальныя і рэлігійныя правы толькі ў межах праваслаўнай царквы. «Гэткай дарогай мы павінны ісьці ... » – сцвярджалася ў канцы артыкула [20, с. 1].

Цікавая і дыяметральна супрацьлеглая ацэнка неауніі была характэрна для прадстаўнікоў Цэнтральнага Беларускага Праваслаўнага Камітэта (ЦБПК), які быў утвораны ў 1930 г. Функцыянеры гэтай арганізацыі ў сваіх публікацыях у часопісе «Светач Беларусі» падкрэслівалі, што на унію не трэба звяртаць такой вялікай увагі. Уніяцтва, на іх думку, не нясе хрысціянскай маральнасці такой пагрозы, як рэлігійны індыферэнтызм, матэрыялізм ці дэкаданства, характэрныя для чалавечага светапогляду таго часу. Вось цытата з аднаго такога артыкула: «Вунія яшчэ ня так страшна пагражае нам, як бязверра, сэктанства, распуста духоўная і фізічная, п'янства, прафанацыя святасцяў, хцівасць і г.д... » [21, с. 7]. Праваслаўнаму духавенству трэба больш клапаціцца

праблемамі ўнутры самога праваслаўя, чым шукаць знешнія пагрозы, займацца маральным выхаваннем уласных святароў і паствы. Больш таго, ЦБПК нават прапаноўваў праваслаўным узяць нацыянальна скіраваных уніятаў у свае саюзнікі, каб разам змагацца з духоўным і нацыянальным занядбаннем у грамадстве [22, с. 6].

Партыі сацыялістычнай скіраванасці, у прыватнасці Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада, да праблемы адраджэння уніі адносіліся ў цэлым даволі абыякава, іх больш цікавілі сацыяльна-эканамічныя і палітычныя пытанні. Шмат хто з дзеячоў той жа БСРГ былі свядомымі матэрыялістамі і атэістамі. Хаця некаторыя з іх усё ж такі выказвалі сваё стаўленне да неауніі на старонках грамадаўскай прэсы. Так, у сатырычным часопісе «Маланка» за 25 снежня 1926 г. быў надрукаваны артыкул «Святочныя падарункі беларусам». Ніжэй была намалявана карыкатура – беларуская елка, на якую польскі Дзед Мароз у выглядзе Пілсудскага вешае падарункі: рабочым – беспрацоўе і голад, усім грамадзянам – падаткі, дзецям – адукацыю пры цьмянай свечцы, паслам – недатыкальнасць у кандалах, а святарам – царкоўную унію. Як бачна, у неауніі аўтар карыкатуры бачыў палітычны падтэкст. Унія, на яго думку, была ініцыявана палякамі (дакладней, непасрэдным кіраўніцтвам Польшчы) для дасягнення сваіх палітычных мэтаў. На іншай карыкатуры пад загалоўкам «Ласка з неба» быў намаляваны святар на каленях, які моліцца на мяшок з грашыма, што працягнуў яму польскі ўрад. А далей подпіс: «Быў я папом праваслаўным, дык ледзь ногі з галаду цягаў. Нічога парафіяне не давалі, а прыняў унію, дык і ласку з неба ўбачыў» [23, с. 109].

Як бачна, амаль усе беларускія палітычныя і грамадскія дзеячы, незалежна ад сваіх ідэалагічных перакананняў і светапогляду, аднолькава негатыўны ўспрымалі неаўніяцкую акцыю, якую Ватыкан праводзіў на заходнебеларускіх землях. Адныя былі незадаволены інтэрнацыянальным характарам неауніі і яе памяркоўнымі адносінамі да праблем нацыянальнага адраджэння, другія бачылі ў ёй асімілятарскія памкненні палякаў і карысныя інтарэсы польскага духавенства. Усе прапановы беларускай інтэлігенцыі, святароў і палітыкаў па наданню новаму абраду беларускага нацыянальнага духу, па стварэнні беларускай іерархіі і змяненню метадаў неаўніяцкай кампаніі былі праігнараваны Ватыканам і польскімі духоўнымі ўладамі, што прывяло да заняпаду неауніі напрыканцы 1930-х гг. Калі б духавенства рэалізавала ў жыцці ўсе гэтыя заўвагі, магчыма, гісторыя ўніяцтва на Беларусі ў XX ст. мела зусім іншы працяг.

The revival of Eastern-rite Catholicism was one of the brightest events in a religious life of Western Belarus. This event has aroused heated discussions in different layers of Belarusian society including political circles. The author of the article summarise and analyzes various points of view and offers which have been stated by representatives of some Belarusian political organisations concerning the purposes, methods and revival forms of the union in Western Belarus.

Спіс крыніц і літаратуры

1. Кривонос, Феодор (иерей). Уния «восточного обряда»: начало и конец / иерей Феодор Кривонос // Труды Минской Духовной Академии. – 2003. – № 2. – С. 123 – 128.
2. Туронак, Ю. Спробы адраджэньня Ўніяцкай Царквы на Беларусі ў XX стагодзьдзі / Ю. Туронак // Мадэрная гісторыя Беларусі. – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006 – С. 430 – 440.
3. Юдин, А. Униональное движение в России и русской эмиграции в 1917-24 гг. / А. Юдин // Логос: богословско-философский журнал. – 1993. – № 48. – С. 103 – 121.
4. Tabiński, Piotr ks. W obronie akcji unijnej / ks. Piotr Tabiński // Oriens. – 1936. – Zeszyt 3 (maj – czerwiec). – S. 77 – 81.

5. Свирид, А.Н. Миссионерская деятельность униатов на территории Западной Беларуси в 1924 – 1939 гг. / А.Н. Свирид // Берасцейскі хранограф: зб. навук. прац. Вып. 4. – Брэст: Выд-ва «Акадэмія», 2004. – С. 54 – 59.
6. Голованов, С. Очерк по истории Русского Католического Апостолата / С. Голованов. – Рэжым доступа: http://www.vselenskiy.narod.ru/Rusapos24.htm – Дата доступу: 02.11.2010.
7. Станкевіч, Адам. З Богам да Беларусі: збор твораў / Адам Станкевіч. – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008. – 1097 с.
8. Варонко, Язэп. Беларускі рух ад 1917 да 1920 году: карот. агляд. Выданьне 2-е / Я.Варонко. – Мінск. : Бел. каап.-выд. т-ва «Адраджэнне», 1991. – 29 с.
9. Конан, У. Ксёндз Адам Станкевіч і каталіцкае адраджэнне ў Беларусі / Уладзімір Конан. – Мінск: «Про Хрысто», 2003. – 128 с.
10. Вашкевіч, А. Ксёндз Адам Станкевіч і ідэя рэлігійнай уніі / А. Вашкевіч. – Рэжым доступу: http://www.svetach.org/modules.php?name=Articles&file=view&articles_id=45 – Дата доступу: 02.11.2010.
11. Сваяк, Казімір. Унія на Беларусі / Казімір Сваяк // Унія. – 1995. – № 4. – С. 15 – 17.
12. Moroz, Małgorzata. Krynica. Ideologia i przywódcy białoruskiego katolicyzmu / Małgorzata Moroz. – Białystok: Białoruskie Towarzystwo Historyczne, 2001 – 230 s.
13. Фёдоров, И.О. Белорусская христианская демократия и униатская кампания Ватикана в Западной Белоруссии в межвоенные годы (20 – 30-е гг. XX в.) / И.О. Фёдоров // Грамадскія рухі і палітычныя партыі ў Беларусі (апошняя чвэрць XIX – пачатак XXI стст.): матэрыялы Рэсп. навук. канф., Гродна, 23-24 кастр. 2008 г. / ГрДУ імя Я.Купалы; рэдкал.: І.І. Коўкель (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна: ГрДУ, 2009. – С. 251 – 258.
14. Мруз, Мацей. Каталіцызм на пагранiччы. Адносіны каталіцкай царквы да ўкраінскага і беларускага пытання ў Польшчы ў 1918 – 1925 гг. / Мацей Мруз; пер. з пол. мовы Я.Зеліньскага. – Мінск: Медысонт, 2009. – 304 с.
15. Рэлігійная палітыка БХД // Беларуская крыніца. – 1932. – 20 лістапада (№40). – С. 1.
16. Сурвіла, Г. Неабходнасьць рэлігійнага злучэньня на Беларусі / Г. Сурвіла // Беларуская крыніца. – 1931. – 15 кастрычніка (№ 32). – С.1 – 2.
17. Вясковец. Пункты ў справе рэлігійнай уніі / Вясковец // Беларуская крыніца. – 1931. – 29 кастрычніка (№ 34). – С. 1.
18. Aniśko, D. Da biełaruskaha narodu / D. Aniśko. – Wilnia: Wydańnie «Chryścijanskaj Dumki», 1935. – 40 s.
19. Багдановіч, В. Прамова ў Сэнаце 10.III. с.г. пры дыскусіі над бюджэтам Міністэрства Рэлігійных Вызнаньняў / В. Багдановіч // Сялянская ніва. – 1927. – 30 сакавіка (№ 30). – С. 1.
20. Праваслаўны дзеяч. Праваслаўе і унія / Праваслаўны дзеяч // Беларуская крыніца. – 1932. – 23 кастрычніка. – С. 1.
21. М. З кім змагацца? // Сьветач Беларусі. – 1931. – № 2. – С. 7 – 8.
22. У.Б. Справа ўнійная // Сьветач Беларусі. – 1931. – № 1. – С.5 – 6.
23. Палуян, У.А. Беларуская сялянска-рабочая грамада / У.А. Палуян – Мінск: Навука і тэхніка, 1967. – 223 с.

Навуковы кіраўнік – ***Э. С. Ярмусік***, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

УДК 94(476)

*П. А. Абламскі*
*(Брэст, БрДУ імя А. С. Пушкіна)*

## *РЭГІЯНАЛІЗМ У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАЛІТЫЦЫ ІІ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ (НА ПРЫКЛАДЗЕ ПАЛЕСКАГА ВАЯВОДСТВА)*

В статье на примере Полесского воеводства рассматриваются региональные проекты ассимиляции славянских национальных меньшинств во ІІ Речи Посполитой. Автор акцентирует внимание на решающем значение эндецкой концепции национальной ассимиляции в выработке этих планов. Делается попытка выделить элементы регионализма и определить их особенности на Полесье.

На працягу ўсяго міжваеннага перыяду польскім урадам так і не была выпрацавана аднародная праграма нацыянальнай палітыкі. Нацыянальная палітыка ІІ Рэчы Паспалітай у асноўным ажыццяўлялася пад уплывам дзвюх канцэпцый, сфармуляваных вядучымі польскімі палітычнымі сіламі.

Першая канцэпцыя была распрацаваная польскім нацыянальна-дэмакратычным лагерам на чале з Р. Дмоўскім. Сутнасць яе выражаў лозунг «Польшча для палякаў». Яе прыхільнікі лічылі польскую культуру вышэйшай і цывілізаванай, пагардліва сцвярджалі аб непаўнавартаснасці нацыянальных культур украінцаў і беларусаў, перакананыя ў магчымасці іх поўнай асіміляцыі [1, s. 4]. Такім чынам, эндэкі імкнуліся да пераўтварэння міжваеннай Польшчы ў монаэтнічную дзяржаву шляхам паскоранай паланізацыі славянскіх нацыянальных меншасцяў.

Іншую канцэпцыю прапанавалі дзеячы рэжыма «санацыі» на чале з Ю. Пілсудскім. У адрозненне ад эндэкаў, пілсудчыкі не дэкларавалі планаў паланізацыі меншасцяў. Было вырашана пры захаванні нацыянальна-культурных правоў меншасцяў фармаваць у іх пачуццё свядомай прыналежнасці да польскай дзяржаўнасці. У гістарыяграфіі гэтыя планы атрымалі назву палітыкі дзяржаўнай асіміляцыі [2, s. 25; 3, c. 121].

Абедзве праграмы насілі дастаткова тэарэтычны характар. Эфектыўнасць іх практычнага ўвасаблення ў вялікай ступені залежала ад дзеянняў польскай адміністрацыі на месцах, якая не магла не ўлічваць рэгіянальнай спецыфікі.

Рэгіяналізм у нацыянальнай палітыцы трэба разглядаць з некалькіх аспектаў: 1) ажыццяўленне асобнай палітыкі да кожнай нацыянальнай меншасці; 2) прымяненне розных метадаў нацыянальнай палітыкі ў асобных гісторыка-этнаграфічных рэгіёнах; 3) вызначэнне ўплыву на характар нацыянальнай палітыкі цэлага шэрагу фактараў (развіццё міжнароднай сітуацыі, ступень лаяльнасці меншасці да дзяржавы, узровень нацыянальнай свядомасці, колькасць і сацыяльная структура насельніцтва і інш.) [3, c. 122].

Першыя крокі ў справе вырашэння нацыянальнага пытання на лакальным узроўні зрабіў урад У. Сікорскага (снежань 1922 – май 1923 гг.), які выступіў з ініцыятывай прыцягнуць ваяводскую адміністрацыю да даследаванняў і распрацовак у галіне нацыянальнай палітыкі [2, s. 32].

Адзін з такіх праектаў прадставіў 1 сакавіка 1923 г. палескі ваявода С. Даўнаровіч. Аб рэгіянальным характары гэтага праекта выразна сведчыць пазіцыя аўтара, які крытыкуе шаблоннае разуменне тэрыторыі г. зв. «паўночна-ўсходніх крэсаў» як нейкай цэласці. Замест гэтага ваявода вылучаў тры асобныя гісторыка-этнаграфічныя рэгёны – Віленшчыну, Валынь і Палессе, якія вельмі адрозніваюцца эканамічна, палітычна і этнічна [4, s. 435].

Менавіта Палессю адводзілася выключная роля ў будучай паланізацыі г. зв. «паўночна-ўсходніх крэсаў». Даўнаровіч прадбачваў, што на ўсходзе будуць набіраць моц два нацыяналізмы – беларускі і ўкраінскі, варожыя да польскай дзяржавы. «Палессе належыць выкарыстаць такім чынам, каб убіць польскі клін паміж беларускім рухам з поўначы і ўкраінскім рухам з поўдня. Найгоршым варыянтам для польскіх дзяржаўных і нацыянальных інтарэсаў было б, калі б гэтыя два нацыяналізмы падалі сабе руку над Прыпяццю», – пісаў ваявода.

З гэтай мэтай быў распрацаваны новы адміністрацыйны падзел. Даўнаровіч прапанаваў ліквідаваць Навагрудскае ваяводства, а Баранавіцкі, Нясвіжскі, Стаўбцоўскі і Слонімскі паветы далучыць да Палескага ваяводства. У склад Палескага ваяводства таксама планавалася ўключыць рэдка заселеныя раёны Валыні, якія мелі падобны этнаграфічны ўклад. У выніку новага адміністрацыйнага падзела ў межах Палескага ваяводства павінна было апынуцца насельніцтва з нізкім узроўнем нацыянальнай самасвядомасці, схільнае да паланізацыі.

Такім чынам, планавалася шляхам штучнай ізаляцыі Палесся ад уплываў «варожых нацыяналізмаў» за адносна кароткі час пераўтварыць яго ў польскую правінцыю. Польскае па культурным характары Палессе павінна было стаць базай для экспансіі польскіх уплываў на поўнач і поўдзень. На думку ваяводы, гэтаму спрыяла само насельніцтва Палесся – «пасіўнае, неаднастайнае і маласвядомае» [5, арк. 1 – 4].

Такое меркаванне паспрыяла фарміраванню сярод значнай часткі польскай адміністрацыі міфа аб магчымасці хуткай і лёгкай паланізацыі палешукоў з-за адсутнасці ў большасці з іх пачуцця нацыянальнай свядомасці. У гэтым сэнсе можна пагадзіцца з думкай А. Вабішчэвіча аб тым, што польская адміністрацыя разглядала палешукоў як пераходны тып да польскага этнасу [6, с. 48].

Для пашырэння польскіх уплываў на Палессі Даўнаровіч распрацаваў цэлы шэраг мерапрыемстваў. Для іх больш удалай рэалізацыі ваявода лічыў патрэбным, з аднаго боку, рэарганізаваць мясцовую польскую ўладу, а з другога – палепшыць умовы гаспадарчай дзейнасці на Палессі і стварыць дабрабыт у краі.

Польская адміністрацыя на Палессі павінна была дзейнічаць рашуча і энергічна паводле прынцыпа «моцнай рукі». «Лібералізм, канстытуцыйныя свабоды, беспакаранасць варожых акцый успрымаюцца на Палессі як слабасць польскага ўрада», – пісаў ваявода. Кадравая палітыка прадугледжвала ачышчэнне мясцовай адміністрацыі ад службоўцаў няпольскага паходжання. Палітычныя партыі не павінны былі развіваць інтэнсіўную дзейнасць, а тым больш крытыкаваць дзеянні польскай улады, паніжаючы яе аўтарытэт у свядомасці мясцовага абывацеля. Тым самым Даўнаровіч раіў пазбягаць палітызацыі мясцовага грамадства шляхам пераключэння яго інтарэсаў на гаспадарчыя патрэбы.

Палескае ваяводства павінна было стаць прыярытэтам дзяржаўнай інвестыцыйнай палітыкі. Першачарговай задачай гаспадарчай палітыкі на Палессі былі камасацыя земляў і

ўпарадкаванне сервітутаў. Вырашэнне аграрнага пытання паспрыяла б фарміраванню ў палешукоў сімпатый да польскай улады.

Натуральным саюзнікам у справе ўмацавання польскасці была каталіцкая царква. Прапаноўвалася шырокае будаўніцтва касцёлаў, асабліва ў гарадах. Праваслаўнае духавенства Даўнаровіч лічыў «элементам больш чым няпэўным», а часцей і адкрыта варожым да польскасці. Ваявода прапаноўваў арганізаваць навучанне ўласных праваслаўных кадраў, якія былі схільныя да супрацоўніцтва з польскімі ўладамі. Такім чынам, ставілася мэта пераўтварэння рускай па сваім культурным характары праваслаўнай царквы ў польскую.

Вышэйазначаныя меры маглі забяспечыць шырокае прыцягненне польскіх каланістаў. Даўнаровіч не быў прыхільнікам палітыка вайсковага і цывільнага асадніцтва. На яго думку, перш за ўсё трэба было засяродзіцца на каланізацыі палескіх гарадоў і мястэчак, якія фарміравалі культурнае аблічча Палесся. Да палескіх гарадоў планавалася прыцягнуць польскіх рамеснікаў і купцоў, якія мелі б там моцнае фінансавае замацаванне. Ваявода прызнаваў, што такая палітыка можа выклікаць незадавальненне яўрэйскага насельніцтва, але лічыў гэта меншым злом у параўнанні з акцыяй асадніцтва, якая прыводзіла да больш сур'ёзных канфліктаў з мясцовым сялянствам [5, арк. 8 – 17].

Праект С. Даўнаровіча быў распрацаваны пад уздзеяннем эндэцкіх ідэй нацыянальнай асіміляцыі. Ваявода акрэсліў галоўныя накірункі правядзення нацыянальнай палітыкі на Палессі, якія ў разнастайных мадыфікацыях былі характэрныя для польскай адміністрацыі на працягу ўсяго міжваеннага перыяду [6, с. 46]. Аднак да практычнай рэалізацыі гэтых планаў справа не дайшла. Сам Даўнаровіч наракаў на тое, што «Варшава не разумее значэння «усходніх крэсаў» і тым больш Палесся» [5, арк. 12]. Тагачасная складаная эканамічная сітуацыя ў Польшчы тым больш не садзейнічала зменам у дзяржаўнай інвестыцыйнай палітыцы, якая надавала прыярытэт фінансаванню этнічна польскіх тэрыторый. Зрэшты, не спрыяла рэалізацыі гэтых планаў і непрацяглае знаходжанне С. Даўнаровіча на пасадзе палескага ваяводы (май 1922 – кастрычнік 1924 гг.).

Свайго найбольшага росквіту планы рэгіяналізму дасягнулі ў гады санацыі. Пілсудчыкі меркавалі, што эфектыўнасць вырашэння нацыянальнага пытання залежыць выключна ад дзеянняў польскай улады на лакальным узроўні. Менавіта таму ў 1926 – 1935 гг. на пасяджэннях парламента не адбылося аніводнай дыскусіі на гэтую тэму, а ўся ініцыятыва перайшла да мясцовых адміністрацый [3, с. 122].

Найбольшую вядомасць у гэты час набыў «валынскі эксперымент» ваяводы Г. Юзэфскага, які ён рэалізоўваў у 1928 – 1938 гг. У агульных рысах погляды валынскага ваяводы сыходзіліся з канцэпцыяй дзяржаўнай асіміляцыі. На Валыні прадугледжвалася ліквідацыя ўсіх незалежніцкіх украінскіх арганізацый і стварэнне замест іх праўрадавага палітычнага аб'яднання. Акрамя гэтага, планавалася правесці цэлы шэраг захадаў, якія мелі на мэце змяніць характар польска-ўкраінскіх адносін на Валыні. Іх сутнасцю павінна было стаць супрацоўніцтва прадстаўнікоў абодвух народаў у палітычным, эканамічным і культурна-асветніцкім жыцці [2, s. 97 – 98].

У Палескім ваяводстве элементы рэгіяналізму спрабаваў выкарыстоўваць ваявода Я. Крагельскі, які прытрымліваўся палітыкі дзяржаўнай асіміляцыі. У жніўні 1932 г. ваявода накіраваў міністру ўнутраных спраў асобны мемарандум па праблемах Палесся.

Крагельскі не лічыў Палескае ваяводства тэрыторыяй, аднастайнай па сваім этнічным характары. Ваявода вылучаў на Палессі дзве часткі: паўночную, дзе мелі месца беларускія нацыянальныя настроі, і паўднёвую, дзе быў прыкметным уплыў украінскага нацыянальнага руху. Рознымі, на думку Крагельскага, павінны быць і адносіны польскай адміністрацыі да гэтых нацыянальных рухаў. Варта зазначыць, што ваявода прынцыпова адхіляў любыя метады гвалтоўнага характару як памылковыя і нават шкодныя для польскіх нацыянальных інтарэсаў.

Крагельскі невысока ацэньваў здольнасці беларускага нацыянальнага руху, лічачы яго маладлікім і маргінальным. З гэтай прычыны супрацоўніцтва з беларусамі аб'яўлялася немэтазгодным. Адначасова ставілася задача ізаляцыі беларускага руху ад знешніх уплываў, у прыватнасці, з Савецкай Беларусі. Такая палітыка мела на мэце скарачэнне маштабаў беларускага нацыянальнага руху, у тым ліку і на Палессі.

Больш складанай была сітуацыя з украінскім рухам. Так, ваявода прапаноўваў фармаваць у ўкраінцаў «устойлівае ўсведамленне аб карысці сумеснага жыцця з палякамі ў адзінай дзяржаве», па сутнасці, тое самае, што дэкларавала праграма дзяржаўнай асіміляцыі. Адначасова павінна было весціся змаганне з польскім шавінізмам, які не спрыяў нармалізацыі польска-ўкраінскіх адносін.

Ваявода рэзка крытыкаваў вынікі перапісу насельніцтва 1931 года, называючы іх «амаль што гумарыстычнымі». Аб'ектам крытыкі было з'яўленне ў спісах катэгорыі «тутэйшых», што складалі ажно 63,1 % насельніцтва ваяводства. «Тутэйшых» ваявода лічыў штучна створанай групай, а самі вынікі перапісу фактычна сфальшаванымі.

Такім чынам, Крагельскі не пераацэньваў значэння таго факта, што дастаткова вялікая частка насельніцтва не можа вызначыць, да якой нацыянальнасці належыць. Ваявода не меў ілюзій наконт магчымасці хуткай асіміляцыі палешукоў па эндэцкай мадэлі, зазначаючы, што «сярод насельніцтва Палесся існуе выразнае пачуццё асобнасці ў адносінах да палякаў».

Эфектыўным сродкам узмацнення польскасці на Палессі, на думку ваяводы, магло быць прыцягненне вялікай колькасці асаднікаў, якое было магчымым толькі пры ўмове правядзення меліярацыі. Падобныя планы, аднак, натыкаліся на скептычнае стаўленне да іх вайсковых колаў, паколькі палескія балоты мелі вялікае значэнне ў сістэме абароназдольнасці краіны. Падобныя акалічнасці значна аслаблялі магчымасць каланізацыі Палесся.

У такіх абставінах дзяржаўная палітыка павінна была абапірацца на здабыццё прыхільнасці няпольскага насельніцтва. Гэтыя намаганні павінны былі праяўляцца ў накірунку паляпшэння матэрыяльнага дабрабыту як найбольш паспяховага сродка, што звязвае грамадзяніна і дзяржаву.

Паводле Крагельскага, дзяржаўныя інвестыцыі павінны быць перш за ўсё накіраваны ва ўсходнія ваяводствы, адпаведна «на пэўны час гэтыя землі павінны заняць прывілеяванае становішча ў адносінах да зямель этнічна польскіх» [7, арк. 1 – 10].

Пазіцыя Крагельскага па нацыянальным пытанні на Палессі была найбольш прагматычнай. Будучы паслядоўным прыхільнікам канцэпцыі дзяржаўнай асіміляцыі, ён спрабаваў спалучыць польскія нацыянальныя інтарэсы з інтарэсамі шматнацыянальнай II Рэчы Паспалітай. Гэта звычайна прыводзіла да канфліктаў з дзяржаўнымі службоўцамі ніжэйшага рангу. Напрыклад, у цыркуляры ад 22 жніўня 1930 г. ім былі падвергнуты крытыцы павятовыя старасты за празмерна адмоўнае стаўленне да беларусаў [8, с. 30]. Праграма дзяржаўнай асіміляцыі ніколі не карысталася падтрымкай мясцовага паліцэйска-адміністратыўнага апарату, якая праводзіла ўласную

Але ў іншых месцах «Размовы» Ратундус прама звяртаецца да беларуска-літоўскіх летапісаў, называючы іх «нашы хронікі» і «нашы старыя хронікі, напісаныя па-руску» [3, с. 67].

Зрэшты, прачытанне А. Ратундам летапісных тэкстаў мела відавочныя асаблівасці. Спачатку трэба сказаць, што Ратундус выстаўляе летапісы як аўтарытэтную крыніцу, падкрэсліваючы гэта эпітэтам «старыя». Тым не менш, аўтар «Размовы» не літаральна паўтарае тэкст летапіснай «рымскай легенды» (а акурат яна яго і цікавіць). Па-першае, ён спрабуе яго верыфікаваць і ўдакладніць. Так, сцвярджае, што правадыра рымлян іменавалі не Палемон, а Публій Лібон, «якога нашы памылкай літар у падобныя літары змяніўшы Палемонам завуць» [3, с. 67]. Трубы, ад якіх пайшла па легендзе назва «Літва», «да гэтых часоў у нас між сялян чуем, [якія] накшталт тых рымскіх кіёў, альбо курватур, якія паганскія біскупы да пасвячэння ў цырымоніях ужывалі» [3, с. 68]. У летапісах «трубы дубасныя» ніяк з рымскімі звычаямі не звязваліся. Дарэчы, апеляцыя пры тлумачэнні тых ці іншых рэчаў да «Рыму» была шырока распаўсюджаным ходам у XVI ст. Так, Міхалон Літвін сцвярджае, што літвіны «практыкаваліся ў вайсковай справе згодна са звычаем сваіх рымскіх продкаў» [13, с. 91], а ў «Хроніцы» Мацея Стрыйкоўскага падчас абрання Войшалка літоўскія «паны, князі і баяры [...], трымаючыся знатнасці, звычаяў і першапачатковых якасцяў свайго народу, які, пачаўшы ад Палемона і Дарспрунга, князёў рымскіх, [...] ніколі чужых уладароў над сабою не меў і не ведаў» [14, с. 300]. Заўважым, што, як і ў выпадку з «трубамі дубаснымі», летапіс ніяк увакняжанне Войшалка з рымскімі традыцыямі не знітоўвае.

Таксама, відаць, Ратунда хвалявала і праблема невялікай колькасці пакаленняў рымскіх уладароў у Літве і Жамойціі, таму «летапісны» ўнук Палемона Кернус ператварыўся ў проста «нашчадка» Цэрнуса [3, с. 67]. Нельга не адзначыць і лацінізацыю імёнаў – Публій Лібон, Цэрнус, Вікунтус, Свінтаўрус – хоць яна і не была паслядоўнай.

Па-другое, А. Ратундус інакш, чым у летапісах, інтэрпрэтаваў розныя падзеі. «Хроніка Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага» не акрэслівае, ці былі жыхары ў Жамойціі і Літве да рымлян. Ян Длугаш, між іншым, пісаў, што гэтыя тэрыторыі не былі заселены [15, с. 446]. А. Ратундус у сваю чаргу сцвярджае, што рымляне «засялілі [...] усе месцы, адныя пустыя, іншыя населеныя пад сябе падбілі, якія называліся Sudinos, цяпер – Smudinos называем старым словам» [3, с. 67]. З фрагменту незразумела, ці гэта ў Жамойціі дзе-нідзе было насельніцтва, ці гэта менавіта Жамойція была раней заселена. Але гэты пасаж, верагодна, не меў глыбокага ідэалагічнага напаўнення. Інакш з наступнымі дадаткамі. Так, летапіснага заснавальніка Наваградка Эрдзівіла А. Ратундус ператварыў у Радзівіла, які да таго ж перамог татар, чаго няма ў летапісе [3, с. 68]. Калі прыняць гіпотэзу О. Галецкага аб жаданні Мікалая Радзівіла Чорнага стаць вялікім князем літоўскім (гл. [16, с. 15]), то можна зрабіць далёкасяжныя высновы аб палітычным значэнні «Размовы». Але так ці інакш з'яўленне «рымскай легенды» ў «Размове» сведчыць, што яна ў перапрацаваным выглядзе была прынята і Радзівіламі.

Далей Ратундус паведамляе, што Русь добраахвотна паддалася Радзівілу, а русіны сталі ў Літвы значнымі людзьмі, таму апошняя і пераняла «рускую» мову [3, с. 68]. У другім летапісным зводзе нічога не сказана пра характар падпарадкавання Русі Эрдзівілам, але пасля апісаны шматлікія перамогі літвінаў над Руссю, пасля адной з якіх «въскричала Русь великым голосом и с плачем, иж так окрутне вси суть побиты от безвѣрное литвы» [11, с. 130]. Міхалон Літвін у гэтым жа пытанні

не меў сумненняў: нашчадкі рымлян «падпарадкавалі суседні народ яцвягаў, потым раксаланаў, ці рутэнаў» [13, с. 86]. «Размова» пісалася ў 1564 годзе, калі ішла вайна з Масквою, якая выстаўляла прэтэнзіі на ўсходнеславянскія землі ВКЛ – магчыма, у такіх умовах выпадала падкрэсліць не захоп, а мірнае паяднанне Літвы і Русі.

Калі папярэднія выпадкі выяўляюць толькі спробы інтэрпрэтацыі звестак летапісу, то далейшы выклад генеалогіі літоўскіх князёў з'яўляецца містыфікацыяй ужо і так містыфікаванай у летапісах карціны мінулага. Згодна з «Размовай», Палеманіды не згаслі на Рынгальце (пар. спіс Красінскага: «[Рынгальт] пришед до Новагородка, и рознеможеся, и умре без плоду; тут ся доконал род княжати римского Полемона» [11, с. 131]), а праз бакавую лінію (пра якую няма паведамленняў у летапісах) «разрадзіліся на Жамойціі ў простую шляхту ператварыліся» [3, с. 69], з якой і выйшаў Віцень, з той нагоды названы аўтарам «прыроджаным панам у Літве» [3, с. 69]. Такім чынам, род Палемона панаваў у ВКЛ, паводле Ратунда, і ў XVI ст. Што такая генеалогія была ўласнай прыдумкай Ратунда, сведчаць імёны продкаў Віценя, якія былі «простай шляхтай»: Скірмунт (Scyrumut), Мінгайла (Mingajło), Транята (Troniat), Гімбут (Gnumbut), Глеб (Chleb), Гірмунт (Girmunt), Берэоль (Bereol), Арыцын (Arycyn). Акрамя двух апошніх, гэтыя імёны пазычаны з пераліку князёў з «рымскай легенды» летапісаў. Акрамя таго, у «Кароткім выкладзе пра князёў Літвы» 1576 г., які, верагодна, таксама належыць аўтарству А. Ратунда гэткага радаводу няма.

Мэты, з якімі ў летапіснай легендзе панаванне спачатку перайшло ад Палеманідаў да прадстаўнікоў гербу Кітаўрус, а пасля да ўладальнікаў гербу Калюмны, мабыць, палягалі на ўзвышэнні знаці, якая прыпісвала сябе да гэтых гербаў, г. зн. адпаведна Гальшанскіх і Гаштольдаў. У сваю чаргу, злучэнне Ягелонаў з Палемонам у «Размове» мела на мэце зрабіць літоўскую кіруючую дынастыю больш старажытнай і неперарванай, гэта значыць, паказаць перавагі палітычнай сістэмы ВКЛ над польскай, у тым ліку ў сферы прэстыжу. Дзеля гэтага далучаны і аргументы з галіны тэалогіі: узгадваюцца касцельныя спевы («Quia nobis natus, quia nobis datus» – «Таму што нам народжаны, таму што нам дадзены» [3, с. 69]), што празрыста прыпадабняе спадчыннага ўладара да Ісуса Хрыста, і далей «Ісусу Хрысту, каралю іудзейскаму, дзякуем, што нам Літве даў на прыклад і ўзор свайго каралеўства свайго караля, прыроджанага пана з найстаражытнейшай галіны заснавальніка і фундатара роду нашага Публія Лібона» [3, с. 74].

Як ужо адзначалася, беларуска-літоўскія летапісы прэзентаваліся А. Ратундам як аўтарытэтная крыніца, з дапамогай якой можна было збіваць аргументы польскіх хронік: насуперак выкладзенаму там паданню пра нізкае паходжанне Гедыміна і забойства ім свайго пана Віценя, аўтар «Размовы» сцвярджае, што гэтая памылковая інфармацыя ўтварылася, бо Гедымін, сын Палеманіда Віценя, забіў няўдалага прэтэндэнта на трон, падтрыманага крыжакамі ўнука Даўмонта Дракаліта [3, с. 70]. Пра апошняга летапісы не згадваюць (на такую аргументацыю А. Ратунда, відаць, натхніла «Хроніка зямлі Прускай» Пятра з Дзюсбургу, дзе на баку крыжакоў дзейнічае літвін Драйка [17, с. 159]), але канва аповеду пра Віценя, простага роду, узята з летапісу. Цікава, што ўжо ў беларуска-літоўскім летапісанні Віцень названы «маршалкам», што павінна было, на думку М. Ючаса, супрацьстаяць легендзе аб Віцені-стайніку, па-нямецку «pferdemarschalk» [18, с. 225].

У гэтым фрагменце палягае прынцыповая розніца паміж аргументацыяй беларуска-літоўскага летапісання і «Размовы» А. Ратунда. Першае, фактычна ствараючы пісьмовую

традыцыю (характэрная заява Длугаша з сярэдзіны XV ст.: «Гэта не з'яўляецца дакладна вядомай рэччу, бо не знаходзім таго ў ніводнага аўтара, калі і як народ літоўскі і жамойцкі прыбыў да гэтых паўночных краёў» [15, с. 442]), не магло апеляваць да аўтарытэту, таму і пісалася «ex cathedra», без дадатковай аргументацыі. У сярэдзіне XVI ст., калі ствaралася «Размова Паляка з Літвінам», крыніцы, якія маглі быць асэнсаваны як якасныя і старадаўнія (уласна летапісы), ужо існавалі – і А. Ратундус аргументаваў свае пабудовы якраз імі.

Але, як бачна з містыфікацыі генеалогіі Віценя, шырокавядомай «рымская легенда» не была, тым больш не была яна «кананізавана», пра што сведчаць шматлікія разыходжанні ў саміх летапісах.

«Кароткі аповед пра князёў Літвы» («Epitome principum Lituaniae») – гэта гістарычны ўступ да лацінскага перакладу Статуту ВКЛ 1566 г., здзейсненага для караля і вялікага князя Стэфана Баторыя. Паколькі паміж гістарычнымі партыямі «Размовы» і «Epitome» існуюць яўныя паралелі (напрыклад, амаль даслоўнае паўтарэнне апавядання пра Гедыміна і Дракаліта) [19, с. 101], то цалкам верагодна, што гэты твор таксама напісаў Аўгустын Ратундус [2, с. 65 – 66; 19, с. 94].

А. Ратундус у «Epitome» працягнуў працу з летапісным матэрыялам, запачаткаваную ў «Размове». Так, яшчэ больш яскрава і адкрыта ён ставіць пад сумнеў некаторыя аспекты летапіснага выкладу. Перадусім гэта датычыцца праблемы храналогіі. Батый і Міндоўг, у адрозненне ад іншых персанажаў «рымскай легенды», згадваюцца і ў іншых крыніцах як асобы з XIII ст., што выклікала ў Ратунда зразумелае пытанне: як ад часоў Нерона і нават Атылы да XIII ст. магло змяніцца толькі 10 пакаленняў [19, с. 98]. Зрэшты, гэта не значыць, што ў «Epitome» выказаны нейкія сумненні ў рымскім паходжанні пануючай дынастыі – ні ў якім разе. Праблема вырашаецца тым, што, напрыклад, Мантвіл абвяшчаецца не праўнукам Публія Лібона ці Палемона, як было ў летапісе, а далёкім нашчадкам («remotiore stirpe») [19, с. 96 – 97]. У пацвярджэнне сваёй думкі пра Публія Лібона як далёкага продка літоўскіх князёў А. Ратундус прыводзіць, што ўжо імёны яго «летапісных» сыноў «здаецца, ніякай сувязі з італьянцамі не маюць» [19, с. 97].

Тым не менш, неабходна аддаць належнае ўважлівасці і руплівасці Ратунда: беларуска-літоўскія летапісы ў розных спісах прыводзяць разнастайныя імёны князёў, адрозніваецца іх храналагічная паслядоўнасць, што і адзначана Ратундам [19, с. 98 – 99]. Але такія сумненні і ўдакладненні не паўплывалі на стаўленне да легенды. Ратундус, выклаўшы асноўныя версіі часу прыбыцця рымлян у Жамойцію, падсумоўвае: «Якая больш слушная, не бяруся ацэньваць спрэчнае, пакуль адно зразумела, што літвіны з'яўляюцца паходжаннем італьянцамі» [19, с. 95].

У дачыненні да Віценя А. Ратундус працягвае сцвярджаць, што, «як сведчыць гісторыя літвінаў (historia Lituanorum), ён паходзіў з Палемонава альбо Лібонава роду Калюмнаў, які ўжо ў простыя дамы шляхціцаў вырадзіўся» [19, с. 100]. Выклікае цікавасць апеляцыя да «Гісторыі літвінаў» – летапісы не адносяць Палемона да роду Калюмнаў і не лічаць Віценя Палеманідам. Пры гэтым безумоўна пазычаныя з летапісання звесткі аўтар пазначае як «lituanica historia scribit» («літоўская гісторыя піша»). Магчыма, пад «historia Lituanorum» мелася на ўвазе напісаная самім Ратундам «Гісторыя Літвы».

Што датычыць сэнсавых зменаў у аповедзе пра Віценя ў параўнанні з «Размовай», то яны абумоўлены выкарыстаннем хронікі Пятра з Дзюсбургу. Паводле гэтага крыжацкага храніста,

Віцень быў сынам «караля Літвы» Пукувера (у Ратунда: «Vitenes enim hic, ut Petrus Dusburch historiae Prussorum antiquus scriptor refert, fuit Putinueri, Regis Lituaniae, filius» [19, с. 100]). Заўважым, што Ратундус падкрэслівае аўтарытэтнасць дадзенай крыніцы, адзначаючы, што Пётр – старажытны гісторык Прусіі. Такое несупадзенне летапісных дадзеных і інфармацыі Дзюсбурга (просты шляхціц, хай сабе і Паленанід, і сын караля) не збянтэжыла Ратунда: тое, што Віцень быў сынам караля, «калі гэта праўда», і паходзіў ад Лібона, толькі палегчыла Рымунту [папярэдні вялікі князь] выбар [19, с. 100 – 101].

Яшчэ адзін сюжэт, успадкаваны «Epitome» ад «Размовы» датычыцца launch пераtворанага з Эрдзівіла князя Радзівіла [19, с. 96]. Пры гэтым гісторыя гэтага князя «абрасла» падрабязнасцямі: рускія князі паўсталі супраць Рынгальта, каб адабраць землі, якія продак [Рынгальта] Радзівіл заняў («quam Radivillus atavus occupaverat») [19, с. 98], а ў летапісах ніякай прывязкі менавіта да спадчыны Радзівіла гэты паход рускіх князёў не мае: там проста «хотячи его [Рынгальта] согнати со очизны» [11, с. 131].

Дастаткова знамянальна, што асноўны інтарэс Ратунда ў «Epitome» сканцэнтраваны на падзеях да панавання Ягайлы і Вітаўта. Ды і дзеі гэтых уладароў апісваюцца нешматслоўна: адзначаюцца іх вайсковыя перамогі, для Ягайлы асобна – заснаванне дынастыі і хрышчэнне Літвы, для Вітаўта – зверхнасць над татарамі [19, с. 102]. Далейшыя падзеі пададзены канспектыўна і займаюць толькі прыкладна 1/9 частку тэкста. Такая непрапарцыянальнасць тлумачыцца пры дапамозе заўвагі самога Ратунда, які пра Ягайлу піша: «якімі чынамі знакаміты быў, добра вядома з польскіх хронік» («Quibus gestis clarus fuerit, ex Chronicis Polonicis satis constat») [19, с. 102]. Больш за тое, у частцы пра XV – XVI стст. А. Ратундус дапускае памылкі, якія хутчэй могуць быць растлумачаны неахайнасцю, чым ідэалагічнымі намерамі: пасля Вітаўта адразу ж робіць вялікім князем Жыгімонта Кейстутавіча, а Яна Альбрэхта – і каралём, і вялікім князем, хоць той быў толькі каралём польскім [19, с. 103]. Прынамсі, другі з гэтых фактаў быў шырокавядомы, каб спрабаваць за кошт скажэння атрымаць нейкую карысць.

Але не толькі дастатковасцю звестак польскіх хронік тлумачыцца такая абыякавасць Ратунда да больш блізкага да яго часоў мінулага. Відаць, пэўныя моманты, напрыклад, барацьбу Ягайлы з Кейстутам і Вітаўтам, аўтар абмінуў мэтанакіравана, усё-такі «Epitome» пісалася для Стэфана Баторыя. Непрацяглы выклад «рэальнай гісторыі» ў некаторай ступені тлумачыць сам Ратундус у «Размове», калі, кажучы пра прычыны «разарвання і падваення уніі», адзначае, што «адрознае наша гісторыя ад вашай сведчыць» [3, с. 79]. Відаць, інтэлектуалы ў ВКЛ у сярэдзіне XVI ст. разумелі, што «пралітоўская» гісторыя, занатаваная ў «Хроніцы Быхаўца», будзе ўшчэнт раскрытыкаваная палякамі, таму і звярталіся да «рымскай легенды», малавядомай польскай храністыцы. У гэтым можна бачыць прычыну і адносна малой распаўсюджанасці спісаў тыпу Быхаўца.

Падсумоўваючы, неабходна адзначыць, што ў «Epitome» А. Ратундус бадай што першым надаў «рымскай легендзе» выразна дынастыйна-ягелонскую афарбоўку, адкінуўшы яе першапачатковую прамагнацкую скіраванасць: не згадваюцца 4 роды і 500 шляхціцаў, якія былі паплечнікамі Палемона, як і ўдзел «паноў-радных» у падпарадкаванні Русі (пар. з другім летапісным зводам: [11, с. 129 і далей]). Гісторыя ВКЛ, асабліва ў «Epitome», – гэта гісторыя вялікіх

князёў, пра што сведчыць сама назва – «Epitome principum Lituaniae», у той час як другі летапісны звод называўся «Хроніка Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага». У дынастыйным рэчышчы варта разглядаць і абарону публіцыстам высокага паходжання Гедыміна перад звесткамі польскіх хронік [3, с. 69 – 70; 19, с. 101] і высокамаральнае тлумачэнне зыходу Рымунта-Войшалка ў манастыр: «Жадаючы пакутаваць за свой учынак, манахам стаў, бо забіў быў спачатку дзядзьку свайго Даўмонта за тое, што той быў бацьку яго Трайдзена, брата свайго, забіў» [3, с. 69; 19, с. 100]. Але магнацкі «след» у «рымскай легендзе», паводле Ратунда, не знік зусім, на што паказвае выпадак Эрдзівіла-Радзівіла. Акрамя таго, у больш ранняй «Размове» размешчаны шматлікія пахвалы літоўскім панам (напрыклад, [3, с. 30]), што не здзіўляе, калі ўлічыць блізкасць Ратунда да Радзівілаў. Але ў сярэдзіне 70-х гг. XVI ст., калі магутнага Радзівіла Чорнага ўжо не было ў жывых (ён памёр у 1565 г.), у «Epitome» наратыў Ратунда набыў яшчэ больш дынастыйны характар, які досыць зразумелы, бо менавіта ад караля і вялікага князя Жыгімонта II Ратундус атрымаў «заказ» на напісанне гісторыі Літвы [2, с. 65], праявамі гэтай працы і з'яўляюцца гістарычныя сюжэты з «Размовы» і «Epitome».

Таксама на карціну мінулага Вялікага Княства Літоўскага, выкладзеную А. Ратундам у «Размове Паляка з Літвінам», карэнным чынам паўплывала рэлігійная/каталіцкая заангажаванасць яе аўтара, які не звярнуў увагі на старадаўняе праваслаўнае хрышчэнне ўсходнеславянскіх зямель ВКЛ і структурныя змены ў гісторыі дзяржавы знітаваў з каталіцкім хрышчэннем як станоўчым і пачатковым пунктам і Рэфармацыяй, якая яму падавалася адмоўнай з'явай.

У гістарычным наратыве А. Ратунда асноўная ўвага нададзена легендарнай гісторыі Літвы, а таксама каталіцкаму хрышчэнню, што перадусім было абумоўлена палітычнымі задачамі яго твораў. Але не апошнюю ролю ў цікавасці публіцыста да «рымскай легенды» адыграла тое, што яна, амаль не закранутая ў польскіх хроніках, давала магчымасць разгарнуць на яе глебе сваю аргументацыю ў польска-літоўскіх спрэчках. Характэрна, што на Варшаўскім сойме 1564 г., калі спрачаліся аб «рэальнай» падзеі – Грунвальдскай бітве і ўнёску ў перамогу літвінаў і палякаў – абодва бакі звярталіся толькі да польскіх хронік [20, с. 47 – 48]. Тым не менш летапісы і іх звесткі давалі Ратунду магчымасць апеляваць да аўтарытэту («нашыя старыя хронікі, напісаныя па-руску» [3, с. 67]), а значыць падмацоўвалі яго гістарычныя пабудовы.

Augustyn Rotundus Mieleski was an author of unpublished and disappeared History of Lithuania. But at this article his view on history of the GDL is restored from Conversation of Pole and Lithuanian and Epitome Principum Lituaniae. At Conversation Rotundus showed Lithuania's Catholic Christ as a central moment at history of Lithuania. Another main theme of Rotundus' historical discourse is an early (and legendary) history of the Grand Duchy of Lithuania. It emphasized superiority the GDL over Poland. At Epitome for the first time the author had created dynastic jagiellonian history of the GDL.

Спіс крыніц і літаратуры

1. Baryczowa, M. Augustyn Rotundus Mieleski, wójt wileński, pierwszy historyk i apologeta Litwy / M. Baryczowa // Ateneum Wileńskie. – 1936. – № 11. – S. 117 – 172.
2. Jakubowski, J. Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie przed Unią Lubelską / J. Jakubowski. – Warszawa: Nakład Towarzystwa naukowego Warszawskiego, 1912. – 104, VI s. – (Prace Towarzystwa naukowego Warszawskiego. Wydział II nauk antropologicznych, społecznych, historyi i filozofii. № 7).

3. Rozmowa Polaka z Litwinem / wyd. J. Korzeniowski. – Kraków: W Drukarni C.K. Uniwersytetu Jagiellońskiego, 1890. – VIII, 91 s. – (Biblioteka Pisarzów Polskich. T. 11).
4. Бортнік, І. А. Сацыяльна-палітычныя ідэі ў ананімным творы «Размова Паляка з Літвінам» / І. А. Бортнік // Studia Historica Europae Orientalis = Исследования по истории Восточной Европы: науч. сб. – Вып. 2. – Минск, 2009. – С. 224 – 243.
5. Orzechowski, S. Quincunx, to jest Wzór korony polskiej na cynku wystawiony, przez Stanisława Orzechowskiego Okszyca z Przemyskiej ziemi i na kolędę posłom koronnym do Warszawy na nowe lato roku pańskiego 1564 posłany / S. Orzechowski; wyd. K.J. Turowskiego. – Kraków: Nakładem Wydawnictwa Biblioteki Polskiej, 1858. – 113 s.
6. Мыльников, А. С. Картина славянского мира: взгляд из Восточной Европы: Представления об этнической номинации и этничности XVI – начала XVIII века / А. С. Мыльников; Рос. акад. наук, Музей антропологии и этнографии им. Петра Великого (Кунсткамера). – СПб.: Петербургское Востоковедение, 1999. – 400 с.
7. Волан, А. Прамова да сената Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага, або якім павінна быць праўленне дабрачыннага караля (1573) / А. Волан; пер. А. Я. Цукермана і С. А. Падокшына // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – 2002. – № 20. – С. 234 – 242.
8. Волян, А. Пра дзяржаўнага мужа і яго асабістыя дабрачыннасці / А. Волян; пер. У. Шатона // Спадчына. – 1991. – № 6. – С. 95 – 102; 1992. – № 1. – С. 90 – 98.
9. Orzechowski, S. Dyalog, albo rozmowa około exekucyi Polskiej korony, przez Stanisława Orzechowskiego / S. Orzechowski; wyd. K.J. Turowskiego. – Kraków: Nakładem Wydawnictwa Biblioteki Polskiej, 1858. – 106, IV s.
10. Długosz, J. Jana Długosza kanonika krakowskiego Dziejów Polskich ksiąg dwanaście: 4 t. / J. Długosz; przekład K. Mecherzyńskiego. – Kraków: W drukarni «Czasu» W. Kirchmayera, 1867 – 1869. – T. 4. Ks. XI, XII. – 1869. – 678, XXIII s.
11. Полное собрание русских летописей / Акад. наук СССР, Ин-т истории СССР; отв. ред. Б. А. Рыбаков. – Т. 35: Летописи белорусско-литовские / сост., авт. предисл. и ред. Н.Н. Улащик. – М.: Наука, 1980. – 305 с.
12. Полное собрание русских летописей / Акад. наук СССР, Ин-т истории СССР; отв. ред. Б. А. Рыбаков. – Т. 32: Хроники: Литовская и Жмойтская, и Быховца. Летописи: Баркулабовская, Аверки и Панцырного / сост., авт. предисл. и ред. Н.Н. Улащик. – М.: Наука, 1975. – 233 с.
13. Литвин, М. О нравах татар, литовцев и москвитян / М. Литвин; пер. В. И. Матузовой; вступ. ст. М. В. Дмитриевой; коммент. С.В. Думина [и др.] – М.: Изд. Моск. ун-та, 1994. – 149 с.
14. Stryjkowski, M. Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi Macieja Stryjkowskiego: 2 t. / M. Stryjkowski; przedmowy M. Malinowskiego i I. Daniłowicza. – Warszawa: Nakład Gustawa Leona Glüksberga, 1846. – T. 1. – 1846. – LXIX, XLIX, 392 s.
15. Długosz, J. Jana Długosza kanonika krakowskiego Dziejów Polskich ksiąg dwanaście: 4 t. / J. Długosz; przekład K. Mecherzyńskiego. – Kraków: W drukarni «Czasu» W. Kirchmayera, 1867 – 1869. – T. 3. Ks. IX, X. – 1868. – 558, XXIII s.
16. Zachara-Wawrzyńczyk, M. Geneza legendy o rzymskim pochodzeniu Litwinów / M. Zachara-Wawrzyńczyk // Zeszyty Historyczne / Uniw. Warszawski. – Warszawa, 1963. – T. III. – S. 5 – 35.
17. Петр из Дусбурга. Хроника земли Прусской / Петр из Дусбурга; пер. В.И. Матузовой. – М.: Ладомир, 1997. – 384 с.
18. Ючас, М. Хроника Быховца / М. Ючас // Летописи и хроники: сб. ст. 1973 г. Памяти А. Н. Насонова / АН СССР, Ин-т истории СССР. – М., 1974. – С. 220 – 231.
19. Kroniczka Książąt Litewskich 1576 r. // Jakubowski, J. Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie przed Unią Lubelską / J. Jakubowski. – Warszawa, 1912. – S. 94 – 104.
20. Nikžentaitis, A. Witołd i Jagiełło. Polacy i Litwini we wzajemnym stereotypie / A. Nikžentaitis; tłum. I. Fedorowicz et al. – Poznań: Wyd. Poznańskiego T-wa Przyjaciol Nauk, 2000. – 90 s.

Навуковы кіраўнік – ***А. У. Любы***, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

УДК: 1(474/476)(091)

*Т. У. Жалезная*
*(Мінск, БДУ)*

## *КАНЦЭПЦЫЯ «АДЗІНСТВА» Ў РЭЛІГІЙНАЙ ПУБЛІЦЫСТЫЦЫ ПЯТРА СКАРГІ*

В статье рассматривается концепция церковного единства, изложенная в произведениях польского религиозного деятеля Петра Скарги (1536 – 1612). Данная концепция имела целью обосновать необходимость объединения католической и православной церквей под главенством Папы Римского. П. Скарга делает акцент на описании преимуществ, которые получат православные при условии объединения с католиками. В отличие от других католических полемистов данного периода, он обращает основное внимание не на догматические различия, а на положительные последствия признания православными верховенства Папы. Во многом идеи П. Скарги были реализованы Брестской церковной унией 1596 года, однако дальнейшие события показали, что религиозное единство посредством унии в Речи Посполитой так и не было полностью достигнуто.

Дамінуючай тэматыкай у творах каталіцкіх аўтараў апошняй чвэрці XVI ст. стала сацыяльна-палітычная сфера жыцця грамадства Рэчы Паспалітай. У цэнтры іх увагі – канцэпцыя «адзінства», якая ўяўляе сінтэз тэалогіі і сацыялогіі, з'яўляецца атрыбутам дактрыны каталіцкай царквы і светапогляду сярэднявечча. Зыходным у ёй з'яўляецца ўяўленне аб асобе, створанай па адзіным законе, кожная частка якога адлюстроўвае цэлае. Вучэнне аб грамадстве вынікае з гэтых уяўленняў, дзе «адзінства» – асноватворны прынцып усёй сацыяльнай канструкцыі.

Канцэпцыя «адзінства» зарадзілася ў нетрах каталіцкай тэалогіі і служыла прыкладам дзяржаўнага ладу для краін Еўропы. Новае адраджэнне тэакратычнага пачатку звязана з барацьбой супраць рэфармацыі, храналагічна прыходзіцца на канец XVI – пачатак XVII стст. На тэарэтычныя пошукі каталіцкіх аўтараў наклалі адбітак гістарычныя асаблівасці Рэчы Паспалітай.

Дадзеная канцэпцыя была заклікана для таго, каб стаць аптымальным сацыяльна-палітычным узорам для дзяржавы і зняць сацыяльную напружанасць. Акрамя таго, гэтая канцэпцыя з'явілася своеасаблівым адлюстраваннем накіраванай дзейнасці каталіцкай царквы таго перыяду.

Сама па сабе прагрэсіўная на той час ідэя моцнай манархічнай улады ў Заходняй Еўропе пад прызмай адзінавер'я на беларускіх землях пераўтварылася ў сапраўдны план рэалізацыі гэтай ідэі. З'яўленне даволі аб'ёмістага трактата Пятра Скаргі «Аб адзінстве царквы Божай пад адзіным пастырам» у 1577 г. можна лічыць як адзін з першых крокаў тэарэтычнага асмыслення дадзенай праграмы.

Аднак пачаткі дадзенай думкі былі пакладзены выхадам у свет кнігі галіцкага езуіта, рэктара Яраслаўскай езуіцкай калегіі Бенядзікта Гербеста «Указанне шляху», у якой ставілася пытанне аб неабходнасці царкоўнай уніі з Рымам у інтарэсах праваслаўнай царквы Вялікага Княства Літоўскага [1, с. 22]. Менавіта гэтую ідэю і падхапіў Пётр Скарга.

Варта адзначыць, што яшчэ ў пропаведзях на пахаванні Яна Кшыштафа Тарноўскага (1567 г.), карыстаючыся прысутнасцю прадстаўнікоў праваслаўнай шляхты (у тым ліку і Канстанціна Астрожскага), Пётр Скарга закрануў таксама праблему уніі з касцёлам усходнім. Зацікаўленасць

яго сцвярджэнняў яшчэ больш узрасла пасля знаёмства ў Рыме з папскім легатам Пасевіным, які плённа займаўся пытаннямі праваслаўнай царквы. Віленская пропаведзь была адрасавана ў роўнай ступені як пратэстантам, так і праваслаўным [2, с. 57].

З'яўленне «Адзінства царквы … » нарабіла многа шуму ў асяроддзі іншавернікаў Вялікага Княства Літоўскага. Кніга выйшла ў той час, калі праваслаўная царква страціла многіх сваіх магутных апекуноў і пачала сістэматычна цярпець ціск з боку каралеўскага ўрада Стэфана Баторыя.

Адной з прычын, якая абумовіла павышаную зацікаўленасць праваслаўных да кнігі Скаргі, было тое, што мысліцель, у адрозненне ад сваіх папярэднікаў па рэлігійнай палеміцы, не абмежаваўся разглядам вузкага кола пытанняў багаслоўскага характару, а здолеў увязаць іх з важнейшымі праблемамі грамадска-палітычнага жыцця свайго часу.

Вельмі ўмела і разумна ўжываючы то багаслоўскія, то выключна палітычныя аргументы, Скарга імкнуўся пераканаць чытача, што надышоў час перагледзець усе напластаванні рэлігійнай варожасці ў галіне веравызнання, якія прывялі праваслаўе у Вялікім Княстве Літоўскім да духоўнага заняпаду. А зрабіць гэта важна для таго, на думку Скаргі, каб наглядна паказаць неабходнасць аднавіць царкоўна-палітычны саюз з рымскай апостальскай сталіцай.

Прадметам палемікі папярэдніх публіцыстаў уніяцкай праблематыкі з'яўлялася тлумачэнне дагматаў, разуменне якіх складвалася на працягу некалькіх стагоддзяў унутры Усходняй і Заходняй цэркваў і значна адрознівалася. Найбольш спрэчным пытаннем было Filioque [3, с. 3] («дадатак» да хрысціянскага сімвалу веры, адпаведна з якім Св. Дух зыходзіць і ад Бога-Айца, і ад Бога-Сына, вызнаецца толькі каталіцкай царквой). Аднак Скарга, у адрозненне ад сваіх паплечнікаў, трапна выбраў найважнейшую з тэматык – інстытут папства.

Ужо з першых радкоў сваёй прадмовы, адрасаванай Канстанціну Астрожскаму, Скарга заклікае: «Нельга глядзець на ганебны разрыў хрысціянскага люду – павінна існаваць адзінства народаў рускіх з касцёлам Божым» [4, с. 224].

У духу пастаноў Трыдэнцкага сабору Пётр Скарга сцвярджаў: «Не павінны хрысціянскія каралі і іншыя дзяржавы мець над сабою адзінага імператара, быць перад ім у свецкай паслухмянасці і аднолькава кіраваць сваёй дзяржавай, але павінны аднолькава верыць, аднаго найвышэйшага духоўнага пастыра мець і ў касцёльным адзінстве быць – гэта ўсе павінны, і без гэтага ніхто не можа мець выратавання» [4, с. 369].

Свае думкі і меркаванні ён вырашыў выкласці ў пісьмовай форме пасля таго, як перачытаў накіраваныя супраць рымска-каталіцкай царквы «рускія кнігі» [5, с. 272].

Скарга імкнецца давесці, што адзінае і сапраўднае веравызнанне ідзе ад рымска-каталіцкай царквы і што гэтая царква з'яўляецца пераемніцай і носьбітам апостальскіх традыцый, а таму і карыстаецца законным правам быць главой усіх хрысціянскіх веравызнанняў.

Рэлігійныя пытанні Скарга цесна звязвае з найважнейшымі праблемамі культурнага, грамадскага і палітычнага жыцця краіны. Менавіта таму ён заклікае праваслаўныя ўсходнеславянскія народы да царкоўнай уніі з Рымам і ўказвае на той плён, які яны атрымаюць ад духоўнага саюзу з католікамі. У прыватнасці, з заключэннем рэлігійнага саюзу, на думку прапаведніка, будуць створаны неабходныя ўмовы для развіцця навукі, асветы народа. Гэта прывядзе да пераадолення адасобленасці, якая падзяляе праваслаўных і католікаў.

Абгрунтоўваючы ідэю вяршэнства Рымскага Папы ў хрысціянскай царкоўнай арганізацыі, Скарга паказвае канстанцінопальскага патрыярха не толькі як раскольніка ў царкоўных справах, але і пастыра, які па сутнасці з'яўляецца палонным турэцкага султана і вымушаны ў апошняга за грошы купляць сваю царкоўную ўладу.

У другім раздзеле другой часткі твора аўтар сцвярджае, што «не лацінцы ад грэкаў, а грэкі ад лацінцаў адступілі» [4, с. 234]. Грэкі, паводле Скаргі, адпаўшы ад апостальскай сталіцы, нанеслі вялікую шкоду хрысціянству. Яны «адчынілі вароты туркам» у хрысціянскія землі. Царкоўны саюз «рускіх» з візантыйскім патрыярхам не прынёс ім карысці. Адшчапенства грэкаў паставіла хрысціянскі мір на Русі ў варожыя адносіны да апостальскай сталіцы і стварыла ўмовы для ўзнікнення тут рознага кшталту рэлігійных памылак, найбольш значныя з якіх уласцівы праваслаўнай царкве на беларускіх і ўкраінскіх землях. Пад уплывам грэкаў, гаворыць Скарга, «рускія» ўзаконілі для духавенства шлюб і тым самым залежнасць духавенства ад свецкіх асоб. Свецкія асобы дыктуюць сваю волю ў царкоўна-гаспадарчых справах і нават у справах веравызнання і рэлігійнай абраднасці.

А здарылася ўсё гэта таму, працягвае Скарга, што грэкі ў свой час ашукалі рускі народ. Даючы яму веру, яны не захацелі перадаць яму і сваю мову. Пры адсутнасці славянскіх школ і адпаведных навуковых дапаможнікаў славянскую мову ўжо ніхто дасканала не ведае і не разумее. Царкоўнае жыццё выйдзе з заняпаду і ўвойдзе ў нармальную каляіну, бо з прыняццем лацінскай мовы настане час для развіцця і росквіту сапраўднай навукі і належнай асветы для народа. А на аснове гэтага знікнуць адасобленасць і варожасць. Праваслаўная шляхта заслужыць сабе большы давер ад каралеўскага ўрада і атрымае так патрэбныя для яе вольнасці значныя дзяржаўныя пасады і іншыя палітычныя выгады. А сама дзяржава дзякуючы такому аб'яднанню толькі ўмацуе сваю маналітнасць і палітычную моц.

Дзявяты раздзел трэцяй часткі твора мысліцель прысвяціў адказу на пытанне: «Хто павінен найбольш клапаціцца пра адзінства царквы» [4, с. 236]. Ідэю аб'яднання праваслаўнай і каталіцкай царквы пад эгідай Папы Рымскага Пётр Скарга стараўся ўкараніць і пашырыць не толькі сярод праваслаўных. Працаваць у імя яе здзяйснення ён горача заклікаў і каталіцкае духавенства і дзяржаўную ўладу Рэчы Паспалітай.

У XVI – XVII стст. асаблівае значэнне – не толькі тэалагічнае, але і геапалітычнае – набыло пытанне пра першаснасць распаўсюджання хрысціянства: з Усходу ці з Захаду. У сувязі з гэтым актуалізавалася і праблема першасвятарства. У сваім трактаце Пётр Скарга безапеляцыйна заяўляе: «Да года Гасподняга 858 не магло быць ніводнага царградскага патрыярха, акрамя як зацверджанага папам, паколькі папа быў старшым і суддзёю ўсіх патрыярхаў»). Больш таго, усе яго высновы адносна першынства грунтуюцца на тэзісе пра зверхнасць заходняга касцёла над усходнім. Гэты тэзіс ён тлумачыць наступным чынам: «Калі двое, роўныя паміж сабою, пасварацца паміж сабою ў якой-небудзь дзяржаве, то той ад гэтага, як і другі ад другога адступалі, бо паміж сабою роўныя бы. Але касцёл грэчаскі ніколі рымскаму роўны не быў» [6, с. 54]. Відавочна, што падобныя развагі грунтаваліся на асноўных прынцыпах касцельнага права, якое ішло ўразрэз з праваслаўным разуменнем прававых аспектаў гэтага пытання.

Рэлігійная палеміка дасягала апагею неталерантнасці, калі праваслаўныя ўдаваліся ў развагі

пра прыроду «антыхрыста» – Рымскага Папы, а католікі і ўніяты намагаліся даказаць спрадвечны «ерэтызм» усходніх патрыярхаў. Прычыну разрыву паміж усходняй царквой і заходнім касцёлам Пётр Скарга бачыць ва ўпартай «ерэтычнасці» ўсходніх першасвятароў. Так, ён піша пра «шматлікія і атрутныя ерасі, якія нараджаліся ў Грэцыі, асабліва ў Царградзе, і што яшчэ горш – ад саміх жа патрыярхаў». Аўтар налічыў больш за дзевяноста ерасяў, якія выйшлі з Грэцыі і з якімі рымскі касцёл мусіць заўсёды змагацца і іх аспрэчваць [7, с. 58]. Паколькі праваслаўныя знаходзіліся пад духоўнай уладай канстанцінопальскіх патрыярхаў, то і яны, у сваю чаргу, на думку Пятра Скаргі, станавіліся адступнікамі.

Скарга лічыў, што лепшым сродкам у справе далучэння Русі да царкоўнай уніі з Рымам маглі быць чулыя адносіны да праваслаўных з боку саміх католікаў. «Калі б мы былі больш пільнымі,— зазначаў ён,— то даўно маглі б мець рускія школы, а ўсе рускія тэксты перачытаць і ў іх славянскай мове мець сваіх вопытных католікаў. Трэба было б і на польскую або рускую мову перакладаць неабходныя для гэтага рускім народам творы, каб яны хутчэй убачылі праўду» [5, с. 274].

Усяленскасць хрысціянства ва ўсходнім разуменні непазбежна павінна была ўключаць і момант дзяржаўнасці – гэта значыць, імкненне не толькі да рэлігійнага падначалення, але і дзяржаўнага. Калі Візантыя з-за сваёй відавочнай слабасці не магла рэальна ажыццявіць падобную праграму, то ў Маскоўскай дзяржаве гэты пастулат у канцы XVI – XVII стст. стаў дамінуючым у знешняй палітыцы (успомнім феномен так званага «збірання» праваслаўных зямель вакол Масквы) [8, с. 14].

У Пятра Скаргі хрысціянскае адзінства разумеецца ў іншым плане: іерархія касцёльнай улады на зямлі будуецца па ўзору касцёла нябеснага. Вось чаму наместнік Бога на зямлі можа быць толькі адзін – відавочна, Рымскі Папа з падпарадкаванннем яму іншых патрыярхій і біскупстваў. Свецкая ўлада, на думку вядомага езуіта, мае іншую прыроду; кожны народ у ідэале павінен падпарадкоўвацца свайму манарху, а ад сілы яго ўлады залежыць парадак у дзяржаве. Вера, лічыў Скарга, – якраз тая субстанцыя, што з'ядноўвае народ, народы.

Аднак такое палажэнне прадугледжвае наяўнасць яшчэ адной праблемы: для дзяржаў, у якіх большасць насельніцтва складае які-небудзь адзін монаэтнас, праблема мовы і веры не паўстае так завострана, як у дзяржавах-федэрацыях. У апошніх цэнтралізацыя ўлады ў руках манарха непазбежна сутыкаецца з пэўным супраціўленнем дэцэнтралізатарскіх сіл, якія выражаюць інтарэсы членаў федэрацыі, не заўсёды згодных з палітыкай валадароў.

Пётр Скарга адвяргае самую ідэю існавання, у дадзеным выпадку ў Вільні, на раўнапраўных пачатках каталіцкіх касцёлаў, цвінгліянскіх, лютэранскіх і кальвінскіх збораў, а таксама «рускіх» цэркваў. Прычыну схізмы або адступніцтва ён бачыць у тым, што праваслаўныя жыхары ВКЛ знаходзяцца ў духоўнай залежнасці ад канстанцінопальскага патрыярха. У прысвячэнні Канстанціну Астрожскаму Пётр Скарга адзначае: «І хто толькі чытае касцельныя гісторыі, той убачыць на свае вочы, што ўсе хрысціянскія секты і каралеўствы на ўсім свеце ў папстве, гэта значыць, пад уладай, кіраўніцтвам і гетманствам рымскага біскупа былі, ды ад яго адступілі. Пра сённяшніх ерэтыкоў яшчэ і цяпер памяць свежая і жывая, што яны з намі былі і ад нас пайшлі» [4, с. 226]. Такая канцэпцыя і такое разуменне хрысціянскай гістарыясофіі ішло насуперак праваслаўным уяўленням пра распаўсюджанне хрысціянства.

Літаратурная палеміка актывізавалася пасля Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 года. У гэты час выйшлі выдатныя рэлігійна-палітычныя творы Скаргі: «Соймавыя казанні» і «Брэсцкі сінод» (1597).

Трэба вызначыць асаблівае здзіўленне Пятра Скаргі тым непаўторным царкоўным дэмакратызмам, які быў характэрны для прадстаўнікоў праваслаўнага веравызнання краіны: «До такое науки и розъсудку маютъ ли якое право люди светские», «о науце и законе Божом зноситсе до каплана винени были вси, ... непослушного и въ розуме горъдого... вельми карать росказуетъ» [9, с. 238].

У аснове каталіцкай канцэпцыі адзінства палягае думка аб тым, што чалавецтва з'яўляецца сусветнай цэласнасцю, якая мае сукупную мэту. Гэта цэласнасць заснавана самім Богам і арганізавана ў адзінае грамадства, якое зводзіцца да двух узроўняў: універсальнай царквы і ўніверсальнай дзяржавы, якія будуюцца на адных і тых жа прынцыпах. Галоўная ў каталіцкай плыні праблема кіравання пераходзіць у сацыяльна-палітычныя канцэпцыі. Царква разглядаецца як арганізуючы фактар у дачыненні да дзяржавы. Католікамі развівалася ідэя безумоўнага прыярытэту духоўнай улады над свецкай. Інтарэсы царквы лічыліся вышэйшымі і вечнымі, а інтарэсы дзяржавы – часовымі і прыраўноўваліся да прыродных патрэбнасцяў людзей, якія не ведаюць законаў чароўных. Гэтая ідэя адлюстроўвае адсутнасць сувязі рымскай царквы з якой-небудзь нацыяй. Кананічнае права каталіцкай царквы доўгі час з'яўлялася ўзорам для свецкага права большасці еўрапейскіх краін [10, с. 15].

Паводле сцвярджэння П. Скаргі, стабільнае функцыянаванне дзяржавы павінны забяспечваць сацыяльная іерархія і моцная выканаўчая ўлада караля, а таксама прытрымліванне інтарэсаў Папы [11].

П. Скарга прыводзіць аргументы аб «кары божай» за адход ад Рыма: «И тут въ Руси такуюжъ казнь Панъ Богъ на нихъ пустилъ, ижъ духовными светьские радять, а не овцы за пастырми, але пастыри за овцами идуть» [9, с. 78]. Гэтыя вывады Скаргі былі настолькі папулярнымі, што сустракаюцца яны практычна ва ўсіх каталіцкіх і ўніяцкіх аўтараў.

Робячы выснову аб канфесійных пазіцыях Скаргі, варта адзначыць, што калі прадметам палемікі папярэдніх публіцыстаў уніяцкай праблематыкі з'яўлялася тлумачэнне дагматаў, разуменне якіх складвалася на працягу некалькіх стагоддзяў унутры Усходняй і Заходняй цэркваў, то Скарга, у адрозненне ад сваіх прыхільнікаў, трапна выбраў найважнейшую з тэматык – інстытут папства.

У публіцыстыцы П. Скаргі канцэпцыя «адзінства» адыгравала падставовую ролю. Яе значэнне палягала ў адказе на важнае для поліканфесійнай Рэчы Паспалітай пытанне – пераадоленне канфесійнай раз'яднанасці, што, на думку П. Скаргі, у перспектыве паспрыяла б міру ў дзяржаве. Але насамрэч замест паяднання каталіцкай і праваслаўнай цэркваў у выніку ўніі з'явілася яшчэ адна канфесія – уніяцтва, што ўнесла большы раскол у грамадства Рэчы Паспалітай.

At this article the author is considered the conception of ecclesiastical unity at works of Piotr Skarga, polish religious thinker (1536 – 1612). The conception had purposed to justify necessity of the Catholic and the Orthodox Churches under the supremacy of the Pope. Unlike other Catholic polemists, which noted the dogmatic distinction between the Churces, Skarga accentuated on positive consequences from acceptance Pope's power by Orthodoxes.

Спіс крыніц і літаратуры

1. Любович, Н. Н. К истории иезуитов в литовско-русских землях в XVI в. / Н. Н. Любович. – Варшава: Типография Ковалевского, 1888. – 385 с.
2. Tazbir, J. Piotr Skarga, szermierz kontrreformacji / J. Tazbir. – Warszawa, 1983. – 289 s.
3. Starnawski, J. Znaczenie narodowe, artyzm pisarski i aktualność Piotra Skargi / J. Starnawski // Łodzkie towarzystwo naukowe. Sprawozdania z Chynnośći i Posiedzeń Naukowych. – R. XLI, 6. – Łodz, 1987. – 624 s.
4. Skarga, P. O jednośći kościoła Bożego / P. Skarga // Памятники полемической литературы в Западной Руси // Русская историческая библиотека. – Т. VII. – Кн. 2. – Спб., 1882. – 16, 1820 стб.
5. Коршунаў, А. Ф. Палемічная літаратура / А. Ф. Коршунаў // Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. – Мінск, 1968. – Т. 1. – 381 с.
6. Кароткі, У. Г. Антрапалогія праваслаўя і каталіцызму ў творчасці П.Скаргі і М. Сматрыцкага / У. Г. Кароткі // Працы кафедры гісторыі беларускай літаратуры Белдзяржуніверсітэта. – Вып. 9. – Мінск, 2008. – С. 50 – 65.
7. Вішнеўская, І. У. Канцэпцыя міжканфесійнай уніі ў палітыка-прававой думцы Беларусі XVI ст. / І. У. Вішнеўская // Проблемы правового регулирования общественных отношений в условиях глобализации. – Минск: БГЭУ, 2007. – С. 55 – 67.
8. Брэсцкай царкоўнай уніі – 400 / навук. рэд. І. І. Акінчыц. – Брэст: БрДУ, 1997. – 214 с.
9. Скарга, П. Берестейский собор и оборона его / П. Скарга // Памятники полемической литературы в Западной Руси // Русская историческая библиотека. – Т. XIX. – Кн. 3. – Спб., 1882. – 13, 1307, 104, 91 стб.
10. Шалькевіч, В. Ф. Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі: навуч. дапам. / В.Ф. Шалькевіч. – Мінск: Права і эканоміка, 1999. – 274 с.
11. Skarga, P. Kazania Sejmowe [Electronic Resource]. – Mode of access: http://univ.gda.pl/literat/skarga/index.htm. – Date of access: 20.04.2010.

Навуковы кіраўнік – ***Ю.Л. Казакоў***, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

УДК 94(476)|20

*А.М. Весялуха*
*(Гродна, ГрДУ імя Янкі Купалы)*

## *ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ АБ БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІХ АДНОСІНАХ*

Активная политическая позиция и деятельность, национальное и историческое сознание заставляли В. Ластовского обращаться к анализу связей и отношений белорусского народа с соседями, которые непосредственно влияли на его развитие. Актуальными для В. Ластовского оставались именно белорусско-польские отношения, политические и культурные. По мнению учёного, именно взаимоотношения в области политики подтолкнули развитие роли культурных связей. В статье определяется позиция В. Ластовского применительно к белорусско-польским отношениям в разные периоды, факторы, которые воздействовали на эволюцию взглядов учёного.

### 1. Фактары, якія паўплывалі на фарміраванне поглядаў В. Ластоўскага на беларуска-польскія адносіны

Вацлаў Ластоўскі – адна з самых загадкавых асобаў у гісторыі Беларусі. Яго палітычныя,

філасофскія, літаратурна-эстэтычныя погляды, пісьменніцкі, навуковы і грамадскі воблік не паддаюцца адназначным характарыстыкам. У яго асобе маем пачынальніка той замешанай на крывіцкай ідэі плыні, якую можна назваць беларускім фундаменталізмам [1, с. 239 – 240].

Перш за ўсё на эвалюцыю яго поглядаў адносна беларуска-польскіх стасункаў уплывала ўласная палітычная дзейнасць, агульнадзяржаўная грамадская думка, змены ва ўнутры- і знешнепалітычным становішчы Беларусі.

В. Ластоўскі даволі рана ўключыўся ў палітычнае жыццё, яму споўнілася толькі 19 гадоў, калі ён уступіў у 1902 годзе ў Польскую сацыялістычную партыю на Літве. У праграме партыі змяшчалася патрабаванне самастойнасці Літвы і Беларусі ў добраахвотнай федэрацыі Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны з устаноўчым сходам у Вільні, агульным для ўсіх народаў краю. Партыя заклікала да рэвалюцыі, звяржэння царызму, устанаўлення рэспубліканскага дэмакратычнага ладу.

У 1906 годзе В. Ластоўскі перайшоў у Беларускую Сацыялістычную Грамаду, з якой ППС на Літве стала цесна супрацоўнічаць з 1903 года і якая актывізавалася падчас рэвалюцыі 1905 – 1907 гг. У складзе БСГ быў да 1908 года. Такім чынам, ён стаяў у шэрагах тых барацьбітоў, якія на пачатку XX ст., падчас новай хвалі беларускага адраджэння, выступалі за нацыянальнае вызваленне і дзяржаўнасць беларускага народа [2, с. 233].

Менавіта на гэтым этапе адбываецца фарміраванне В. Ластоўскага як палітычнага, грамадскага дзеяча, а членства ў партыях выступала ў ролі каталізатара дадзенага працэсу. На дадзеным этапе неабходна было распрацаваць агульную канцэпцыю, а на ўздыме грамадскай думкі на падставе гістарычных фактаў даказаць самабытнасць беларусаў і іх права на самастойную дзяржаўнасць. Аднак адкрыта пра гэта не выказваўся.

З 1909 года пачынаецца супрацоўніцтва В. Ластоўскага з «Нашай нівай», на старонках якой і з'явіліся яго першыя публікацыі. Аднак А. Сідарэвіч заўважае, што за час працы сакратаром рэдакцыі газеты ён не напісаў ніводнага палітычнага артыкула. Займаўся пераважна гісторыяй, белетрыстыкай [3].

У 1918 годзе В. Ластоўскі выходзіць на арэну вялікай палітыкі, калі быў выбраны і пасланы беларускімі арганізацыямі ў склад Літоўскай Дзяржаўнай Рады, дзе быў абраны галавой беларускай фракцыі ў Літоўскай Дзяржаўнай Радзе [4, с. 65]. Гэты год можна лічыць паваротным у яго поглядах, бо была дасягнута мэта – стварыць беларускую незалежную дзяржаву. Яе ўвасабленнем стала БНР, абвешчаная 9 сакавіка 1918 года. Прыярытэты змяніліся: трэба было не даказваць права на існаванне сваёй дзяржаўнасці, а абараняць яе ад суседніх «імперыялістычных» дзяржаў, тым больш, што ўжо ў жніўні 1919 года польскія войскі акупіравалі цэнтральную частку Беларусі. У сувязі з гэтым назіраецца радыкалізацыя яго поглядаў на беларуска-польскія адносіны.

У 1919 годзе аднавілася партыйная дзейнасць В. Ластоўскага, на гэты раз у складзе беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, актывізавалася грамадская дзейнасць – яго абралі сакратаром Беларускай Рады Віленшчыны і Гродзеншчыны, пленумам рады БНР старшынёй Урада БНР у Мінску. Але пасля выбараў палякі арыштавалі яго і пратрымалі ў турме 1,5 месяца, пасля чаго вызвалілі пад нагляд паліцыі, але без права выезду з Мінска. Аднак вясной 1920 года змог выехаць у Рыгу, дзе арганізаваў і ўзначаліў Урад БНР [4, с. 65].

Пагоршылі сітуацыю дамовы паміж Літвой і Расіяй ад 12 ліпеня 1920 года і паміж Расіяй,

Украінай і Польшчай ад 12 кастрычніка 1920 года. У адпаведнасці з імі заходняя частка Беларусі ўвайшла ў склад Польшчы. Гэта падзея кардынальна змяніла стаўленне В. Ластоўскага да характару беларуска-польскіх адносінаў. Ён вырашыў дасягнуць справядлівасці, выкарыстаўшы міжнародную падтрымку. За 1920 – 1923 гг. з дыпаламатычнымі місіямі ён наведаў Бельгію, Германію, Ватыкан, Італію, Чэхаславакію, Францыю, Швейцарыю. З прамовай выступіў на V Асамблеі Лігі Нацый. Міжнародная арганізацыя, што запісала ў Статуце галоўнаю мэтаю «развіццё супрацоўніцтва паміж народамі і гарантыю іх спакою і бяспекі», – Ліга Нацый паўстала як непасрэдны вынік Першай сусветнай вайны. Пакт Лігі Парыжская мірная канферэнцыя прыняла як складовую частку Версальскага пагаднення.

Поруч з пытаннямі міжнародных канфліктаў, раззбраення і бяспекі, міжнародных пазыкзаёмаў найбольш датклівымі і цяжкавырашальнымі для Лігі Нацый паўставалі пытанні нацыянальных меншасцяў. Арменія, Албанія, праблема Саарскай зямлі і Верхняй Сілезіі – вось няпоўны пералік нацыянальных вузлоў, завязаных вайною. У ліку іх – праблема заходнебеларускіх земляў, аддадзеных маладой Польскай дзяржаве, і пытанне Віленшчыны, у рэшце рэшт вырашанае еўрапейскай супольнасцю на карысць Польшчы, ратуючы свой гонар і здымаючы фармальную адказнасць за вынік віленскага канфлікту рада Лігі Нацый перадала гэтае пытанне канферэнцыі саюзных паслоў у Парыжы, якая адбылася 18 сакавіка 1923 года, і вынесла вердыкт не на карысць Літоўскай Тарыбы [5, с. 42].

Да паездкі ў БССР на Акадэмічную канферэнцыю па пытаннях беларускай граматыкі і пераезду на пастаяннае жыхарства ў БССР В. Ластоўскі часта звяртаўся да беларуска-польскай праблематыкі, прычым не толькі ў прамовах, але і на старонках перыядычных выданняў. Напрыклад, вядомы яго артыкулы ў часопісе «Крывіч».

З 1927 года В. Ластоўскі стаў менш цікавіцца палітыкай. Да таго ж ён быў пазбаўлены такой магчымасці ў БССР, больш працаваў у культурніцка-этнаграфічнай сферы. У друку з'явіліся артыкулы гэтага характару, таму мэтазгодна лічыць 1927 год заключным у публічным шырокім выказванні сваіх поглядаў В. Ластоўскім наконт беларуска-польскіх адносінаў.

Такім чынам, у эвалюцыі поглядаў В. Ластоўскага на беларуска-польскія адносіны можна выдзеліць два этапы: 1910 – 1919 гг. – ад пачатку з'яўлення яго матэрыялаў на старонках розных перыядычных выданняў да канфлікта з польскімі ўладамі ў Мінску і 1920 – 1927 гг. – дамовы паміж Літвой і Расіяй да пераезду на пастаяннае жыхарства ў БССР.

**2. В. Ластоўскі аб беларуска-польскіх адносінах у 1910 – 1919 гг.**

Пачынаючы з 1910 года, В. Ластоўскі пачынае друкаваць свае артыкулы на старонках розных перыядычных выданняў і ў першую чаргу «Нашай нівы». Яго дэбютам стаў выхад у свет першай кнігі па гісторыі Беларусі, напісаны ім на беларускай мове і для беларусаў – «Кароткай гісторыі Беларусі». Пазней ён у сваіх артыкулах неаднаразова звяртаўся да праблемы беларуска-польскіх адносінаў. У гэты перыяд жыцця ён спрабуе паказаць іх гістарычную эвалюцыю і праяўленне гістарычных стэрэатыпаў ў сучаснасці, акцэнтуе сваю ўвагу на культурніцка-рэлігійнай праблематыцы.

В. Ластоўскі прытрымліваецца дыфузіяналісцкага погляду развіцця народнай культуры, лічыць заканамерным і прымальным усялякае разумнае запазычванне ў сваіх суседзяў некаторых яе элементаў. Галоўнае – не згубіць пад чужым уплывам нацыянальнай асаблівасці, а выкарыстоўваць знешнія сувязі для ўнутранага самаўдасканалення. «Беларускі народ на працягу тысячагадовай дарогі гістарычнага жыцця сустракаўся з рознымі народамі і рознымі культурамі, браў сам ад іх іншых многае і даваў другім сваё. Адным словам, паступаў так, як усякі іншы народ на свеце: абменьваўся тым, чым быў багат, і браў ад іншых тое, чаго яму не ставала» [6, с. 311].

В. Ластоўскі лічыў, што «беларусы перажылі разнастайныя ўплывы (грэцкія, гоцка-скандынаўскія, паўднёва-славянскія, нямецкія, лацінскія, літоўскія, польскія, маскоўскія), якія па-рознаму прыходзілі, праяўляліся і ўспрымаліся. Польскія ж пранiклі праз дзяржаўнасць польскую, каторая мела ў нас вялікі і доўгі ўплыў, асабліва на вышэйшыя класы нашага народа» [6, с. 311 – 312].

Першае палітычнае збліжэнне Беларусі і Польшчы Ластоўскі бачыў у Крэўскай уніі 1386 г. ды адзначаў, што ініцыятыва зыходзіла ад Польшчы, бо яна была зацікаўлена ў аб'яднанні з «Руска-Літоўскай дзяржавай» дзеля сумеснай абароны ад крыжакоў. Аб'яднаныя пад уладай аднаго кіраўніка беларусы вымушаны былі прыняць каталіцкае веравызнанне сваіх суседзяў, дзе добраахвотна, а дзе і пад прымусам. Для Ластоўскага гэта вырашальны фактар павелічэння культурнага ўплыву палякаў на беларусаў.

«Хітрыя і добрыя палітыкі, якія былі ў тыя часы ў Польшчы, імкнуліся да поўнага зліцця абедзвюх дзяржаў, рабілі гэта не адкрытымі ваеннымі дзеяннямі, а прыхаванымі спосабамі, накшталт надання беларускім баярам польскіх шляхецкіх гербаў і прывілеяў над станам сялянства» [7, с. 25]. Пачалося непасрэднае апалячванне беларускай палітычнай эліты.

В. Ластоўскі лічыў, што такое злучэнне не выканала свайго назначэння і не з'яўлялася дастаткова трывалым, бо пазней вышэйазначаныя ўмовы не выконваліся. Беларусы імкнуліся мець асобнага ад Польшчы кіраўніка, і ў сувязі з такімі тэндэнцыямі быў заключаны шэраг падобных дамоў. Крэўская унія ўяўлялася гісторыку першым этапам у рэлігійна-культурным уплыве палякаў на беларусаў, паколькі пачынаецца паступовае акаталічванне і паланізацыя апошніх. Змагаром за незалежнасць ВКЛ выступае Вітаўт, які дабіўся самастойнага кіравання дзяржавай. Аднак яго памкненні не былі даведзеныя да канца – няўдалая каранацыя і адабраная палякамі карона Вітаўта Вялікага В. Ластоўскім успрымаецца як знак бяды і сімвал поўнага падпарадкавання Княства Кароне.

Наступным этапам у развіцці беларуска-польскіх адносінаў В. Ластоўскі выдзяляе заключэнне Люблінскай уніі і стварэнне супольнай дзяржавы – Рэчы Паспалітай.

Галоўнай прычынай яе заключэння В. Ластоўскі лічыў складаную знешнепалітычную сітуацыю, у якой апынуліся абедзве дзяржавы. Над ВКЛ навісла пагроза захопу Масковіяй падчас Лівонскай вайны, а Польшчы пагражала Турцыя. Перад Княствам паўстаў выбар: здацца Івану IV або падпісаць унію з заходняй суседкай. Да гэтага, па Ластоўскаму, у меншай ступені далучаецца ўнутрыпалітычны крызіс у Польшчы, які выражаўся ў адсутнасці спадкаемца караля, і славалюбівыя памкненні беларуска-літоўскай шляхты, што хацела набыць «залатыя вольнасці».

Польская дзяржава ад пачатку да заняпаду Рэчы Паспалітай бачыцца В. Ластоўскаму як чужынны арганізм і нават – з нацыянальнага гледзішча – у вялікай ступені варожы. Карысці ў саюзе з Польшчай ён не бачыў зусім. Праз увесь час прыхільна апісваюцца падзеі, скіраваныя да захавання

самастойнасці Вялікага Княства Літоўскага.

Да заключанай у 1569 годзе ў Любліне ўніі беларускі гісторык ставіцца негатыўна. У гэтым годзе «Літоўска-Руская дзяржава палітычна замірае» [8, с. 30].

В. Ластоўскі канстатаваў: «за 200 год «вольнасці» і «роўнасці» з палякамі беларусы сталіся паняволеным народам без свае пісьменнасці, без дзяржаўнага і грамадскага права. Пасля польскага панавання беларусы засталіся чуць жывыя» [9, с. 14 – 15].

Ластоўскі падкрэсліў, што палітычнае аб'яднанне ставіла сабе на мэце адбіваць супольнымі сіламі напады татараў, маскоўцаў і іншых ворагаў [9, с. 14]. Аднак палітычнае злучэнне сталася прычынай узмацнення польскага ўплыву на беларускую культуру і пачаткам паланізацыі беларусаў, якая адбывалася без прыкметнага супраціўлення шляхты і магнатаў, а яны ўяўлялі сабой тагачасную эліту грамадства. У пацвярджэнне гэтай тэзы можна прывесці наступныя словы В. Ластоўскага: «Гістарычныя варункі нашага гаротнага народа злажыліся так, што гонячыся за прывілеямі і магнацкай ласкай, пакінула нас наша інтэлігенцыя – уся блізка шляхта сталася польскай, гарады таксама страцілі на беларускі характар» [10, с. 259].

Яшчэ ў гэты час даволі стрымана В. Ластоўскі адносіцца да польскага касцёла на Беларусі, не бачачы ў ім з'явы надзвычайнай. Спакойна ўспрымаў, што той вёў нацыянальную польскую палітыку, маліліся ў ім па-польску, а тутэйшыя палякі лічылі за сваіх беларусаў-католікаў [11, с. 266]. Гэтыя факты падаюцца як канстатацыя існуючай сітуацыі ў Беларусі, без асаблівай крытыкі і закліка да супрацьдзеяння ёй. Ён лічыў рэлігійную справу на Беларусі вельмі складанай і непрадказальнай, у якую ўмешвацца не варта людзям, якія не належаць да духоўнага кліра, а адзіным спосабам захавання беларусаў ад канчатковага апалячвання беларусаў называе вяртанне права на іх родную мову ў касцёле.

У некаторай ступені В. Ластоўскі быў удзячны палякам за выдатных пісьменнікаў і паэтаў, якія хоць і пісалі па-польску, але творы насілі беларускі характар.

«У падняволеных народаў часам бываюць дзіўныя моманты ў жыцці, калі найлепшыя сілы, найлепшыя сыны ідуць скародзіць чужыя нівы, чужыя засекі багаціць. Ці мала наша Беларусь дала здольных людзей Польшчы на полі літаратуры затым толькі, што нас злучыла з Польшчай гістарычная доля? Але ўсе гэтыя творы хоць верхнюю адзежку-мову маюць польскую, аднача сваёй душой – яны беларускія. Кажу: беларускія бо зацвілі яны з народа беларускага, з яго душы і думак» [12, с. 268].

Да польскамоўных беларускіх літаратараў В. Ластоўскі адносіць Л. Кандратовіча (У. Сыракомлю), А. Міцкевіча, Э. Ажэшку, Ю. Крашэўскага, бо «знойдзем ў іх па-за польскай мовай прыроду і людзей і душы, уласцівыя толькі беларускаму народу. І не дзіва: людзей тых выгадаваў геній нашага племені» [13, с. 312].

Феномен іх існавання В. Ластоўскі тлумачыў тым, што, «знаходзячыся пад чужым духоўным уплывам, геніі ў сваіх творах давалі тыя мыслі, якія панавалі ў акружаючай іх атмасферы, але не зусім згодныя з праўдзівымі патрэбамі таго народа, які іх выдаў» [13, с. 312]. Таму пісьменнікі, якія выраслі ў Беларусі і карысталіся польскай мовай у сваіх творах, несвядома абагачалі беларускую літаратуру.

Для залічэння дзеяча да беларускага, па В. Ластоўскаму, дастаткова было толькі факта

нараджэння і пражывання гэтага дзеяча на тэрыторыі Беларусі, нягледзячы нават, на якой мове пісаў свае творы. Гэтым ён вырашаў літаратурна-культурніцкія супярэчнасці паміж беларусамі і палякамі ў дадзенай сферы.

На пачатку сваёй літаратурна-палітычнай дзейнасці В. Ластоўскім быў зроблены рэтраспектыўны агляд беларуска-польскіх адносінаў з пункту гледжання нацыянальнай канцэпцыі, якая пачынала зараджацца з неадменным удзелам і ўплывам самога В. Ластоўскага. Першы этап быў прысвечаны выпрацоўцы каштоўнасцей, якія заставаліся нязменнымі і ў адпаведнасці з якімі разглядаліся і ацэньваліся пазнейшыя падзеі, якімі кіраваўся на працягу ўсяго свайго жыцця.

### 3. В. Ластоўскі аб беларуска-польскіх адносінах у 1920 – 1927 гг.

Унутры- і знешнепалітычныя падзеі, уласны навуковы рост, узбагачоны вопыт грамадскай дзейнасці прымусілі В. Ластоўскага перагледзець і змяніць некаторыя свае погляды і пазіцыі на відавочна супярэчлівыя міжнацыянальныя праблемы, што датычаць пытанняў тэрыторыі і дзяржаўнага вызначэння беларусаў. Найбольшы ўплыў на гэтую змену аказала акупацыя немцамі часткі Беларусі, савецка-польская вайна, захоп Польшчай Віленшчыны, Рыжская мірная дамова і, адпаведна, падзел краіны на дзве часткі, што аказаліся пад кіраваннем розных палітычных рэжымаў, а гэта ў сваю чаргу азначала страту адзінасці, цэласнасці і непадзельнасці дзяржавы і народа.

Немалую ролю адыграў і асабісты фактар.  Па-першае, з распадам пасля 25 сакавіка 1918 года БСГ на Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю, Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў і Беларускую партыю сацыялістаў-федэралістаў перад В. Ластоўскім паўстаў выбар палітычнай арганізацыі, якая б найбольш адпавядала яго ўнутраным установкам. Ён пачаў супрацоўнічаць з беларускім эсэрамі. Па-другое, абвяшчэнне асобы В. Ластоўскага «persona non grata» ў Польшчы і Латвіі і вымушаны пераезд на сталае жыхарства ў Коўна, дзе ён разгарнуў сваю дзейнасць разам з земляком К. Дуж-Душэўскім.

Погляды В. Ластоўскага на ключавыя падзеі гісторыі і сучаснасці беларуска-польскіх узаемадачыненняў радыкалізуюцца. Некаторыя з іх былі прадстаўлены ў брашурах і выступах на міжнароднай арэне, ставілі на мэце пошук справядлівасці і вырашэння беларускага пытання з дапамогай і падтрымкай міжнароднай супольнасці. Высокі палітычны статус вымагаў ад В. Ластоўскага вызначэння, канкрэтызацыі і пастаноўкі праблем у адносінах паміж беларусамі і палякамі.

Акрамя таго, В. Ластоўскі выказваў думкі і ў сваіх мастацкіх творах, напрыклад, вершах, дзе ўжо ў вобразна-сімвалічнай форме падаваў сваё стаўленне да праблемы.

У 1920 – 1927 гг. увага беларускага дзеяча была скіравана пераважна не на аналіз гісторыі беларуска-польскіх адносінаў, а на ацэнку сучасных падзей, непасрэдным удзельнікам і сведкам якіх ён з'яўляўся і якія былі лёсавырашальнымі для беларускага народа, таму патрэбна ўлічваць вялікую вагу суб'ектыўнасці яго поглядаў. Нягледзячы на гэтую акалічнасць, В. Ластоўскі пераасэнсоўваў асноўныя этапы развіцця збліжэння беларусаў і палякаў у мінулым.

Толькі апісальна згадваецца Крэўская унія. Паводле яе «Ягайла абяцае землі свае літоўскія і рускія на вечныя часы далучыць да каруны каралеўства Польскага ў замен за тое, што будзе абраны

на караля польскага» [10, с. 400]. Тым не менш, унія ўспрымаецца як персанальная. Але менавіта пасля гэтага акта пачынаецца культурнае аддаленне станаў ВКЛ, што стала прычынай заняпаду і знішчэння дзяржавы.

Трох наступных уній ВКЛ і Кароны Польскай (1401 г., 1413 г., 1501 г.) В. Ластоўскі называў толькі гады, тым самым падкрэсліваючы, што Польшча паступова рыхтавала глебу для поўнага палітычнага паглынання ВКЛ.

Завяршальным гістарычным этапам зліцця беларусаў і палякаў у адну дзяржаву В. Ластоўскі лічыў Люблінскую унію, якая па-ранейшаму для яго застаецца ганьбай беларускага народа, «яднанне з катам праклінае». У «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» ён падае ўрывак з дыярыуша Люблінскага сойма, жадаючы тым самым на падставе крыніц даказаць, як доўга і пакутліва прымалася рашэнне сойма, несправядлівасць, няроўнасць умоў заключэння уніі і становішча кожнага народа ў новастворанай дзяржаве. Змяняецца ацэнка уніі, паколькі яна для гісторыка азначала стварэнне часовай федэратыўнай умовы дзвюх незалежных дзяржаў, Літвы і Польшчы [14, с. 403], якая павінна была быць перагледжана пазней, бо заключалася на нявызначаны тэрмін («на вечныя часы»). Аднак адзінства і роўнасці паміж аб'яднанымі ў новастворанным палітычным арганізме не існавала – палякі прымусілі прыняць іх умовы і навязвалі саюзнаму Княству сваю волю.

«Злачынства» персанальна-парламентарнай Люблінскай уніі, на думку Ластоўскага, заключаецца ў псіхічным зломе ў грамадстве і ператварэнні беларускіх зямель у аб'ект змагання паміж Польшчай і Расіяй. Яна азначала поўную страту незалежнасці «літоўска-рускай» дзяржавы нават і ў рэлігійным, культурным жыцці. Хоць беларускім землям і пасля заключэння польска-літоўскай уніі пакідалася пэўная адміністрацыйная і юрыдычная аўтаномія (свой скарб, войска і мытныя межы), пра свабоду веравызнання не магло ісці гаворкі [15, с. 89].

Унія прадвызначыла і страту культурнай самастойнасці беларускага народа праз добраахвотнае апалячванне вышэйшых станаў. «Папалася наша шляхта ў польскую пастку: за польскія асцяробкі здрадзіла сваю бацькаўшчыну» [16], якая хацела ўсю віну перакласці на сялян, калі становішча стала безвыходным. Аднак яны не адгукнуліся на заклікі шляхты пастуіць па іх прыкладу і засталіся захавальнікамі традыцый. У сувязі з гэтым В. Ластоўскі стварае вобраз ластаўкі – сімвал райскай птушкі, якая палягчае пакуты і прыносіць вясну [17, с. 281]. Размаўляць па-польску беларусам – гэта тое самае, што курыцы сядзець на вужыных яйках, рыхтуючы тым самым сабе верную смерць.

В. Ластоўскі падтрымліваў думку Лаўрова, ідэолага рэвалюцыйнага народніцтва, наконт гістарычнай ролі нацыі, якая мерыцца здольнасцю яе ўплываць на іншыя нацыі пры захаванні сваіх і чужых асобнасцей [18, с. 315]. У сувязі з гэтым выдзяляюцца імперыялістычныя народы, якія маюць пад сабой і сваім панаваннем, народы, імі падначаленыя. Гэтыя народы займаюць у імперыялістычных дзяржавах месца рабоў [19, с. 355]. Імперыялістычным народам Ластоўскі называе і палякаў, якія пасля Рыжскай дамовы далучылі да сваёй дзяржавы заходнюю частку Беларусі.

Нараканні і крытыка В. Ластоўкага датычыліся як Рыжскай дамовы, ўмоў яе заключэння, так і палітыцы, якую праводзілі палякі ў Заходняй Беларусі. Ён быў не згодны і абураны зменамі, якія

адбываюцца ў палітыцы, эканоміцы, культурным і рэлігійным жыцці. У кожнай з гэтых сфераў палякі па-грабежніцку імкнуцца сцерці этнічныя межы паміж імі і беларусамі, абапіраючыся на міжнароднае права. «Уваскрэсеная Польшча стала вампірам для народаў, ёю падбітых» [20].

Рыжскі мір з'яўляецца несправядлівым па ўсіх мерках. «У Рызе нейкія дабрадзеі падзяліліся Беларуссю. Падзяліўшы чужое дабро, хацелі спакойна сесці беларусам на каркі» [21]. Такія паводзіны і рашэнні суседніх дзяржаў заслугоўваюць абвінавачвання В. Ластоўскага ў іх нізкім маральным узроўні і недальнабачнасці. «Бязглуздыя вы! Калі б у вас было гэтулькі розуму, сколькі прыроднай хцівасці, то вы б перш чым грабіць чужое, падумалі б, як будзеце жыць з аграбленым народам» [21]. Такія словы прамаўляе ў «Кароткіх казачках для дарослых» бусел, які ў беларускай міфалогіі на познім этапе бачыцца ўвасабленнем самога Бога [22, с. 52]. З гэтага вынікае, што задума падзяліць Беларусь першапачаткова не магла прывесці да станоўчых вынікаў.

Палітыка палякаў у Заходняй Беларусі заслугоўвае самых адмоўных ацэнак В. Ластоўскага. Ён абвінавачваў палякаў у крайнім нацыяналізме і каланіяльных памкненнях. «Палякі залілі беларускі край сваім войскам, паліцыяй і чыноўніцтвам, навезенымі з Польшчы. Каб прыдаць беларускаму краю характар польскасці, Польшча пачала засяляць край польскімі каланістамі, пазбаўляючы землі пракавечнага жыхара гэтага краю, беларускага селяніна. Каб задушыць і знішчыць беларусаў, Польшча закрывае беларускія школы, не дапушчае беларускай мовы ў мясцовых урадах, судах і касцельным ужытку. Словам, Польшча стварыла на беларускай зямлі для беларусаў такія варункі, пры якіх немагчымым ёсць існаванне народа» [23, с. 370].

В. Ластоўскі наракаў і на эканамічную палітыку, бо палякі атрымлівалі на захопленай тэрыторыі вялікія зямельныя ўладанні, да 40 гектараў, у той час калі мясцовае насельніцтва пакутавала ад недахопу зямлі. Большасць з іх валодала толькі 1 – 5 гектарамі на сям'ю. Акрамя таго, сялянам беларускага паходжання польскім законам забараняецца купляць зямлю. 4 жніўня 1923 года польскі ўрад устанавіў новы падатак, ад якога былі вызвалены землеўладальнікі і які новым цяжарам лёг на плечы беларускіх сялян [24]. В. Ластоўскі абураўся таму, што палякі свабодна вырубаюць, вывозяць за мяжу «сталеццямі гадаваныя непраходныя беларускія пушчы, абагачаючы польскі скарб».

Адмоўная ацэнка даецца і дэмаграфічнай палітыцы, бо польскія ўлады чынілі перашкоды для пераезду назад эвакуіраваных падчас вайны, засялялі польскія сем'і на іх землі. Яны патрабавалі ад перасяленцаў дакументальнага пацвярджэння правоў на прэтэндуемую зямлю, у адваротным выпадку проста заключалі ў турмы або канцэнтрацыйныя лагеры. Туды ж памяшчаліся і палітычныя злачынцы, што выступалі за ўлік беларускіх інтарэсаў пры правядзенні палітыкі і павагу да беларускіх культурна-палітычных традыцый. Адносіны да зняволеных былі жорсткімі і неапраўданымі. В. Ластоўскі ў пацвярджэнне сваіх словаў прыводзіць прыклад беластоцкай турмы, дзе ад голаду памерлі 3 палітычныя вязні, падкрэслівае, што на гэты факт улады проста закрылі вочы.

Найбольшай крытыкі з боку В. Ластоўскага падвергліся культурныя пераўтварэнні на заходніх беларускіх землях пасля ўключэння іх у склад Польшчы. «Беларускі народ, які выдаў з паміж сябе гэтулькі геніяльных імён, які мае на цэлае паўтысячалецце старэйшую літаратуру за польскую, пазбаўлены пад польскай акупацыяй магчымасці вучыцца ў сваёй роднай мове» [19, с. 355]. Палякі зачынялі беларускамоўныя школы, нават нягледзячы на тое, што ў адпаведнасці з

Канстытуцыяй нацыянальныя меншасці мелі права карыстацца іх роднай мовай і адчыняць школы для навучання дзяцей на роднай мове, але за кошт урада. Апошняя акалічнасць дазваляла ўраду не выдаткоўваць грошы на такую справу, таму беларусы былі пазбаўлены магчымасці атрымліваць адукацыю на роднай мове. Існавала дыскрымінацыя для атрымання вышэйшай адукацыі па нацыянальнай прыкмеце і паходжанні. Тым часам палякі пакрылі Беларусь сеткай польскіх школ супраць жадання мясцовага насельніцтва.

Пераходзячы на мікраўзровень і адкідваючы вялікую палітыку, найгоршым у палітыцы палякаў В. Ластоўскі лічыў пазбаўленне дзяцей-сірот харчовай падтрымкі і забеспячэння адзеннем, хоць палякі значную дапамогу атрымлівалі ад Амерыканскага Чырвонага Крыжа.

З усіх спосабаў вынішчэння беларускай нацыі, стасаваных Польшчай, найагіднейшым і найбольш абураючым людское сумленне з'яўляецца спосаб паланізацыі беларусаў праз каталіцкі касцёл, які на тэрыторыі Беларусі, пры дапамозе цяперашняй польскай улады, апынуўся цалкам у руках польскага духавенства, згрупаванага вакол польскіх нацыянальных арганізацый і партый. Амбона каталіцкага касцёла на захопленай палякамі беларускай зямлі сталася палітычнай трыбунай, з якой польскія ксяндзы стараюцца апраўдаць бяспраўі польскага ўрада, чыненыя над мясцовай беларускай люднасцю, сталася агітатарскай моўніцай за польскасць і паланізацыю. Канфесіянал польскіх ксяндзоў служыць да агітацыі і польскай разведкі. Значныя факты, калі як варунак адпушчэння грахоў польскія ксяндзы загадваюць навучыцца беларусу польскай мове або быць прыхільнікам польскага панавання над краем. Межы паміж польскім каталіцкім духоўнікам і польскім жандармам зацерліся [23, с. 370].

Больш таго, нечуваная паланізацыя праз касцёл адбываецца ў БССР, а ад духавенства, атрымліваючага загады з-за кардону, вымагаецца служэння палітычнай агентуры [25]. Яна падтрымлівалася з боку вышэйшага духавенства, а сітуацыю пагоршыў заключаны канкардат паміж Польшчай і Апостальскай сталіцай, які санкцыянаваў ужыванне польскай мовы ў беларускіх касцёлах. Палякі пачалі замяняць ксяндзоў-беларусаў на ксяндзоў-палякаў, а першых высылалі або арыштоўвалі. Калі раней В. Ластоўскі даволі стрымана ўспрымаў польскамоўны касцёл на Беларусі, то зараз звяртаецца з заклікам да біскупаў, каб прапагандаваць і праводзіць набажэнствы на беларускай мове, што будзе падтрымліваць незалежнасць беларусаў. Зварот беларускай мовы да каталіцкага касцёла – гэта ўдар па польскім імперыялізме [26, с. 372].

У сувязі з такім разгортваннем падзей у рэлігійным жыцці народа В. Ластоўскі пачынае бачыць у каталіцкай царкве ідэйнага і палітычнага ворага беларушчыны, які не падтрымлівае і не прымае факта гістарычнай асобнасці Беларусі ад Польшчы ў справе веры.

Спасылаючыся на Версальскі трактат, які прызнаў канечнай умовай плебісцыт пры вызначэнні межаў новаўтвораных дзяржаваў, В. Ластоўскі сцвярджае, што гэтая пастанова да беларускіх зямель, на якіх бяспраўна і бескантрольна, па-варварску гаспадараць орды польскіх акупантаў. Беларусы на беларускіх землях, далучаных Рыжскім трактатам у межы Польшчы, складаюць абсалютную большасць і дзеля гэтага справядлівасць вымагае рэвізіі Рыжскага трактату, які падзяліў жывы беларускі народ надвое [27].

Такая міжнародная практыка стварэння дзяржаў не паддаецца разуменню В. Ластоўскага, які спачатку, шукаючы падтрымкі і дапамогі за межамі Польшчы, Расіі і Беларусі, прыйшоў да

высновы, што «ні адна іншаземная краіна не гатовая падтрымаць і вызваліць беларусаў з-пад ярма палякаў для аб'яднання ў адной нацыянальнай дзяржаве. Нашай сумнай сучаснасцю не выкаваны аканчальныя формы дзяржавы будучыні і не зжыты яшчэ формы і паняцці феадальна-дынастычна-капіталістычных дзяржаў. Сучасныя дзяржавы прадстаўляюць неаднацэльныя народныя арганізмы, не вольныя сувязі вольных грамадзян і народаў, а падпарадкаваныя сільнейшым слабейшыя адзінкі. Дзяржава будучыні павінна будзе абапірацца, у процілегласць сучаснасці, на дзвюх справядлівых асновах: народна-этнаграфічнай тэрыторыі і сувязі раўнапраўных і раўнацэнных у стасунку адзін да другога тэрытарыяльных народаў» [28, с. 142 – 143].

Падсумоўваючы, В. Ластоўскі гаворыць, што пад Польшчай Беларусь аграблена, зняверана і тоне ў моры крыві і слёз [29, с. 46]. Гэтымі словамі ён падагульняе ўсё сказанае, рэфлексіруе свае погляды на беларуска-польскія адносіны і стварае агульны вобраз становішча беларускага народа ў складзе Польшчы, тым самым падкрэсліваючы сваю радыкальную настроенасць і несхаваны негатыў да дадзенай з'явы. Расчараваўшыся ў міжнароднай супольнасці, яму застаецца толькі канстатаваць факты і надалей даказваць грабежніцкі харктар Рыжскай дамовы. Кожны здзек з беларускага народа, распалавіненага Рыжскаю мяжою, – гэта найперш здзек з самога В. Ластоўскага [30, с. 42].

На працягу 1920 – 1927 гг. В. Ластоўскім ствараўся вобраз захопніцкай Польшчы, якая пераходзіла да адкрытых метадаў апалячвання беларусаў. У гэтым бачыць галоўнай прычынай Рыжскую дамову, менавіта яна развязала рукі палякам на падобныя несправядлівыя дзеянні, якія ацэньваюцца вельмі адмоўна як у гістарычным ракурсе, так і сучасным.

Такім чынам, В. Ластоўскі адмоўна ацэньваў беларуска-польскія адносіны як у гістарычным кантэксце, так і ў сучаснасці. Ім ствараецца вобраз Польшчы як гістарычнага ворага Беларусі: палякі рознымі шляхамі і метадамі імкнуліся паглынуць беларусаў, пачынаючы ад уній і заканчваючы прыхаванымі і непрыхаванымі дыпламатычнымі сродкамі паланізацыі. Гэтаму ў многім садзейнічаюць знешнепалітычныя падзеі.

Аднак трэба заўважыць, што беларусы прадстаюць нейкім пасіўным народным утварэннем, бо вельмі лёгка і бяздумна паддаюцца на палітычны і культурны ўціск палякаў, не знаходзячы ў сябе сілы бараніцца ад іх і супрацьстаяць ім. Беларускі народ бачыцца ахвярай «прыроднай хцівасці» сваіх суседзяў, аднак змог захаваць сваю этнічную ўнікальнасць і непаўторнасць і толькі ў абліччы свядомай тагачаснай эліты меў сілы аднавіць сваю незалежнасць.

У некаторай ступені В. Ластоўскі схільны лічыць польскія памкненні каланізатарскімі, імперыялістычнымі, накіраванымі на поўнае зліццё на першым этапе ўсіх беларусаў, а пазней толькі Заходняй Беларусі з палякамі без уліку іх нацыянальных інтарэсаў і правоў. Такія захопніцкія і гвалтоўныя паводзіны падмацоўваліся ідэалагічна з дапамогай касцёла і насаджэння сваёй ментальнасці праз палітычную, эканамічную і мастацкую культуру. Аднак калі на пачатку В. Ластоўскі пазбягае рэзкіх слоў, ацэнак, выказванняў на гэты конт, то пасля 1920-х гадоў яны сталі дамінуючымі ў яго выступленнях і публікацыях, тым самым ён выказваў сваю незадаволенасць, пратэст супраць рэчаіснасці, спрабуючы гэтым самым змяніць яе.

У адпаведнасці з актуальнасцю і запатрабаванасцю змяняліся акцэнты В. Ластоўскага пры разглядзе беларуска-польскіх адносінаў. Калі напачатку неабходны быў іх гістарычны агляд, то

пазней галоўнай мэтай стала апісанне і аналіз сучасных падзей, якія вымагалі крытыкі і радыкальных пераўтварэнняў.

The active political position and activity, national and historical consciousness forced V. Lastouski address to the analysis of communications and relations of the Belarusian people with the neighbours who directly influenced its development. Especially actual for V. Lastouski were Belarusian-Polish political and cultural relations. According to scientist's point of view, relations in the sphere of politics forced the development of the cultural relation's role. V. Lastouski's point of view about Belarusian-Polish relations in different periods of his life, factors influenced the evolution of his position are specified in the article.

Спіс крыніц і літаратуры

1. Конан, У. Эстэтычныя погляды Вацлава Ластоўскага / У. Конан / Беларусіка / Міжнар. асац. беларусістаў, Нац. навук.-асв. цэнтр імя Ф. Скарыны. Кн. 4: Яўрэйская культура Беларусі і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі; Вацлаў Ластоўскі – выдатны дзеяч беларускага адраджэння / рэд.: В. Рагойша [і інш.]. – 382 с. – С. 239 – 251.
2. Грыцкевіч, А. Гісторык Вацлаў Ластоўскі / А. Грыцкевіч / Сыны і пасынкі Беларусі / С. В. Барыс, С. В. Тарасаў, Г. А. Ланеўскі і інш.; уклад. С.В. Барыс. – Мінск: Полымя, 1996. – 416 с. – С. 229 – 254.
3. Мікулевіч, С. Ластоўскі – рэдактар, Ластоўскі – масон, Ластоўскі – прэм'ер / С. Мікулевіч // Наша ніва. – 2008. – 16 лістапада.
4. Зубко, В. «CURRICULUM VITAE» Вацлава Ластоўскага і Тамаша Грыба / В. Зубко // Роднае слова. – 2003. – № 4. – С. 62 – 71.
5. Янушкевіч, Я. Незалежнік: Дакументы і людзі / Я. Янушкевіч // Спадчына. – 1993. – № 5. – С. 42 – 47.
6. Ластоўскі, В. Шляхам творчасці. / В. Ластоўскі / Выбраныя творы / уклад., прадмова і каментарыі Я. Янушкевіча. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997. – 512 с. – С. 311 – 312.
7. Ластоўскі, В.Ю. Кароткая гісторыя Беларусі / В. Ю. Ластоўскі. – Мінск: Універсітэцкае, 1993. – 126 с.: іл.
8. Радзік, Р. Погляд на Польшчу і Расію ў «Кароткай гісторыі Беларусі» Вацлава Ластоўскага / Р. Радзік / Скарыназнаўства, кнігазнаўства, літаратуразнаўства: матэрыялы III Міжнар. кангрэса беларусістаў; Бел. культура ў дыялогу цывілізацый, Мінск, 21 – 25 мая, 4 – 7 снежня 2000 г. / рэдкал.: У. Конан (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Бел. кнігазбор, 2001. – 364 с. = (Беларусіка – Albaruthenica; Кн. 20). – С. 262 – 270.
9. Ластоўскі, В. Што неабходна ведаць кожнаму беларусу / В. Ластоўскі / Пашырыў Я. Найдзюк. – 3-е выд. – Мінск: Тав-ва беларус. мовы імя Ф. Скарыны, 1991. – 31 с.
10. Ластоўскі, В. Перапіска ў беларускай мове / В. Ластоўскі / Выбраныя творы / уклад., прадмова і каментарыі Я. Янушкевіча. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997. – 512 с. – С. 258 – 259.
11. Ластоўскі, В. З падарожжы па Гродзеншчыне / В. Ластоўскі / Выбраныя творы / уклад., прадмова і каментарыі Я. Янушкевіча. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997. – 512 с. – С. 265 – 267.
12. Ластоўскі, В. Людвік Кандратовіч (Сыракомля) / В. Ластоўскі / Выбраныя творы / уклад., прадмова і каментарыі Я. Янушкевіча. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997. – 512 с. – С. 267 – 269.
13. Ластоўскі, В. Шляхам творчасці / В. Ластоўскі / Выбраныя творы / уклад., прадмова і каментарыі Я. Янушкевіча. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997. – 512 с. – С. 311 – 312.
14. Ластоўскі, В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі / В. Ластоўскі. – Коўна, 1926.
15. Ліндпэр, Р. Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі ў XIX – XX стст. / Р. Ліндпэр / Пер. з ням. Л. Баршчэўскага; нав. рэд. Г. Сагановіча. Выд. 2. – СПб., Неўскі прасцяг, 2005. – 540 с.
16. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). – Ф. 325. – Воп. 1. – Адз. зах. 117. – Л. 66.
17. Беларуская міфалогія: энцыкл. слоўн./С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч і інш. – Мінск: Беларусь, 2004. – 592 с.
18. Ластоўскі, В. Нацыянальнае пытанне / В. Ластоўскі / Выбраныя творы / уклад., прадмова і каментарыі Я. Янушкевіча. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997. – 512 с. – С. 314 – 317.
19. Ластоўскі, В. Прамова ў Жэневе / В. Ластоўскі / Выбраныя творы / уклад., прадмова і каментарыі Я. Янушкевіча. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997. – 512 с. – С. 354 – 359.
20. Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ). – Ф. 3. – Воп. 1. – Адз. зах. 257. – Л. 28.

21. НАРБ. – Ф. 325. – Воп. 1. – Адз. зах. 117. – Л. 64.
22. Беларуская міфалогія: энцыкл. слоўн. / С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч і інш. – Мінск: Беларусь, 2004. – 592 с.
23. Ластоўскі, В. Канкардат / В. Ластоўскі / Выбраныя творы / уклад., прадмова і каментарыі Я. Янушкевіча. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997. – 512 с. – С. 367 – 372.
24. БДАМЛіМ. – Ф. 3. – Воп. 1. – Адз. зах. 257. – Л. 6.
25. БДАМЛіМ. – Ф. 3. – Воп. 1. – Адз. зах. 256. – Л. 21.
26. Ластоўскі, В. Канкардат / В. Ластоўскі / Выбраныя творы / уклад., прадмова і каментарыі Я. Янушкевіча. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997. – 512 с. – С. 367 – 372.
27. БДАМЛіМ. – Ф. 3. – Воп. 1. – Адз. зах. 257. – Л. 27.
28. Власт. Ураженні ад паездкі ў Беларускую Радавую Сацыялістычную Рэспубліку // Бацькаўшчына: зб. гіст. літ. / уклад., прадм., паслясл. С.С. Панізніка. – Мінск: Юнацтва. – 268 с. – С. 136 – 165.
29. Янушкевіч, Я. Незалежнік: Дакументы і людзі / Я. Янушкевіч // Спадчына. – 1993. – № 5. – С. 42 – 47.
30. Янушкевіч, Я. Незалежнік: Дакументы і людзі / Я. Янушкевіч // Спадчына. – 1993. – № 5. – С. 42 – 47.

Навуковы кіраўнік – ***В.А. Белазаровіч,*** кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

УДК 94 (476.6):614.842.83

*М.С. Супрон*
*(Гродна, ГрДУ імя Янкі Купалы)*

## *УПЛЫЎ ПАЖАРНАЙ СПРАВЫ НА РАЗВІЦЦЁ ГОРАДАБУДАЎНІЦТВА ГРОДНА З КАНЦА XVIII ст. да 1885 г.*

Пожары за всю историю Гродно неоднократно меняли архитектурный облик города. Наиболее сильными пожарами Нового времени, после которых город менялся коренным образом, были «огненные мистерии» 1655, 1753 и 1885 гг. В статье автором рассматривается влияние нормативных документов и постановлений городских властей о противопожарном строительстве на развитие градостроительства в период начиная от вхождения Гродно в состав Российской империи и заканчивая пожаром 1885 г.

У 1795 г. Гродна ўвайшоў у склад Расійскай імперыі, што ў многім паўплывала на змяненне горадабудаўнічай канцэпцыі горада. Замест каралеўскай рэзідэнцыі, як гэта было да падзелаў Рэчы Паспалітай, Гродна з 1801 г. стала цэнтрам губерні. На працягу доўгага часу тут не праводзілася рэгулярнай перапланіроўкі, што ў многім тлумачылася вялікай доляй капітальнай забудовы. Справа ў тым, што планіроўка ў горадзе, якая праводзілася апошні раз у XVI ст., доўгі час адпавядала тагачасным патрабаванням горадабудаўніцтва [1, с. 170].

На працягу ўсяго XIX ст. горад рос. Да 1825 года колькасць жыхароў у Гродне складала 9965 чалавек [2, с. 52]. З ростам Гродна і развіццём прамысловасці павышалася яго пажарная небяспека. Гэта патрабавала з боку органаў дзяржаўнай улады рэгламентавання пытанняў забеспячэння пажарнай бяспекі. На месцах гэтымі пытаннямі займалася губернскае і гарадское ўпраўленні, а таксама вызначаныя імі службовыя асобы – паліцмайстар і брандмайстар [3, с. 10 – 18].

Вялікая колькасць пажараў у гэты час адбывалася з-за парушэнняў, дапушчаных пры будаўніцтве, што патрабавала ўдасканалення мер, якія б рэгламентавалі будаўніцтва. У 1809 г. былі выдадзены правілы, паводле якіх драўляныя будынкі з пячным апалам павінны былі ўзводзіцца на адлегласці не менш чым 25 метраў адзін ад аднаго [4]. Будаўніцтва драўляных двухпавярховых дамоў забаранялася. Другі паверх дапускалася будаваць з дрэва толькі ў тым выпадку, калі першы паверх быў мураваным. За будаўнічыя пралікі і адсутнасць супрацьпажарных перагародак у адбудаваных будынках архітэктары і будаўнікі прыцягваліся да адказнасці [5, с. 14]. Улічваючы гэтыя правілы, у 1823 г. быў распрацаваны першы генеральны план Гродна [1, с. 175], які рэгламентаваў будаўніцтва ў горадзе, папярэджваючы незапланаваную і скучаную забудову, што магло дрэнна паўплываць на стан супрацьпажарнай абароны.

Велізарнае значэнне для паляпшэння супрацьпажарнай аховы горада мела стварэнне ў 1825 г. пажарнай каманды [6, арк. 1 – 3].

Для рэгламентацыі супрацьпажарнай будоўлі ў 1832 г. былі выдадзены «Будаўнічы статут» і «Пажарны статут» – два першыя нарматыўныя дакументы, стваральнікі якіх спрабавалі

вырашыць праблему барацьбы з агнём прафілактычнымі мерамі. У гэтых статутах былі вызначаны патрабаванні мінімальнай адлегласці паміж будынкамі, умовы іх узвядзення, правілы будавання і ўтрымання печаў і шэраг патрабаванняў рэжымнага характару [7, с. 14 – 15]. Да ўсяго вышэйсказанага неабходна дадаць і тое, што будаўніцтва фабрык і заводаў у цэнтрах гарадоў дазвалялася ў тым выпадку, калі яны не неслі небяспекі пажараў. Узвядзенне падобных будынкаў дазвалялася толькі ў тым выпадку, калі іх дах пакрываўся дахоўкай або іншымі негаручымі матэрыяламі [8, арк. 48]. Улічваючы гэтыя новыя правілы, узнікла неабходнасць распрацоўкі новага праектнага плана горада, які быў складзены ў 1849 г. [1, с. 180].

У сувязі з гэтым у першай палове XIX ст. тэмпы росту колькасці каменных будынкаў у горадзе былі большыя, чым драўляных. Калі ў 1825 г. у Гродне было 798 драўляных і 104 мураваныя дамы [2, с. 52], то ў 1859 г. тут было ўжо 1384 драўляных дамоў і 190 мураваных. Па колькасці каменных будынкаў у гарадах у сярэдзіне стагоддзя Гродна было на трэцім месцы пасля Мінска (376 мураваных дамоў) і Магілёва (261 мураваны дом) [5, с. 15]. Значныя змены адбыліся ў архітэктуры. У другой палове XIX ст. галоўнае месца ў архітэктуры займае грамадзянскае будаўніцтва. Развіццё капіталізму паўплывала і на побыт жыхароў. Палепшыліся будаўніцтва і канструкцыі драўляных дамоў жыхароў з прадмесцяў горада: з'явіліся зашклёныя вокны, каменныя падмуркі.

У другой палове XIX ст. у Гродне значнымі тэмпамі развівалася прамысловасць, пачала дзейнічаць чыгунка. Павялічыліся колькасць насельніцтва і тэрыторыя забудовы. Узмацнілася значэнне галоўнай магістралі, вуліц Дамініканскай і Раскоша, што вяла да новага элемента гарадскога грамадскага цэнтра — чыгуначнага вакзала, пабудаванага ў 1862 г.

З мэтай памяншэння колькасці парушэнняў Пажарнага статута губернскім архітэктарам Гур'евым у 1874 г. быў распрацаваны новы план горада [9]. Паліцыя абавязвалася наглядаць за яго выкананнем. Забаранялася пабудова драўляных дамоў. Іх рамонт дазваляўся толькі з дазволу губернатара, які абапіраўся на цыркуляр Міністэрства ўнутраных спраў. Што датычыць каменных дамоў, дык дазвол на іх будаўніцтва даваўся толькі Губернскім будаўнічым аддзелам [10, арк. 5 – 7].

Яшчэ ў 1865 г. член гродзенскай архітэктурнай камісіі Гур'еў меў свае прадстаўленні аб паляпшэнні супрацьпажарнай бяспекі. Галоўнай прычынай пажараў, на яго думку, было дрэннае ўладкаванне печаў і комінаў, якіх на той час у горадзе налічвалася каля 2700. Каля 5 % комінаў перараблялася штогод. Пры гэтым ніводны з жыхароў не звяртаўся за прафесійнай кансультацыяй да майстроў. У Гродзенскі будаўнічы камітэт таксама ніхто не звяртаўся за дапамогай, што не дазваляла кантраляваць, ці захоўваюцца правілы будаўніцтва [11, арк. 29].

Цыркулярам ад 4 верасня 1869 г. Міністр унутраных спраў даручыў стварыць спецыяльную камісію, усклаўшы на яе абавязак па разгледжанню пытання аб памяншэнні ліку пажарных выпадкаў, а таксама аб мінімалізацыі жудасных наступстваў, якія прыносілі пажарныя бедствы [12, арк. 7]. Для забеспячэння проціпажарнай бяспекі ў адносінах да гараджан Гродна ў тым жа годзе былі прыняты пастановы, якія абавязвалі мець пры кожным двары бочкі з вадою, асабліва ў летні час [13, арк. 30].

У зборніку абавязковых для жыхароў Гродна пастанаўленняў Гродзенскай гарадской думы размешчаны часовыя супрацьпажарныя правілы, якія дзейнічалі ў моц зацверджанай 26 красавіка

1871 г. пастановы Дзяржаўнага савета. У ёй былі пералічаны самыя неабходныя меры па пажарнай бяспецы: на стрэхах дамоў і іншых пабудоў мець пасудзіны з вадою, а для іх венікі або швабры; уладальнікі дамоў абавязваліся назіраць, каб усе дымавыя трубы ў іншых дамах былі заўсёды вычышчаныя; прадпісвалася не паліць (тытунь) у стайнях, на стрэхах – наогул у тых месцах, дзе гэта забаронена; забаранялася хадзіць з запаленай лучынай або свечкаю без ліхтара; рэчывы, якія адносяцца да тых, якія хутка ўспламяняюцца (порах, сера, смала, сена, лён і г. д.), не павінны захоўвацца на печах або ў іншых месцах, дзе могуць «падвергнуцца небяспецы ад агню». У дадатак да гэтага жыхары Занёманскага прадмесця і тых дамоў, у якіх адсутнічалі краны гарадскога вадаправода, абавязкова павінны былі мець бочкі, заўсёды напоўненыя вадою. Акрамя таго, на Занёманскім прадмесці трэба было мець у дварах швабры, крукі на месцах даўжынёю ў два сажані, спраўныя вёдры і сякеры, а ва ўсіх дамах, як горада, так і прадмесця, прыстаўныя драбіны, якія б даставалі да даху і верхняга паверху дома. Назіранне за выкананнем гэтых правілаў ускладвалася на выбраных Гарадскою думаю асоб, якія абавязваліся даводзіць да ведама Гарадской управы аб усіх заўважаных імі невыкананнях правілаў для «праследавання вінаватых законным парадкам» [14, арк. 3 – 5].

З мэтай папярэджання пажараў рашэннем Дзяржаўнай рады ад 16 чэрвеня 1873 г. было дазволена распрацоўваць і зацвярджаць у губернатара правілы аб мерах засцярогі ад пажараў, якімі вызначаліся нормы планіроўкі населеных пунктаў. Забаранялася пакрыццё стрэх саломаю пры новым будаўніцтве, хадзіць з агнём «без ліхтара па дварах і гаспадарчых пабудовах, паленне тытуню ў двары і гумне, сушка пянькі і льну ў хатах на печах і вынас незалітога прысаку на вуліцу або ў двор». У начны час забаранялася топка печаў. У кожным двары павінна была быць кадка з вадой на выпадак пажару. Пры перабудове старых і ўзвядзенні новых жылых дамоў печы павінны былі будавацца з комінам, які павінен быць вышэй страхі не менш чым на адзін аршын. Правіламі вызначаўся таксама парадак удзелу насельніцтва ў тушэнні пажараў [5, с. 22].

Тушэнне пажараў у горадзе значна палегчылася са з'яўленнем у 1876 г. вадаправода [15], які праклалі за ўласныя сродкі прадпрымальнікі Рыдынгер і Лалансо. Вадаправод забяспечваў вадою гарадскія вуліцы і прадмесці. Для гэтага былі пабудаваны на ўзвышаным месцы вадаёмы (рэзервуары), куды паравымі машынамі запампоўвалася вада з Нёмана, а адтуль размяркоўвалася па металічных трубах па вуліцах [16, арк. 2]. Аднак гарадское водазабеспячэнне не было ў стане забяспечыць неабходную колькасць вады для тушэння пажараў: хуткасць падачы вады на вулічных кранах складала 5 вёдзер у хвіліну [16, арк. 3]. Колькасць выкарыстоўваемай гараджанамі і прадпрыемствамі вады з кожным годам павялічвалася: у 1877 г. – 3 789 761 вёдзер, у 1878 г. – 4 378 960, а ў 1879 г. – 5 692 319. У 1877 г. на тушэнне пажараў было выкарыстана 5500 вёдзер, а ў 1879 г. – 27 000 вёдзер вады [17, арк. 3 – 4]. Вадаправод у Гродне меў шмат недахопаў. Так, паводле дамовы, заключанай паміж гарадскімі ўладамі і ўпраўленнем вадаправодам, адлегласць паміж вадаправоднымі кранамі не павінна была перавышаць 80 сажаняў (блізу 170 метраў), хаця на самай справе яна складала 180 – 200 сажаняў [18, с. 15].

Нягледзячы на прадпрынятыя дзяржаваю меры, будаўніцтва ў горадзе часта суправаджалася парушэннем планіроўкі, супрацьпажарных і будаўнічых норм. Будынкі будаваліся скучана, без неабходных супрацьпажарных разрываў. Таму ўлады надавалі важнае значэнне

правільнаму размяшчэнню пабудоў як адной з мераў памяншэння маштабаў пажараў. Цыркулярам гродзенскага губернатара ад 11 верасня 1879 г. на міравых пасрэднікаў ускладаўся абавязак назірання за прытрымліваннем Пажарнага статуту ў мястэчках. Яны павінны былі кожны месяц дастаўляць губернатару звесткі аб колькасці новабудоўлі, згарэлых дамоў, адбудаваных пасля пажару, а таксама аб выпадках парушэння Пажарнага статута [19, арк. 3]. 16 снежня таго ж года губернатар выдаў новы цыркуляр, у якім прасіў спраўнікаў больш не прысылаць такіх звестак, спадзеючыся, што яны самі будуць «назіраць за правільным прымяненнем нормаў статута» [19, арк. 11].

Адсутнасць належнай супрацьпажарнай абароны Гродна прывяла да катастрафічнага пажару, які адбыўся 29 траўня 1885 г. У выніку пажару згарэлі ўшчэнт вуліцы Купецкая, Паліцэйская, Гарохавая, Брыгіцкая, Пясочная, Дваранская, Жандармская, Дамініканская, Палявая, Падвальная, Валадарская, Каложская, Баніфратэрская, Сенная і іншыя [20, с. 89 – 90]. Ад пажару пацярпела 2392 сямейства з агульнай колькасцю 7105 чалавек. Загінуў 1 пажарны [2, с. 316 – 318], па іншых звестках, загінуўшых было 3 [20, с. 89]. Было спалена 139 каменных і 380 драўляных дамоў, 34 каменных і 331 драўляных халодных будынкаў – усяго, такім чынам, 884 пабудовы. Маёмасныя страты ўсіх пагарэльцаў склалі: у рухомасці – 1 083 428 руб. 70 кап. і ў нерухомасці – 1 857 130 руб. – усяго 2 940 558 руб. 70 кап. [20, с. 89 – 90]. Пажар садзейнічаў падняццю цэнаў на нерухомую маёмасць [21, с. 316 – 318].

Такім чынам, за разглядаемы перыяд улады Гродна не змаглі стварыць зладжанай сістэмы кантролю за будаўніцтвам і супрацьпажарным станам дамоў, што прывяло да пажару, які знішчыў амаль увесь гістарычны цэнтр горада.

Fires in the history of Grodno has repeatedly changed the architectural appearance of the city. The most severe fires of modern history, after which the city has changed drastically, had been «fire mystery» of 1655, 1753 and 1885. In this article the author examines the impact of regulations and orders of the city authorities of a fire at the construction of urban development in the period from the occurrence of Grodno in the Russian Empire and ending with a fire in 1885.

Спіс крыніц і літаратуры

1. Кишик, Ю. Н. Градостроительная культура Гродно / Ю. Н. Кишик. – Минск, 2007.
2. Госцеў, А. Кронан. Летапіс горада на Нёмане (1116 – 1990) / А. П. Госцеў, В. В. Швед; пад рэд. У. А. Богуша. – Гродна, 1993. – 330 с.
3. Якаўчук, В. І. Супрацьпажарная ахова беларускіх гарадоў у XIX ст. / В. І. Якаўчук // Беларускі гістарычны часопіс. – 2006. – № 6.
4. Наша история [Электронны рэсурс] / Централизация управления пожарной охраной. – Рэжым доступу: http://www.fireman.ru/myzei/istor1/istor4.htm. – Дата доступу: 12.06.2009.
5. Яковчук, В. И. Пожарная служба Беларуси: история развития / В. И. Яковчук. – Минск, 2005.
6. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродне (НГАБ у г. Гродне). – Ф. 1. – Воп. 2. – Спр. 897. Переписка об учреждении полицейской и пожарной части в г. Гродно в 1825 г.
7. Яковчук, В. И. Становление пожарной службы Витебщины в первой половине XIX в. / В. И. Яковчук // Веснік Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Сер. А, Гуманітар. навукі. – 2006. – № 1.
8. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродне (НГАБ у г. Гродне). – Ф. 8. – Воп. 1. – Спр. 149. Циркуляр Министра внутренних дел.
9. Лялевіч, Я. Ад Каложы да фартоў: гістарычная спадчына Гродна / Я. Лялевіч, І. Трусаў, А. Чарнякевіч //

Гісторыка-архітэктурны энцыклапедычны даведнік [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://fts.grsu.by/Portals/5/library/2/8.doc. – Дата доступу: 27.09.10.
10. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродне (НГАБ у г. Гродне). – Ф. 1. – Воп. 16. – Спр. 603. Дело за 1879 г. о приобретении двух пожарных машин для пожарной команды г. Бреста.
11. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродне (НГАБ у г. Гродне). – Ф. 8. – Воп. 1. – Спр. 1538. Дело за 1869 – 1875 гг., переписка с уездными предводителями дворянства о принятии мер к предотвращению пожаров в губернии.
12. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродне (НГАБ у г. Гродне). – Ф. 1. – Воп. 1. – Спр. 149. Циркуляр Министра внутренних дел.
13. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродне (НГАБ у г. Гродне). – Ф. 8. – Воп. 1. – Спр. 149. Дело об утверждении пожарных правил.
14. Сборник обязательных для жителей г. Гродно постановлений городской думы. – Гродно, 1871.
15. Grodno.by [Электронны рэсурс] / Хронология важнейших событий истории Гродно. – Рэжым доступу: http://www.grodno.by/grodno/history/2.html. – Дата доступу: 19.06.2009.
16. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродне (НГАБ у г. Гродне). – Ф. 875. – Воп. 1. – Спр. 6. Наряд об устройстве водопровода в г. Гродно.
17. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродне (НГАБ у г. Гродне). – Ф. 1. – Воп. 16. – Спр. 991. Дело о сборе сведений о количестве потребляемой воды жителями г. Гродно из водопровода 1880 г.
18. Любовский. Маленький фельетон / Любовский // Гродненские губернские ведомости. – 1905. – 10 июня.
19. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродне (НГАБ у г. Гродне). – Ф. 1. – Воп. 16. – Спр. 791. Дело за 1879 – 1880 гг. об улучшении деятельности пожарной команды в г. Кобрине.
20. Швед, В. Губернскі Гродна / В. Швед. – Баранавічы: Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня, 2003. – Частка 3.
21. Орловский, Е. Гродненская старина / Е. Орловский. – Гродно, 1910. – Часть 1.

Навуковы кіраўнік – ***С. У. Сілава***, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

УДК 94(476.6) (XIX ст.)

*Д. М. Краснапеўцаў*
*(Гродна, ГрДУ імя Янкі Купалы)*

## *ГІСТОРЫЯ КАЗЁННЫХ ВЁСАК ДУБІНЫ І НАВАСАДЫ Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX ст.*

Статья посвящена истории региона Дубины-Новосады в первой половине XIX в. Исследование проводится в рамках локальной истории, которая помогает глубже понять глобальные исторические процессы данного периода. Деревни Дубины и Новосады находятся на западе Беловежской Пущи, на территории бывшей Гродненской губернии. В первой половине XIX в. они принадлежали графам Ферзенам. В 1847 году владельцы продали поместье государству. Автором статьи на основе архивных материалов исследуются крестьянское землевладение жителей этих деревень и их повседневная жизнь.

Лакальны рэгіён Дубіны-Навасады знаходзіцца на заходняй мяжы Белавежскай Пушчы, на поўдні Падляшша, якое зараз уваходзіць у склад Рэспублікі Польшча. У XIX стагоддзі гэта была

Гродзенская губерня. У асноўным лясны край, перарэзаны невялікімі рачулкамі Нараўкаю і Лутоўнаю, якія ўтвараюць заліўныя сенажаці, ён складаецца з дзвюх вёсак – Дубінаў і Навасадаў. У першай палове XIX стагоддзя Дубіны з'яўляліся цэнтрам маёнтка – спачатку прыватнаўласніцкага, а потым дзяржаўнага. Гэта было сяло – населены пункт вясковага тыпу з праваслаўным храмам. Пасля адмены прыгоннага права (у дзяржаўнай вёсцы гэта адбылося ў 1867 годзе) мікрарэгіён увайшоў у склад новастворанай Масеўскай воласці, і Дубіны страцілі свой статус лакальнага цэнтра. Навасады знаходзяцца зусім недалёка ад Дубінаў і па памерах і колькасці насельніцтва не шмат уступаюць апошнім. Але ў Навасадах ніколі не было храма ці нейкага адміністрацыйнага цэнтра, што заўсёды вызначала іх падпарадкавальны статус. Акрамя названых пунктаў, у склад мікрарэгіёну ўваходзіў шэраг паселішчаў хутарскога тыпу, раскіданых па Пушчы. Недалёка таксама знаходзіцца Гайнаўка – зараз буйное мястэчка, а ў XIX стагоддзі – зусім невялікая вёсачка.

Вывучэнне гэтага мікрарэгіёну на працягу XIX стагоддзя дае магчымасць разгледзець падзеі той эпохі праз прызму так званай «лакальнай гісторыі», убачыць іх такімі, якімі бачылі жыхары дзвюх звычайных беларускіх вёсак.

У першай палове XIX ст. маёнткам Дубіны валодалі графы Ферзэны. На працягу амаль 20 гадоў, з 1813 па 1832 гг., яны судзіліся за маёнтак са спадчыннікамі генерал-ад'ютанта Якубоўскага. 25 красавіка 1832 года дзяржаўны Сенат сваім рашэннем канчаткова перадаў маёнтак Ферзэнам [1, л. 1]. Праўда, яны павінны былі выплаціць Якубоўскім грашовую няўстойку за Дубіны. Аднак з-за цяжкага фінансавага становішча Ферзэны не змаглі гэтага зрабіць, і Якубоўскія зноў падалі на іх у суд. 2 чэрвеня 1837 года Пружанскі павятовы суд пастанавіў перадаць Дубіны Якубоўскім, пакуль Ферзэны не выплацяць грошы. У апошніх знайшоўся моцны заступнік – паверáны куратар над маёнткамі графа тытулярны саветнік Антон Круповіч, які, як выглядае, меў сувязі ў Пецярбургу, бо пасля яго скаргі Сенат 15 чэрвеня 1838 года прыпыніў рашэнне Пружанскага павятовага суда, а Гродзенская грамадзянская палата 29 чэрвеня 1838 года пастанавіла вярнуць Дубіны Ферзэнам. Сама графіня Ферзэн на той момант знаходзілася ў Парыжы, таму маёнтак пад распіску прыняў нейкі дваранін Ваўкавыскага павета.

Верагодней за ўсё, Ферзэны сталі ўладальнікамі Дубінаў у 90-я гады XVIII ст. Першым землеўладальнікам з іх роду на гэтых землях быў рускі генерал граф Іван Ферзэн – асоба даволі знакамітая ў гісторыі. Паходзіў ён са старажытнага ліфляндскага дваранскага роду. Вызначыўся на рускай службе падчас войнаў з Турцыяй і атрымаў шмат узнагарод, змагаючыся побач з Суворавым. Але, мабыць, найбольшую карысць Расійскай дзяржаве прынёс ён, знаходзячыся ў Рэчы Паспалітай. У 1791 годзе ў чыне генерал-паручніка быў прызначаны камандуючым асобным корпусам у Літве. Ферзэн быў непасрэдным арганізатарам прарасійскай канфедэрацыі, якая выступіла супраць канстытуцыі 3 мая 1791 г., што ў выніку прывяло да другога падзелу Рэчы Паспалітай. Падчас паўстання Касцюшкі Ферзэн камандаваў рускімі войскамі ў бітве пад Мацяёвічамі, удзельнічаў у штурме Прагі, абяззброіў апошняе паўстанцкае войска Ваўжанецкага пад Кракавам. За ўсе гэтыя заслугі, акрамя шматлікіх узнагарод і графскага тытула, Іван Ферзэн атрымаў ад Кацярыны II 2 тысячы рэвізскіх душ на Літве, у ліку якіх, можна меркаваць, былі і жыхары Дубінаў.

Паўстанне 1831 г. не абмінула жыхароў Дубінаў і Навасадаў. Белавежская пушча сталася выдатным месцам для схові шча паўстанцкіх атрадаў. Таму ў тамтэйшых ваколіцах разгортваліся

вельмі важныя падзеі. Напачатку паўстання, яшчэ да прыходу падмацавання з Царства Польскага, частка паўстанцкіх атрадаў з Літвы і Беларусі накіравалася менавіта ў Белавежскую пушчу, каб там пазбегнуць сутычак з колькасна і якасна пераўзыходзячымі іх царскімі войскамі. Вось як піша пра гэта Д. Хлапоўскі ў сваёй кнізе «Wojna na Litwie w roku 1831»: «Gubernia Grodzienska najmnej brala udzialu w ogolnym ruchu, mlodziez bowiem uszla do Warszawy by wzmocnic szeregi walecnych. Pozostali skupili sie w puszczy Bialowiezkiej pod dowodztwem Ronkego i Schrotera nadlesniczych. Zeby ich sie pozbyc general Rozen odkomenderoval do puszczy generala Lindena, ktory tez 23 maja stanal pod wsia Hajnowszczyzna zaczaiwszy sie na powstancow. Kraj wiec caly sie uspokojal, powstaniec zakopywal swa bron,wracal do domy … » [2, с. 23].

Як бачна, пасля паражэння паўстання на Літве і ў Беларусі мясцовыя атрады былі рассеяныя царскімі войскамі, рэшта іх хавалася па лясах, у тым ліку і ў Белавежскай пушчы, дзе ў вёсцы Гайнаўка (зусім недалёка ад Дубінаў і Навасадаў) быў раскватараваны атрад рускага генерала Ліндэна. Але хутка сітуацыя змянілася карэнным чынам. З Царства Польскага на дапамогу мясцовым паўстанцам рушылі два атрады генералаў Хлапоўскага і Гелгуда. Шлях Хлапоўскага праходзіў праз Белавежскую пушчу: « … i pedzi dalej pod wies Hajnowszczyzna, pod ktora jak to widzielismy, general Linden z 2 batalionami, z 2 dzialami i z 2 szwadronami czatowal na znekanych w Bialowiezkiej puszczy powstancow. Dnia 23 maja jak piorun z jasnego nieba wpada nach general na Moskali, nie baczac ze est slabszym; w ednej chwili zdobywa wies, a wypadliszy z niej, komenderuje atak na skupiony za wsia battalion rosyjski. Ulani przyjec ogniem zawracaja, general ich dopada i wola: Jezeli nie rozbijece, to poddajcie sie Moskale przed wami i za wami. Naprzod, za mnaj wiara!

Batalion rosyjski rozbity. Konarski ze strzelcami dopada i zdobywa dzialo.Chlapowski porywa strzelcow za soba i prowadzi na drugi battalion, stojacy pod lasem. Maciej Mielzynski rownoczesnie rozbija ulanow rosyjskich, bierze do newoli majora i 5 oficerow. Batalion sypie gradem kul, pada smiertelne trafiony Jakob Grotkowski, pedzi wiec ze swemi dwoma armatami Czetwertynski i granatami zasypuje battalion, ktory sie lamie i zachyna cofac bialowiezka droga, lech majuz na karku strzelcow, ktory prawodzieny osobiscie przez swego generala coraz bardziej nacieraja nie zwazajac na straty. Tuz przy boku Chlapowskiego pada ciezko raniony granatem jego adjutant Gustaw Potworowski. General posyla rozkaz Czetwertynskiemy, aby rozpochal ogien na ucekajacy przed batalionem tryn. To skutkuje, granaty lamia powozki, zabijaja konie pociagowe, droga ostatnego ratunku zawaliona, wtiedy dopier Moskale przywiedzeni do ostatecznosci po bohaterskiej obronie ratuja sie uciekami w las, ostawiajac w reku zwyciezcow jedna armate, 400 jehcow, 11 oficerow i 1000 karabinow.

Teraz puszcza stala otworena. Do zwyciezcow przylaczyl sie Ronke z 200 powstancami proszac by go koniecznie zabrano poniewaz Moskale pojmawszy kilku jego ludzi, zmuszali ich do zdradzania jego kryjowek, a tak niezawodnie dostal by sie w ich rece; Jana Schrotera natomiast, oraz innych partyzantow, pozostawil general w puszczy» [2, с. 37 – 38].

Перамога Хлапоўскага над рускім атрадам пад Гайнаўкаю мела вельмі важнае стратэгічнае значэнне. Акрамя таго, што Пушча вызвалялася ад царскіх войскаў, адкрываўся шлях польскім войскам на Літву. Да таго ж такая бліскучая перамога мела таксама вялікае маральнае значэнне. Яна значна ўзняла баявы дух паўстанцаў. Але на Літве Хлапоўскі пацярпеў паражэнне пры спробе ўзяць Вільню, і яго разбітыя войскі, ужо пад кіраўніцтвам генерала Дэмбінскага, вярталіся тым жа шляхам,

праз Гайнаўку, у канцы ліпеня. Нідзе асабліва не затрымліваючыся, ратуючыся ад наступаючых рускіх, яны хутка выправіліся ў Царства Польскае. Так закончыліся баявыя дзеянні ў Белавежскай пушчы падчас паўстання 1831 г.

Пасля падаўлення паўстання 1831 года на тэрыторыі заходняга краю яшчэ доўгі час захоўвалася ваеннае становішча. Наступствам гэтага стала размяшчэнне вялікай колькасці войскау ў Гродзенскай губерні, на мяжы з Царствам Польскім. Невялікія армейскія аддзелы былі раскватараваныя па больш-менш буйных населеных пунктах – вёсках і мястэчках. Што такое жахі ваеннага пастою – для дарэформеннага селяніна не трэба было тлумачыць. Акрамя таго, што навакольныя жыхары павінны былі ўтрымліваць за свой кошт некалькі дзясяткаў чалавек, яны яшчэ цярпелі ўціск і здзекі ад вайсковага начальства і ад саміх салдатаў, бо, фактычна, самавольства вайскоўцаў было беспакараннае: яны не знаходзіліся пад юрысдыкцыяй цывільнай адміністрацыі, а вайсковае начальства глядзела на гэта скрозь пальцы.

2 жніўня 1832 года, калі ўпраўляючы маёнткам Дубіны графаў Ферзэнаў прыйшоў на палетак для таго, каб кіраваць працамі па ўборцы збожжа, ён убачыў зусім нечаканую для сябе карціну. На той частцы поля, дзе збожжа ўжо было прыбрана і на якую планавалася выпусціць гаспадарскую жывёлу, пасвілі сваіх коней некалькі дзясяткаў казакоў. Калі ўпраўляючы паспрабаваў выказаць свае прэтэнзіі іх камандзіру падпаручніку Сідорскаму, апошні пачаў яго абражаць і накінуўся на ўпраўляючага з кулакамі. Аканому нічога не заставалася, як адступіць. Затым казакі ўвогуле пусцілі сваіх коней на яшчэ няскошаныя сенажаці з канюшынай. Праз два дні, 4 жніўня, у Дубіны разам з Сідорскім прыехаў засядацель земскага суда Канюшэўскі. Відаць, яму якраз і было даручана раскватараванне войскаў у Пружанскім павеце. У адказ на скаргі ўпраўляючага на дзеянні казакоў ён заявіў апошняму, што «офицеру разрешено пасти лошадей где заблагорассудится» [3, л. 1]. 10 жніўня Канюшэўскі зноў прыехаў у Дубіны з загадам павятовага маршалка дваранства адвесці пад утрыманне коней казакоў луг. Упраўляючы папрасіў Канюшэўскага выбраць луг для коней самастойна. Тады Канюшэўскі выбраў тое самае поле, на якім пасвілі гаспадарскую жывёлу, і загадаў пад канвоем адпраўляць у Пружаны ўпраўляючага і пастухоў, калі яны надумаюць выгнаць на гэтае поле сваю жывёлу. Калі ўпраўляючы пачаў выказваць пратэст супраць такога рашэння, Канюшэўскі загадаў арыштаваць яго і пасадзіць пад аховай у хаце свяшчэнніка. Пры гэтым Сідорскі зноў спрабаваў з кулакамі накінуцца на ўпраўляючага. Пад арыштам аканом праседзеў цэлы дзень, з-за чаго адбыўся перапынак ва ўборцы збожжа – сяляне ў яго адсутнасць папросту не выйшлі на працу. Акрамя таго, упраўляючы закідаў Канюшэўскаму, што той настройваў сялянаў супраць яго. «Многие из них, и без того непокорные», пасля таго ўвогуле перасталі выконваць свае павіннасці. Сідорскі жа падчас пастою загадваў сялянам абавязкова прыносіць яму ежу з мясам, «коего у крестьян не имеется. Если же принесут без мяса, то просителям заливают глаза пищею». Акрамя таго, казакі для сваіх патрэбаў бралі ў сялянаў падводы. Дарэчы, Канюшэўскаму таксама закідалася, што ён браў сялянскія падводы для сябе і для сваёй жонкі, пры гэтым любіў хутка паездзіць – «жестоко загонял лошадей».

Засядацель у сваім рапарце намаляваў крыху іншую карціну. 2-гі эскадрон 6-га Маларасійскага казачага палка ў складзе 23 чалавек пад камандаваннем падпаручніка Сідорскага «был поставлен для наблюдения, дабы от границы Белостокской области бродяги не осмеливались

входить в Беловежскую пущу» [3, л. 6]. Першапачаткова яго планавалася раскватараваць у маёнтку Скупава. Але там не знайшлося неабходных для коней пашаў. Таму эскадрон тэрмінова перанакіравалі ў Дубіны, не папярэдзіўшы пра гэта мясцовага аканома. Пакуль пісалася распараджэнне пра гэта ў Пружанскага маршалка дваранства, Канюшэўскі самастойна загадаў пусціць коней на фальварачныя палеткі, бо іх трэба было нечым карміць. 10 жніўня ўпраўляючы адмовіўся паказаць яму палетак, які ён выдзяляе пад утрыманне казацкіх коней, таму ён дазволіў Сідорскаму пасвіць іх на палетку, пакінутым пасля ўборкі збожжа, забараніўшы выпускаць туды гаспадарскую жывёлу. Тады «управляющий начал в азартном виде дерзко ругать казаков и офицера», і Канюшэўскаму нічога не засталося, як пасадзіць яго пад хатні арышт на адзін дзень. Засядацель цалкам адкідваў тое, што ён якім-небудзь чынам падбухторваў сялянаў супраць аканома. 5 верасня, калі казакі нарэшце пакідалі Дубіны, Сідорскі прасіў упраўляючага выдаць яму квітанцыі за пастой, каб пасля дзяржава кампенсавала страты. Але той не толькі адмовіўся, але і сялянам забараніў гэта рабіць. Канюшэўскі зноў вымушаны быў ехаць у Дубіны і, сабраўшы сялянскі сход, спытаў, ці ёсць якія-небудзь скаргі на казакоў. Сяляне не скардзіліся, а пасля выдалі неабходныя квітанцыі Сідорскаму. Канюшэўскі апраўдваўся, што падводы ў сялянаў браў толькі для справы, «никогда жестоко не гонял, а ехал как следует, по-хозяйски, под проезд для моей жены никогда ни одной даже лошади не брал».

Цяжка сказаць, на чыім баку – засядацеля ці аканома – тут была праўда, але відавочна, што пастой казакоў даставіў мала радасці жыхарам Дубінаў. Да таго ж, на гэтым усё не закончылася. Яшчэ праз шэсць гадоў, у 1838 годзе, графіня Ферзэн прасіла віленскага генерал-губернатара вызваліць Дубіны ад вайсковага пастою, «от стеснения коего жители доведены до такой крайности и бедности, что не только не в состоянии уплачивать подати, но даже лишены дневного пропитания» [4, л. 1]. Праўда, Пружанскі маршалак дваранства абвяргаў скаргі графіні, адзначаючы ў якасці аргументаў, што вайсковы пастой распаўсюджаны не толькі на маёнткі ў Белавежскай пушчы, але і ў суседнім Ваўкавыскім павеце, і што сяляне Дубінаў своечасова плацяць казённыя падаткі [4, л. 3]. На той час у Дубінах знаходзіўся ротны двор – спецыяльнае выдзеленае памяшканне ў сялянскай хаце, дзе пражываў камандзір роты і знаходзіліся зброя і абмундзіраванне. Акрамя таго, у Дубінах было раскватаравана каля 30 салдатаў. Паверанны куратар над маёнткамі графа Ферзэна Антон Круповіч адзначаў, што «нередко ротный командир занимает и господский двор под свое помещение, а скопление солдат мешает экономическим распоряжениям и угрожает опасностью всему имуществу» [4, л. 19]. Ён прапаноўваў перанесці ротны двор у мястэчка Нараўка, дзе для гэтага мелася спецыяльна пабудаванае памяшканне, а салдатаў размеркаваць па іншых маёнтках. Вайсковы пастой у Дубінах закончыўся разам са скасаваннем ваеннага становішча ў заходнім краі.

У 1847 годзе ўладальнікі маёнтка Дубіны графы Ферзэны, відаць з цяжкага фінансавага становішча, вырашылі прадаць яго дзяржаве. На той момант уладальнікамі маёнтка лічыліся ўдава графа Карла Ферзэна Шарлота Еўстаф'еўна Ферзэн і два яе сыны: сапраўдны дзяржаўны дарадчык Павел Карлавіч Ферзэн і адстаўны калежскі рэгістратар Густаў Карлавіч Ферзэн, які на момант заключэння здзелкі аб продажы знаходзіўся ў Парыжы [5, л. 1]. Дубіны яны прадалі Міністэрству дзяржаўных маёмасцей разам з сваім маёнткам Пужыцы ў Брэсцкім павеце. Па дамоўленасці

дзяржаўным ведамствам было заплачана па 105 рублёў за кожную рэвізскую душу, як таго і патрабавалі Ферзэны. Акрамя таго, былым уладальнікам пакінулі 8 асобаў дваравых сялянаў (з Дубінаў гэта былі Купрыян Кайло і дзеўка Пелагея Аляксееўна Грабенка), усіх авечак-мерыносаў і вінакурныя заводы, якія на той момант знаходзіліся ў маёнтках і не падлягалі выкупу. Мерыносаў уладальнікі павінны былі неадкладна вывезці з маёнткаў, а вінакурныя пабудовы ліквідаваць да 1 ліпеня 1848 года. Агульная сума здзелкі за два маёнткі склала 70 665 руб. Пры прыёме маёнтка ў дзяржаўную казну з сялянаў здымаліся ўсе нядоімкі, якія яны назапасілі, выплачваючы былым уладальнікам аброк, а таксама ўсе магчымыя штрафы, як прыкладам, за парубку панскіх лясоў [5, л. 27].

Як відаць, становішча жыхароў Дубінаў на момант перадачы маёнтка ў дзяржаўнае ведамства было не найлепшым. Неўраджаі сярэдзіны 40-х гадоў XIX ст., якія пракаціліся па ўсім заходнім краі Расійскай імперыі, не маглі не закрануць Пружанскі павет. У 1845 – 1846 гг., калі маёнткам валодалі яшчэ Ферзэны, дзяржава выдзеліла сялянам Дубінаў у якасці матэрыяльнай дапамогі 350 рублёў [5, л. 28]. У дадатак у 1844 годзе ў Дубінах згарэў млын, які пасля быў адбудаваны ў суседніх Навасадах.

Пры прыёме маёнтка ў казну ўзніклі пэўныя цяжкасці, бо Ферзэны, яшчэ да продажу маёнтка дзяржаве, заключылі арэндную дамову ажно да 1857 года з нейкім Кушалем. У выніку апошні зусім нечакана для дзяржаўных чыноўнікаў прадаставіў кантракт на валоданне Дубінамі. Пасля доўгіх перамоваў Кушалю было дазволена арандаваць Дубіны да 1851 года, да ўвядзення аброчнага становішча, з тым, каб ён выплачваў дзяржаве 3 тысячы арэндных рублёў у год [5, л. 115].

Адразу пасля продажу маёнтка Ферзэнамі дзяржаве ў Дубінах нічога не змянілася. Сяляне працягвалі выконваць тыя ж павіннасці, што і пры былых уладальніках, толькі на гэты раз на карысць памешчыка Кушаля. Толькі ў 1851 годзе, калі закончыўся кантракт апошняга, Дубіны перайшлі ў непасрэднае валоданне Гродзенскай палаце дзяржаўных маёмасцей. Землямерам Дзідрыхсонам была праведзена і складзена новая люстрацыя маёнтка. Па-першае, сяляне канчаткова пераводзіліся з паншчыны на пазямельны аброк, што, безумоўна, задавальняла сялянаў. Па-другое, быў праведзены новы перадзел зямлі паміж сялянскімі гаспадаркамі.

Аднак канчатковы варыянт люстрацыйнага праекта атрымаў невялікія змены. Міністэрства дзяржаўных маёмасцей у Пецярбургу, якое зацвярджала люстрацыю, высунула шэраг удакладненняў [5, л. 102]:

1. павялічыць аброк з участка да 8 руб. 1 1/3 кап., а з рэвізскай душы – да 2 руб. 51 кап., у выніку чаго прыбытак з маёнтка павінен скласці 1588 руб. 86 ½ кап. і павялічыцца супраць арэнднага на 7 %;

2. паменшыць грамадскую раллю і гэтую зямлю залічыць у лік вакантнай;

3. частку непрыдатных земляў 42,12 дзес. залічыць да леса і пакінуць пад запусценне;

4. 46,97 дзес. непрыдатных зямель пад дарогамі перамераць, таму што ў Міністэрства ўзніклі сумненні з прычыны такой вялікай колькасці дарог у маёнтку;

5. прыняць вышэйшыя замест ніжэйшых кошты за чвэрць збожжа па 1 руб. 80 кап. і за пуд сена лугавога – 6 кап., балотнага – 4 кап.

Відавочна, што чыноўнікі ў Пецярбургу, седзячы на месцы, хацелі «выціснуць» як мага

больш грошай з дзяржаўных уладанняў, не лічачыся з мясцовымі абставінамі і са становішчам у гэтых маёнтках. Пытанне сялянскага дабрабыту іх хвалявала мала. Іншая справа – мясцовыя дзяржаўныя чыноўнікі – землямеры, люстратары і г.д. Выязджаючы на месца правядзення люстрацыі, яны не маглі не заўважаць сялянскай беднасці, таму часам у змаганні «сяляне-дзяржава» прымалі першы бок, дабіваючыся хоць якіх-небудзь саступак на іх карысць. Таму не выглядае дзіўным, што Гродзенская палата дзяржаўных маёмасцей павяла барацьбу з Міністэрствам за першы пункт паправак у люстрацыю. І землямер, і люстратар у сваіх справаздачах у Міністэрства выказаліся, што павелічэнне аброка будзе «непасільнаю ношаю» для сялянскіх гаспадарак і прывядзе іх у «зусім гаротны стан» [5, л. 104, 107]. Адносна іншых паправак было зазначана [5, л. 152]:

1. грамадская ралля паменшана;

2. прынятая вышэйшая мера кошту;

3. непрыдатныя землі немагчыма звярнуць пад лес, таму што «знаходзяцца ў раздробленых частках сярод сялянскіх надзелаў і зусім не прымыкаюць да лесу»;

4. «дарог лішніх у маёнтку не маецца, таму пакінуць іх колькасць без зменаў, шырыня іх складае 576 кв. сажняў».

У выніку Міністэрству нічога не заставалася як прыняць умовы Гродзенскай палаты [5, л. 157].

Ці выйгралі сяляне Дубінаў ад новай люстрацыі? Безумоўна, што перавод з паншчыны на аброк быў для іх карысны. Цяпер цалкам можна было працаваць на сваёй уласнай гаспадарцы, не адцягваючы ўвагу на памешчыцкія землі, як раней. Таму прыбытковасць гаспадарак павінна была павялічыцца. Але вось ад передзелу зямлі сяляне, як выглядае, чакалі большага. Жыхары Дубінаў скардзіліся, што землямер Дзідрыхсон надзяліў на кожнага гаспадара па 9 дзес. ворыўнай і па 1 дзес. сенакоснай зямлі (ёсць сведчанні чыноўнікаў, што жыхары Навасадаў увогуле атрымалі толькі па 0,2 дзес. сенакосаў на двор [5, л. 52], «пры гэтым зямлю аддаў самую пясчаную, што нават зарабіць нельга і жыць няма за што, а сенакосныя лугі перададзены самыя кепскія, якія ніхто ніколі не касіў, і не памятаюць нават, каб хто-небудзь іх калі касіў». Зямля, якую сяляне раней выкарыстоўвалі, была перададзена часткова свяшчэнніку Якаву Паўловічу, а часткова пакінутая пад ферму. Сяляне прасілі вярнуць ім старую зямлю, надзяліць іх больш за 9 дзес. ворыва і памяняць сенакосы, свяшчэнніку пакінуць старую зямлю, а тую, якая планавалася пад ферму, аддаць ім у аброчнае карыстанне. Больш за тое, яны патрабавалі нават зняць ураджай азімых 1850 – 1851 гг. арандатара Кушаля, быццам гэта не яго хлеб, а пасаджаны сялянскім насеннем [5, л. 104].

Самым вострым стала пытанне сенакосаў. Дубіны знаходзіліся пасярод Белавежскай пушчы. І калі якасць ворыўных земляў пакідала жадаць лепшага, то сенакосы ўвогуле былі дрэннай якасці, дробныя і раскіданыя па розных кварталах лесу. Акрамя таго, сялянскія землі амаль з усіх бакоў былі абкружаныя землямі Белавежскага ўдзельнага ведамства і Пружанскага лясніцтва. Гэта быў значны фактар, які на працягу ўсяго XIX ст. вызначаў адносіны паміж жыхарамі Дубінаў і дзяржавай. Бо землі, якімі хацелі валодаць сяляне, у пераважнасці былі добрымі сенакосамі, належалі менавіта ляснному ведамству. А апошняе зусім не жадала страчваць свае землі. Таму барацьба сялянаў за паляпшэнне свайго становішча праз надзяленне хоць бы лепшымі сенакосамі

цягнулася не адно дзесяцігоддзе.

Гродзенская палата праз Міністэрства дзяржаўных маёмасцей дабілася, каб Белавежскае ўдзельнае ведамства выдзеліла са складу сваіх земляў для жыхароў Дубінаў 160 дзес. сенакосаў, што павінна было павялічыць сярэдні надзел сенакосу на двор да 1,5 дзес. і хоць крыху палепшыць становішча гаспадароў. Праўда, непасрэдна сялянам было перададзена толькі 120 дзес. Астатнія сенакосы адышлі Дубінскай праваслаўнай царкве [5, л. 117]. Аднак сенакосы гэтыя знаходзіліся ва ўрочышчах Дзярліч-балота, Кабыліная Шэя, Лютоўня, Чарлёнка, Катова, Стары Брод і Шацкае, былі дрэннай якасці і размешчаны далёка адно ад аднаго, таму сяляне Дубінаў прасілі памяняць іх на агульны масіў сенакосаў ва ўрочышчы Лютоўня [5, л. 131].

23 лютага 1859 года сялянам Навасадаў былі замененыя сенакосы, як яны таго прасілі яшчэ ад 1857 года ў сувязі з іх раскіданасцю і цалкам дрэннай якасцю ва ўрочышчах Чарлёнка, Вялікія Груды, Дзерліч-балота, Кабыліная Шэя і Катова ў колькасці 51,98 дзес. на аналагічныя ва ўрочышчы Баршчова. Цяпер на адзін двор прыходзілася ад 0,56 да 1,13 дзес. сенакосаў [6, л. 15]. Аднак сяляне, атрымаўшы сенакосы ва ўрочышчы Баршчова, сталі дабівацца, каб ім таксама пакінулі сенакосы ва ўрочышчах Катова і Вялікія Груды, дзе яны, як відаць, былі нядрэннай якасці, бо сяляне Дубінаў таксама намагаліся атрымаць сенакосы ва ўрочышчы Катова замест сваіх сенакосаў на Дзерліч-балоце. Спецыяльная камісія пацвердзіла дрэнную якасць сенакосаў на Дзерліч-балоце, адзначыўшы, што сярэдні памер сенакосаў на двор не перавышае 1,5 дзес. у Дубінах, што вельмі мала для сялянскай гаспадаркі [6, л. 18]. Камісія пастанавіла ўзамен сенакосаў на Дзерліч-балоце выдзеліць сялянам Дубінаў 126,5 дзес. Але ад 42,19 дзес. сяляне адмовіліся, таму што гэтыя землі знаходзіліся занадта далёка – «над ракою Нараўкаю» [6, л. 19]. Пазней тыя землі былі далучаныя да маёнтка Белавеж. Цікава, што ў першую чаргу правам надзялення сенакосамі карысталіся агароднікі, бабылі і кутнікі. Гэтыя меры крыху зменшылі напружанасць, але пытанне як пракарміць хатнюю жывёлу на тыя нешматлікія кавалкі сенакосаў, па-ранейшаму заставалася надзённым для жыхароў Дубінаў.

На рубяжы 50 – 60-х гг. XIX ст. у дзяржаўнай вёсцы адбываліся значныя змены. Урад, занепакоены нізкай рэнтабельнасцю казённых зямель, шукаў новыя шляхі для павелічэння прыбыткаў. Адной з мер, якая, на думку царскіх чыноўнікаў, павінна была палепшыць становішча ў дзяржаўных землеўладаннях, бачылася рэарганізацыя фермаў з наступнай іх перадачай у арэнду. Фермы ствараліся па вобразу былых фальваркаў, якія былі ліквідаваныя ў дзяржаўнай вёсцы па рэформе графа Кісялёва ў 40-я гады XIX ст. Землі пад ферму набіраліся з ліку запасных і вакантных, якія пуставалі, таксама ліквідавалася грамадская ралля. А там, дзе гэтага не хапала, зямлю забіралі ў сялянаў. Таму можна пагадзіцца з меркаваннямі гісторыкаў, якія называюць стварэнне фермаў «контррэформамі» [7, с. 99 – 100]. У развіцці аграрных адносін гэта сапраўды быў крок назад. Але дзяржаўных чыноўнікаў і перш за ўсё міністра дзяржаўных маёмасцей М.М. Мураўёва хвалявала больш напоўненасць казны грашыма, чым становішча сялянаў.

Для арганізацыі фермаў у 1859 годзе была праведзена паверачная люстрацыя маёнткаў. Аналіз дакументаў гэтай люстрацыі дае магчымасць прасачыць змены, якія адбыліся ў Дубінах пасля першай люстрацыі.

Такім чынам, люстрацыя 1859 года зафіксавала ў Дубінах [8, л. 1 – 2]:

- зямлі, прыдатнай для земляробства – 1521,66 дзесяціны;
- пад аброчнымі артыкуламі – 1,64 дзес.;
- непрыдатнай – 104,91 дзес.;
- пад лесам – 68,65 дзес.;
- царкоўнай – 113,2 дзес.

З ліку прыдатных зямель:

- у сялян – 1280,33 дзес.;
- у «старонніх» людзей – 14 дзес.;
- запасной – 197,33 дзес. (3 з паловай запасныя ўчасткі і агарод пры вёсцы Навасады – 38,75 дзес., вольная зямля пры былым фальварку Дубіны – 118,33 дзес. і агарод у Навасадах, які застаўся пасля выбылага селяніна ў палову дзесяціны);
- пад грамадскай раллёю – 30 дзес.

Як бачна, колькасць апрацоўваемых сялянамі зямель павялічылася прыкладна на 127 дзес. Гэтымі «лішнімі» дзесяцінамі былі ўсё тыя ж сенакосы, перададзеныя ўдзельным ведамствам. Частка з іх была аднесеная да ліку непрыдатных земляў, што яшчэ раз сведчыць пра іх дрэнную якасць.

Колькасць сялянскіх двароў у дзвюх вёсках у 1859 г. зменшылася ў параўнанні з папярэдняй люстрацыяй і склала 93, як зменшылася і колькасць рэвізскіх душ мужчынскага полу – 302 чалавекі супраць 340 у 1851 годзе. Сюды трэба таксама дадаць 5 двароў «старонніх людзей» і 3 двары агароднікаў, у якіх налічвалася 7 душ мужчынскага полу [8, л. 3 – 4]. Пад «староннімі людзьмі» часцей за ўсё выступалі адстаўныя салдаты, якія пасля 25 гадоў службы вярталіся ў родную вёску. Дзяржава забяспечвала іх зямельным надзелам (звычайна агародным), за які яны грошай не плацілі. Фармальна яны знаходзіліся па-за сялянскай абшчынай, таму ў перапісах і люстрацыях фігуравалі асобна. Але нават калі дадаць агароднікаў і адстаўных салдатаў, усё роўна колькасць двароў у маёнтку будзе значна меншай, чым у 1851 годзе. Тут няма ніякай мясцовай анамаліі. 50-я гады XIX ст. адзначаюцца агульным дэмаграфічным спадам у Гродзенскай губерні, як і ў астатніх губернях рэгіёну [9, с. 48], што было выклікана дзвюма прычынамі: частымі неўраджаямі і, галоўнае, Крымскай вайною, якая забірала з вёсак рэкрутаў і харчаванне для арміі, у выніку пагаршаючы і без таго не найлепшае становішча сялян.

Вынікам скарачэння колькасці насельніцтва стала змяншэнне колькасці хатняй жывёлы, якую ўтрымлівалі сяляне. У 1859 г. у гаспадароў налічвалася 261 галава рабочай жывёлы, 248 галоў буйной жывёлы і 517 дробнай [8, л. 5]. Параўнанне з люстрацыяй 1851 г. дазваляе адзначыць невялікі рост першых дзвюх і велізарнае змяншэнне апошняй лічбы – ажно на 442 галавы.

Люстрацыя засведчыла, што сяляне ніякімі іншымі хатнімі промысламі не займаюцца, і ацаніла іх становішча як пасрэднае. Гэтае меркаванне пацвярджаюць наступныя лічбы. З моманту пераводу іх на аброчнае становішча ў 1851 годзе сяляне ўжо паспелі нарабіць нядоімак на суму 122 рублі 76 капеек. У вясковым магазіне па стану на 1 чэрвеня 1859 г. налічвалася азімага і яравога жыта 191 24/64 чвэрцей, а ў ссудзе – 561 35/64 чвэрцей і нядоімка – 200 25/64 чвэрцей. Сяляне Дубінаў сеялі ў асноўным збожжа і толькі невялікую колькасць пшаніцы, а з ярыны – ячмень, авёс, гарох і грэчку. Асобнаю заўвагаю пазначана, што землі кепска ўгноены, сяляне ў стане ўгнойваць толькі

агародныя землі [8, л. 6 – 7].

Люстрацыя зафіксавала таксама ў маёнтку дзве карчмы і фруктовы сад.

Паверачная камісія пастанавіла стварыць ферму Дубіны за кошт свабоднай зямлі ў фальварку (118,33 дзес.) і грамадскага засеўку (30 дзес.). Запасныя ўчасткі пры Навасадах (38,75 дзес.) залічваліся ў надзел сялянам, якія на той момант валодалі імі. Запасныя агароды пакідаліся для будучых адстаўных салдат (стандартны памер агарода ў той час складаў палову дзесяціны) [8, л. 11].

Як бачна з класіфікацыі, землі фальварка не вызначаліся высокай ураджайнасцю. У сялян Дубінаў знаходзілася 31 дзесяціна сядзібнай зямлі. Ворыўных земляў налічвалася: 97,5 дзес. пасрэднай II ступені (яна давала прыбытку 163 фунта збожжа), па 195 дзес. пасрэднай III ступені (136 фунтаў) і худой I ступені (89 фунтаў), 97,5 дзес. худой II ступені (67 фунтаў). Мурожныя сенажаці (пасрэдныя – 60 пудоў сена з 1 дзесяціны) налічвалі 65,65 дзес., балотныя (пасрэдныя – 60 пудоў) – 14,3 дзес., балотныя-худыя (30 пудоў) – 17,55 дзес., пашы – 70,61 дзес. [8, л. 8].

У Навасадах у сялян было 22 дзесяціны сядзібнай зямлі, ворыўнай – 69 дзес. пасрэднай II ступені, па 138 дзес. пасрэднай III ступені і худой I ступені, 69 дзес. худой II ступені. Сенажацяў мурожных пасрэдных 17,02 дзес., мурожных худых (30 пудоў сена з 1 дзесяціны) – 29,44 дзес., балотных пасрэдных – 10,12 дзес., балотных худых – 12,42 дес., пашы – 34,22 дзес. [8, л. 9].

Ферма Дубіны налічвала 7,36 дзес. сядзібнай зямлі, ворыўнай – 37,5 дзес. пасрэднай II ступені і па 18,75 дзес. пасрэднай III ступені і худой I ступені; 13,34 пасрэдных мурожных сенажацяў і 22,63 дзес. пашы. Ворыўныя землі грамадскай засеўкі былі размеркаваныя камісіяй па 10 дзес. паміж пасрэднай II і III ступені і худой I ступені [8, л. 10].

Паверка 1859 года крыху падбавіла сялянам зямлі – 42 з паловай дзесяціны – так, што сярэдні памер надзела на душу павялічыўся ў параўнанні з 1851 годам на 0,57 дзес. і склаў 4,31 дзес. Трэба адзначыць, што гэтая лічба атрымалася не толькі ў выніку павелічэння надзелаў, але і ад агульнага скарачэння насельніцтва маёнтка. Паверачная камісія таксама павялічыла сялянам зямельны аброк. Цяпер ён складаў 1213 рублёў 72 капейкі з усіх сялян (з адной рэвізскай душы планавалася збіраць па 3 рублі 95 капеек у год). Агульны прыбытак ад маёнтка (сялянскі зямельны аброк + прыбытак ад фермы) павінен быў скласці 1884 рублі 12 капеек [8, л. 12].

Аднак камісія пастанавіла, што «існуючы зямельны аброк пры недастатковым угнаенні зямлі неабходна прызнаць абцяжарваючым для сялян», і таму зменшыла яго на 20 % на 3 гады. Па гэтай прычыне рэальны аброк склаў 3 рублі 16 капеек, а чысты прыбытак з маёнтка – 1641 рубель 38 капеек [8, л. 13].

Як бачна, нягледзячы на рэарганізацыю маёнтка і стварэнне фермы, цяжар падаткаў на сялян не толькі не зменшыўся, але нават павялічыўся. Зямельны аброк па-ранейшаму складаў ільвіную долю прыбыткаў казённага маёнтка. Самае цікавае, што з астатняй сумы самы вялікі прыбытак прыносілі корчмы ў Дубінах і Навасадах – 469 рублёў, да якіх прымыкаў дубінаўскі фруктовы сад (6 рублёў 50 капеек у год). А новаўтвораная ферма павінна была даваць толькі 130 рублёў 35 капеек. Рэшта сумы размяркоўвалася паміж аброкам з адстаўных салдатаў, запасных зямель і 10 бабылёў. Камісія спрабавала прымусіць сялян Дубінаў і Навасадаў выдзеліць бабылям частку сваіх зямель, каб тыя займелі ўласныя ўчасткі, але сяляне наадрэз адмовіліся рабіць гэта [8, л. 12].

Пад ферму былі вызначаныя дом, гумно, склеп, свіран, хлеў, стайня. Паверка таксама вызначыла новую павіннасць на асушэнне палёў і сенажацяў па 5 дзён з цяглага двара ў год. Цікавай выглядае прапанова камісіі падзяліць землі маёнтка на пэўную колькасць надзелаў для сялянскіх сем'яў («асабнякоў») і згодна з гэтым правесці каланіяльную перабудову вёсак на працягу наступных 12 гадоў [8, л. 15]. Фактычна прапановай прадугледжвалася рассяленне вёскі па невялікіх калоніях з мэтай стварэння ўстойлівых аднаасобніцкіх сялянскіх гаспадарак, г. зн. тое, што пачалося ў дзяржаўнай вёсцы ў другой палове XIX ст. Прапанова камісіі значна апярэджвала свой час, аднак у гэтым няма нічога дзіўнага. Царскія чыноўнікі разумелі неабходнасць рэфармавання казённага землеўладання і паступова прыходзілі да думкі аб непазбежнасці надзялення сялян зямлёю ў той ці іншай форме дзеля таго, каб захаваць само землеўладанне.

The article is devoted to the history of Dubiny-Novosady district in the first half of the 19th century. The research is held within the local history which helps understand global historic processes it the period. Dubiny and Novosady villages are situated in the west of Belavezhskaya Pushcha, on the territory of the former Grodno region. In the first half of the 19th century they beonged to the count Ferzens. In 1847 the owners sold the estate to the state. The author of the article studies the peasant landowning and the everyday life of the villagers on the basis on the files.

Спіс крыніц і літаратуры

1. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродне (НГАБ у г. Гродне). – Ф. 1. – Воп. 11. – Спр. 402.
2. Chlapowski, D. Wojna na Litwie w roku 1831 / D. Chlapowski. – Parys, 1833.
3. НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. – Воп. 10. – Спр. 183.
4. НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. – Воп. 4. – Спр. 858.
5. НГАБ у г. Гродне. – Ф. 31. – Воп. 2. – Спр. 663.
6. НГАБ у г. Гродне. – Ф. 31. – Воп. 2. – Спр. 2568.
7. Гісторыя сялянства Беларусі. Т. 2: Ад рэформы 1861 г. да сакавіка 1917 г. / пад рэд. В.П. Панюціча. – Мінск: Бел. навука, 2002.
8. НГАБ у г. Гродне. – Ф. 31. – Воп. 2. – Спр. 1880.
9. Улащик, Н. Н. Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии / Н.Н. Улащик. – М.: Наука, 1965.

Навуковы кіраўнік – ***Г.М. Семянчук,*** кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

УДК 728.6 (476) + 947.6

*С. Л. Раманаў*
*(Гродна, ГрДУ імя Янкі Купалы)*

***АРХІТЭКТУРА І ТАПАГРАФІЯ МЯСТЭЧКА СВІСЛАЧ У XIX ст.***

Статья посвящена проблеме изучения архитектуры и топографии местечка Свислочь в XIX веке. Исследование включает в себя вопросы планировки гражданского и культового строительства, внешнего архитектурного облика и внутреннего интерьера зданий местечка Свислочь. В работе описываются и анализируются процессы создания и функционирования уличной сетки в ракурсе исторического развития местечка конца XVIII – XIX вв. Исследование имеет большое значение в рамках изучения культурной проблематики местечек Гродненщины.

Звяртаючыся да праблемы вывучэння матэрыяльнай культуры мястэчак Беларусі ў XIX ст., патрэбна дакладна ўяўляць сабе становішча і спецыфіку яе развіцця на канкрэтным лакальным узроўні. Асабліва шмат даследчыку можа падказаць архітэктура, якая не толькі адлюстроўвала знешняе аблічча мястэчка, але і сведчыла аб яго пэўнай культурна-цывілізацыйнай прыналежнасці.

Разгляд пытанняў, прысвечаных знешняму архітэктурнаму выгляду Свіслачы ў XIX ст., лагічна было б пачаць з вывучэння працэсаў складвання тапаграфічнай сеткі мястэчка ў XVI – XVIII стст. Аднак такі падыход наўрад ці будзе магчымым і мэтазгодным, паколькі дадзены перыяд пакінуў па сабе надзвычай няшмат крыніц. Другая праблема, якая не дазваляе пайсці такім шляхам даследавання, заключаецца ў тым, што ў 1782 г. мястэчка Свіслач было цалкам перабудавана яго ўладальнікам В. Тышкевічам [12, с. 28]. Такі значны паварот у развіцці тапаграфічнай структуры паселішча быў выкліканы шматлікімі зменамі ў эканамічным і палітычным жыцці Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст. Інтэнсіфікацыя гандлёвых і вытворчых сувязяў, колькасны і якасны рост местачковага рамяства, а таксама пераарыентацыя яго на рынак адпаведным чынам паўплывалі на планіровачнае развіццё мястэчак, многія з якіх набываюць дастаткова развітую плошчава-вулічную структуру. Мястэчкі Беларусі, такім чынам, паступова страчвалі сваю сярэднявечную аднатыпнасць. На прыкладзе Свіслачы гэтая новая рыса праявілася праз замену паўхаатычнага радыяльнага прынцыпа забудовы на квартальны прынцып.

Пасля перабудовы мястэчка Тышкевічам у 1782 г. планіровачная структура Свіслачы адпавядала гатычнаму стылю: у забудове пераважаў лінейны характар, вуліцы прымыкалі да плошчы па датычнай і сыходзіліся да рагоў рынка такім чынам, што працягам аднаго з бакоў вуліцы з'яўлялася адна з ліній забудовы рынку [11, с. 313]. Вулічная сетка мястэчка мела магістральны характар і несла ў сваіх элементах семантыку геаграфічных напрамкаў. Цэнтральнае месца ў паселішчы займала плошча, вядомая таксама як Рынак або Гімназічны пляц. Акрэсленне «Гімназічны пляц» фактычна датычылася ўсёй плошчы, але магло таксама выкарыстоўвацца як азначэнне толькі заходняй яе часткі, прылягаючай да гімназічнага ансамбля.

Цікавым выглядае архітэктурнае аблічча мястэчка ў мемуарах сучасніка тых падзей Леана Патоцкага. «Хто добра натросся і не раз выкуліўся на самых горшых дарогах у нашым краі, хто пазнаёміўся з мясцінамі, дзе развальваюцца дамы, якія так мала розняцца ад мужыцкіх халупаў, хто ў

жыдоўскіх корчмах паспытаў холаду, голаду, бруду і невыгоды, той будзе вельмі здзіўлены, апынуўшыся на Свіслацкай зямлі. А едучы па роўным гасцінцы, абсаджаным дрэвамі, забяспечаным бар'ерамі, і ўязджаючы ў акуратна і прыгожа збудаваны горад, які ўтрымліваюць чыста і ахайна, забудзе на хвіліну, што знаходзіцца ў Польшчы, і перанясецца ў думках на берагі Эльбы або Рэйна, калі, вандруючы, неаднаразова паўтараў, уздыхнуўшы: «Чаму ў нас не так, як тут ?..» … Вінцэнт Тышкевіч атрымаў Свіслач ад бацькі. Малы, бясформенны і брудны гарадок перабудаваў нанова, заклаў галандскага кшталту парк, перарэзаў яго каналамі і заснаваў вялікі заасад. Застаўся толькі стары драўляны палац, адзіная пасля Крышпінаў спадчына, і старэйшыя за яго ліпы, што, як кажуць, памятаюць лепшыя часы. У самай сярэдзіне горада быў квадратны рынак, аздоблены спічастаю пірамідаю, што завяршалася доўгім пазалочаным шпілем. Вялі да яго з чатырох бакоў шырокія, пад шнур выцягнутыя вуліцы, забудаваныя ладнымі дамамі, пакрытымі гонтай, – Гродзенская, Рудаўская, Мсцібаўская, Брэсцкая і Варшаўская [8, с. 26]. Вуліца гродзенская і рынак заселены былі жыдамі, Варшаўская – татарамі, якія займаліся вырабам скураў, па іншых размяшчаліся студэнты, што хадзілі ў школы. У самым цэнтры рынку, паміж вуліцамі Мсцібаўскай і Рудаўскай, узносіўся вялікі прамавугольны гмах, вымураваны з каменя, з 48 склепамі або крамамі, прызначанымі для вальнага кірмашу, які штогод прыпадаў на жнівень. За крамамі – маленькая грэка-ўніяцкая царква. На самым рынку пяць пастаялых двароў: пад Арлом, Аленем, Валом, Аднарожцам і Лебедзем. У адным рагу аптэка, у другім – кафенгаўз або шынок, салідны, з більярдам, для забавы прыезджых. Насупраць кафенгаўза распасціраўся вялікі пляц, на левым яго баку – драўляны парафіяльны касцёл з гадзіннікаваю вежаю. За ім гімназічныя гмахі, вымураваныя пасля смерці рэферэндарыя. На правым баку тэатр з маскараднай залаю, жыллё Яцка Крусіньскага, дырэктара гімназіі, пасля – стайні і вазоўні. За імі парк, які называлі публічным, з гушкалкамі, каруселлю і цірам. Ад самага канца пляцу, паміж палацавым садам і звярынцам, у якім трымалі да ста ланяў і больш за дзясятак аленяў, да двара вяла алея, абсаджаная алешынай. Парк пачынаўся ад квадратнага ставу з акруглай выспай пасярэдзіне. Ён меў плошчу каля дзясятка марагоў. Ад яго ішло адгалінаванне да звярынца, праз якое трэба было праязджаць па разводным мосце. Далей рос бярозавы гаёк з абстрыжанымі верхавінамі дрэваў, каб відаць быў горад. За гайком – парк для шпацыру з стрыжанымі радамі і розных формаў заломамі, якія стваралі натуральныя ці праўдзівей ненатуральныя, бо зробленыя нажніцамі і майстэрствам, салоны, і кожны з іх з 4 кабінетамі па кутах. Парк той з пакалечанымі дрэвамі, пакрыты муравою, але без кветак, перарэзаны каналамі, што злучаліся з галоўным ставам, абдымалі сваімі рукамі дзве вуліцы старасвецкіх ліпаў, якія быццам літасціва глядзелі на гэта карлікавае пакаленне. Парк канчаўся драўляным будынкам, у якім размяшчалася аранжарэя і было некалькі пакояў для гасцей. Недалёка адсюль, над самым краем вады, узносілася цудоўная мураваная альтанка. Палацавы дзядзінец атачалі штыхеты, мураваныя ў ступы. Не даязджаючы яго – адміністрацыйны дом. Побач ішла дарога да гаспадарчых забудоваў. Сам палац стаяў бокам да парку. Некалькі аграмадных ліпаў аздаблялі яго дзядзінец. З тылу – велізарныя палі, якія не ахопіш вокам, аднастайнасць якіх перарываў у далечыні невялікі лісцевы лясок, які называлі Вішнеўцам. Пры ўездзе ў горад з кожнага боку – каменная брама, зверху скляпеністая, без варотаў, ці хутчэй праём для ўваходу. Ці не было гэта жаданнем адкрытага і гасціннага сэрца мясцовага ўладальніка, які кожнаму быў рад, кожнага прымаў аднолькава дабразычліва [8, с. 28]?

З успамінаў Патоцкага вынікае, што ў мястэчку мелася некалькі цэнтральных вуліц, якія сыходзіліся на Гімназічным пляцы. Дамінантай гэтай плошчы быў вялікі мураваны слуп пірамідальнай формы, атынкаваны набела і ўпрыгожаны пазалочаным шпілем. Вуліца Гродзенская адыходзіла ад плошчы ў паўночным напрамку і скончвалася прылягаючым да яе гарадскім некропалем. Першыя могілкі, якія былі закладзены пры гэтай вуліцы ў 1782 г., былі каталіцкімі, а пазней знаходзіліся ў сумесным карыстанні католікаў і праваслаўных. Гэты некропаль атрымаў наратыўную назву «Старыя могілкі». 10 кастрычніка 1898 г. у канцы вуліцы Гродзенскай свіслацкім ксяндзом Канстанцінам Косцяй былі асвечаны новыя каталіцкія могілкі. Абодва некропалі функцыянуюць да сённяшняга часу [3, с. 284]. У 1805 г. на Старых могілках была збудавана і асвечана ксяндзом Канстанцінам Лапінскім невялікая капліца. Святыня ўяўляла сабою выкладзены цэглаю прамавугольны будынак з паўкруглым заканчэннем тыльнай, верагодна, алтарнай сцяны. Накрытае драўлянаю столлю памяшканне асвятлялася трыма невялікімі паўкруглымі вокнамі-вітражамі. Фундамент быў часткова каменным, часткова цагляным. Дах пакрываўся дахоўкаю і меў на фасадзе жалезны крыж. Верагодна, капліца першапачаткова праектавалася як пахавальная крыпта, паколькі пад ёю знаходзіўся даступны з вуліцы склеп з шэрагам зацягнутых кратамі ваконцаў.  У 1828 г. у крыпце быў пахаваны прах Юзэфы з Салагубаў Тышкевіч – апошняй жонкі ўладальніка мястэчка Т. Тышкевіча, маці вядомага мемуарыста Л. Патоцкага. У 1834 г. стак капліцы акрэсліваўся як «добры». Верагодна, што падобны стан капліцы захоўваўся на працягу ўсяго XIX ст., паколькі нават на выяве капліцы з 30-х гг. XX ст., аўтарства В. Карпызы, святыня захавала свой аўтэнтычны выгляд.

Пад прамым вуглом да вуліцы Гродзенскай ад плошчы ў заходнім напрамку адыходзіла вуліца Варшаўская. Яшчэ ў пачатку XIX ст. на гэтай вуліцы жылі татары, якія займаліся гарбарным рамяством [8, с. 26]. Аднак традыцыйна сектар местачковай забудовы паміж вуліцамі Гродзенскай і Варшаўскай лічыўся яўрэйскім раёнам. Нягледзячы на тое, што ў Расійскай імперыі не інавала якіх-небудзь спецыяльных абмежаванняў для рассялення яўрэяў у межах горада ці мястэчка, яны сяліліся пераважна кампактна асобнай вуліцай ці цэлым гета. У гэтым сектары, побач з жылой забудовай, размяшчаўся т. зв. «сінагагальны дворык», які на пачатку XIX ст. меў 1 сінагогу і 3 малітоўныя дамы [10, с. 50], а на канец XIX ст. складаўся з 1 мураванай і 2 драўляных сінагог. Тут існавала сапраўдная сетка тагачаснай яўрэйскай інфраструктуры: шэраг крамаў, 3 талмуд-торы і 2 хедэры, бальніца, лазня і г.д.

Паралельна вуліцы Варшаўскай цягнулася вуліца Дворная. Яна вяла ад Гімназічнага пляца непасрэдна да палаца Тышкевічаў. Па сутнасці, гэта была вялікая алея, абсаджаная алешынамі. Па баках знаходзіліся будынкі пераважна грамадскага прызначэння (гімназія, тэатр, стайні, вазоўні), якія паступова пераходзілі ў жылую забудову. Дворная таксама размяжоўвала парк са звярынцам, трапіць у які магчыма было па спецыяльным разводным мосце. Спецыяльны будынак для тэатра быў узведзены ў пачатку 1800-х гг. Ён уяўляў сабой аднапавярховае драўлянае збудаванне пад гонтавым дахам. У ім знаходзілася вялікая тэатральная (212 кв. м) і дзве танцавальныя залы (па 83,5 кв. м), чатыры артыстычныя прыбіральні, агульная прыхожая, кухня. Будынак праіснаваў да 20-х гг. XX ст. Сваю непасрэдную функцыю будынак выконваў толькі падчас штогадовых кірмашоў [15, с. 16]. Даследаванню праблемы пабудовы тут мураванага гімназічнага комплекса прысвяцілі свае

артыкулы К. Квітніцкая і І. Трусаў. Гімназічны комплекс, складаючыся з чатырох корпусаў, быў збудаваны ў 1821 – 1828 гг. І. Трусаў называе ў якасці галоўнага архітэктара Я. Шантара [13, с. 94 – 95], а К. Квітніцкая схіляецца да думкі, што аўтарам праекта мог быць К. Падчашынскі [5, с. 82 – 94]. Мураваны будынак гімназіі знаходзіўся насупраць будынку тэатра.

Вуліца Брэсцкая была шырэйшая за астатнія і ўяўляла сабою працяг Гродзенскай вуліцы ў паўднёвым напрамку. Гэтую вуліцу на адным са сваіх малюнкаў адлюстраваў Напалеон Орда ў 1868 г. Гэты ж мастак захаваў для нас надзвычай прыгожую і шырокавядомую па паштоўках міжваеннай Польшчы выяву касцёла Святой Тройцы ў Свіслачы. Першая згадка каталіцкага храма ў Свіслачы датычыцца XV ст. [2, с. 38]. Касцёл знаходзіўся на перасячэнні вуліц Дворнай і Брэсцкай. Адразу за касцёлам, у бок вуліцы Дворнай, знаходзілася высокая вежа званніцы; за званніцай – гімназічныя гмахі. А. Мялешка піша, што даўжыня будынка складала 27 метраў, а шырыня – 13. Над ім узвышалася высокая вежа, на якой яшчэ ў пачатку XIX ст. стаяў вежавы гадзіннік, а ў 12 гадзін дня паліла гармата [7, с. 169]. Даследчыца В. Князева падае, што ў пачатку XIX ст. вакол касцёла знаходзіліся агароджаныя плотам могілкі [6, с. 174]. Дакументы сапраўды пацвярджаюць гэты факт і падаюць, што касцёльны некропаль меў форму ромба. Дэтальнае даследаванне гісторыі і мастацкай праблематыкі гэтага касцёла правёў М. Зглінскі [3].

Акрамя панарамнай выявы Брэсцкай вуліцы, у Орды ёсць таксама малюнкі асобных яе будынкаў, як, напрыклад, яго ілюстрацыя «Дом Гоферта ў Свіслачы». Вуліца Брэсцкая заканчвалася дзвюма уязнымі брамамі і невялікай драўлянай капліцай Анёлаў Ахоўнікаў паміж іх. У ёй некалькі разоў на год адпраўлялася набажэнства. Патоцкі ў сваіх успамінах піша: «За Брэсцкаю брамаю – дворыкі, прызначаныя для пенсіянераў. Адзін з іх, італьянскай архітэктуры, аздоблены ўнутры відамі Рыму і Неапаля, называўся «Віла». У ім пан рэферэндарый хацеў на старасці гадоў праводзіць летнюю пару года. Да гэтага, аднак, не дайшло, бо заўчасная смерць, перацінаючы дні таго дабрадзея, не дазволіла яму здзейсніць гэты намер» [8, с. 28]. Упершыню капліца на вуліцы Брэсцкай згадваецца ў першай палове XVIII ст. Дакумент 1732 г. падае, што яе фундатарам быў старадубскі суддзя Жыгімонт Біспінг. У 1805 г. будынак быў адрамантаваны, а ў 1834 г. замены патрабавалі толькі вокны. У 1898 г. планавалася зрабіць капітальны рамонт гэтага будынку, аднак заменена было толькі гонтавае пакрыццё даху. Капліца ўяўляла сабою невялікі прамавугольны драўляны будынак на каменным падмурку. Ашаляваны будынак быў звернуты фронтам на поўнач. Прамавугольныя дзверы складаліся з двух «крылаў». Над уваходам і ў бакавых сценах меліся паўкруглыя вокны. Ганак быў аформлены невялікім порцікам з чатырма калонамі. Над двускатным дахам знаходзілася невялікая вежачка: чацвярык на кубічным цокале, аздоблены крыжам [3, с. 310].

Асаблівую ўвагу выклікае пытанне аб Рудні. Рудняй называлі асобнае прадмесце Свіслачы, размешчанае за брамамі Брэсцкай вуліцы. Упершыню гістарычныя крыніцы фіксуюць гэты раён мястэчка ў канцы XVII ст. Рэестр падымнага 1690 г. сведчыць, што маёмасць Крышпіна-Кіршанштайна «Свіслач Вялікая разам з Рудняй і жыдамі» налічвала 116 дымаў [1, с. 40]. Патоцкі фіксуе наяўнасць Рудні ў пачатку XIX ст. і піша, што тады яе часам называлі на французскі лад «Арэвуарам» [8, с. 42]. Гэты ж раён даволі падрабязна апісваецца ў інвентары мястэчка 1831 г. Захаваліся нават прозвішчы асобных жыхароў. У прыватнасці, нам вядома, што дом пад нумарам 157 у гэтым раёне належаў у той час нейкай удаве Кучынскай [4, арк. 26 адв.].

Працягам вуліцы Дворнай ва ўсходнім напрамку была вуліца Мсцібаўская. Паралельна Мсцібаўскай і як працяг вуліцы Гродзенскай ішла вуліца Рудаўская. Местачковы сектар паміж Мсцібаўскай і Рудаўскай быў надзвычай шчыльна забудаваны. Адразу на ўскрайку рыначнай плошчы знаходзіліся збудаваныя ў пачатку XIX ст. мураваныя гандлёвыя рады. Замкнёная кампазіцыя гандлёвых радоў складалася з чатырох аднапавярховых крылаў пад двухсхільнымі гонтавымі дахамі і ўтварала прамавугольны ў плане двор. Рады складаліся з 40 аднатыпных ячэек-крам і трох вуглавых складскіх памяшканняў. У цэнтры двух даўжэйшых крылаў былі зроблены арачныя праезды ў двор. Над адным з праездаў размяшчалася зала купецкага сходу, афармленая на бакавым фасадзе драўлянай балюстраднай галерэяй на мураваных слупах [11, с. 311 – 312]. З культавых пабудоў тут знаходзілася невялікая драўляная ўніяцкая (пазней праваслаўная) царква, вакол якой меўся некропаль. На гэтым баку плошчы знаходзіўся таксама будынак аптэкі. На жаль, сёння яшчэ не знойдзены дакументы, якія дазволілі б больш дэталёва апісаць гэтыя пабудовы. Аднак у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродне захаваліся некаторыя дакументы, якія сведчаць аб актыўным функцыянаванні местачковай аптэкі ў першай палове XIX ст. [9]. Былая ўніяцкая царква ў 1869 г. была перабудавана, а ў 1872 г. знішчана пажарам. На яе месцы ў 1884 г. архітэктарам П.І. Залатаровым у псеўдарускім стылі была збудавана мураваная Крыжаўздвіжанская царква. У канцы вуліцы Рудаўскай лакалізаваўся вялікі яўрэйскі некропаль. У пажары 1872 г. былі таксама знішчаны гандлёвыя рады. Канчаткова гэты раён быў знішчаны падчас пажару 1910 г., бо менавіта ў гэтай шчыльнай і антысанітарнай, большасцю драўлянай забудове знаходзіўся эпіцэнтр агню.

Гістарычныя крыніцы ўзгадваюць таксама вуліцу Слонімскую. Як магчыма меркаваць, Слонімская пачыналася адразу за Брэсцкай, зварочваючы ўлева ад яе пад прамым вуглом. Да сярэдзіны XIX ст. абсалютная большасць пабудоў на ёй былі драўлянымі. Слонімская сканчвалася ўязной брамай. Даволі дэталёвае ўяўленне аб гэтай вуліцы дае інвентар 1831 г.

У канцы XIX ст. местачковая прамысловасць стымулявала далейшае пашырэнне вулічнай сеткі. Менавіта ў гэты час у мястэчку ўзнікла вуліца Новая. Мясцовая традыцыя прысвоіла гэтай вуліцы яшчэ адну назву – Сабачая. Абумоўлена гэта было існаваннем тут шэрагу прадпрыемстваў гарбарнай вытворчасці.

Асобнае месца ў структуры паселішча займаў парк з шэрагам гаспадарчых пабудоў былога сядзібнага палацу графа Тышкевіча. Як піша даследчык архітэктурнага і садова-паркавага мастацтва А. Федарук, свіслацкі парк Вінцэнта Тышкевіча быў разбіты ў стылі галандскага барока [14, с. 74]. Агульнае ўяўленне аб выглядзе гэтага парку дае вышэйзгаданая цытата з успамінаў Л. Патоцкага. Той жа мемуарыст апісвае некаторыя паркавыя пабудовы, у прыватнасці, былы драўляны палац Крышпінаў-Кіршанштэйнаў з XVIII ст.: «Свіслацкі асабняк, ці хутчэй, стары крышпіноўскі палац, атынкаваны на белае, з ламаным дахам, з прыбудоўкамі справа, злева і ззаду, не змахваў на жытло сібарыта XVIII стагоддзя або марнатраўнага сына. Той, хто ўваходзіў у сярэдзіну праз абаграваныя сені, меў з правага боку сталовы пакой з двума вокнамі. Ад яго адны дзверы вялі ў вялізную залу, у якой падчас кірмашоў сядала за стол каля ста асобаў, другія – у кутні салон, выклееены блакітнай папераю. За імі былі два маленькія кабінеты. У салоне ўздоўж сцен – канапкі і альховыя столікі, пратраўленыя на чорнае і чорным пакрытыя. На вокнах – белыя муслінавыя

У час карнай экспедыцыі супраць партызан (верасень – кастрычнік 1942 г.) атрад імя І.В. Сталіна знаходзіўся ў Гута-Міхалінскім лесе. Боепрыпасаў было мала. Адкрыты бой з фашыстамі весці было немагчыма. Партызанам прыйшлося пастаянна манеўраваць і наносіць акупантам удары з засад. Было знішчана шмат карнікаў, але і атрад панёс страты. У 1943 г. быў створаны новы атрад імя С.М. Кірава [8, с. 261].

У снежні 1943 г. быў узарваны мост на р. Вінец. Па дарозе Пружаны-Сялец каля в. Сасноўка падарвалі грузавую аўтамашыну. Па дарозе Пружаны-Ружаны каля хутара Кабылаўка знішчылі кіламетр сувязі, падбілі і спалілі дзве грузавыя аўтамашыны, дзе загінулі 30 фашыстаў.

У пачатку 1944 г. група нашых партызан атрымала з-за лініі фронту міны, толавыя шашкі. Іх замазвалі чорнай смалой і вугалем.

17 чэрвеня 1942 г. карнікі ўчынілі расправу ў сямі вёсках Пружаншчыны: Казлы, Сілічы, Краснае, Пасталова, Нямковічы, Чарналозы, Ліхачы. У той дзень мужчыны ва ўзросце ад 16 да 60 гадоў былі зверскі забіты. Усе пабудовы ў гэтых вёсках карнікі спалілі, жывёлу забралі з сабой, усю астатнюю жыўнасць знішчылі.

З устанаўленнем акупацыйнага рэжыму на тэрыторыі Пружаншчыны гітлераўцы стварылі ў раённым цэнтры дзве турмы – белую і чырвоную (так называлі іх па вонкавай абліцоўцы). Дарога адсюль была адна: на віселіцу ці ў пясчаныя кар'еры Белавежскай пушчы на расстрэл. І, здавалася, адсюль ніхто не зможа выратавацца. На самай жа справе патрыёты змагаліся з ненавісным ворагам і тут. І быў выпадак, калі вязні змаглі вырвацца на волю.

Гэта было 18 верасня 1943 г. Зняволеным стала вядома, што намячаецца чарговая адпраўка на расстрэл. «Трэба дзейнічаць», — такім было іх рашэнне. Уцячы ж было амаль немагчыма. Вакол трывалая цагляная сцяна вышынёй каля 10 метраў, узмоцненая варта.

Падзеі склаліся так, што сам турэмны наглядчык дапамог зняволеным. Ён, як і іншыя, не грэбаваў паслугамі вязняў. А тут сапсаваўся веласіпед. Украінец Ваня (прозвішча яго ніхто не памятае) прапанаваў хутка і надзейна адрамантаваць яго. Наглядчык вельмі быў рады і на другі дзень перадаў у камеру няспраўны веласіпед і стары ножык замест адвёрткі. Веласіпед быў адрамантаваны і пачышчаны. Задаволены наглядчык нават забыўся пра ножык, які яму не аддалі.

На прагулцы ў двары турмы вязні падабралі некалькі вострых каменьчыкаў. Непрыкметна прынеслі ў камеру. І вось кішэнны сцізорык ужо набыў выгляд пілачкі-нажоўкі. З вялікай цяжкасцю міліметр за міліметрам паддаваўся жалезны прут. Справа рухалася марудна, а ў вязняў заставаліся лічаныя дні.

І вось, нарэшце, жалеза паддалося. Яшчэ раз былі абмеркаваны ўсе дэталі дзеяння. Апоўначы з камеры ў турэмны двор выбраліся ініцыятары пабегу Іван Вашчук, браты Лявон і Фёдар Шавелі і яшчэ тры таварышы. Шасцёрка асцярожна накіравалася да брамы. Неабходна было мінуць вартавы пост. У адным пакоі быў наглядчык, а ў другім — нямецкі салдат. Уцекачы раздзяліліся на дзве групы, па тры чалавекі на кожны пакой. Неўзабаве вартаўнікі былі абяззброены і замкнуты ў асобную камеру. Уцекачы выпусцілі зняволеных і з астатніх камер. Захапіўшы трафейную зброю, яны пакінулі турэмны двор і накіраваліся ў бліжэйшы лес [9, с. 433].

Савецкія патрыёты, жыхары в. Шчарчова і іншых населеных пунктаў, што вызваліліся з кіпцюроў смерці, уліліся ў шэрагі народных мсціўцаў атрада імя В.П. Чкалава брыгады «Савецкая

Беларусь». І яшчэ дзесяць месяцаў, да самага вызвалення раёна, грамілі ворага.

У 2-й палове ліпеня 1944 г. фашысцкія войскі, абяскрыўленыя ў баях за Баранавічы, у беспарадку адыходзілі ў напрамку Брэста. Каб не даць праціўніку згрупавацца і заняць новыя, зручныя для яго рубяжы абароны, злучэнні 3-га гвардзейскага стралковага корпуса гналі ворага днём і ноччу. Перадавыя атрады ні на крок не адрываліся ад праціўніка, грамілі яго ар'ергарды. 50-я гвардзейская стралковая дывізія вызваліла вёскі Клепачы, Магілёўцы, Лыскава, Куклічы, Гута, выйшла да ракі Ясельда.

Адцясняючы ворага, перадавыя падраздзяленні 150-га гвардзейскага стралковага палка падышлі да в. Вялікае Сяло.

У раёне в. Арабнікі камандзір узвода разведкі В.Е. Чараднічэнка і група аўтаматчыкаў прабраліся да траншэй праціўніка, уварваліся ў яго размяшчэнне і закідалі гранатамі, знішчылі кулямётную кропку. Гэта дало магчымасць нашай пяхоце падняцца ў атаку і паспяхова рухацца ўперад. Разведчыкі першыя ўварваліся на заходнюю ўскраіну Пружан.

Упартае супраціўленне аказаў вораг і ў баі ля в. Шубічы. Наш 1-ы батальён вымушаны быў залегчы.

Цяжкія баі давялося вытрымаць гвардзейскаму стралковаму палку пад камандаваннем падпалкоўніка П.І. Сіненкі.

Наступаючы на Пружаны з боку в. Якавічы, полк хутка захапіў вышыню, але тут жа быў контратакаваны фашысцкімі аўтаматчыкамі, якіх падтрымалі танкі. Гвардзейцы заляглі і, падпусціўшы гітлераўцаў на блізкую адлегласць, адкрылі прыцэльны гарматна-кулямётны агонь. Вораг у паніцы замітусіўся, пачаў адступаць. У гэты момант у баявых парадках батальёна з'явіўся камандзір маёр Колач. З пісталетам у руцэ ён падняўся ва ўвесь рост і крыкнуў:

– Наперад, за Радзіму! За Беларусь!

– Ура! – пранеслася ў адказ.

Байцы кінуліся наперад на фашыстаў, якія спешна адыходзілі. Не даючы ворагам апамятацца, перадавыя падраздзяленні палка ўварваліся на паўночную ўскраіну Пружан. Разгарэліся ўпартыя баі, пасля якіх нашы войскі авалодалі райцэнтрам [10, с. 271]. Было гэта 16 ліпеня 1944 г.

Мая радзіма – Пружаншчына, дзе магутныя канцавыя марэны старажытных ледавікоў утварылі бедны глебамі, але такі маляўнічы ландшафт – з блакітнавата-шэрымі купамі бароў на высокіх пагорках і летнім золатам аржаных палеткаў, з прытуманенай на золку, няхай цяпер ужо і зняважанай меліярацыяй і альховымі пастацямі ўздоўж малых рачулак.

Жыхары нашага раёна свята захоўваюць памяць аб тых, хто аддаў жыццё за свабоду і незалежнасць роднай зямлі. Памяці загінуўшых у вогненнай віхуры вайны землякоў і воінаў-вызваліцеляў прысвечана значная частка экспазіцый мясцовага музея.

Героі не паміраюць, яны жывуць у сэрцах землякоў, штодзённых справах і здзяйсненнях.

The Great Patriotic War theme touched by the author in the article is actual nowadays. The main heroic events, the success of the Soviet soldiers against fascists are described here. There are names those who liberated Pruzhany region. The author touched on a question of the preservation nation's memory about the Great Patriotic War.

Спіс крыніц і літаратуры


1. Феранц, В. Р. Памяць: Гіст.-дакум.хроніка Пружанск. Р-на / В. Р. Феранц. – Мінск: Ураджай, 1998. – 535 с.
2. Пашкоў, Г. П. Памяць Беларусі: Рэспубіканская кніга / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : БелЭн, 2005. – 592 с.
3. Малашэвіч, Я. В. Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне / Я. В. Малашэвіч. – Мінск : Беларусь, 2004. – 231 с.
4. Здановіч, У.В. Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны (1941 – 1944) у адлюстраванні айчыннай гістарыяграфіі / У. В. Здановіч. – Брэст: БрДУ імя А.С. Пушкіна, 2008. – 253 с.
5. Лемяшонак, У. Вызваленне – без грыфа сакрэтна! / У. Лемяшонак. – Мінск : Полымя, 1996. – 151 с.
6. Романовский, В.Ф. Забвению не подлежит : о преступлениях нем.-фашист. захватчиков на территории Белоруссии в годы Великой Отеч. войны / В.Ф. Романовский. – Минск : Беларусь, 1985. – 63 с.
7. Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне, 1941 – 1945 : энцыклапедыя. – Мінск, 1990.
8. Беларусь у гады Другой сусветнай і Вялікай Айчыннай вайны (верасень 1939 г. – верасень 1945 г.) // Гісторыя Беларусі: у 2 ч. – Мінск, 2003. – 295 с.
9. Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 5: Беларусь у 1917 – 1945 гг. / А. Вабішчэвіч [і інш.]; рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэдактар) [і інш.]. – Мінск: Экаперспектыва, 2006. – 613 с.; іл.
10. Рэспубліка Беларусь: Вобласці і раёны: энцыкл. давед. / аўт.-склад. Л.В. Календа. – Мінск: БелЭн, 2004. – 568 с.: іл.


Навуковы кіраўнік – ***Н. П. Галімава,*** кандыдат філасофскіх навук, дацэнт.

УДК 726:27 – 523.4(476)

*Т. П. Варабей*
*(Мінск, БДУ)*

# *ТВОРЧАЯ СПАДЧЫНА ІАГАНА КРЫШТАВА ГЛАЎБІЦА НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ*

Северная война причинила большие разрушения городам Беларуси, многие произведения архитектуры были уничтожены. После войны начался бурный процесс строительства храмов, огромную роль в котором сыграл Иоганн Криштоф Глаубиц. Личность Глаубица признана исключительной в формировании архитектуры ВКЛ XVIII в. Введенные им тенденции помогли сформироваться «виленскому барокко». Мастер проявлял творческую толерантность: он откликался на предложения всех основных религиозных конфессий ВКЛ.

Другая трэць XVIII ст. стала складаным часам для паўночна-ўсходніх зямель Вялікага Княства Літоўскага, якія панеслі найбольшыя страты падчас Паўночнай вайны 1700 – 1729 гг. Таму нядзіўна, што ў гэты перыяд тут назіраецца актывізацыя будаўніцтва і сюды едуць найперш са сталіцы княства – Вільні – архітэктары высокага ўзроўню. Сярод іх адным з найбольш запатрабаваных стаў Іаган Крыштаф Глаўбіц (1700 – 1767), які ў гэты час актыўна рэалізаваў праекты рэканструкцыі пацярпелых ад пажару будынкаў Вільні. У яшчэ адным буйным культурна-рэлігійным цэнтры княства Літоўскага – Полацку – найбольш магутным заказчыкам выступіў уніяцкі ордэн базыльянаў. Менавіта выдатны дзеяч ордэна, архіепіскап полацкі і пазней мітрапаліт кіеўскі Фларыян Грабніцкі, які шмат зрабіў для пашырэння уніі, фундаваў шэраг храмаў на паўночна-ўсходніх абшарах Беларусі, аўтарства якіх на сённяшні дзень варта прыпісваць І.К. Глаўбіцу.

Так, можна лічыць, што Глаўбіцам быў распрацаваны і ажыццёўлены праект барочнага аблічча Сафійскага сабора ў Полацку (іл. 1), які ў канцы XVI ст. перайшоў да уніятаў і падчас Паўночнай вайны быў разбураны выбухам [1, с. 51]. Гэта пацвярджаецца і высокім мастацкім узроўнем, і стылістычнай блізасцю да віленскіх касцёлаў Св. Кацярыны і Узнясення Дзевы Марыі. Акрамя таго, дакладна вядома, што па заказе архіепіскапа Грабніцкага І.К. Глаўбіц выканаў праект мітрапаліцкай рэзідэнцыі ў в. Струнь непадалёку ад Полацка. На працягу 1738 – 1750 гг., паралельна з аднаўленнем касцёла Св. Янаў у Вільні, на месцы зруйнаванай святыні быў узведзены новы велічны храм, які, па сутнасці, першы з сакральных пабудоў Вялікага Княства цалкам увасобіў стылістычныя і эстэтычныя прынцыпы віленскага барока. Як уніяцкі храм Сафійскі сабор пераарыентаваны алтаром на поўнач, пры гэтым даўжыня старажытнай царквы вызначыла шырыню новай трохнефавай аднаапсіднай базілікі з двухвежавым фасадам-нартэксам. Сіметрычна ўсходнім алтарным апсідам праваслаўнага храма XI ст. была ўзведзена заходняя група апсід, якія разам атрымалі барочнае завяршэнне ў выглядзе самкнутых купалоў са светлавымі ліхтарамі (іл. 2).

Мастацкі акцэнт тут зроблены на аб'ёмна-прасторавай структуры галоўнага фасада з дзвюма тэлескапічнымі пяціяруснымі вежамі. Тры верхнія скразныя ярусы рэзка скарачаюцца

ўгору па памерах, што стварае моцную аптычную перспектыву. Тарцы даху цэнтральнага нефа з двух бакоў закрываюць фігурныя атыкавыя франтоны. У аздабленні выкарыстаны звязкі пілястраў, валюты з «грабеньчыкамі», дэкаратыўныя вазоны-пінаклі, фігурныя нішы і пластычны ляпны дэкор. Архітэктурным чляненням храма ўласціва неакрэсленасць, яны шматразова дубліруюцца, разрываюцца, ствараючы тонкую гульню святла і ценю. Лініі карнізаў плаўна, хвалепадобна выгінаюцца. Контуры верхніх ярусаў вежаў і франтонаў ствараюць на фоне неба вытанчаны карункавы малюнак.

Храм быў асвечаны ў 1750 г., але афармленне яго ўнутранай прасторы працягвалася ажно да 1765 г. Прасторавыя ячэйкі перакрыты крыжастымі скляпеннямі і падзелены ў цэнтральным нефе адзінкавымі магутнымі падпружнымі аркамі, у астатніх частках – падвойнымі. У інтэр'еры складаная прафіліроўка слупоў і ордэрны дэкор утвараюць характэрную «цякучую» прастору. Бакавыя апсіды раскрыты ўнутр шырокімі арачнымі праёмамі. Найбольш важную эстэтычную і сакральную нагрузку ў інтэр'еры мусіла несці мураваная алтарная перагародка – кампрамісны варыянт паміж праваслаўным іканастасам у сэнсе функцыянальнага прызначэння і з пункту гледжання кампазіцыі і архітэктонікі – прысценным алтаром каталіцкага храма. Яна мае шматпланавую прасторава разгорнутую трох'ярусную будову з рытмічным спалучэннем ордэрных элементаў, а таксама аздоблена ляпнымі пазалочанымі гірляндамі, картушамі, капітэлямі і завершана барэльефнай кампазіцыяй «Тройца Новазапаветная» [2, с. 20]. Тое, што старажытны падмурак і рэшткі сцен былі ўключаны ў новую кампазіцыю храма, не толькі выратавала былую ўніяцкую святыню ад перабудовы ў сярэдзіне XIX ст., але ўзбудзіла неверагодны навуковы інтарэс і паспрыяла далейшаму вывучэнню і рэстаўрацыі будынка.

У ходзе будаўнічай кампаніі мітрапаліта Грабніцкага быў узведзены ў 1756 – 1764 гг. і мураваны кляштар ордэна базыльянаў у в. Беразвечча (зараз у межах г. Глыбокае Віцебскай вобл.), цэнтральная пабудова якога – царква Св. Пятра і Паўла (іл. 3) – можа лічыцца адным з найвыдатнейшых дасягненняў архітэктуры віленскага барока. Пакуль не знойдзена дакументальнае пацвярджэнне таго, што гэты помнік створаны Глаўбіцам, аднак даследчыкі бачаць у гэтым помніку працяг і развіццё барочных традыцый Полацкай Сафіі, улічваючы і высокія мастацкія якасці пабудовы.

Гэтая царква ўяўляла сабою трохнефавую базіліку з трансептам і дзвюхвежавым галоўным фасадам (іл. 4). Пры агульнай традыцыйнасці структуры архітэктурны вобраз збудавання смелы і наватарскі: шырокі цэнтральны неф з паўкруглым алтарным завяршэннем пасярэдзіне перасякаецца роўным з ім па вышыні трансептам з таксама закругленымі тарцамі. У беразвецкай царкве план у верхнім сячэнні (без алтарнай часткі) адпавядаў форме роўнаканцовага грэчаскага крыжа, чым падкрэслівалася сувязь з праваслаўнай традыцыяй.

Перакрыжаваныя двухсхільныя дахі над цэнтральным нефам і трансептам на закругленых тарцах завяршаліся выпуклымі франтонамі з пластычным трохпялёсткавым абрысам, якія нагадвалі дыядэму. Фігурны барочны франтон на тарцы цэнтральнага нефа, процілеглым галоўнаму фасаду, упершыню ўжыты Глаўбіцам у Сафійскім саборы, але там ён быў плоскі і аддзяляў больш нізкую алтарную апсіду. У беразвецкай царкве тры франтоны-«дыядэмы» вянчаюць кожны сваю частку і, як карона, будынак у цэлым, адпаведна важнаму прынцыпу барока – падпарадкаванню частак цэламу.

Галоўны паўднёвы фасад беразвецкай царквы быў вырашаны як хвалістая, струменістая, шматпланавая тэатральная куліса, што закрывала ад гледача агульную тэктоніку храма. Канструкцыйна структура фасада адпавядала плоскаму нартэксу, па шырыні роўнаму чацверыкам вежаў, сіметрычна размешчаных па баках. Надзвычайная маляўнічасць фасада, тонкая гульня святла і ценю на яго паверхні дасягалася даволі простымі, матэматычна разлічанымі сродкамі. Дэкаратыўныя вертыкальныя элементы – калоны і аб'ёмныя пілястры – разам з адпаведнымі гарызантальнымі часткамі ордэра – п'едэсталамі і антаблементамі – былі разгорнуты восямі пад вуглом 45 градусаў да рэальнай канструкцыйнай плоскасці фасада, што і надавала яму ілюзорную прасторавую выпукла-ўвагнутую будову. Групоўка вертыкальных элементаў падпарадкавалася строгай люстэркавай сіметрыі.

Трох'ярусныя вежы, што ўзбагачалі сілуэт будынка, мелі тэлескапічную структуру. Надзвычайная ўвага нададзена вытанчанаму малюнку франтонаў, завяршэнням вежаў, валют, капітэляў. Тут упершыню ўжыты на фасадзе ажурныя абрысы праёмаў, якія раней сустракаюцца толькі ў інтэр'еры Сафійскага сабора. Зусім маленькія бакавыя нефы кампазіцыйна падпарадкоўваліся кароткаму, але шырокаму цэнтральнаму нефу, які завяршаўся мураванай алтарнай перагародкай. Яна складалася з двух ярусаў дынамічна згрупаваных калон, злучаных раскрапаваным антаблементам. Прастора алтара ў глыбіні вялікіх скразных праёмаў паміж калонамі здавалася бясконцай і бяздоннай. Скульптурная пластычнасць архітэктуры храма спалучалася з канструкцыйнай логікай, дасканалым выкарыстаннем прыёмаў аптычнай карэкціроўкі мастацкага вобраза.

Не меншае значэнне храмаваму будаўніцтву надавалі і каталіцкія манаскія ордэны. Узвядзенне і аздабленне шэрагу касцёлаў на Беларусі дакладна можна прыпісаць Глаўбіцу на аснове архіўных матэрыялаў. Унікальным помнікам, да якога архітэктар меў дачыненне, з'яўляецца касцёл Св. Яна Хрысціцеля ў в. Сталовічы (цяпер царква Успення Прасвятой Багародзіцы, Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл.), які адзіны ў Вялікім Княстве Літоўскім належаў ордэну кавалераў мальтыйскіх, ці іанітаў (іл. 5). Будаўніцтва гэтага храма было распачата ў 1740 г. архітэктарам Іосіфам Фантанам III, які заклаў трохнефавую базіліку без трансепта з дзвюхвежавым фасадам і прамавугольным алтарным завяршэннем цэнтральнага нефа (іл. 6), да якога прылягае капліца XVII ст. [3, с. 27]. Верагодна, Фантана распрацаваў і сячэнне апорных слупоў базілікі, якія нагадваюць у плане латарынгскі крыж і, як і арытмічна згрупаваныя падпружныя аркі, нясуць у прасторы нераўнамерны, пульсуючы крок. І.К. Глаўбіц працягнуў будоўлю ў 1743 – 1746 гг. найперш як праектант узнёслага дэкаратыўнага аздаблення і складанай архітэктанічнай алтарнай кампазіцыі ва ўнутранай прасторы храма. На жаль, цяжка вызначыць сярод гэтых творцаў аўтара цікавага вырашэння галоўнага дзвюхвежавага фасада, які ўвасобіў эстэтыку віленскага барока. Вуглы шмат'ярусных вежаў узмоцнены звязкамі слаістых пілястраў, а ў ніжнім ярусе – невялікімі сіметрычнымі бакавымі вежамі накшталт контрфорсаў, якія надаюць кампазіцыі фасада пэўную пірамідальнасць. Акрамя таго, першапачаткова гарызантальныя ярусы фасада, вылучаныя за кошт моцных крапаваных антаблементаў на ўзроўні карнізаў бакавых і цэнтральнага нефаў, завяршаліся тэлескапічнымі ажурнымі вежамі і фігурным франтонам. Гэта страчана пры перабудове храма пад праваслаўную царкву ў 1863 – 1864 гг. [4, с. 219].

Адзін з вядучых даследчыкаў творчасці Глаўбіца С. Лоранц прыпісвае архітэктару фундаментальную перабудову касцёла Найсвяцейшай Дзевы Марыі кляштара кармелітаў у г. Мсціслаў (Магілёўская вобл.) у 1746 – 1750 гг. (іл. 7), пры гэтым бралася ва ўвагу стылістычная блізкасць да храмаў у Полацку і Забелах-Валынцах [5, с. 395]. Храм уяўляе сабой мураваную шасцістоўпную базіліку з дзвюхвежавым фасадам і пяціграннай апсідай, да якой далучана двухпавярховая сакрысція. Галоўны фасад фланкіраваны трох'яруснымі чатырохграннымі вежамі з паўсферычнымі купаламі і завершаны фігурным франтонам паміж імі. Магутныя сцены падзелены лучковымі аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках, апярэзаны карнізам [6, с. 396].

У 1749 г. абат кляштара яшчэ аднаго каталіцкага ордэна – дамініканцаў – у фальварку Забелы каля в. Валынцы Полацкага ваяводства (цяпер Верхнядзвінскі р-н Віцебскай вобл.) запрасіў Іагана Крыштафа Глаўбіца для праектавання мураванага касцёла Св. Юрыя (іл. 8). З Глаўбіцам супрацоўнічаў архітэктар-дамініканец Л. Грыневіч, які прымаў удзел ва ўнутраным аздабленні. Будаўніцтвам кіраваў мясцовы майстар Лаўбе, які заклаў касцёл у 1749 г. У выніку быў узведзены аднанефавы храм, накрыты высокім клінаватым дахам з фігурнымі франтонамі-«дыядэмамі» на абодвух тарцах: на галоўным фасадзе і над больш нізкай алтарнай апсідай. Пры гэтым вышынная пласціна дзвюхвежавага фасада выходзіла за межы нефа на шырыню чацверыкоў вежаў. Незалежная ад агульнай архітэктонікі храма структура галоўнага фасада, рытм яго вертыкальных і гарызантальных чляненняў, тэлескапічная будова вежавых ярусаў, малюнак абрысаў франтонаў, праёмаў, валютаў з «грабеньчыкамі», дэкаратыўных вазонаў, а таксама рафінаваная пластыка ўваходнага прытвора выяўляюцца ў дадзеным будынку як характэрныя рысы творчага почырку архітэктара Глаўбіца. У 1756 г. касцёл быў асвячоны, але ўзвядзенне дзвюх вежаў-званіц працягвалася яшчэ 10 гадоў. У 1759 – 1766 гг. віленскімі майстрамі было ажыццёўлена дэкаратыўнае аздабленне касцёла ў стылі ракако, пастаўлены алтары. Будынак кляштара часткова захаваўся да нашых дзён, аднак касцёл Св. Юрыя, пашкоджаны яшчэ ў часы Вялікай Айчыннай вайны, быў зруйнаваны ў канцы 40-х гг.

На працягу 1759 – 1764 гг. паводле праекта Іагана Крыштафа Глаўбіца стваралася багатае афармленне інтэр'еру касцёла бернардзінак у Слоніме. Тут Глаўбіц выступіў як аўтар агульнага мастацка-архітэктурнага вырашэння ўнутранай прасторы храма, а будаўніцтва алтароў, амбона, канфесіянала (спавядальні) асноўныя работы па ляпной дэкарыроўцы і скульптуры выканаў Іаган Хедэль, з якім Глаўбіц некалі сумесна працаваў над перабудовай віленскага касцёла Св. Янаў. У працэсе афармлення перад майстрамі стаяла нялёгкая задача – упрыгожыць будынак, які ўзнік у XVII ст., бо трэба было захаваць раннебарочную прастораву структуру, і ўсё ж арганізаваць інтэр'ер у адпаведнасці з густамі XVIII ст. Устаноўкай багата аздобленых алтароў Глаўбіц і Хедэль здолелі выявіць парадак, узаемасувязь прасторавых частак інтэр'еру.

Асноўны аб'ём храма, абмежаваны апсідай з усходу і хорамі з захаду, складаецца з дзвюх ячэек і ўяўляе сабой адкрыты зальны неф, які праз падпружную арку злучаны з прасторай алтара. Дзякуючы ўдаламу кампазіцыйнаму размяшчэнню алтароў, апсіда, напалову меншая за зальны неф, успрымаецца як роўная яму. Аб'ёму храма была нададзена паваротная і люстэркавая сіметрыя, што робіць магчымым ілюзіяністычнае ўспрыманне алтарнай і зальнай частак, правага і левага бакоў і стварае адзіны кругавы рытм аздаблення інтэр'еру.

Усяго ў храме былі створаны пяць алтароў, а таксама амбон і спавядальня. Галоўны алтар знаходзіцца ў цэнтры прэзбітэрыя, зліваецца з ім па дузе выкружкі і консе скляпення. Ён мае двух'ярусную канструкцыю. Першы ярус аддзелены ад другога раскрапаваным карнізам, які нагадвае бягучую хвалю і трымае на сабе фігуркі анёлаў, якія сядзяць на валютах; карніз трымаюць дзве калоны карынфскага ордэра. У інтэркалумніях знаходзяцца скульптуры Св. Банавентуры і Св. Францыска. Прапарцыянальнае дзяленне на ўзроўні, разгортванне руху фігур па планах надаюць маляўнічасць і манументальнасць агульнай кампазіцыі галоўнага алтара. Чатыры бакавыя алтары падобны адзін да аднаго: яны маюць высокі цокаль, адзін ярус і завяршэнне ў аблямоўцы валют, на якіх размешчаны сядзячыя анёлы. На алтарах Маці Боскай Шкаплернай і Іакіма і Ганны ёсць скульптура, на астатніх яна адсутнічае [7, с. 59]. Маштабна невялікія скульптуры стаяць на кансолях за калонамі, што візуальна закругляе вуглы алтара. Па-барочнаму эфектная скульптура задае той маштабны модуль, які аб'ядноўвае архітэктурныя формы алтароў і іх дэкарыроўку.

Інтэр'ер слонімскага касцёла стаў узорам цэласнага па мастацкай задуме і выкананні твора, прасторавая структура якога акцэнтуецца за кошт расстаўленых у асноўных вуглах крыжападобнага плана алтароў. У распрацоўцы элементаў аздаблення Глаўбіц прытрымліваўся барочных прынцыпаў пабудовы формы, перадачы руху, прасторава-тэатральных эфектаў. У той жа час у матэматычна вывераны барочны інтэр'ер уключаны лёгкія S-падобныя завіткі дэкору амбона і спавядальні – элементы ракако.

Адзначыўся Глаўбіц і ў праваслаўным храмавым будаўніцтве, прыкладам якога выступае Спаса-Праабражэнская царква ў Магілёве (іл. 9), зруйнаваная ў савецкі час [8, с. 229]. Мураваны храм на месцы святыні XV ст. будаваўся ў 1740 – 1754 гг. пры епіскапах Валчанскіх, аднак не быў завершаны. Вядомы па нататках ігумена як «немец» Глоб, Іаган Крыштаф Глаўбіц кіраваў будоўляй у 1755 – 1762 гг. пры архіепіскапе Георгіі Каніскім, які разгарнуў у Магілёве шырокую праграму праваслаўнага будаўніцтва. Верагодна, па праекце Глаўбіца ўзводзіліся архіерэйскі дом і семінарыя.

Верны сваёй стылістычнай скіраванасці, Глаўбіц падышоў да стварэння новай кампазіцыі храма з улікам традыцый і запатрабаванняў праваслаўнай канфесіі. Так, Спаскі сабор меў нетрадыцыйную для праваслаўя трохнефавую, і ўсё ж не базілікальную, крыжова-купальную кампазіцыю з планам у выглядзе выцягнутага лацінскага крыжа і дзвюхвежавым фасадам (іл. 10). Усе нефы былі роўныя па вышыні і накрытыя агульным двухсхільным дахам, таму будынак выглядаў як аднанефавы. Трансепт не адпавядаў па шырыні падкупальнаму квадрату, як звычайна, а плоскімі рызалітамі з трохвугольнымі франтонамі двухсхільных дахаў распасціраўся ўздоўж алтарнай часткі да невялікай паўкруглай апсіды, што візуальна парушала канструкцыйную логіку збудавання і ўзмацняла яго экспрэсію [9, с. 150].

У вырашэнні вянчаючых мас адчувалася неадпаведнасць першапачатковай задуме, абумоўленая двума этапамі будаўніцтва. Высокі дах прарэзваў моцна выцягнуты светлавы барабан, завершаны паўсферычным купалам, асветленым люкарнамі і ліхтарыкам з цыбулепадобнай галоўкай наверсе. Такія ж галоўкі мелі вытанчаныя ажурныя вежачкі абапал барабана па дыяганалях падкупальнага квадрата, у выніку чаго стваралася пяціглаўе, кананічнае для рускага праваслаўя, якое несла і значную дэкаратыўную нагрузку.

Асноўнае значэнне было нададзена галоўнаму фасаду, утворанаму дзвюма шмат'яруснымі

вежамі. Ніжні ярус адпавядаў па вышыні нефам, а верхнія чацверыкі вежаў, паміж якімі размяшчаўся карункавы атыкавы франтон, тэлескапічна скарачаліся па памерах. Тут рысы віленскага барока ў пластычнай распрацоўцы фасада выявіліся таксама ў вертыкалізме прапорцый піляストраў і прасценкаў.

Арганізацыя інтэр'еру Спаскай царквы вызначалася надзвычайнай дынамікай, нетрадыцыйнай для праваслаўных храмаў. Прасторава дамінаваў падобны да свецкай залы цэнтральны неф дзякуючы роўным з ім па вышыні вузкім бакавым нефам і невялікаму сячэнню апорных слупоў, раскрапаваных слаістымі пілястрамі. Чатырох'ярускае асвятленне падкупальнай прасторы ўражвала багаццем святлоценевых эфектаў. Дэкаратыўнаму аздабленню інтэр'еру былі ўласцівы рысы ракако: храм ўпрыгожвалі драўляныя пасярэбраныя двух'ярусны іканастас, амбон, ківоды, пакрытыя пазалочанай накладной разьбой, а таксама абразы магілёўскіх майстроў.

Такім чынам, архітэктурныя праекты, ажыццёўленыя Іаганам Крыштафам Глаўбіцам па-за Вільняй, на ўздыме храмабудаўніцтва задавольвалі запыты розных канфесій. Найбольш яскрава гэта ілюструюць уніяцкія храмы ў Полацку і Беразвеччы, дзе архітэктар не толькі яскрава ўвасобіў прынцыпы віленскага барока, але і здолеў перадаць сувязь са старадаўняй праваслаўнай традыцыяй. Важныя кананічныя моманты былі перададзены ў архітэктуры праваслаўнай Спаскай царквы ў Магілёве. Каталіцкія храмы ў Забелах і Мсціславе вызначыліся падабенствам да віленскіх, а слонімскі касцёл дае прыклад ілюзіяністычнай познебарочнага інтэр'еру з рысамі ракако. Так ці інакш, гэтыя пабудовы сталі асновай для пераймання і далейшага зацвярджэння віленскага барока як вядучага стылю ў архітэктуры Вялікага Княства Літоўскага.

Johann Christoph Glaubitz is generally considered to be the most prominent Baroque architect in the lands of the former Grand Duchy of Lithuania. He is credited for developing distinct Lithuanian school of Baroque architecture, known as Vilnian Baroque. Glaubitz works are often associated with the cityscape of the Old Town of Vilnius, but he also created much on the territory of Belarus. His Belarusian works can be described as further development of the Vilnian Baroque.

Спіс крыніц і літаратуры

1. Lietuvos architektūros istorija = History of Lithuanian Architecture: 4 t. monografija / Architekturos ir enciklopedijų leidykla, 1994 – T. 2: Nuo XVII a. pradžios iki XIX a. Vidurio / redkol. A. Jankevičienė (Red. Koleg. Pirm.) ir kt. – 1994. – 592 p.: iliustr. – C. 50 – 52.
2. Полацкі Сафійскі сабор / аўтар тэксту Т.А. Джумантаева, фота А.П. Дрыбаса, Дз.М. Раманюка, Э.Я. Цацярэўскага. – Мінск: УП «Выдавецтва «Беларусь», 2005.
3. Габрусь, Т.В. Стваральнікі віленскага барока / Т.В. Габрусь // Наша вера. – 2001. – № 4 (18).
4. Габрусь, Т. В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока / Т. В. Габрусь. – Мінск: Ураджай, 2001. – 287 с.: іл. – С. 219 – 220.
5. Lorentz, S. Architekt kosciola w Berezweczu (w związku z artykułem Piotra Bohdzewicza) / S. Lorentz // Biuletyn historii sztuki. – Warszawa, 1984. – № 4. – S. 395.
6. Кулагін, А. М. Каталіцкія храмы Беларусі / А. М. Кулагін; фатограф А. Л. Дыбоўскі. – Мінск: Бел. энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2008. – 488 с.: іл. – С. 396 – 397.
7. Гаршкавоз, В. Д. Інтэр'ер слонімскага храма бернардзінак – помнік віленскага барока / В. Д. Гаршкавоз // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Новыя даслед.: зб. арт. / АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; рэд. С.В. Марцэлеў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – 204 с. – С. 59 – 60.
8. Гісторыя беларускага мастацтва: у 6 т. Т. 2: Другая палова XVI – канец XVIII ст. / рэдкал.: С. В. Марцэлеў (гал. рэд.) [і інш.]; рэд. тома Я. М. Сахута. – Мінск: Навука і тэхніка, 1988. – 384 с.

9. Габрусь, Т. В. Стылістычныя аспекты архітэктуры віленскага барока / Т. В. Габрусь // Барока ў беларускай культуры і мастацтве / пад рэд. В.Ф. Шматава. Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. – Мінск: Беларуская навука, 1998. – 304 с.: 129 іл.

Навуковы кіраўнік – ***Н.Я. Трыфанава***, кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт.

# Дадатак 1



Іл. 1.




Іл. 2.



Іл. 3.



Іл. 4.

Спіс ілюстрацый:

Іл. 1. Сафійскі сабор у Полацку.1738 – 1750 гг. Галоўны фасад
http://radzima.org/images/pamatniki/5091/5091_b1256390810.jpg

Іл. 2. Сафійскі сабор у Полацку.1738 – 1750 гг. План. Габрусь Т. В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока / Т. В. Габрусь. – Мн.: Ураджай, 2001. – 287 с.: іл. С.177.
http://radzima.org/images/pamatniki/5091/vipopola01-06.jpg

Іл. 3. Царква Св. Пятра і Паўла ў в. Беразвечча манастыра базыльянаў. 1756 – 1764 гг. Галоўны фасад. Фота 30-х гг. XX ст.
http://radzima.org/images/pamatniki/7406/vihlbier01-17.jpg

Іл. 4. Царква Св. Пятра і Паўла ў в. Беразвечча манастыра базыльянаў.1756 – 1764 гг. Бакавы фасад. Фота 30-х гг. XX ст.
http://radzima.org/images/pamatniki/7406/vihlbier01-11.jpg

Іл. 5. Касцёл Св. Яна Хрысціцеля (царква Успення Прасвятой Багародзіцы) ордэна іанітаў у в. Сталовічы.1743 – 1746 гг. Галоўны фасад.
http://radzima.org/images/pamatniki/276/brbastal01-24.jpg

Іл. 6. Касцёл Св. Яна Хрысціцеля (царква Успення Прасвятой Багародзіцы) ордэна іанітаў у в. Сталовічы.1743 – 1746 гг. План. Габрусь Т. В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока / Т. В. Габрусь. – Мн.: Ураджай, 2001. – 287 с.: іл. С. 220.

Іл. 7. Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі кляштара кармелітаў у Мсціславе 1746 – 1750 гг. Галоўны фасад. Сучасны выгляд.
http://radzima.org/images/pamatniki/2742/mamsmsci04-06

Іл. 8. Касцёл Св. Юрыя кляштара дамініканцаў у Забелах. 1749 – 1756 гг. Агульны выгляд. Літаграфія Н. Орды.
http://i.io.ua/img_ss/large/0000/37/00003764_n6.jpg

Іл. 9. Спаса-Праабражэнская царква ў Магілёве.1755 – 1762 гг. Агульны выгляд. Фота пач. XX ст.
http://radzima.org/images/pamatniki/6811/6811_b1252315763.jpg

Іл. 10. Спаса-Праабражэнская царква ў Магілёве.1755 – 1762 гг. Галоўны і бакавы фасады. Габрусь Т. В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока / Т. В. Габрусь. – Мн.: Ураджай, 2001. – 287 с.: іл. С.202.

УДК 008

*М. А. Лойко*
*(Минск, БГУ)*

## *НЕМАТЕРИАЛЬНОЕ КУЛЬТУРНОЕ НАСЛЕДИЕ*

В статье рассматривается определение понятия «нематериальное культурное наследие», данное в Международной конвенции ЮНЕСКО об охране нематериального культурного наследия 2003 года. Конвенция предполагает ведение двух списков: Репрезентативного списка и Списка нематериального культурного наследия, нуждающегося в срочной охране. В статье проанализированы критерии для включения объектов в оба списка, а также сами списки по количеству включенных объектов по годам, по странам. Рассмотрен объект, представляющий Республику Беларусь в Списке нематериального культурного наследия, нуждающегося в срочной охране обрядом «Колядные Цари», который проводится в деревне Семежево Копыльского района Минской области. Доказано, что данный объект соответствует всем критериям для включения в Список нематериального культурного наследия, нуждающегося в срочной охране.

В октябре 2003 года на 32-й сессии Генеральной конференции ЮНЕСКО в Париже была принята Международная конвенция об охране нематериального культурного наследия. Республика Беларусь ратифицировала Конвенцию в числе первых десяти государств. Конвенция вступила в действие 20 апреля 2006 года через 3 месяца после сдачи 30-й ратификационной

грамоты. Согласно Конвенции, «нематериальное культурное наследие» означает обычаи, формы представления и выражения, знания и навыки, а также связанные с ними инструменты, предметы, артефакты и культурные пространства, признанные сообществами, группами и, в некоторых случаях, отдельными лицами в качестве части их культурного наследия. Такое нематериальное культурное наследие, передаваемое от поколения к поколению, постоянно воссоздается сообществами и группами в зависимости от окружающей их среды, их взаимодействия с природой и их истории и формирует у них чувство самобытности и преемственности, содействуя тем самым уважению культурного разнообразия и творчеству человека.

Нематериальное культурное наследие проявляется, в частности, в следующих областях:

• устные традиции и формы выражения, включая язык в качестве носителя нематериального культурного наследия (например, свистящий язык острова Гомера на Канарских островах);

• исполнительские искусства (например, грузинское полифоническое пение);

• обычаи, обряды, празднества (например, фестиваль лодок-драконов в Китае);

• знания и обычаи, относящиеся к природе и вселенной (например, ритуалы, верования и практика целительства племени кальявая в Андах);

• знания и навыки, связанные с традиционными ремеслами (например, изготовление лубяных тканей в Уганде) [1, ст. 2].

Целями Конвенции являются охрана нематериального культурного наследия; уважение нематериального культурного наследия соответствующих сообществ, групп и отдельных лиц; привлечение внимания на местном, национальном и международном уровнях к важности нематериального культурного наследия и его взаимное признание; международное сотрудничество и помощь [1, ст. 1].

Конвенция предусматривает создание Межправительственного комитета по охране нематериального культурного наследия, который по предложению соответствующих государств-участников составляет, обновляет и публикует Репрезентативный список нематериального культурного наследия и Список нематериального культурного наследия, нуждающегося в срочной охране.

Важное место в составлении списков и работе Конвенции в целом играют критерии для внесения элементов нематериального культурного наследия в Списки. Было выработано два пакета критериев: для Репрезентативного списка и Списка нематериального культурного наследия, нуждающегося в срочной охране. Критерии были приняты на первой внеочередной сессии Межправительственного комитета по охране нематериального культурного наследия в Чэнду (Китай) в мае 2007 года [2].

Для внесения элемента нематериального наследия в Репрезентативный список в документах на номинацию от государства-участника (государств-участников) требуется продемонстрировать, что элемент, предложенный для включения в Репрезентативный список, соответствует всем перечисленным критериям.

1. Данный элемент является нематериальным культурным наследием, как это определяется в статье 2 Конвенции.

2. Включение данного элемента будет способствовать обеспечению наглядности, пониманию значимости нематериального культурного наследия и диалога, отражая тем самым культурное разнообразие во всем мире и подтверждая творчество человека.

3. Разрабатываются меры по охране, которые могут обеспечить сохранность и повышение роли данного элемента.

4. Данный элемент включен с возможно более широким участием заинтересованных сообществ, групп или, в некоторых случаях, отдельных лиц и с их свободного, предварительного и информированного согласия.

5. Данный элемент включается в список нематериального культурного наследия, имеющегося на территории подавшего (подавших) заявку государства-участника (государств-участников) [2].

1. а) Данный элемент нуждается в срочной охране, т.к. его существование находится под угрозой, несмотря на усилия заинтересованных сообществ, групп или, в некоторых случаях, отдельных лиц и государства-участника (государств-участников). (или)

б) Данный элемент нуждается в чрезвычайно срочной охране, т.к. подвергается серьезной опасности и без немедленной охраны может не уцелеть.

2. Разрабатываются меры по охране, которые могут позволить заинтересованным сообществам, группам или, в некоторых случаях, отдельным лицам продолжать практически использовать и передавать данный элемент.

3. Данный элемент включен в заявку при возможно более широком участии заинтересованных сообществ, групп или, в некоторых случаях, отдельных лиц, а также с их свободного, предварительного и информированного согласия.

4. Данный элемент включен в список нематериального культурного наследия, имеющегося на территории подавшего (их) заявку государства-участника (государств-участников).

5. В случаях чрезвычайной срочности с заинтересованным(ми) государством-участником (государствами-участниками) проведены консультации относительно включения данного элемента в Список НКН, нуждающегося в срочной охране [2].

Два пакета критериев имеют большое сходство. В соответствии с 1-м критерием – общим для обоих списков – элемент, номинированный на включение, должен удовлетворять определению нематериального культурного наследия, данному в Конвенции. 3-й и 4-й критерии требуют разработки мер по охране элемента. 4-й критерий относится к участию и согласию сообществ, групп и в некоторых случаях отдельных лиц. Согласно Конвенции, каждое государство-участник обязано составить свой перечень нематериального культурного наследия, и согласно 5-му критерию номинированный элемент должен входить в этот перечень, что должно способствовать тому, что государства станут соблюдать это обязательство.

2-й и 6-й критерии Списка наследия, нуждающегося в срочной охране, относятся к случаям, когда требуется срочное вмешательство и к процедурам консультаций с заинтересованными государствами-участниками в срочных случаях. 2-й критерий Репрезентативного списка, напротив, предусматривает, что элементы, предложенные для включения, должны удовлетворять целям Репрезентативного списка.

Многие объекты Списка ЮНЕСКО были провозглашены шедеврами нематериального культурного наследия еще до вступления в силу Конвенции. В мае 2001 года Генеральный директор Коитиро Мацуура впервые объявил объектами мирового достояния 19 шедевров устного и нематериального наследия человечества, представляющих собой различные формы выражения образа жизни и культуры людей. В ноябре 2003 года состоялось второе провозглашение 28 шедевров. Следующее провозглашение состоялось в 2005 году, когда было провозглашено 43 шедевра [3]. Таким образом, шедеврами устного и нематериального наследия человечества было объявлено 90 форм культурного самовыражения из 70 стран мира.

Все шедевры устного и нематериального наследия, провозглашенные в 2001, 2003 и 2005 годах, после вступления Конвенции в силу автоматически включаются в Репрезентативный список [4].

Количество объектов, провозглашенных шедеврами устного и нематериального наследия человечества и внесенных в Списки, постоянно росло на протяжении 2001 – 2009 года. Больше всего объектов было внесено в Список ЮНЕСКО в 2009 году (76), что можно объяснить более планомерной и эффективной работой после вступления Конвенции об охране нематериального культурного наследия в действие.

Наибольшее количество объектов в Репрезентативном списке принадлежит Китаю (26), Японии (16), Корее (8). Республика Беларусь в этом списке не представлена [5]. Очевидно, что наибольшее число объектов в Списке принадлежит странам Юго-Восточной Азии. Это можно объяснить тем, что восточный менталитет более, чем другие, склонен к сохранению традиций. Восток обладает огромным наследием, в том числе и нематериальным, этот регион не так давно как, например, Европа подвергся глобализации. Однако это можно отнести и к другим регионам, таким как Океания, Африка, остальная часть Азии, однако нельзя не отметить большую работу стран именно Юго-Восточной Азии по участию в реализации Конвенции в жизнь.




В Списке НКН, нуждающегося в срочной охране, лидерство по количеству включенных в этот список объектов принадлежит Монголии и Китаю (по 3 объекта).

Республика Беларусь представлена в Списке нематериального культурного наследия, нуждающегося в срочной охране, одним объектом – обрядом «Колядные Цари» —

традиционным новогодним народным обрядом и праздником в деревне Семежево Копыльского района Минской области. Обряд проводится в канун Нового года по юлианскому календарю. В 2009 году обряд был включён в список нематериального культурного наследия ЮНЕСКО как объект, нуждающийся в срочной охране.

Праздник включает колядование, элементы народной пьесы «Царь Максимильян», известной с XIX века [6, с. 127], по другим данным – с начала XVIII века [7].

Согласно преданию, перед Новым годом солдаты и офицеры, расквартированные около деревни, ходили по домам местных жителей, показывали сценки и получали за это подарки. После передислокации солдат в другое место традицию продолжили местные молодые люди, которые одевались в костюмы, напоминающие военную форму. Таких ряженых стали называть «царями». Царей на празднике сопровождают комические персонажи Деда (исполняет девушка в оборванной мужской одежде) и Бабы (исполняет парень).

В первую очередь цари обходят дома незамужних девушек, в каждом доме исполняют сценки, а затем высказывают пожелания хозяевам и в ответ получают подарки. Вечером процессию освещают факелы.

Обряд зародился в деревне в конце XVII – XVIII веках и проводился до 1960-х годов. С конца 1960-х годов по 1980 год традиция праздника была нарушена, обряд проводился лишь эпизодически. В 1980 году группа энтузиастов восстановила празднование [7].

Этот объект полностью соответствует всем критериям для включения в Список нематериального культурного наследия, нуждающегося в срочной охране. Элемент является нематериальным культурным наследием, как это определено в статье 2 Конвенции, нуждается в срочной охране, т.к. его существование находится под угрозой из-за активного переселения жителей деревни в города и потери интереса к празднику у молодёжи [7]. Разрабатываются меры по охране элемента, например, установление ежегодной премии «За охрану традиций Семежево», создание программ по местному и национальному телевидению, проведение ярмарок ремесел в Семежеве [7]. Местные жители согласны с включением объекта в Список [8]. Данный элемент включен также в Список историко-культурных ценностей Республики Беларусь, как того требует Конвенция об охране нематериального культурного наследия.

This article is about the intangible cultural heritage. The Convention for the Safeguarding of Intangible Cultural Heritage was accepted in 2003. The criteria for inscription on the Representative List and the Urgent Safeguarding List and these Lists were investigated in the article. The Kalyady Tsars, the element which presents The Republic of Belarus in the Urgent Safeguarding List, is described.

Список источников и литературы

1. Международная конвенция об охране нематериального культурного наследия. Париж, 17 октября 2003. Интернет-адрес: http://unesdoc.unesco.org/images/0013/001325/132540r.pdf.

2. Вестник нематериального наследия. Август 2007. № 7. Интернет-адрес: http://www.unesco.org/culture/ich/doc/src/00244-RU.pdf.
3. Интернет-сайт, посвященный нематериальному культурному наследию: http://www.unesco.org/culture/ich/index.php?lg=EN&pg=home.
4. Вестник нематериального наследия. Октябрь 2007. № 8. Интернет-адрес: http://www.unesco.org/culture/ich/doc/src/00256-RU.pdf.
5. The Intangible Heritage Lists. Интернет-адрес: http://www.unesco.org/culture/ich/index.php?pg=00011.
6. Стэльмах, Д.У. Народная драма «Цар Максімілян» і яе бытаванне на Беларусі / Д.У. Стэльмах // Беларуская літаратура. Вып. 8. – Мінск, 1980. – С. 126 – 135.
7. Convention for the Safeguarding of the Intengible Cultural Heritage. Abu Dhabi, 2009. Интернет-адрес: http://www.unesco.org/culture/ich/doc/src/00308-Nomination%20form-EN.doc.
8. Письмо жителей деревни Семежево Межправительственному комитету по охране нематериального культурного наследия при ЮНЕСКО. Интернет-адрес: http://www.unesco.org/culture/ich/doc/src/00308-Community%20consent-EN.pdf

Научный руководитель – ***А.И. Махнач***, кандидат исторических наук, доцент.

## АРХЕАЛОГІЯ

УДК 27-312.8:902

*В. С. Грышко*
*(Гродна, ГрДУ імя Янкі Купалы)*

## *ПАХАВАЛЬНЫ АБРАД ЯК ІНДЫКАТАР ХРЫСЦІЯНІЗАЦЫІ (НА ПРЫКЛАДЗЕ БЕЛАРУСКАГА ПАНЯМОННЯ)*

В статье рассматриваются научные направления в археологии по отношению к влиянию христианства на погребальный обряд. Выделяются критерии, в соответствии с которыми обряд может быть идентифицирован как христианский. Дается обзор погребальных памятников Белорусского Понеманья (XI – XVI вв.) и влияния на них христианских традиций.

Пахавальны абрад – гэта сукупнасць строга акрэсленых дзеянняў, якімі суправаджалася пахаванне нябожчыка [1, с. 491]. Яны ўвасабляюцца ў структуры і змесце, чым ствараюць вялікую разнастайнасць пахавальных помнікаў па віду пахавальных збудаванняў (курган, грунтовая магіла, каменныя канструкцыі), віду пахавальнага абраду (трупаспаленне – поўнае або няпоўнае, на месцы або па-за межамі пахавання, трупапалажэнне), тыпу пахавальнага абраду (ямны і наземны), арыентыроўцы нябожчыка (галавой на захад, усход, поўнач, поўдзень, сядзячае або скурчанае становішча касцяка), па палажэнню рук нябожчыка (абедзве рукі ўздоўж тулава або на жываце ці на грудзях; адна рука ўздоўж тулава, другая на жываце ці на грудзях і інш.), па тым, ці сустракаюцца сляды агню (кальцыніраваныя косці, перадпахавальныя, пахавальныя і пасляпахавальныя вогнішчы, попел і вуголле ў насыпе або каля касцяка і інш.), ці прысутнічаюць якія-небудзь віды пахавальнага інвентара (керамічныя пасудзіны і іншыя прадметы побыта, упрыгожванні, узбраенне), па разнастайнасці трун (з дошак, плах, бярвён, выдзеўбаныя калоды) і г. д.

Структура і змест пахавання, а таксама дзеянні, якімі суправаджаўся абрад, фармаваліся і мяняліся пад уплывам рэлігійных ўяўленняў, этнічнай прыналежнасці, становішча ў грамадстве. Менавіта адначасовы ўплыў некалькіх фактараў перашкаджае даць канчатковы адказ, якім чынам структура і змест пахавальнага абраду мяняліся пад уплывам хрысціянства. Але несумненным з'яўляецца тое, што менавіта яно з новай канцэпцыяй разумення смерці радыкальна мяняла адносіны чалавека да яе і адлюстроўвалася ў спосабах пахавання нябожчыкаў.

Спрэчка аб тым, якія крытэрыі выдзяляюць пахаванне як хрысціянскае, пачаліся яшчэ ў XIX стагоддзі. Натуральна, што націск быў пастаўлены на тыя рысы, якімі характарызавалася тагачаснае хрысціянскае пахаванне: ямнае трупапалажэнне на спіне з перакрыжаванымі рукамі, арыентаванае на Захад, якое ўтрымлівала прадметы асабістага культу (крыжыкі і інш.). Аднак спрэчным стала тое, што гэтыя рысы ў Сярэднявеччы не былі распаўсюджаны цэлым комплексам, археолагі выяўляюць толькі яго элементы.

Менавіта з гэтага часу, як адзначыў сучасны расійскі даследчык працэсаў хрысціянізацыі Навагародскай зямлі Аляксандр Мусін, узнікаюць два навуковыя накірункі адносна

інтэрпрэтацыі рысаў пахавання: паганізуючы і хрысціянізуючы. Першыя на аснове этнаархеалагічных і этнаграфічных падыходаў сцвярджалі, што інгумацыі X – XI стст. у славянскім свеце былі адным з паганскіх абрадаў (А.А. Катлярэўскі, Л. Нідэрле і інш.). Другія ж аргументавалі іх уплывам новай рэлігіі- хрысціянства (Г.В. Салаўёва, М.В. Фехнер і інш.). Часам некаторыя разглядалі і такі варыянт: трупапалажэнне з паўднёвай арыенціроўкай характэрна паганскаму светапогляду, а з заходняй – хрысціянскаму (А.А. Спіцын).

Напрыклад, даследчык радзіміцкіх пахаванняў В.В. Багамольнікаў пярэчыў думцы аб прыпісванні поспехам хрысціянізацыі з'яўлення ямных пахаванняў, аднак не адмаўляў цалкам ролю хрысціянства ў зменах пахавальнага абраду. Лічыў, што з'яўленне курганоў – вынік насаджэння хрысціянства, але адваротны таму, да якога імкнулася хрысціянская царква [2, с. 100]. Ён таксама не лічыў хрысціянства прычынай пераходу да абраду трупапалажэння. Проста не было неабходнасці спальваць нябожчыка, бо курган сам па структуры абараняў ад паху тлена.

Наадварот, Якаў Рыер адзначаў, што менавіта хрысціянства прынесла новы пахавальны абрад, які не прымаў як надмагільных зямельных збудаванняў, так і звычаю класці ў магілу розныя рэчы [15, с. 35]. Ён адмаўляў канцэпцыю сацыяльна-эканамічных уплываў на змену пахавальнай абраднасці. Феадалізацыя грамадства і стварэнне адзінкавых сем'яў – працэс доўгі, які заняў не адно стагоддзе. Пераход жа да трупапалажэнняў адбыўся досыць хутка, менш чым за сто гадоў. Да таго ж пашырэнне хрысціянства і трупапалажэнняў супала па часу не толькі ва ўсходніх славян, але і ў заходніх (у Польшчы, чэхамараўскіх землях, Славакіі).

Валянцін Сядоў, напрыклад, выступаў супраць непасрэднай сувязі паміж зменамі пахавальнай абраднасці і прыняццем хрысціянства. Ён сцвярджаў, што для сур'ёзных зменаў пахавальнай абраднасці неабходна прызнанне хрысціянскага светапогляду шырокімі слаямі насельніцтва, альбо, па меншай меры, выданне дзяржаўных забаронаў накшталт капітулярыяў Карла Вялікага. Калі ж дапусціць, што абрад інгумацыі і заходняй арыентыроўкі пахаванняў звязаны з хрысціянствам, то кіеўскія дружынныя пахаванні мусілі б даць значную перавагу заходняй арыенціроўцы, паколькі новая рэлігія ў першую чаргу павінна была распаўсюдзіцца сярод верхніх слаёў гарадскога насельніцтва. У рэчаіснасці ж назіраецца адваротная карціна – трупапалажэнні з заходняй арыенціроўкай пануюць сярод вясковых пахаванняў і пахаванняў шэраговых гараджан [17, с. 104].

Сёння ж, калі пытанні археалагічнага вывучэння працэсаў хрысціянізацыі распрацоўваюцца на новым метадалагічным узроўні, праблема трансфармацыі пахавальнага абраду пад уплывам хрысціянства становіцца найбольш актуальнай, вылучаюцца дадатковыя крытэрыі ідэнтыфікацыі пахавання як хрысціянскага, распрацоўваецца сістэматызацыя саміх помнікаў.

Напрыклад, польскі даследчык Мар'ян Рэмбкоўскі, акрамя вышэйназваных крытэрыяў, увагу надае выпадкам знаходжання ў пахаваннях літургічных альбо свецкіх прадметаў, што пазначаны хрысціянскай сімволікай [20, с. 91].

Аркадзіўш Капяркевіч акцэнтуе, што раннесярэднявечнае пахаванне магло быць пэўным сакральным спектаклем, паўтарэннем жыцця Ісуса, дзе жалобніцы-акторкі выкарыстоўвалі шмат пахавальных дароў: напрыклад, бронзавыя місы як сімвал пачатку ўкрыжавання, калі Ісус наліў вады

і пачаў абмываць ногі вучням, альбо сімвал посуду, у якім Пілат вымыў рукі. Варта звяртаць увагу і на іншыя сімвалы: вагі – сімвал суда і смерці, меч – сімвал Слова Божага, верацяно – жаночы сімвал працягласці жыцця ці яшчэ, як яго называюць, «Марыін сімвал», бітая кераміка – гліна і прах, у які вернецца чалавек, і г. д. [19, с. 280 – 282].

На думку Таццяны Пановай, адмова ад крэмацыі не была выклікана выключна хрысціянскай рэлігіяй, таксама не абавязковым для хрысціянскага пахавання з'яўляецца наяўнасць нацельнага крыжыка [13, с. 7, 15].

Сяргей Піваварау акрэсліў тыпы хрысціянскіх пахаванняў для Букавінскага рэгіёну Украіны: пахаванні ў ямах, падплітавыя пахаванні, ямныя пахаванні з «каменнымі падушкамі», ямныя пахаванні ў каменных колах-кромлехах, ямныя пахаванні пад курганамі, пахаванні ў каменных кастніцах, пахаванні ў саркафагах [14, с. 35 – 43].

Крытэрыі выдзялення хрысціянскіх пахаванняў з шэрагаў іншых грунтоўна ахарактарызаваў Аляксандр Мусін:

- адсутнасць кургана,
- наяўнасць магільнай ямы,
- заходняя арыенціроўка пахаваных,
- скрыжаванае становішча рук,
- склад пахавальнага інвентара (воск, свечы, каменныя падушкі і інш.),
- прадметы хрысціянскага культу [10, с. 39 – 47].

Зыходзячы з вышэйсказанага, можна меркаваць, што пры вывучэнні ўплываў хрысціянства на пахавальны абрад недастаткова пэўнага набору крытэрыяў, згодна з якімі пахаванне аўтаматычна прылічваецца ці да паганскай супольнасці, ці да хрысціянскай. Тут неабходны базісныя веды аб этнічных традыцыях вывучаемага насельніцтва, сацыяльна-эканамічным жыцці, гандлёвых і культурных сувязях з іншымі землямі. І толькі з улікам гэтых дадзеных пачынаецца інтэрпрэтацыя пахавальных помнікаў па вышэйназваных крытэрыях.

Ускладніць задачу здольныя і іншыя аспекты. Напрыклад, пахавальны абрад можа адначасова адлюстроўваць як рэлігійную ідэнтыфікацыю самога нябожчыка, так і грамадства, што яго хавала, а часам – рэлігійную прыналежнасць толькі аднаго з бакоў. Такім чынам, хрысціянін мог быць пахаваны па паганскаму абраду.

Цікавым чынам працэсы хрысціянізацыі працякалі ў Беларускім Панямонні, дзе пражывала шматэтнічнае насельніцтва, а знаёмства з хрысціянствам ажыццяўлялася адначасова па двух узорах: лацінскаму і візантыйскаму. Гэта пазней і надало канфесійную асаблівасць рэгіёну. Па пахавальных помніках відавочна, што тут на паўночна-ўсходняй частцы пражывалі крывічы (славяне), на паўднёвай – дрыгавічы і валыняне (славяне), на паўночна-заходняй – насельніцтва ўсходне-літоўскіх курганоў (балты), на заходняй – яцьвягі (балты). Кожны з іх меў пэўны пахавальны абрад. Цяжка іх характарызаваць, бо вынікі раскопак большасці з іх неапублікаваны, па некаторых ёсць толькі сціплая інфармацыя. Аднак пэўныя тэндэнцыі па змене пахавальнага абраду можна адзначыць.

Славянскія пахаванні прадстаўлены ў асноўным курганамі, якія лакалізуюцца па ўсяму Панямонню, акрамя паўночна-заходняй часткі [7, с. 85]. Большасць з іх – па абраду

трупапалажэння, рэдка сустракаецца трупаспаленне. Часцей касцяк мае выцягнутае становішча, галава арыентавана на паўднёвы захад, рукі размешчаны ўздоўж тулава (ці адна сагнута ў локці і пакладзена на грудзях, ці сагнуты абедзве рукі і кісці на жываце) [7, с. 87]. Нячаста, але сустракаюцца пахаванні ў магільных ямах. Авальная ці прамавугольная форма ямы выцягнута з захаду на ўсход, касцяк мае выцягнутае становішча, арыентаваны галавой на захад, часам з адхіленнямі (Пдз-Пн). Нават ёсць прыклад пахавання XII – XIII стст. у дамавіне [12, с. 90].

Адзначаецца, што трупаспаленню Х ст. на змену ідзе трупапалажэнне XI – XII стст., а інвентар у славянскіх могільніках з трупапалажэннем багацейшы, чым з трупаспаленнем [7, с. 89 – 93]. Пры тым у пераходзе абрада назіраецца нераўнамернасць: змена ажыццяўляецца раней на Усходзе і Поўдні, чым на Захадзе і Паўночным Захадзе.

Асобным пунктам пахаванняў Беларускага Панямоння з'яўляецца гарадскі некропаль. У Навагрудку даследаваны могільнік з 30 пахаванняў: 8 – па абраду трупаспалення, 22 – трупапалажэння [7, с. 96]. Касцякі знаходзіліся ў выцягнутым становішчы, на спіне, галавой на захад (рэдка адхіленні), рукі выцягнуты ўздоўж тулава ці ляжаць на грудзях. Ва ўсіх пахаваннях прысутнічае праслойка попелу, каля ног – камяні і гаршкі. У Вакольным горадзе Навагрудка – 103 пахаванні ў неглыбокіх ямах, некаторыя нябожчыкі ў трунах без цвікоў, іншыя пакрыты толькі дошкамі, выцягнутае становішча на спіне, галавой на захад (з адхіленнямі), рукі складзены на грудзях ці на жываце, у рэдкіх выпадках выцягнуты ўздоўж тулава. Некалькі касцякоў ляжала ў скручаным становішчы на баку, галавой на поўнач ці паўднёвы ўсход, рукі сагнутыя ў лакцях, а кісці прыцягнуты да падбародку [5, с. 49].

Дзядзінец Ваўкавыска ўтрымліваў 6 ямных пахаванняў галавой на паўднёвы захад, касцякі мелі выцягнутае становішча, на спіне, рукі ўздоўж тулава, у аднаго нябожчыка рукі сагнутыя і падцягнутыя да галавы. У вакольным горадзе Ваўкавыска – 5 ямных пахаванняў, касцякі ляжалі на правым баку, рукі злёгку выцягнуты ўперад.

Цікавыя вынікі па праблематыцы хрысціянскіх пахаванняў прынеслі даследаванні ў 2005 годзе Генадзя Семенчука на безымянным пагорку на паўночны захад ад Ваўкавыскага замчышча [18, с. 202 – 204]. Было выяўлена 14 ямных пахаванняў. У двух пахаваннях удалося выявіць рэшткі драўляных трунаў, а яшчэ ў двух – вакол памерлага выкладзеныя невялікія камяні, якія маглі выконваць ролю каменнай абставы. Усе 14 пахаванняў па абраду трупапакладання, адзіночныя, размешчаныя на спіне ў выцягнутым стане. Усе шкілеты арыентаваныя галавой на захад, у некаторых выпадках назіраюцца некаторыя адхіленні на поўдзень. У размяшчэнні рук назіраецца пэўная разнастайнасць: ад скрыжаваных на жываце і грудзях да левая на жываце, а правая на плячы. Пахавальны інвентар вельмі малалікі. Выяўлены тры дротавыя пярсцёнкі і адзін пласцінкавы з пашырэннем, пасярэдзіне – з заходзячымі канцамі з выціснутым арнаментам.

Пахаванні ў дзядзінцы і вакольным горадзе Ваўкавыска, а таксама ў вакольным горадзе Наваградка абумоўлены ваеннымі падзеямі ці іншымі катастрофамі, але не адмаўляецца гіпотэза знаходжання могільніка ў Наваградскім вакольным горадзе, бо там быў храм [7, с. 97].

Да пахавальных помнікаў балцкага насельніцтва адносяцца ўсходнелітоўскія курганы і каменныя курганы і магілы. У II – IV стст. тут пануе змешаная абраднасць (трупапалажэнне-трупаспаленне), у IV – V стст. – трупаспаленне. Самыя познія трупаспаленні сустракаюцца на

мяжы I i II тысячагоддзяў (да XIII ст.) [16, с. 48]. Магчыма, з каменных курганоў і ўтварыліся каменныя магілы, якія пачатак свой бяруць з XII – XIII стст. [7, с. 106]. Менавіта пры іх шырока сустракаюцца выбітыя крыжы на камянях.

Цікавымі з'яўляюцца думкі па пытанні хрысціянізацыі пахавальнага абраду даследчыкаў, якія непасрэдна займаліся вывучэннем сярэднявечных гарадоў Панёмання.

Фрыда Гурэвіч адзначала, што хрысціянскі пахавальны абрад першапачаткова (у XI ст.) з'яўляецца толькі ў гарадах і прыналежных да іх тэрыторый, бо прыняцце хрысціянства пачалося з вярхушкі грамадства [3, с. 19, 41]. У сваім артыкуле, прысвечаным пахавальным помнікам жыхароў Наваградка (1983 г.), яна зрабіла высновы, што паганскі пахавальны абрад, які панаваў сярод гараджан да канца XI ст., у першай палове XII ст. змяняецца хрысціянскім у прывілеяванай часткі жыхароў. Адзначана, што нявысветленым застаецца пытанне, ці ўспрыняло ў гэты час шэраговае насельніцтва новую рэлігію і з ёю новы абрад пахавання [4, с. 54].

На думку Яраслава Звяругі, на Панямонні распаўсюджванне хрысціянства адлюстравана ў пераходзе ад абраду трупаспалення да абраду трупапалажэння ў славянскіх пахавальных помніках на мяжы XI – XII стст. Пры тым змена аднаго абрада іншым у розных частках рэгіёну ажыццяўлялася неаднначасова. На ўсходзе і поўдні гэта здзейснілася на некалькі дзесяцігоддзяў раней, чым на захадзе і асабліва на паўночным Захадзе. У паўночна-заходняй частцы Панямоння звычай узводзіць курганныя насыпы над пахаванымі захаваўся да пачатку XIV ст., у той час, як на астатняй тэрыторыі ўжо ў канцы XIII ст. цалкам скончыўся пераход да пахаванняў у грунтавых магілах [6, с. 196].

У працах Алы Квяткоўскай прасочваецца ідэя, што хрысціянскія ўплывы сярод яцвяжскага насельніцтва бачны толькі ў XVI ст., паколькі прымусовая хрысціянізацыя, што пачалася з хрышчэння Ягайлы ў 1386 годзе, дасягнула сваіх вынікаў толькі падчас Рэфармацыі і Контррэфармацыі. Гэта значыць, што на яцвяжскай тэрыторыі паганства існавала да XVI ст. і мела свае ўплывы і далей [9, с. 166]. Перыяд жа XI – XVI стст., калі панаваў абрад трупапалажэння ў грунтовых ямах, яна не звязвае з хрысціянствам. Асноўным паказчыкам хрысціянізацыі насельніцтва А.В. Квяткоўская лічыць знікненне металічных упрыгожванняў касцюма [9, с. 138]. Падвескі-крыжыкі, што сустракаюцца ў гэтых пахаваннях, яна залічвае да паганскіх. Дарэчы, савецкая даследчыца Н.Г. Нядошвіна характарызавала крыжыкі-падвескі як першыя крокі хрысціянства [11, с. 224].

Ала Квяткоўская таксама адзначае, што нават з прыняццем хрысціянства насельніцтва Панямоння доўгі час магло выкарыстоўваць паганскія звычаі ў пахаванні. Прычынай гэтага яна бачыць наступнае: людзі не маглі везці памерлых на царкоўныя ці прыкасцёльныя могілкі ў час веснавога ці восеньскага бездарожжа. Таксама за хрысціянскае пахаванне трэба было выплачваць грошы. Таму паганскія звычаі маглі захоўвацца і сярод хрысціян да XVI ст. Даследчыца таксама лічыць, што наяўнасць дамавіны ў пахаванні сведчыць аб яго хрысціянскім характары.

Агульная характарыстыка пахавальных помнікаў Беларускага Панямоння сведчыць пра складаную этнарэлігійную сітуацыю рэгіёну. Відавочна, што паступовая ўніфікацыя абраду сведчыла аб змене свядомасці насельніцтва на карысць хрысціянства: найперш у гарадах з'яўляюцца ямныя пахаванні з трупапалажэннем (вакольны горад і дзядзінец Ваўкавыска, вакольны горад Наваградка). Славянскія курганныя пахаванні ў XI ст. пачынаюць утрымліваць

трупапалажэнні. Балцкія ж пахавальныя помнікі характарызуюцца большай аднастайнасцю ў паганскіх звычаях (апошнія трупаспаленні – XIII ст.). Магчыма, працэсы шырокай хрысціянізацыі тут распачынаюцца з рэлігійнай рэформы Ягайлы XIV ст., а ў XVI ст. сягаюць кожнага жыхара. Пацвярджэннем гэтага можна лічыць каменныя магілы, якія ўтрымліваюць пахавальныя камяні з выбітымі крыжамі [9, с. 32].

The article contains information about archaeological schools connected with the influence of Christianity on sepulchral rites. Some criteria, helping to identify a sepulchral rite as a Christian one, are sorted out. The sepulchral monuments of the Belarusian Ponyemanye (XI – XVI cent.) and their influence on Christian traditions are observed.

Спіс крыніц і літаратуры

1. Багамольнікаў, У.У. Пахавальны абрад / У. У. Багамольнікаў, Я. Р. Рыер // Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. / Бел. энцыкл.; рэдкал.: В. В. Гетаў [і інш.]. – Мінск: БелЭн, 1993. – 702 с.
2. Богомольников, В. В. Причины изменения погребального обряда радимичей / В. В. Богомольников // Древности Белоруссии и Литвы: сборник статей. – Ин-т истории АН БССР, Ин-т истории АН ЛитССР / науч. ред. Л. Д. Поболь, А. З. Таутавичюс. – Минск: Наука и техника, 1982. – С. 98 – 103.
3. Гуревич, Ф. Д. Древние города Белорусского Понеманья / Ф. Д. Гуревич. – Минск: Полымя, 1982. – 48 с.
4. Гуревич, Ф. Д. О длинных и удлиненных курганах в Западной Белоруссии / Ф. Д. Гуревич // Краткие сообщения Института истории материальной культуры Академии наук СССР. – 1958. – Вып.72. – С. 54 – 65.
5. Гуревич, Ф. Д. Погребальные памятники жителей Новогрудка (конец X – 70-е годы XIII вв.) / Ф. Д. Гуревич // Краткие сообщения Института археологии Академии наук СССР. – 1983. – Вып. 175. – С. 48 – 54.
6. Зверуго, Я. Г. Верхнее Понеманье в IX – XIII вв. / Я. Г. Зверуго. – Минск: Навука і тэхніка, 1989. – 207 с.
7. Звяруга, Я. Г. Насельніцтва Панямоння / Я. Г. Звяруга // Археалогія Беларусі: у 4 т. Т. 3: Сярэдневяковы перыяд (IX – XIII стст.) / навук. рэд. П. Ф. Лысенка. – Мінск: Беларуская навука, 2000.
8. Квятковская, А. В. Исследования каменного могильника у д. Вензовщина / А. В. Квятковская // Краткие сообщения Института археологии Академии наук СССР. – 1989. – Вып. 198. – С. 90 – 95.
9. Квятковская, А. В. Ятвяжские могильники Беларуси к. XI – XVII вв. / А. В. Квятковская. – Вильнюс: Diemedzio leidykla, 1998. – 206 с.
10. Мусин, А. Е. Христианизация Новгородской земли в IX – XIV вв. Погребальный обряд и христианские древности / А.Е. Мусин. – СПб.: Центр «Петербургское востоковедение ... », 2002. – 272 с.
11. Недошвина, Н. Г. Средневековые крестовидные подвески из листового серебра / Н.Г. Недошвина // Советская археология. – 1983. – № 4. – С. 222 – 225.
12. Павлова, К. В. Раскопки курганов у деревень Селец и Ботаревка в Понеманье / К. В. Павлова // Краткие сообщения Института археологии Академии наук СССР. – 1977. – Вып. 148. – С. 85 – 90.
13. Панова, Т. Д. Царство смерти. Погребальный обряд средневековой Руси XI – XVI вв. / Т.Д. Панова // Электронное периодическое издание «Открытый текст» [Электронный ресурс]. – 2004 – 2007. – Режим доступа: http://opentextnn.ru/history/archaeology/library/panova. – Дата доступа: 30.09.2009.
14. Пивоваров, С. Християньскі старожітності в мижиріччі Верхнього Пруту та Середнього Дністра / С. Пивоваров. – Чернівці: Зелена Буковина, 2001. – 152 с.
15. Рыер, Я. Старажытнарускія курганы / Я. Рыер // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. – 1985. – № 3. – С. 35 – 36.
16. Седов, В. В. Курганы ятвягов / В. В. Седов // Советская археология. – 1964. – № 4. – С. 36 – 51.
17. Седов, В. В. Следы восточнобалтийского погребального обряда в курганах древней Руси / В. В. Седов // Советская археология. – 1961. – № 2. – С. 103 – 121.
18. Семянчук, Г. Папярэднія вынікі даследавання сярэднявечнага могільніка ў г. Ваўкавыску Гродзенскай вобласці / Г. Семянчук // Гістарычна-археалагічны зборнік. № 21. – Мінск: Інстытут гісторыі НАН Беларусі, 2006. – С. 202 – 204.
19. Koperkiewicz, A. Wczesnośredniowieczne dary grobowe w kontekście symboliki chrześcijańskiej / A. Koperkiewicz

// Do, ut, des- dar, pochówek, tradycja. Funeralia lednickie, spotkanie 7 (red. Wojciech Dzieduszycki, Jacek Wrzesiński). – Poznań, 2005. – S. 269 – 291.
20. Rębkowski, M. Chrystijanizacyja Pomorza Zachodniego. Studium archeologiczne / M. Rębkowski. – Szczecin, 2007. – 278 s.

Навуковы кіраўнік – ***Г. М. Семянчук***, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

УДК 929.652(476.6)

*А. В. Карач*
*(Гродна, ГрДУ імя Янкі Купалы)*

## *ГРАШОВЫЯ СКАРБЫ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ*

Статья посвящена слабо изученной теме монетных кладов. Автор анализирует архивную информацию о монетных депозитах, открытых на Гродненщине до начала XX века и показывает определяющую роль Гродненского губернского статистического комитета в деле сохранения и описания находок монетных кладов.

Манетны скарб – гэта грашовая сума, выключаная з абарачэння і схаваная ў патаемным месцы (часцей за ўсё закапаная ў зямлі). У мінулым гэта звычайны спосаб захавання грошай, якім карысталіся найчасцей у неспакойныя часы.

Манетны скарб з'яўляецца гістарычным помнікам, які дае магчымасць вызначыць склад грашовага абарачэння, уяўленне пра грашовыя і вагавыя сістэмы ранейшых часоў. Даследаванне скарбу пачынаецца з вызначэння яго ўтрымання і даты схавання, якая прымаецца за дату эмісіі самай малодшай манеты ў скарбе. Далейшыя навуковыя даследаванні праводзяцца нават не на адным знойдзеным манетным скарбе, яны заснаваныя на навуковым вывучэнні і аналізе шматлікіх скарбаў у спалучэнні з тапаграфічнымі дадзенымі і пісьмовымі крыніцамі. Правільнае вывучэнне дазваляе ўзнавіць заканамернасць і інтэнсіўнасць грашовага абароту, узровень развіцця і асноўныя накірункі эканамічных, палітычных і культурных сувязяў розных дзяржаў.

Беларусам са скарбамі пашанцавала: наша краіна лічыцца адной з самых багатых на іх у Еўропе, бо тут праходзілі гандлёвыя шляхі – і з поўначы на поўдзень, і з захаду на ўсход. Згодна з энцыклапедыяй «Археалогія і нумізматыка Беларусі», на тэрыторыі Беларусі выяўлена больш за 1100 скарбаў з антычных часоў да XX ст. [1, с. 408 – 409]. Беларуская зямля – своеасаблівая схованка, якая, дарэчы, даволі шчодра адкрывае свае таямніцы.

Як правіла, схаваныя грошы выяўляюцца падчас правядзення палявых працаў, будаўніцтва, рамонта дарог. Аднак бываюць і «іншыя цікавыя выпадкі» знаходак скарбаў. Выдатнейшы беларускі нумізмат Валянцін Навумавіч Рабцэвіч узгадвае іх у сваёй працы [2, с. 42 – 43]: «1845 г. Каля Барысава была заўважана птушка, якая насіла незвычайныя бліскучыя рэчы ў сваё гняздо. У ім аказалася вельмі шмат літоўскіх, польскіх, прускіх і рускіх манет XVI ст. Хутчэй за ўсё, дзесьці

непадалёку быў выпаханы і не заўважаны людзьмі скарб. Увагу птушкі прыцягнула бліскучасць срэбра, і яна пачала пераносіць манеты ў гняздо.

1888 г. Каля вёскі Навасёлкі Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці крот выкінуў на паверхню рымскія манеты I ст. н. э.

1921 г. Пад Слуцкам свіння вывернула з-пад зямлі гаршчок, напоўнены лівонскімі і нідэрландскімі манетамі XVII ст. Здавалася б, выпадак выключны і непаўторны, аднак яшчэ два разы свінні выступалі ў якасці паспяховых скарбашукальнікаў (у Старобінскім і Докшыцкім раёнах).

1964 г. Размытая праліўным дажджом лясная дарога, якая вяла да пасёлка Касалякі Кармянскага раёна Гомельскай вобласці, была заслана ўсходнімі манетамі IX ст.

1969 г. Каля вёскі Гірдоўка Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці хлопчык выпадкова капнуў зямлю палкай і натыкнуўся на скарб манет часоў ВКЛ XVII ст.» Гэты спіс можна працягваць і далей.

Як правіла, скарбы залягаюць на невялікай глыбіні (не болей за 40 см) і крайне рэдка – болей за 1 м. На думку В.Н. Рабцэвіча, «абсалютная большасць вядомых скарбаў – гэта даволі сціплыя для свайго часу сумы, якія былі назапашаны ніжэйшымі і сярэднімі, г. зн. самай шырокай праслойкай насельніцтва» [3, с. 99].

Тэма скарбаў трывала існуе і ў беларускім фальклоры. Так, скарбы дзеляцца на злыя (заклятыя) і добрыя. Нячыстая сіла заўсёды сачыла за непарушанасцю закапанага ў зямлі. Згодна з народным павер'ем, у залежнасці ад таго, дзе схаваны дэпазіт, такімі ахоўнікамі былі: палявік, лесавік, багнік і кладавік [4, с. 54].

На тэрыторыі Гродзнскай вобласці кожны год знаходзяць грашовыя скарбы, аднак зусім нязначная колькасць трапляе да даследчыкаў – у асноўным усё разрабоўваецца на месцы. Велізарны інтарэс для даследчыкаў уяўляе скарб разам з тарай – гэта можа быць збанок (гліняны, радзей металічны), тканіна, скура або бяроста. Сапраўды ўнікальнымі з'яўляюцца старажытныя скарбы ў капілках. На Гродзеншчыне выяўлена толькі два такія выпадкі: у 1969 годзе ў в. Дзераўная Слонімскага раёна і ў 1988 годзе – у в. Палаткова Гродзенскага раёна [5].

Таксама вельмі рэдка грашовыя скарбы выяўляюцца падчас стацыянарных археалагічных раскопак. Адзіным вядомым нам прыкладам з'яўляецца скарб, выяўлены Генадзем Семянчуком падчас раскопак у 2002 г. па вул. Вялікая Траецкая ў Гродне [6]. Знойдзена 100 манет і манетных кружкоў рознай ступені захаванасці, фрагменты 7 манет і 13 кавалкаў, якія засталіся ад манет у выніку пажара. Усе манеты і тое, што ад манет захавалася, пакрыты моцнай пацінай і іржой. Большасць знаходак нясе на сабе адзнакі ўздзеяння высокай тэмпературы – аплаўлены і пакрыты акалінай. Манеты, якія паддаюцца вызначэнню, датуюцца 1565 – 1632 гг. і выпушчаны ў ВКЛ, Рэчы Паспалітай, Аўстрыі, Прусіі (падчас праўлення Георга Вільгельма) і Шведскай Прыбалтыцы (падчас праўлення Густава Адольфа). Самай каштоўнай у гэтым скарбе з'яўляецца манета 2 гроша ВКЛ 1565 г. часоў Жыгімонта II Аўгуста (1544 – 1572). Рэдкім двуграшавік літоўскі быў ужо ў тыя часы, калі скарб хавалі.

На дадзены момант колькасць манет у скарбах, знойдзеных на тэрыторыі Гродзенскай вобласці, дасягае амаль 60 тысяч адзінак, аднак, па звестках В. Какарэкі, атрыбутавана не болей за 35 % ад іх агульнай колькасці. Геаграфія манет вельмі шырокая: ВКЛ, Польшча, Прусія, Расія, Чэхія,

Венгрыя, Германская імперыя, Іспанскія Нідэрланды, Рэспубліка Злучаных Нідэрландскіх Правінцый, Данія, Іспанія, Швейцарыя, Аўстрыя, Курляндыя, Волжская Булгарыя, краіны Усходу, Англія, Шатландыя [7, с. 223 – 238].

На жаль, грашовыя скарбы (як комплексы), выяўленыя да сярэдзіны XIX ст., амаль не захаваліся. Гэта вынік таго, што ў тыя часы не было структуры, якая б сачыла за гэтай справай. 27 ліпеня 1835 г. пачаў дзейнічаць Гродзенскі губернскі статыстычны камітэт (адзін з першых у Расійскай імперыі) [8, л. 1 – 79]. У задачы камітэта ўваходзілі збор, апрацоўка і аналіз інфармацыі аб народанасельніцтве, прамысловасці, сельскай гаспадарцы, гандлі, асвеце і рэлігіі. Акрамя абавязковай працы па зборы і апрацоўцы статыстычных звестак, камітэт займаўся апісаннем губерні і ўваходзячых у яе паветаў у гістарычным, эканамічным і тапаграфічнай дачыненні. Праз сваіх членаў-карэспандэнтаў (краязнаўцаў, настаўнікаў, чыноўнікаў) інфармацыя аб знаходках манет і скарбаў трапляла ў камітэт. Аднак за першую палову XIX ст. мы маем толькі адзін зафіксаваны факт нумізматычных знаходак на тэрыторыі Гродзенскай вобласці (знаходка манет з арабскімі надпісамі каля Ваўкавыска) [9, л. 12 – 14], а на тэрыторыі Гродзенскай губерні яшчэ адзін (скарб залатых турэцкіх манет каля Кобрына) [10, л. 1 – 12].

У 1852 годзе ствараецца новы Эрмітаж (упершыню адкрыты для публікі) як калекцыя двара яго імператарскай вялікасці. У 1859 годзе да фарміравання фондаў Эрмітажа прыступіла зноў створаная Імператарская Археалагічная Камісія (далей – ІАК) пад старшынствам графа Сяргея Рыгоравіча Строганава. Ёй у дапамогу ў зборы помнікаў старажытнасці з 1863 года па прапанове МУС былі прыцягнуты губернскія статыстычныя камітэты.

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Гродне (далей НГАБ у г. Гродне) захавалася толькі некалькі спраў аб выяўленых грашовых скарбах на тэрыторыі Гродзенскай губерні ў першай палове XIX ст.:

– в. Быстрыца Залескай воласці Кобрынскага павета [11, л. 12];
– в. Свіраны Люгінеўскай воласці Слонімскага павета [12, л. 60];
– ур. Лозы Чарнякоўскай воласці Пружанскага павета [13, л. 67];
– в. Міневічы Лунненскай воласці Гродзенскага павета [14, л. 145] і ў іншых населеных пунктах [НГАБ у г. Гродне, ф. 14, воп. 1, спр. 362, л. 18; ф. 14, воп. 1, спр. 363, л. 177].

Мясцовыя ўлады не толькі фіксавалі факт знаходкі скарбу, але і актыўна займаліся зборам манет, якія разышліся па руках, і наказвалі раскрадальнікаў. У 1891 годзе Гродзенскі павятовы спраўнік дакладваў губернатару, што знойдзены сялянамі в. Жылічы Лунненскай воласці Гродзенскага павета Сцяпанам Стацкім і Аляксандрам Віжэнем у землях фальварка Жылічы, якія належаць да маёнтка Лунна, памешчыка Іосіфа фон Ромера скарб, які складаецца з 576 сярэбраных і медных старадаўніх манет, адпраўлены ў ІАК [15, л. 145]. А вінаватыя ў прысваенні знойдзенага скарбу ў чужой зямлі Стацкі і Віжэнь прыцягнуты да адказнасці па другой частцы 178 артыкула Статута аб пакараннях. Згодна з ім «за присвоение найденных денег или вещей, или же найденного в чужой земле клада виновные, когда им известен хозяин найденного, подвергается: денежному взысканию не свыше тройной суммы или цены денег или вещей.

За повторение сего поступка, равно в случае, когда виновным не только был известен хозяин найденного, но притом найденное было от них требовано или им было известно, что о сей

потере было объявлено установленным порядком, они могут быть подвергнуты заключению в тюрьму от двух недель до шести месяцев» [16, с. 36].

Першая спроба сістэматызацыі грашовых скарбаў на тэрыторыі Гродзенскай губерні належыць Фёдару Пакроўскаму, які напрыканцы XIX ст. склаў «Археалагічную карту Гродзенскай губерні». У гэтай працы адзначаны знаходкі больш за 50 скарбаў [17].

Таксама ў НГАБ у г. Гродне захоўваюцца справы аб знаходках грашовых скарбаў, якія праз Губернскі статыстычны камітэт адсылаліся ў Пецярбург. За прадастаўленне ў распараджэнне ІАК знойдзенага скарбу асобе, яго знайшоўшага, выплачвалася ўзнагароджанне, а таксама магла быць выдадзена дадатковая прэмія ў памеры, устаноўленым ІАК. Аднак, як правіла, манеты ў скарбах (за рэдкім выключэннем) не прадстаўлялі нумізматычнага інтарэса і пасля навуковай апрацоўкі і апісання вярталіся таму, хто знайшоў скарб. Самыя цікавыя і рэдкія манеты ІАК пакідала для калекцыі (напрыклад, талер г. Цволле 1642 г. [18, л. 1 – 12]).

3 кастрычніка 1908 г., селянін с. Люшнева Слонімскага павета Іван Чарнагрэбель, капаючы на сваёй сядзібе яму для бульбы, знайшоў 258 сярэбраных прускіх манет 1600-х гадоў і прадставіў іх у паліцыю, пры гэтым ён прасіў, у выпадку калі манеты гэтыя маюць якую-небудзь каштоўнасць, выдаць яму адпаведнае ўзнагароджанне. Праз некалькі месяцаў прыйшоў адказ з ІАК: «Возвращая при сем, за отсутствием выдающегося нумизматического значения, клад из 260 польских и прусских серебряных монет XVII – XVIII веков, ( … ) имеем честь уведомить ( … ), что ценность заключающихся в кладе монет лишь немногим превышает стоимость металла». Усе манеты былі вернуты. З яго ўзялі распіску аб атрыманні назад скарба з указаннем дакладнага месца знаходкі. Гэта распіска перасылалася ў ІАК [19, л. 1 – 10].

У лістападзе 1909 года селянінам в. Змееўцы Дзятлаўскай воласці Слонімскага павета Пятром Шымуком пры раскопках ямы была знойдзена надбітая бутэлька з сярэбранымі польскімі і прускімі манетамі XVII – XVIII стст. Пасля вывучэння ІАК вердыкт быў наступным: «Выдать находчику за отсутствием выдающегося нумизматического интереса» [20, л. 1 – 3].

11 мая 1912 года селянін в. Перки Прускаўскай воласці Кобрынскага павета Юльян Гозук падчас сельскагаспадарчых прац на сваім агародзе знайшоў гліняны гаршчок, а ў ім 1507 цэлых і 5 фрагментаў сярэбраных польскіх манет XVII ст. Разгледзеўшы скарб, ІАК пакінула адну манету «для Императорского Эрмитажа». Астатнія манеты і 1 рубель (як узнагарода) былі вернуты Гозуку [21, л. 1 – 4].

17 красавіка 1915 года жыхары вёсак Абухава і Коматава, якія працавалі на будоўлі пад'езда да маста праз Нёман, каля вёскі Коматава на ўгоддзях фальварка Пескі Горніцкай воласці Гродзенскага павета на глыбіні каля 1/2 аршына ў гліняным гаршчку знайшлі скарб, які складаўся з «старинных польских монет одинакового размера, каждая монета немного менее полтинника, числом 65». Дэпазіт быў адпраўлены для аналіза ў ІАК, аднак з-за пачатку Першай сусветнай вайны далейшы лёс яго невядомы [22, л. 1 – 4].

Шкада, што большасць старажытных багаццяў, якія сёння знаходзяць людзі, не даходзіць да даследчыкаў або трапляе да іх у няпоўным выглядзе. Інфармацыя аб тым, дзе быў знойдзены скарб, у якім стане ён знаходзіўся, з якіх манет і рэчаў ён складаўся, часам губляецца. Калі б у нас існавала правіла, што знойдзеныя скарбы напачатку апісваюцца, а пасля вяртаюцца таму, хто іх знайшоў (як у

Вялікабрытаніі), напэўна, мы атрымлівалі б больш каштоўнай гістарычнай інфармацыі.

This article is devoted almost unexplored subject of coin hoards. The author analyzes the archived information about the coin deposits discovered in the Grodno region before the beginning of XX century and shows the decisive role of Grodno provincial statistical committee in the conservation and descriptions of new coin hoards.

Спіс крыніц і літаратуры

1. Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыклапедыя. – Мінск: БелЭн, 1993.
2. Рябцевич, В. Н. О чём рассказывают монеты / В. Н. Рябцевич. – Минск: Народная асвета, 1974.
3. Рябцевич, В. Н. Нумизматика Беларуси / В. Н. Рябцевич. – Минск: Полымя, 1995.
4. Рябцевич, В. Клады: атрибуция, классификация, интерпретации / В. Рябцевич // Банкаўскі веснік. – 2005. – № 22. – С. 54 – 60.
5. Керамические копилки [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://klads.org/keramicheskie-kopilki. – Дата доступа: 05.11.2010.
6. Семянчук, Г. Справаздача аб археалагічных палявых даследаваннях у Гродне ў 2002 г. / Г. Семянчук // Архіў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Мінск, 2005.
7. Rjabcevic, V.N. Skarby monet z XVI i XVII wieku na terenie obwodu Brzeskiego i Grodzienskiego Bialoruskiej SRR / V.H. Rjabcevic // Prace i materialy Muzeum Archeologicznego i Etnograficznego w Lodzi seria numizmatyczna i konserwatorska. – Lodz, 1986. – Nr. 6.
8. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродне (НГАБ). – Ф. 14. – Воп. 1. – Спр. 1.
9. НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. – Воп. 19. – Спр. 1557.
10. НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. – Воп. 10. – Спр. 673.
11. НГАБ у г. Гродне. – Ф. 14. – Воп. 1. – Спр. 361.
12. НГАБ у г. Гродне. – Ф. 14. – Воп. 1. – Спр. 362.
13. НГАБ у г. Гродне. – Ф. 14. – Воп. 1. – Спр. 363.
14. Тамсама.
15. Тамсама.
16. Устав о наказаниях, налагаемых мировыми судьями издания 1885 года / сост. Н. С. Таганцев. – Изд. 14-е, доп. – СПб.: Государственная типография, 1902.
17. Покровский, Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии / Ф. В. Покровский. – Вильна: Типография А. Г. Сыркина, 1895.
18. НГАБ у г. Гродне. – Ф. 14. – Воп. 1. – Спр. 79.
19. НГАБ у г. Гродне. – Ф. 14. – Воп. 1. – Спр. 75.
20. НГАБ у г. Гродне. – Ф. 14. – Воп. 1. – Спр. 76.
21. НГАБ у г. Гродне. – Ф. 14. – Воп. 1. – Спр. 83.
22. НГАБ у г. Гродне. – Ф. 14. – Воп. 1. – Спр. 85.

Навуковы кіраўнік – ***Г. М. Семянчук***, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

УДК 930(476.6)

*П. Р. Гедройть*
*(Гродно, ГрГУ имени Янки Купалы)*

## *РАЗВИТИЕ ВОЕННОЙ АРХЕОЛОГИИ В СТРАНАХ СНГ (ПО МАТЕРИАЛАМ ИНТЕРНЕТ-РЕСУРСОВ)*

Военная археология представляет собой весьма интересное и перспективное направление исследований. Однако ее статус и специфика оцениваются специалистами неоднозначно. В странах Содружества Независимых Государств военная археология является одним из перспективнейших направлений археологической науки, поскольку очень много людей занимаются поиском артефактов на полях былых сражений. Для одних людей это профессиональное занятие, для других подобный поиск является чем-то вроде хобби. К сожалению, есть люди, которые занимаются этим для улучшения своего материального благосостояния. Как следствие, создан ряд интернет-ресурсов, которые посвящены деятельности как официальных поисковых объединений и организаций, так и нелегальных «черных» археологов. Деятельность интернет-ресурсов стран СНГ, посвященных военной археологии и истории, анализируется в данной статье.

Сегодня существует много различных мнений, касающихся дефиниции термина «военная археология». Несмотря на наличие собственного предмета исследования и других признаков науки, определить «военную археологию» как самостоятельную военно-историческую науку в настоящий момент нельзя. Это связано, прежде всего, с уровнем развития методологии данной дисциплины, существующим в настоящий момент. В свою очередь, методология «военной археологии» еще только формируется, и, следовательно, данная область знания пока находится на начальном этапе своего развития.

Мы можем определить «военную археологию» как сферу исследовательской деятельности, направленную на получение новых знаний о войнах и вооруженных конфликтах новейшего времени на основании материальных остатков военных действий, а также на обнаружение и идентификацию с помощью специальных методов, захоронение останков погибших участников военных действий и включающую в себя все условия и моменты этой деятельности, в том числе субъектов, оборудование, методы работы и, кроме того, всю систему научных знаний, выступающих в качестве либо предпосылки, либо средства, либо результата познания.

В настоящее время методология «военной археологии» находится в стадии становления, о чем свидетельствует и рост числа военно-археологических методических рекомендаций, размещенных в электронных ресурсах [1, с. 24].

Станет ли она самостоятельной наукой, во многом зависит от глубины и интенсивности взаимодействия «военной археологии» с другими науками. На сегодняшний день военная археология представляет собой весьма интересное и перспективное направление исследований, однако ее статус и специфика оцениваются специалистами неоднозначно. Мы можем заметить значительный рост людей в Беларуси и странах ближнего зарубежья, которые занимаются раскопками на местах былых сражений. И как следствие – создается большое количество сайтов, которые посвящены тематике военной археологии.

При рассмотрении истории становления и развития военной археологии в Беларуси следует отметить, что данная проблематика представлена различными по своему характеру и составу интернет-ресурсами. Так, можно выделить следующие группы сайтов, которые затрагивают тематику военной археологии:

1. Сайты поисковых отрядов и групп (сайт поисковой группы «Батьковщина»);

2. Сайты-форумы, предназначенные для лиц, занимающихся военной археологией («Форум военной археологии и истории Беларуси»);

3. Сайты, которые посвящены кладоискательству, затрагивающие тематику военной археологии лишь частично («Белорусский кладоискательский портал»).

Одним из наиболее популярных белорусских сайтов, посвященных военной археологии Беларуси, является сайт поисковой группы «Батьковщина». Основной своей задачей участники данной поисковой группы ставят поиск и захоронение бойцов и командиров Красной Армии, погибших в июне 1941 года на территории Слонимского района Гродненской области при прорыве из окружения, останки которых остались брошенными на местах боев и незахороненными.

Позже с учетом находок, сделанных в ходе поисковых работ, в задачи группы были включены дополнительные пункты: поиск и уведомление родственников воинов Красной Армии, имена которых были установлены по вкладышам в смертных медальонах; сбор, систематизация и анализ материалов о частях и соединениях Красной Армии, выходивших из окружения в Слонимском районе, в которых на начало войны служили найденные воины; воссоздание полной картины боев, которые проходили на территории Слонимского и граничащих с ним районов.

Хотелось бы отметить, что на данном ресурсе имеется более чем значительный объем информации, посвященный тематике военной археологии, истории боевых действий 1941 года на территории нынешнего Слонимского района. Значимость этой информации прежде всего видна в деятельности данного поискового объединения при сотрудничестве с 52-м отдельным поисковым батальоном в поиске и захоронении погибших солдат времен Великой Отечественной войны на территории Слонимщины, изучении военной истории 1941 года [2].

Интернет-ресурс «Военная археология и история Беларуси» содержит значительно меньший объем информации, посвященной военной археологии. Это связано прежде всего с тем, что «черные археологи» на данный момент предпочитают не афишировать свое хобби, так как поиск на местах бывших военных действий в Республике Беларусь запрещен и преследуется по закону. Единственной структурой, у которой есть разрешение на проведение поисковых работ на месте боев и на эксгумацию человеческих останков времен войны на территории Республики Беларусь, является 52-й отдельный специализированный поисковый батальон при Министерстве обороны Республики Беларусь [3].

Сайтом, который лишь частично затрагивает тематику военной археологии, является «Белорусский кладоискательский портал». Так как этот сайт посвящен в основном вопросам кладоискательства, то тут военная археология в подробно не изучается [4].

Основной проблемой развития военной археологии и посвященных ей интернет-ресурсов в Беларуси является тот факт, что проведение поисковой деятельности на местах боевых

действий официально запрещено законодательством. Согласно статье 19.7 Административного кодекса Республики Беларусь, «нарушение порядка вскрытия воинских захоронений либо проведение поисковых работ в местах, где велись боевые действия или совершались карательные акции, влечет наложение штрафа в размере от десяти до тридцати базовых величин», а также статье 295 Уголовного кодекса Республики Беларусь «Незаконные действия в отношении огнестрельного оружия, боеприпасов и взрывчатых веществ» наказываются исправительными работами на срок до двух лет, или арестом на срок до шести месяцев, или ограничением свободы на срок до пяти лет, или лишением свободы на срок до семи лет с конфискацией имущества или без конфискации» [5; 6]. Таким образом, в Беларуси все, кто интересуется поисковой деятельностью «по войне», нарушают законодательство и рискуют свободой. Проведение поисковых работ в Беларуси и эксгумация останков, согласно Указу Президента Республики Беларусь, разрешены лишь 52-му отдельному специализированному батальону при Министерстве обороны Республики Беларусь.

В свою очередь, проведение несанкционированных поисковых работ на местах боевых действий в Российской Федерации также преследуется по закону. Однако в России за определенный промежуток времени было создано значительное количество поисковых организаций, которым разрешено проведение раскопок на местах былых сражений. Можно заметить, что большинство российских интернет-ресурсов по военной археологии являются сайтами поисковых объединений и отрядов, на которых они выкладывают результаты проведенной ими поисковой работы, отчеты о проведенных экспедициях. Создание сайтов данными организациями, прежде всего, вызвано желанием обратить внимание общественности на нелегкий труд поисковиков: поиск и перезахоронение останков солдат, участников Второй мировой войны вне зависимости от их принадлежности, а также поиск их родственников.

Среди российских интернет-ресурсов поисковых объединений и организаций выделим сайт поискового объединения «Тризна». Главной задачей оно ставит сохранение памяти и детального знания событий Великой Отечественной войны. Как отмечается на сайте, это достигается путем всестороннего охвата – как поиском пропавших без вести, попытками вернуть из небытия хотя бы несколько имен из многих тысяч, безвозвратно утерянных, так и изучением истории того времени посредством книг, рассказов очевидцев, и вещей – тех мелочей, которые часто дают исторических сведений больше, чем люди. На данном интернет-ресурсе имеется значительная фотогалерея, а также исторические статьи, посвященные военной археологии. Ежегодно на сайт выкладывается информация о проведенных поисковых экспедициях по поиску солдат и военной техники, установленных именах ранее обнаруженных на полях сражений бойцов. Также здесь открыт форум, на котором все желающие могут обсуждать вопросы, связанные как с деятельностью поискового объединения «Тризна», так и с военной археологией в частности [7].

Одним из популярных ресурсов по военной археологии является сайт группы военной археологии «Искатель». Как отмечается на сайте, основным направлением деятельности группы «Искатель» является поиск и перезахоронение воинов, погибших в годы Великой Отечественной войны, изучение их судеб. Также отмечается, что вся работа проводится силами и средствами, в том числе и финансовыми, участников группы. На данном интернет-ресурсе имеется ряд статей,

посвященных методическим рекомендациям при проведении поисковых работ, по технологии самостоятельного поиска погибшего или пропавшего без вести солдата. Необходимо также отметить имеющуюся на сайте обширную базу данных, содержащую информацию о воинах, погибших и пропавших без вести в годы Великой Отечественной войны. Ежегодно на сайт выкладываются отчеты о проведенной поисковой работе, Вахтах Памяти, поисковых экспедициях. Также на этом ресурсе имеется значительный объем фотографий, посвященных как поисковой деятельности группы военной археологии «Искатель», так и находкам, найденным в результате проведенной работы [8].

Следующим сайтом, затрагивающим тематику военной археологии, является сайт поисковой группы города Санкт-Петербурга «Карельский вал». На сайте представлены результаты проведенной поисковой работы, имеется богатая фотогалерея, раскрывающая поисковую деятельность отряда. Данный интернет-ресурс прежде всего освещает военную археологию группы «Карельский вал», поисковые интересы которой связаны с «Зимней войной», а также с местами боев Великой Отечественной войны на территории Ленинградской области. О значимости проводимой работы свидетельствуют значительное количество обнаруженных останков военнослужащих на Карельском перешейке, а также результаты работы по установлению личностей погибших бойцов [9].

Значительным ресурсом по военной археологии является сайт поискового отряда «Патриот» поселка Молодежный Наро-Фоминского района Московской области. Сайт интересен, прежде всего, наличием обширной фотогалереей, освещающей места экспедиций отряда «Патриот», многочисленных статей по военной истории периода Второй мировой войны, а также важным методическим указаниям по проведению поисковых работ на местности [10].

Российских сайтов военной археологии нелегальных археологов или так называемых «черных» значительно меньше по сравнению с сайтами поисковых отрядов. Они не ставят главной целью поисковую работу по обнаружению и перезахоронению останков военнослужащих. «Черные археологи» на своих сайтах выкладывают на обзор общественности свои находки, найденные на местах боев, в заплывших окопах и траншеях. Данные интернет-ресурсы характеризуются прежде всего обилием фотографий найденных артефактов, дискуссиями по вопросам истории Второй мировой войны, а также возможностью определить, а затем и продать найденную «военную» вещь на форуме сайта.

Хорошим ресурсом по военной археологии нелегальных археологов является сайт «RUSFRONT.com». Здесь находится отдельный раздел по военной археологии, на котором посетители могут обсуждать свои находки, результаты экспедиций, представлять отчеты о проведенных работах по поиску на местах боев. Также имеются и отдельные подразделы форума, раскрывающие различные аспекты военной археологии и истории [11].

Тематика военной археологии рассматривается и на некоторых сайтах российских коллекционеров. Однако на данных форумах представлены лишь темы с фотографиями находок нелегальных археологов, темы с оценкой, продажей, куплей предметов найденного военного антиквариата. Примерами таких интернет-ресурсов являются сайты «WW2» и «Лейбштандарт». На форумах данных ресурсов представлены темы с фотографиями находок нелегальных

археологов, с отчетами о проведенных экспедициях. Отличительной чертой данных сайтов является, прежде всего, то, что на них можно оценить, продать либо купить предметы военного антиквариата [12; 13].

Большое развитие военная археология получила и на территории Украины. Военная археология в этой стране представлена в основном сайтами нелегальных археологов, которые с помощью этих сайтов представляют найденные на местах боев артефакты, общаются между собой в различных профильных разделах форума. О развитии военной археологии на Украине свидетельствует большое количество пользователей, зарегистрированных на профильных сайтах. В качестве примера приведем сайт «Военная поисковая археология на Украине». На нем содержится значительное количество информации, посвященной военной археологии. Так, в подразделах «Видеогалерея» и «Фотогалерея» выложено много видеороликов и фотографий с материалами раскопок на местах былых боевых действий, сведения о поисковой работе. На сайте имеется подраздел «Экспедиции», где находятся фотоотчеты с результатами поисковой деятельности [14].

Не менее интересен с точки зрения военной археологии форум поисковиков Украины «Кладоискатель». Военная археология рассматривается, соответственно, в разделе «Военная археология». Данный раздел, в свою очередь, подразделяется на четыре подраздела: «Поговорим о войне», «Опасные находки», «Военные находки», «Поиск пропавших без вести». Так, подраздел «Военные находки» характерен тем, что в нем имеется большое количество тем с отчетами о проведенных экспедициях, много фотографий найденных артефактов, которые предлагаются для обсуждения. Особенностью подраздела «Поиск пропавших без вести» является то, что он направлен на поиск погибших в годы Великой Отечественной войны, а также пропавших без вести солдат [15].

Тематике военной археологии значительное место уделено и на форуме сайта «REIBERT.info». Здесь в отдельном разделе по военной археологии обсуждаются места, где можно производить поиск; техника для поиска артефактов, а также представлены различные полезные рекомендации начинающим исследователям. Сайт полезен тем, что на нем имеется энциклопедия Третьего Рейха, в которой можно найти много интересного по истории армии Германии в 1933 – 1945 гг. Необходимо отметить, что сайт пользуется большой популярностью как среди «черных археологов», так и среди исследователей истории Второй мировой войны, поскольку имеется большое количество информации, посвященной военной археологии и истории Второй мировой войны [16].

Таким образом, военная археология является одним из перспективнейших направлений археологической науки в странах Содружества Независимых Государств. Связано это прежде всего с большим интересом к событиям различных войн и, к сожалению, коммерциализацией поискового дела. Как следствие, большое количество людей, как профессионально занимающихся военной историей, так и и нелегальных «черных археологов-копателей», занимаются поиском артефактов на полях былых сражений. Все это способствует развитию, прежде всего, электронной военной археологии, представленной большим количеством интернет-ресурсов в России, Украине и Беларуси.

To date, the Commonwealth of Independent States military archaeology is one of the promising areas of archaeological science. As a consequence, many people, both official archaeologists and illegal diggers, are searching for artifacts in the fields of bygone battles. As a fact, a number of sites devoted to the activities of both official search associations and organizations, as well as illegal archaeologists. According to data from Internet resources can be very detailed examination of the development of military archeology in such CIS countries as Belarus, Russia and Ukraine.

Список источников и литературы


1. Садовников, Д. «Военная археология»: от энтузиазма к науке / Д. Садовников // Военная археология. – 2009. – № 2.
2. http://poisk.slonim.org/modules/news/
3. http://poiskby.mybb3.ru/index.php
4. http://belklad.by/forum
5. Кодекс Республики Беларусь об административных правонарушениях.
6. Уголовный кодекс Республики Беларусь.
7. http://trizna.ru
8. http://www.1942.ru/
9. http://karel-val.narod.ru/
10. http://westfront.su/
11. http://www.rusfront.com/forum/
12. http://ww2.ru/forum/index.php?showforum=5&s=2b18406e788eb440600a82cdb6a06ac5
13. http://forum-antikvariat.ru/index.php?s=5f42b98e90a4eccb14795e0a88c161de&showforum=5
14. http://www.rozkopku.at.ua/
15. http://forum.violity.kiev.ua/
16. http://reibert.info/forum/index.php


Научный руководитель – ***С.А. Пивоварчик***, доктор исторических наук, доцент.

## ЭТНАГРАФІЯ

УДК 39 (=161.3)

*Д. В. Скварчэўскі*
*(Мінск, БДУ)*

# *ПЛАНЕТА ВЕНЕРА Ў ТРАДЫЦЫЙНЫХ УЯЎЛЕННЯХ БЕЛАРУСАЎ*

В статье рассматриваются традиционные представления белорусов о планете Венера. Проанализированы наиболее распространённые народные названия планеты и связанный с ней комплекс поверий, суеверий и т.п. Особое внимание уделено роли, отводимой Венере в белорусских заговорах. Итогом является попытка реконструкции мифологических сюжетов, связанных с божествами планеты Венера. Обращает на себя внимание их близость с представлениями других индоевропейских народов.

Венера – планета, блізкая да Зямлі і бліжэйшая за яе да Сонца. З Зямлі яна выглядае як зорка. Яна ніколі не аддаляецца далёка ад Сонца, добра адбівае сонечнае святло, таму яе вельмі проста знайсці на небе і назіраць за ёю. Максімальнай яркасці Венера дасягае незадоўга да ўзыходу або заходу Сонца. Характэрнай асаблівасцю планеты з'яўляецца яе роўны белы колер. Паводле сваёй яркасці яна пераўзыходзіць самыя яркія зоркі. Усё гэта стварыла добрыя падставы для назірання, што знайшло адлюстраванне ў беларускім фальклоры. У дадзеным артыкуле мы разгледзім месца і ролю планеты Венера ў традыцыйных уяўленнях і міфалагічнай свядомасці беларусаў на падставе этнаграфічных крыніц.

Планета Венера мае шматлікія назвы – Зарніца, Зараніца, Заранка, Світальна Зорка, Вечарніца, Вечарнічка, Вечэрня зора, Звярыніца, Воўча Звязда і інш. Падобныя назвы сустракаюцца і ў іншых індаеўрапейскіх мовах, напрыклад: літ. Aušrinė, Vakarinė, Žvėrinė, Aušros žvaigždė, Vakarų žvaigždė, лат. Auseklis, пол. Wieczornica, Wilcza Gwiazda, Zwierzonka, Zwiernica, Zaranka, Zaraneczka, Zarannica, чэш. Zviretnice, Zornice, Zornička, Večernička, Večernice, слав. Večernica, Zvečernica, Večerca, харв. Zornica, балг. Зорница, Зуратъ, Деница, Утреница, Вечерница, рус. Утренняя зарница, Зарница, Заряница, Зарянка, Зурница, укр. Зірниця, Зарница і г.д. Трэба адзначыць, што ў асноўным назвы планеты паходзяць ад часу яе з'яўлення на небе. Відавочна, што астронімы супадаюць, а гэта можа сведчыць аб вельмі старажытных каранях паходжання назвы Венеры, да таго ж, назіраюцца і шматлікія падабенствы ўяўленняў аб гэтай планеце ў індаеўрапейцаў. Гэта дапамагае рэканструяваць беларускія традыцыйныя погляды на Венеру ў тых выпадках, калі не хапае ўласных звестак. Асобную групу складаюць шматлікія назвы і пазначэнні Венеры, якія сустракаюцца ў замовах.

У народнай свядомасці Венера ў сваёй ранішняй (Зарніца) і вячэрняй (Вечарніца) бачнасці не атаясамляецца [1, с. 81, 183], а ўспрымаецца як два розныя нябесныя аб'екты са сваімі функцыямі. Згодна з запісам А. Сержпутоўскага, Зарніца – гэта вельмі ясная зорка, што свеціць раненька, будзіць людзей і кліча іх на работу; Вечарніца – вячэрняя зорка, якую Бог пасылае агледзець зямлю перад надыходам начной цемры [2, с. 31]. Адсюль вынікае, што з'яўленне на небе гэтых зорак выкарыстоўвалася дзеля вызначэння часу – калі трэба ўставаць і пачынаць працу, а калі наступае ноч

(адпаведна – заканчэнне працы і час адпачынку). Таксама з запісу А. Сержпутоўскага вынікае, што гэтыя зоркі падпарадкоўваюцца Богу, дапамагаюць яму. У замовах яны паўсюдна называюцца «гасподнімі (ці божымі) памочніцамі». Лічым мэтазгодным прывесці літоўскае павер'е, згодна з якім Ранішняя і Вячэрняя зоркі з'яўляюцца дочкамі Сонца, якія яму служаць: Ранішняя зорка рыхтуе Сонцу сняданак, а Вячэрняя сцеле ложак [3, s. 173]. Імаверна, што і ў беларускай традыцыі існавала ўяўленне аб Зарніцы і Вечарніцы як аб дочках Бога. Аб гэтым сведчаць узгадванні ў замовах: «Дзве зары-зараніцы, родныя сястрыцы» [4, с. 123, № 338].

Назву Венеры «Заранка» прыводзіць у сваім слоўніку В. Ластоўскі [5, с. 58]. Яна паходзіць ад таго, што Венера добра бачная зранку. Назва «Світальна Зорка» тлумачыцца проста: ранняе ўзыходжанне зоркі над небакраем; яна сустракаецца ў паўночна-заходніх беларускіх гаворках [6, с. 398]. У палескіх гаворках Венера вядома пад назвай «Вечэрня зора» [7, с. 164].

Калі паходжанне назваў «Зарніца» і «Вечарніца» зразумелае – так Венера завецца ў залежнасці ад часу з'яўлення на небе і назірання за ёй – то назвы кшталту «Звярыніца» і «Воўча Звязда» не зусім зразумелыя. Гэтыя назвы прыводзіць А. Кіркор. Ён пісаў, што за ўзыходам «Воўчай Звязды» назіралі на Каляды. Раскрываючы змест калядных міфаў беларусаў, А. Кіркор лічыў, што Грамаўніца (Цёця) – жонка Перуна, якой адпавядае на небе Венера, у калядную ноч нараджае божыча – Дажбога (яму на небе адпавядае Сонца), а цёмныя сілы ў выглядзе дзікіх звяроў імкнуцца забіць маці з сынам [8, с. 253]. Менавіта таму людзі на Каляды назіраюць за гэтай зоркай, бо яе з'яўленне азначае багіню, якая здолела выратавацца. Неабходна заўважыць, што міф, узгаданы А. Кіркорам, наўрад ці можна лічыць аўтэнтычным, а таму трэба вельмі крытычна ставіцца да гэтых звестак, хаця назвы Венеры з'яўляюцца сапраўднымі. Пачатак Каляд звязваецца са з'яўленнем на небе першай зоркі. Калядная зорка, з якой ходзяць калядоўшчыкі, – сімвалічнае выяўленне сапраўднай зоркі, магчыма, Венеры. Калі ўлічваць тлумачэнні А. Кіркора, то назва «Воўча Звязда» («Звярыніца») утварылася ад звяроў (ваўкоў), якія пераследуюць багіню. Літоўцы тлумачылі падобныя назвы тым, што з моманту ўзыходу гэтай зоркі дзікія звяры выходзяць на начное паляванне [3, s. 172]. Магчыма, з гэтым звязана і такая назва Венеры, як «Мядзведзіца» [9, с. 177].

Планета Венера ў традыцыйных уяўленнях заўсёды выступае як жаночы персанаж. Гэта асабліва падкрэсліваецца ў замовах з дапамогай выразаў кшталту «родныя сястрыцы», «божыя памашніцы», «красныя дзявіцы». Падаецца невыпадковым, што А. Кіркор надзяляе Венеру функцыямі маці, бо ў замовах сустракаецца і такі зварот: «Матка Зорка!» [4, с. 36, № 14], які можа быць аднесены да Венеры. У доказ гэтага можна прывесці той факт, што ў славянскіх мовах Венера часта пазначалася проста як «зорка», а таксама некаторыя іншыя яе назвы ўтвараліся менавіта ад гэтага слова [10, с. 50]. Для беларускіх міфалагічных уяўленняў характэрны сюжэт, дзе Месяц і Сонца ці Месяц і Венера (Вечарніца, альбо Зарніца) утвараюць сямейную пару. Асабліва добра ён прасочваецца ў вясельных песнях. М. Доўнар-Запольскі вывучаў вобразы Месяца і Сонца ў беларускай вясельнай паэзіі і адзначаў: «Беларуская народная паэзія, пераважна вясельная, захавала рэшткі паданняў аб вяселлі Месяца з Сонейкам ці з зарой. Гэта боская шлюбная пара, прататып чалавечага шлюбу, з'яўляецца апякункай апошніх; да Месяца і Сонца звяртаюцца песні з надзеяй на іх блаславенне, асвячэнне шлюбу» [11, с. 352]. Яшчэ ён адзначаў, што нявеста часам называецца «зоранькай», параўноўваецца з ёй, так, што песні пяюць то аб вяселлі Месяца з

Сонцам, то Месяца з зоранькай, ранішняй зарой [11, с. 347]. Ч. Пяткевіч прыводзіць такія звесткі: «Венера – Зарніца і Вечарніца альбо Месяцова дружына ці таварышка; гэтая апошняя назва была запазычана ад засцянковай шляхты: «Тая зорачка, што так прыгожа свеціцца, гэта… таварышка месяца» [12, с. 282]. Такім чынам, Венера замест Сонца выступала як нявеста (ці жонка, сяброўка) Месяца. Пэўныя паралелі можна правесці з балцкім міфам «Нябеснае вяселле», змест якога ў наступным: Месяц, муж Сонца, заляцаецца да Ранішняй (ці Вячэрняй) зоркі, пасля чаго Пяркунас (ці Сонца) мячом рассякае твар здрадніка-Месяца, прычым гэта паўтараецца перыядычна і пастаянна (такім чынам тлумачыцца змена квадраў Месяца). Хутчэй за ўсё, Месяц у міфы заляцаецца да Вячэрняй зоркі, бо ў гэты час Сонца знікае з неба. Венера паўстае як саперніца Сонца, бо сваім бляскам яна пераўзыходзіць усе астатнія зоркі на небе.

Традыцыйна ў міфалогіі Венера – жаночы персанаж, аднак ёсць звесткі, якія ўказваюць на існаванне і мужчынскага персанажа. У Латвіі ён завецца Auseklis. У адным з варыянтаў міфа «Нябеснае вяселле» распавядаецца, як Сонца выдае сваю дачку замуж за Аўсэкліса, але Месяц адымае ў яго нявесту, з-за чаго Сонца разрубае яго мячом. Наяўны беларускі матэрыял сведчыць пра тое, што мужчынскі персанаж Венеры ў нас невядомы. Аднак не выключана, што беларускі міфалагічны персанаж Аўсень можа быць роднасным латышскаму Аўсэклісу. Вобраз першага звязаны з Новым годам, а вобраз другога – з Венерай у ранішняй бачнасці. Прычым імя Аўсень можа быць этымалагічна суаднесена з такімі персанажамі індаеўрапейскай міфалогіі, як лат. Усыньш, літ. Аўшра, лац. Аўрора, вед. Ушас, ст.-грэц. Эас [1, с. 29]. Усе тыя боствы з'яўляюцца ўвасабленнем світанку, зары, узыходу Сонца, а гэта як раз той час, калі на небе бачна Венера (Ранішняя зорка). Гэтае пытанне патрабуе далейшага грунтоўнага вывучэння.

Як ужо адзначалася, планета Венера даволі часта ўзгадваецца ў замовах, прычым у кожным з відаў (ад усіх хваробаў, любоўныя замовы, паляўнічыя і гаспадарчыя замовы і г.д.). Можна патлумачыць і прычыну такога частага і шырока распаўсюджанага згадвання Зарніцы і Вечарніцы, бо яны – «божыя памашніцы», самі маюць нябеснае паходжанне, а таму могуць дапамагчы людзям данесці іх просьбы да Бога. Перш чым прывесці прыклады назваў Венеры ў замовах, трэба адзначыць, што ў іх ранішняя і вячэрняя зоркі даволі часта атаясамляюцца з зарой – свячэннем неба перад узыходам або заходам Сонца. Аднак нярэдка ўдакладняюць: «Добрай парой, вячэрняй зарой, вячэрняй зараніцай, божай памашніцай, прыступі, памажы рабе божай… » [4, с. 309, № 1038]. З гэтага прыкладу бачна, што час ранняй (вячэрняй) зары, калі з'яўляецца на небе Зарніца (Вечарніца) – найбольш спрыяльны час сутак для «шаптання». Пра здольнасць Венеры дапамагаць людзям у знахарстве і чараўніцтве сведчыць яе назва «Ведзьмерагіна», якая захавалася на беларуска-літоўскім памежжы. Гэты астронім паходзіць ад спалучэння беларускага слова «ведзьма» і літоўскага ragana «ведзьма» [9, с. 177].

Таксама не трэба блытаць і атаясамляць боства зары з боствамі ранішняй і вячэрняй бачнасці Венеры, нягледзячы на падабенства іх функцый у замовах. Беларускаму боству зары будуць адпавядаць вед. Ушас, грэч. Эас, лац. Аўрора, літ. Аўшра, лат. Усыньш, а Зарніца і Вечарніца з'яўляюцца самастойнымі персанажамі, хаця назва «зара-зараніца» часам у замовах адносіцца і да зары, і да Венеры.

Зарніца і Вечарніца ў замовах узгадваюцца разам ці паасобку і маюць наступныя назвы і пазначэнні: «Вячэрняя зара-зараніца, усяму свету памашніца»; «Зоры-зараніцы, божы

памашніцы»; «Дзве зары-зараніцы, родныя сястрыцы»; «Зоры-заранічкі, божы памашнічкі»; «Ранішняя зараніца, божая памашніца»; «Вячэрняя зарніца, господняя памашніца»; «Зоры-зараніца, господні памашніцы»; «Зоры-заранічкі, Богу памашнічкі»; «Зарніцы, родныя сястрыцы»; «Зоры-зараніцы, красныя дзявіцы»; «Ранняя (Вячэрняя) зорачка» і інш. Зара ў сваю чаргу мае назвы: «Зара-зараніца, Господня памашніца»; «Зара-заранічка, божая памашнічка»; «Зара зарушчая»; «Святая господня, вялікая зара-зараніца, (рабы Дар'і) памашніца»; «Ранная зара»; «Ранняя зарыца, усяму свету памашніца»; «Зара-зараніца, божая памашніца»; «Зара-зараніца, спутняя памашніца» і інш. У замовах Зарніца і Вечарніца дапамагаюць людзям самі ці з'уляюцца пасярэднікамі паміж людзьмі і Богам, да якога звяртаюцца за дапамогай. Звычайна згадваюцца дзве зары, але ёсць і замовы, дзе іх тры, напрыклад: «На моры, акіяне ляжыць тры псы: адзін чорны, адзін рабы, трэці белы. Чорны выбрэхуе вячэрнюю зару, а рабы палуношную, а белы ранішнюю» [4, с. 88, № 204]. Магчыма, тут адбылося сумяшчэнне павер'яў аб дзвюх зарніцах (сёстрах), якія дапамагаюць людзям, і аб трох Долях (таксама сёстрах), якія вызначаюць лёс кожнага чалавека. Паданне аб трох Долях запісаў А. Сержпутоўскі [2, с. 283 – 285]. Можа ўзнікнуць пытанне: а чаму ў замовах Долі выступаюць як зоры (зоркі)? Адказ на гэтае пытанне лёгка адшукаць: сузор'е Арыёна (дакладней, яго частка – Пояс Арыёна) мае назву «Тры сястры» [1, с. 507] і складаецца з трох зорак, выцягнутых амаль у правільную простую лінію. Таму павер'і, якія адлюстраваны на зорным небе, маглі сумясціцца.

Падсумоўваючы, адзначым наступнае. Вобраз планеты Венера знайшоў адлюстраванне ў беларускім фальклоры і традыцыйных павер'ях. У народнай свядомасці Венера ўспрымалася як два асобныя нябесныя целы – Зарніца і Вечарніца, падзел якіх адбыўся ў адпаведнасці з часам, калі планета бачна на небе, прычым яны не атаясамляліся. Прасочваюцца два міфалагічныя сюжэты з удзелам Зарніцы і Вечарніцы:

1. Дзве сястры – служкі Бога («божыя памашніцы») і яго магчымыя дочкі, якія выконваюць даручэнні Бога, дапамагаюць людзям: адна абуджае раніцай, кліча на працу, а другая заклікае адпачываць і даглядае за зямлёй перад надыходам начной цемры;

2. Вечарніца (ці Зарніца) выступае як жаночая пара Месяца (нявеста, жонка). Гэтая сямейная пара ўдзельнічае ў фармаванні сусвету і спрыяе чалавечым шлюбам.

Венера адлюстроўвае ў міфалагічнай свядомасці жаночы, мацярынскі пачатак. Дзве яе бачнасці часта выступаюць як дзявіцы-сёстры. Таксама ў замовах часта зоры-зараніцы ўзгадваюцца побач з Багародзіцай, напрыклад: «Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мамке пакланюся, я з словам, Бог з помаччу. Зоры-заранічкі, божыя памашнічкі, памагалі Богу, памажыце і нам ... » [4, с. 341. № 1170]. Да Венеры (Зарніца, Вечарніца) звяртаюцца ў замовах ад усіх хвароб і напасцяў, з практычнымі гаспадарчымі мэтамі, бо Венера – прадстаўнік нябеснай сферы, мае боскі характар, мае сувязь з Богам і з'яўляецца пасярэднікам паміж людзьмі і ім. Зарніца і Вечарніца таксама спрыяюць дабрабыту і дастатку.

Folk knowledge about Venus is described in this paper. There are also analyzed the meaning of Belarusian names of Venus and presented materials about the mythological interpretation of the origin of Venus. The ethnographic material shows that Venus played a significant role in Belarusian cosmology and mythology. In consciousness of Belarusians Venus divided into different celestial bodies with specifically functions.

Спіс крыніц і літаратуры

1. Беларуская міфалогія: энцыкл. слоўнік / С. Санько [і інш.]; склад. І. Клімковіч. – 2-е выд., дап. – Мінск: Беларусь, 2006. – 599 с.
2. Сержпутоўскі, А. К. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў / А.К. Сержпутоўскі, навук. рэд. А. С. Фядосік; прадм. У.К. Касько. – Мінск: Універсітэцкае, 1998. – 301 с.
3. Vaiškūnas, J. Etnoastronomia litewska / J. Vaiškūnas // Etnolingwistika, T. 11, red. J. Bartmiński, Uniwersytet Marii Curie-Skłodowskiej. – Lublin, 1999. – S. 165 – 175.
4. Замовы / уклад., сістэм. тэкстаў, уступ. арт. і камент. Г. А. Барташэвіча; рэдкал.: А. С. Фядосік (гал. рэд.) [і інш.] – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 596 с.
5. Ластоўскі, В. Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік / В. Ластоўскі. – Коўна, 1924. – 832 с.
6. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. – Мінск: Навука і тэхніка, 1984. – Т. 4. – 616 с.
7. Тураўскі слоўнік. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – Т. 1. – 255 с.
8. Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении / под общей редакцией П.П. Семёнова: Т. 3. Ч. 1: Литовское Полесье; Ч. 2: Белорусское Полесье. – Спб., М., 1882. – 490 с.
9. Вайшкунас, Й. Народная астронимия белорусско-литовского пограничья / Й. Вайшкунас // Балто-славянские исследования. Вып. 15. – М.: Индрик, 2004. – С. 168 – 179.
10. Младенова, Д. Звездното небе над нас. Етнолингвистично изследване на балканските народни астроними / Д. Младенова. – София, 2006. – 421 с.
11. Довнар-Запольский, М. В. Исследования и статьи / М. В. Довнар-Запольский. – Киев, 1909. – Том 1. – 487 с.
12. Пяткевіч, Ч. Рэчыцкае Палессе / Ч. Пяткевіч, уклад., прадм. У. Васілевіча; пер. з пол. Л. Салавей і У. Васілевіча. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2004. – 672 с.

Навуковы кіраўнік – ***В. А. Варонін,*** кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

УДК 398.9 (=161.3)

*І. Г. Бачыла*
*(Мінск, БДУ)*

## *МЕСЦА ЭТНІЧНЫХ МЕНШАСЦЕЙ У БЕЛАРУСКІМ ФАЛЬКЛОРЫ*

Беларусь стала второй родиной для татар, евреев, цыган, литовцев, русских, украинцев, поляков и др. Фольклор является особым источником при исследовании этнических меньшинств в Беларуси, их положения, отношений с местным населением. Среди многочисленных жанров беларусского фольклора значительное место в осмыслении образа «инородца» занимают поговорки, пословицы, сказки. Основным способом их возникновения были многочисленные жизненные наблюдения, исторические ситуации. Причем чаще всего подобные наблюдения основывались на антиномии мы-они, свои-чужие. Всю совокупность названных фольклорных жанров, посвященных образу «чужого», условно можно разделить на два типа: те, что раскрывают наиболее специфические черты характера и поведения; и те, что характеризуют социальное положение представителей различных этнических групп.

Асаблівай крыніцай для вывучэння этнічных меншасцей на Беларусі, іх становішча, стасункаў з мясцовым насельніцтвам з'яўляецца фальклор. Часам ён можа даць не адразу бачную, але больш цікавую інфармацыю, чым, напрыклад, статыстыка. Даследчыкі вывучаюць этнічныя меншасці тут і цяпер. Па-за межамі ўвагі могуць заставацца многія характэрныя рысы іх культуры, асаблівасці паводзінаў і, што вельмі істотна, «гістарычны вобраз». Народны ж вопыт і назіранні, дзякуючы сувязі паміж пакаленнямі і традыцыйнасці фальклору, здольныя перадаць самае яркае і выбітнае ў характарыстыцы тых, хто жыў побач з беларусамі на працягу стагоддзяў.

Сучаснае чалавецтва атрымала ў спадчыну ад мінулага дзве-тры тысячы этнічных супольнасцей. Пры гэтым нераўнамернасць гістарычнага працэсу прывяла да значных адрозненняў паміж імі як па ўзроўню развіцця, так і па маштабах. Гэта абумовіла асаблівую стракасць этнічнай структуры ва ўсім свеце: зараз амаль адсутнічаюць этнічна гамагенныя дзяржавы. Да такіх умоўна можна аднесці толькі 12 краін (9 % дзяржаў) [1, с. 13]. Этнічная меншасць уяўляе сабой спецыфічны від этнічнай супольнасці. Часцей за ўсё гэты тэрмін выкарыстоўваецца ў дачыненні да групы людзей, якія ў сілу абставін адарваліся ад карэннага этнасу. У выніку гэтага яны вымушаны жыць і прыстасоўвацца да новых рэалій часу ўжо ў межах іншага этнасу. Этнічную меншасць характарызуе шэраг уласцівасцей. Па-першае, своеасаблівы культурны комплекс. Па-другое, яна ў значнай ступені саступае (як бачна з назвы) тытульнаму этнасу. Па-трэцяе, стратэгія пражывання: этнічныя меншасці рассяляюцца ўжо ва ўстойлівай этнасацыяльнай прасторы, і для таго, каб захаваць этнакультурную ідэнтыфікацыю, адначасова яе прадстаўнікі вымушаны выпрацоўваць лінію паводзінаў у межах мясцовага насельніцтва.

Сёння ў самых розных краінах пражывае больш за пяць тысяч этнічных меншасцей. Шэраг з іх знайшлі прытулак і ў нашай краіне, прычым адбылося гэта яшчэ ў часы Сярэднявечча. На працягу стагоддзяў Беларусь стала другой радзімай для татар, цыган, літоўцаў, рускіх, палякаў, украінцаў. Адносна тытульнага этнасу – беларусаў – іх колькасць была нязначнай, і рассяляліся яны часцей за ўсё дысперсна (за выключэннем старaабрадцаў). Адпаведна дадзеным перапісу 1897 г., на тэрыторыі Беларусі пражывала 156 тысяч палякаў, 280 тысяч рускіх, 910 тысяч яўрэяў і 311 тысяч украінцаў [2, с. 144 – 146]. Прадстаўнікі этнічных меншасцей, што пражывалі на Беларусі, адрозніваліся ад мясцовага насельніцтва не толькі культурай, але часам знешнім выглядам. Так, напрыклад, яўрэі насілі доўгі сюртук (лапсярдак), падпярэзаны шырокім поясам, а на галаве – цюбецейку (ярмолка). А пра палякаў гаварылі так: «Па чом пазнаць ляха? – па тым, што на чрэве бляха» [3, с. 139].

Узаемаадносіны беларусаў з прадстаўнікамі іншых этнічных груп у цэлым можна ахарактарызаваць як станоўчыя і бесканфліктныя. Аднак пры гэтым яны ўсё роўна будаваліся на ўяўленнях беларусаў аб тым, што гэта іншыя, у многім непадобныя да іх людзі. Менавіта таму асобныя этнічныя меншасці яшчэ ў XVIII – XIX стст. сталі цікавым аб'ектам для параўнальнага вывучэння. Даследчыкі звярталі ўвагу не толькі на матэрыяльную культуру этнічных меншасцей, але і на асаблівасці іх духоўнай культуры, чалавечыя якасці. Так, у 1867 г. у свет выйшла кніга «О происхождении и состоянии литовских татар» знакамітага даследчыка А.В. Мухлінскага. У межах дадзенай працы аўтар імкнуўся раскрыць сутнасць шырокага кола праблем: першае з'яўленне татар у Літве, межы іх рассялення, асаблівасці матэрыяльнай і духоўнай культуры. Крыху пазней, у 1883 г.,

была надрукавана праца «Литовские евреи» С.А. Бершадскага. Асноўная ўвага даследчыка была звернута на становішча яўрэяў у Вялікім Княстве Літоўскім.

Сярод шматлікіх жанраў беларускага фальклора значную ролю ў асэнсаванні вобраза іншародца адыгралі павучальныя і мудрыя сваёй маральна-практычнай філасофіяй прыказкі, прымаўкі і казкі [4, с. 13]. Яны з'яўляюцца ўдалай і змястоўнай крыніцай па вывучэнню стаўлення беларусаў да прадстаўнікоў іншых этнасаў. Так, напрыклад, прыказкі і прымаўкі, з'яўляючыся самымі кароткімі па форме, у той жа час найбольш трапна перадаюць інфармацыю. Адначасова казкі, нягледзячы на ўласцівыя ім элементы фантастыкі, грунтуюцца ў першую чаргу на сінтэзаванні рэальных з'яў, тыпізацыі канкрэтных фактаў з жыцця грамадства [4, с. 12]. Асноўным спосабам узнікнення прыказак, прымавак і казак былі разнастайныя жыццёвыя назіранні, гістарычныя сітуацыі, рысы характару людзей. Прычым падобныя назіранні вельмі часта вяліся на аснове антыноміі мы – яны, свае – чужыя. Мяжой у дадзенай антытэзе маглі быць роднасныя сувязі, сацыяльная няроўнасць, знешнія характарыстыкі: «Чужое сваім не заві», «Хто не шануе чужога, той свайго не мае» [5, с. 437 – 441], «Свой насоў цяплей чужога кожуха» [6, с. 481], «Свое лычко лучше чужого раменцу» [6, с. 482]. Кожны народ імкнецца асэнсаваць сябе, сваё месца ў гісторыі і культуры. Намаляваць для сябе партрэт чужога – суседа, іншаземца ці іншаверца – гэта значыць у пэўнай ступені асэнсаваць самога сябе, сваю ўнікальнасць і адметнасць. У народнай культуры адносіны да прадстаўнікоў іншых этнасаў вельмі часта вызначаюцца праз паняцце этнацэнтрызму, калі свае традыцыі, свая рэлігія, свае звычаі і свая мова ўспрымаюцца як адзіна сапраўдныя і правільныя: «Свой свайму паняволі брат», «Свой хоць над вадою патрасець, але ж у ваду не ўнясець», «Род, племя блізка, а свой род бліжэй» [5, с. 139].

Вобраз чужога фарміруецца як агульныя веды наконт рэлігіі і быта, абрадаў і рытуалаў, мовы і вераванняў этнічных суседзяў. У народнай свядомасці чужынец – гэта прадстаўнік іншаэтнічнай супольнасці, судатычны з катэгорыяй «іншасвету» і «варожага» ў адрозненне ад «карэнных», «мясцовых». Адна з галоўных рысаў чужынца – іншамоўнасць – з'яўлялася тоеснай немаце або прыроднай незразумелай мове. Чужынцам таксама вельмі часта прыпісваліся разнастайныя хібы фізічнага, разумовага і маральнага чыну. Лічылася, напрыклад, што ў адрозненне ад «людзей», у жыдоў няма душы, а толькі «пара», як у жывелаў, а рускія валодаюць невысокімі разумовымі здольнасцямі: «Не дуры Маскву, яна і так дурная» [7, с. 557].

«Інакшасць» чужынцаў палягае ў іх суаднясенні з «нячыстай сілай». У беларускім фальклоры чорт вельмі часта выступае ў вобразе, напрыклад, «чорнага маскаля». Чужынцу прыпісваліся і моцныя чарадзейскія здольнасці (пераважна дэструктыўнага кшталту). У беларускіх замовах як шкаданоснае фігуруе «вока цыганскае, жыдоўскае, татарскае, маскоўскае». Меркаваная сувязь чужынцаў з нячыстай сілай рабіла катэгарычна недапушчальным іх удзел у рытуалах каляндарнага і сямейнага цыклаў. Так, напрыклад, жыдоў і цыганоў ніколі не бралі ў кумы на радзіны. Такія ўяўленні пра іншародцаў былі характэрныя не толькі для беларусаў, а наогул для ўсіх славян. Прадстаўнікі іншых этнасаў маглі выступаць у выглядзе пэўнага міфічнага народа, веліканаў, людаедаў. Такімі, па ўяўленнях рускіх, былі «чудзь», «паны», «літва». Гэтыя іншародцы адрозніваліся сваёй сілай і ростам, валодалі скарбамі, забівалі і з'ядалі людзей, а потым таемна знікалі [8, с. 213].

У прыкметах, звязаных з іншародцамі, выяўляюцца і станоўчыя рысы, і функцыі. Шчаслівай

прыкметай лічыцца ў славян прыход у хату ў пэўныя каляндарныя святы іншародца-палазніка. Нованароджаны будзе здаровым, калі ў першы раз яго пакорміць цыганка (сербскае павер'е). У сем'і, дзе пастаянна паміралі дзеці, запрашалі да нованароджанага іншародца (у паўднёвых славян). Трактоўка вобраза чужога ў беларускім фальклоры дынамічна развіваецца паміж двума палюсамі – непрыняцця і талерантнасці [8, с. 215]. Менавіта ў гэтай палярнасці і заключаецца ўнікальнасць усяго комплекса ўяўленняў пра чужых, які адлюстроўвае і этнаканфесійную палеміку, і грамадскае супрацьстаянне, і культурны ўзаемаўплыў [9, с. 7].

На фарміраванне фальклорнага вобраза чужога ўплывала мадэль культурнага суседства, якая склалася ў тым ці іншым рэгіёне. Напрыклад, для станаўлення комплекса стэрэатыпных уяўленняў пра яўрэяў было немалаважным, у якім асяроддзі яны фарміраваліся – сярод жыхароў мястэчак з дамінуючым яўрэйскім насельніцтвам ці ў сельскай мясцовасці, дзе нешматлікія яўрэйскія сем'і жылі ў акружэнні суседзей-славян (Палессе) [9, с. 39]. З местачковага асяроддзя, дзе дагэтуль захаваліся матэрыяльныя рэшткі «яўрэйскай прысутнасці» (могілкі, сінагогі), можна атрымаць значны пласт расповедаў, выслоўяў, якія датычацца яўрэяў. Хаця местачковае яўрэйства складала дастаткова абасобленую групу насельніцтва, суседзі- славяне маглі назіраць за іх абрадавымі дзеяннямі, культурай.

На Палессі тып рэгіянальнай культуры быў іншым: нешматлікія яўрэйскія сем'і жылі ў акружэнні сельскага насельніцтва, у такіх жа, як і палешукі, хатах, бліжэйшае мястэчка знаходзілася за некалькі дзясяткаў кіламетраў. Мясцовыя жыхары амаль нічога не ведалі пра рэлігійнае жыццё яўрэяў, пра іх культавыя рытуалы. Пры такой адсутнасці матэрыяльных рэштак чужой культуры тут складвалася сваё бачанне іншародцаў: яўрэі ў многіх выпадках станавіліся сваімі чужымі, якія растваралiся ў мясцовай культуры.

Уяўленні пра чужую веру і чужы народ знаходзяць адлюстраванне ў фальклорных легендах і звязаных з імі павер'ях [9, с. 8], прычым прадстаўнікі кожнай з існуючых на Беларусі меншасцей надзяляліся асаблівым комплексам характарыстык. Усю сукупнасць такога роду прыказак, прымавак і казак умоўна можна падзяліць на два віды:

- Творы, што перадавалі найбольш спецыфічныя якасці характару і паводзінаў.

Дзякуючы працяглым назіранням, шчыльным стасункам, беларусы адзначалі асноўныя якасці тых, з кім ім прыходзілася мець справы. Найбольш яскравым і распаўсюджаным персанажам беларускага фальклору з'яўляецца яўрэй (жыд). Прадстаўнікі гэтай этнічнай групы, па ўяўленнях беларусаў, з'яўляліся асобамі дастаткова ненадзейнымі, хітрымі, якія імкнуцца выключна да асабістых выгод: «Рупь – не деньги, а жид – не брат» [10, с. 216], «Як бог да Шлемкі, гэтак і Шлемка да Бога» [10, с. 126]. Адзначаныя рысы характару жыдоў знаходзяць яскравае адлюстраванне і ў казках. Так, у казцы «Мужык Раман і жыды» яўрэі імкнуцца падмануць мужыка, купіць тавар танней або ўвогуле не заплаціць яму за яго. Аднак за сваю залішнюю сквапнасць ім урэшце прыйшлося паплаціцца: мужык Раман змог прадаць ім не толькі «цялешкі, якія куды захочуць – туды самі і едуць», але і «саламяны капялюш, які сам плаціць за гаспадара», а таксама «сякеру, якая ажыўляе пакойнікаў» [6, с. 300 – 304]. Адначасова праз дадзены сюжэт наскрозь праходзіць параўнанне і галоўная ідэя – адзін мужык (у дадзеным выпадку свой) разумнейшы за трох жыдоў (вобраз чужога).

Яшчэ з большай доляй упэўненасці беларусы характарызавалі яўрэяў як людзей лісліўых – «Ходзіць жыдок ходарэм перад панам Хведарам» [10, с. 217]; аматараў залішняга самахвальства – «Кожны жыдок хваліць свой крамок» [10, с. 55].

Беларусы нярэдка звязвалі з жыдамі і некаторыя з'явы надвор'я (дождж пры сонцы – жыдоўскі дождж). Падчас абраду выклікання дажджу на Палессі ў калодзеж кідалі гаршчок, украдзены ў суседзяў-яўрэяў, аблівалі жыдоў вадой (в. Барбараў Мазырскага раёна). Для народнай дэманалогіі характэрныя ўяўленні аб яўрэях – знахарах, уяўленні аб хапуне (чорт хапае жыда ў судную ноч) [7, с. 174].

Асаблівае месца ў беларускім фальклоры займаюць цыганы – вельмі самабытная і ахутаная таямнічасцю этнічная група, продкі якой паходзяць з паўночнай Індыі. У сярэдзіне XV ст. яны з'явіліся ў Вялікім Княстве Літоўскім і набылі тут прызнанне як кавалі, ювеліры, каняводы, музыкі, спевакі, танцоры і муштроўшчыкі жывёл, а жанчыны сталі вядомыя праз сваю варажбу і знахарства [7, с. 545]. Народны вопыт надзяляе цыганоў наступнымі якасцямі:

• гультайства – «Цыган да месяца: дарма ў Бога хлеб ясі – свеціш, а не грэеш» [3, с. 337]. Беларусы адначасова надзялялі цыганоў кемлівасцю і хітрасцю, якія дапамагалі нядрэнна жыць цыгану-абібоку. Аб гэтым выгадным сімбіёзе распавядае беларуская казка «Цыган і поп» [6, с. 332]. Згодна з сюжэтам, дамовіўся цыган выкасіць у папа траву. Аднак за цэлы дзень ён паспеў толькі выспацца і добра падсілкавацца, а трава засталася няскошанай. Калі ж цыган вечарам прыйшоў да папа за разлікам, той, не ведаючы, што трава засталася няскошанай, усе ж такі пашкадаваў цыгану сала і даў за працу толькі пірог. Кемлівы цыган не разгубіўся і пажадаў папу: «Не даў сала, каб табе трава стала!». На другі дзень паехаў поп на луг – трава стаіць няскошаная. Так цыган і працу не выканаў, дык яшчэ за гэта і плату атрымаў. У такой канцоўцы казкі адлюстравана спецыфіка ўспрыняцця цыганоў беларусамі.

- самахвальства – «Кожны цыган сваю кабылу хваліць» [10, с. 55];
- смеласць – «Цыган галее дык смялее» [10, с. 116];
- вынослівасць, стойкасць – «Гартоўны, як цыганскае дзіця» [3, с. 359].

Як і астатнія іншародцы, цыганы надзяляліся таксама звышнатуральнымі якасцямі. Напрыклад, у в. Кармазы Старадарожскага раёна, паводле падання, цыганка пракляла царкву, і тая праваліласа. Утварылася возера, якое пасля стала балотам [7, с. 545].

• Творы, што выяўлялі сацыльнае становішча, якое займалі ў грамадстве прадстаўнікі розных этнічных груп.

На працягу ўсёй сваёй гісторыі беларусы, як і астатнія славянскія народы, з павагай і адданасцю адносіліся да працы. Нездарма народная мудрасць павучае: «Праца не паганіць чалавека, а корміць, поіць і вучыць», «Без працы не есці пірагоў» [11, с. 20]. Пры гэтым традыцыйным заняткам на беларускай зямлі заўсёды лічылася земляробства: «Паміраць збірайся, а жыта сей», «Хто зямлі дае, таму і зямля дае» [11, с. 16 – 17]. Менавіта працавітасць і пашана да зямлі з'ўляліся найбольш важнымі крытэрыямі, праз якія беларусы ладзілі свае стасункі з іншародцамі. Адсюль спецыфічная, адрозная ад земляробства, дзейнасць цыганоў (крадзеж коней, варажба) і жыдоў (карчмарства, ліхвярства, гандаль) таксама набывалі для беларусаў знакавую форму. Такое супрацьпастаўленне ярка выражана ў некаторых казках, дзе ў якасці чужых выступалі жыды,

цыганы, палякі, татары, а ў якасці сваіх – мужык, селянін. Вось прыклады назваў некаторых такіх казак: «Цыган і поп» [6, с. 332], «Мужык і цыган» [6, с. 333], «Цыган и крестьянин» [6, с. 333], «Цыган і гаспадар» [6, с. 334]. У дадзеным выпадку агульны для беларусаў занятак – праца на зямлі – выступае як аб'яднаўчы фактар, прыкмета прыналежнасці да катэгорыі сваіх. Напрыклад, у назве казкі «Цыган і гаспадар» закладзена супрацьпастаўленне чужога – цыгана і працавітага чалавека, чалавека справы, свайго – гаспадара. У адрозненне ад апошняга, цыган выступае ў казцы як чалавек без уласнай справы. Адзінае, дзе ён добра спраўляецца, – гэта крадзеж. У якасці памочніка цыгана, па ўяўленнях беларусаў, выступае чорт.

Асноўны пласт прыказак, прымавак і казак, што распавядалі пра заняткі і палажэнне прадстаўнікоў этнічных груп у беларускім грамадстве, часцей за ўсё тычыўся яўрэяў. Гэта было абумоўлена іх асаблівым становішчам. Асноўным відам іх дзейнасці быў гандаль, у якім яны праяўлялі сябе як асобы здольныя. Канкураваць з імі ў гэтай сферы мясцовае насельніцтва не мела магчымасці: «Гандляваць лягчэй у краме, чым касіць у пана», «Крамар як камар: дзе сядзе, там і п'е» [3, с. 66]. Народная мудрасць таксама сцвярджае: «Карчмарова вока і праз лахманы грыўню бачыць» [3, с. 66] , «Шынкар п'яніцу любіць, ды дачкі за яго не аддасць» [3, с. 77]. Гандаль жа гарэлкай набліжаў жыдоў да нячыстай сілы (гарэлка як вынаходка чорта), рабіў іх паслугачамі «ліхога». Паказальна, што паводле фальклорнай традыцыі, пачатковым месцазнаходжаннем жыдоў з'яўлялася пекла, адкуль іх за пляшку гарэлкі выпусціў п'яніца, пасля чаго яны рассяліліся па ўсёй зямлі. Аднак і пасля смерці жыд (як і большасць іншых чужынцаў) не можа патрапіць у рай і зноў апынаецца ў пекле: «Пана гром забіў, жыда чорт ухапіў» [7, с. 557 – 559].

З канца XVIII ст. стаўленне ўлад да яўрэяў мяняецца, яны пазбаўляюцца шэрагу сваіх колішніх прывілеяў. Адпаведна закону аб мяжы яўрэйскай аселасці 1794 г. яўрэям забаранялася займацца сельскай гаспадаркай, а таксама прадпісвалася сяліцца выключна ў гарадах і мястэчках. Найбольш яскрава сэнс гэтага закона перадаецца ў наступнай беларускай прыказцы: «Нядобра, калі жыд пазнае грунт, а мужык пазнае хунт» (селянін павінен трымацца зямлі, а яўрэй – гандлю) [10, с. 73]. У цэлым жа ўсякія дачыненні катэгорыі чужынца да аграрнага цыкла ўсведамляліся карэнным насельніцтвам як вельмі небяспечны фактар. Так, калі пры выправе на раллю сустаракаўся жыд, працу трэба было перанесці на наступны дзень. У адваротным выпадку замест збожжа магло ўрадзіць адно зелле [7, с. 557 – 559].

Часцей героямі беларускіх прымавак, прыказак і казак станавіліся яўрэі, цыгане. Па-за межамі народнай увагі заставаліся рускія, украінцы. Для гэтага існавалі свае падставы. Па-першае, падобныя па культуры і ладу жыцця ўкраінцы, рускія нярэдка маглі ўваходзіць у катэгорыю сваіх. Па-другое, асноўным крытэрыем аднясення да катэгорыі сваіх на той час для беларусаў быў паказчык рэлігіі. Фактар канфесійнай прыналежнасці ўвогуле адыгрывае ў сістэме каштоўнасцей народнай культуры важную ролю. Прыналежнасць да дамінуючай канфесіі з'яўляецца для прадстаўнікоў любога этнаса галоўнай умовай таго, што ён – неад'емная частка свайго народа. Менавіта таму ў фальклорных уяўленнях пра сваю веру і свой народ прыкмета канфесійнасці вельмі часта атаясамліваецца з прыкметай этнічнасці [9, с. 76]. Так і для беларусаў усе, хто спавядаў адзіную з імі рэлігію, аўтаматычна станавіліся сваімі. Адпаведна яўрэі, што спавядалі іўдаізм, і «цыганы-атэісты» ў гэтыя шэрагі не траплялі. У былым Пінскім павеце блізу в. Кухоцкая Воля пра тры

курганы запісана паданне, што ў адным пахаваны татары, у другім – прыгнаныя аднекуль жыды і ў трэцім – хрысціяне [12, с. 174]. Адрозная рэлігія чужынцаў фармавала ў мясцовага насельніцтва перакананне, што, напрыклад, татары і жыды «моляцца чорту», «каб загубіць хрысціян». І варта даць грошай на тры жыдоўскія школы, як рабіны праз свае малітвы навядуць смерць на ворага замоўцы [7, с. 557 – 559]. Рускія ж фігуруюць у беларускім фальклоры як хрысціяне наогул. Па паданню, на гары Гарадзішча блізу праліва паміж азёрамі Снуды і Струста некалі жыў рускі баярын, у якога было дзве дачкі. Недзе тут у зямлі ляжыць вялікі праваслаўны крыж, і калі яго адкапаць, то ўсе «каталікі» (іншаверцы) навакольных вёсак павінны будуць перайсці ў праваслаўе [7, с. 435 – 436].

Жанры беларускага фальклора акрэсленых тыпаў маглі ўжывацца ў двух накірунках. З аднаго боку, з іх дапамогай выдзеленыя ўласцівасці пераносіліся на ўсіх прадстаўнікоў этнічнай меншасці, нават калі асобным яе членам яны не былі характэрныя. Так, вобраз хітруна-яўрэя і цыгана-абібока станавіўся збіральным. З другога боку, перанос мог адбывацца і ў дачыненні да сваіх, калі яны валодалі акрэсленымі спецыфічнымі якасцямі. Нездарма народны вопыт павучае: «Чужога добрага не гань, а свайго дрэннага не хвалі» [13, с. 85].

Прыказкі, прымаўкі, казкі, такім чынам, з'яўляюцца спецыфічнай гістарычнай крыніцай, якая можа даць каштоўную інфармацыю па многіх, здавалася б, ужо цалкам вывучаных пытаннях, у тым ліку па гісторыі этнічных меншасцей. Адначасова яны валодаюць важнымі асаблівасцямі: прыказкі і прымаўкі, напрыклад, не маюць канкрэтнага адрасату; казкі ж увабралі ў сябе ўвесь каларыт назіранняў за жыццём людзей на працягу цэлых эпох. Гэтыя асаблівасці забяспечваюць прыказкам, прымаўкам, выслоўям і казкам шырокае поле ўжывання.

During centuries Belarus became the second native land for the Tatarians, the Jewry, the Romany, the Lithuanians, the Russians, the Ukrainians, the Poles and others.Folklore is special source by reseach the ethnic minorities in Belarus, their position and attitude with local population. Among the numerous genres of belarussian folklore the sayings, proverbs, fairy tales have an important place in understanding of the charakter «outlander». All of the folklore genres, that are devoted to the charakter «foreign» , can be devided into 2 types: those, that uncover the most specific personality traits and behavior; and those, that charakterize social position of the representatives the ethnic groups.

Спіс крыніц і літаратуры

1. Альтерматт, У. Этнонационализм в Европе / У. Альтерматт. – М.: Изд. центр РГГУ, 2000. – 366 с.
2. Терешкович, П. В. Этническая история Беларуси XIX – начала XX вв. / П. В. Терешкович. – Минск: БГУ, 2004. – 221 с.
3. З вечнага: зборнік фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў Случчыны / Міністэрства культуры БССР, Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр культуры; рэдкал.: Р. В. Родчанка [і інш.]. – Выд. 2-е, дап. – Мінск: РНМЦ культуры, 1990. – 62 с.
4. Янкоўскі, Ф. М. Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі / Ф. М. Янкоўскі. – Мінск, 1957. – 168 с.
5. Прыказкі і прымаўкі / АН БССР, І-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору / рэд.: А. С. Фядосік. – Мінск: Навука і тэхніка, 1976. – Кн. 1. – 560 с.
6. Шейн, П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: у 2 т. / П. В. Шейн. – СПб.: Типография императорской АН, 1893. – Т. 2: Сказки, анекдоты, легенды, предания, воспоминания, пословицы, загадки, приветствия, ворожба, проклятия, ругань, заговоры, духовные стихи и проч. – 715 с.
7. Беларуская міфалогія / склад. І. Клімковіч. – Мінск: Беларусь, 2004. – 591 с.
8. Славянская мифология / Ин-т славяноведения и балканистики Рос. АН. – М.: Эллис Лак, 1995. – 414 с.

9. Белова, О. В. Этнокультурные стереотипы в славянской народной традиции / О. В. Белова. – Москва: Индрик, 2005. – 287 с.
10. Аксамітаў, А.С. Прыказкі і прымаўкі: тлумачальны слоўнік беларускіх прыказак і прымавак / А.С. Аксамітаў. – Мінск: Беларуская навука, 2000. – 319 с.
11. Мудрасць жыцця / складальнік А. І. Гурскі. – Мінск: Мастацкая літаратура, 2007. – 93 с.
12. Беларускі фальклор / рэдкалегія: Г. П. Пашкоў (галоўны рэдактар) [і інш.]. – Т. 1. – А – К. – 765 с.
13. Прыказкі і прымаўкі: у 2 кн. / АН БССР, І-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору / рэд. А.С. Фядосік. – Мінск: Навука і тэхніка, 1976. – Кн. 2. – 560 с.

Навуковы кіраўнік – ***С.А. Захаркевіч***, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

## ГЕНДЕРНАЯ ГІСТОРЫЯ

УДК 316.34.2

*А. В. Пигулевская*
*(Гродно, ГрГУ имени Янки Купалы)*

# *ОСНОВНЫЕ ЭТАПЫ СТАНОВЛЕНИЯ И РАЗВИТИЯ ГЕНДЕРНЫХ ИССЛЕДОВАНИЙ В ЗАПАДНОЙ ЕВРОПЕ (60-е гг. XX – НАЧАЛО XXI вв.)*

В статье рассматривается развитие гендерных исследований в странах Западной Европы в 60-е гг. XX – начала XXI вв. Гендерные исследования – междисциплинарная исследовательская практика, использующая познавательные возможности теории социального пола (гендера) для анализа общественных явлений и их изменений. Особое внимание в статье уделяется этапам развития исследований, даётся их характеристика.

Гендерные исследования как самостоятельная область научных и образовательных интересов является собирательным понятием для современных гуманитарных теорий – экономических, социальных, политических, лингвистических и других, так или иначе интерпретирующих проблему взаимоотношений полов и использующих новейшее ее обозначение – «гендер».

Этнографы были первыми, кто обнаружил значительные различия в понимании представителями изучаемых ими народов и этносов социальных ролей, позиций, прав и обязанностей мужчин и женщин. Эти различия детерминируются множеством факторов, как социальных, так и внесоциальных (географических, климатических, биологических и др.). Но не этнографы, а социологи и философы – причём среди них преобладали женщины, явно разделяющие идеи современного феминизма – первыми предложили решительно «развести» понятия биологического пола, называемого в английской науке привычным термином sex, от пола социального, для которого был избран давно известный в лексикологии и ставший очень популярным в период постмодернистской языковой революции термин gender, дословно переводимый на русский язык тем же словом «пол».

В 1958 г. работавший в университете Калифорнии (Лос-Анджелес, США) психоаналитик Р. Столлер ввел в науку термин «гендер» (социальные проявления принадлежности к полу или «социальный пол»). В 1963 г. он выступил на конгрессе психоаналитиков в Стокгольме, сделав доклад о понятии социополового (или, как он назвал его, гендерного) самоосознания. Его концепция строилась на разделении «биологического» и «культурного»: изучение пола (англ. – sex), считал Р. Столер, является предметной областью биологии и физиологии, а анализ гендера (англ. – gender) – может быть рассмотрен как предметная область исследований психологов и социологов, анализа культурно-исторических явлений. Предложение Р. Столлера о разведении биологической и культурной составляющих в изучении вопросов, связанных с полом, и дало толчок формированию особого направления в современном гуманитарном знании – гендерным

исследованиям [1, с. 34].

Благодаря их появлению и развитию пол в социальной теории рассматривается как инструмент социальной детерминации и стратификации (наравне с классом, этносом, конфессией, культурой), а актуальные социальные проблемы – власть, насилие, самосознание, свобода – предстают как проблемы, связанные с принадлежностью к определенному полу.

В истории развития гендерных исследований можно выделить несколько этапов:

1) 60 – 70-е гг. XX в. – начальный этап гендерных исследований, получивших название «женские исследования» («women's studies»). Ощутимый рост интереса к «женской теме» в современном гуманитарном знании относится к концу 60-х гг. XX в. Социально-политический контекст появления женских исследований был создан идеями эмансипации, равенства, автономии, прогресса, нашедшими отражение в молодежных движениях конца 60-х гг. XX в. и революции «новых левых», сексуальной революции и «второй волной» феминизма.

Теоретический анализ отношений полов был востребован изменившимися (по сравнению с XIX в. и «первой волной» движения) целями феминисток: от борьбы за равенство прав, которое оказалось уже зафиксированным в законах многих стран, они перешли к борьбе за равенство возможностей для женщин, от «феминизма равенства» к «феминизму различий», требованию признать «особость» женского социального опыта. Вместе с возникновением в 1970 г. во Франции «Движения за освобождение женщины» там были основаны и первые феминистские журналы. Аналогичный процесс начался и в США, где в короткие сроки добились больших тиражей журналы «Signs», «Feminist Studies», «Women's Studies Quarterly». Взлет неофеминизма появлиял на интеллектуальную сферу: ученые в Европе и США стали избирать объектом своих изысканий женщину – в семье, на производстве, в системах права и образования, в науке, политике, литературе и искусстве. Первый спецкурс по истории «женского движения» был прочитан в Сиэтле в 1965 г. В конце 60-х гг. XX в. спецкурсы «о женщинах» читались также в Вашингтоне, Портлэнде, Ричмонде, Сакраменто и других городах США и Западной Европы. В 1969 г. Ш. Тобиас предложила обобщающее название для этих спцкурсов – Female Studies [2, с. 78].

Говоря о главных достижениях гендерных исследований на их первом, феминологическом этапе, нужно подчеркнуть, что они:

а) ввели фактор различия полов в традиционный социальный, в том числе социально-стратификационный анализ;

б) возвратили женские имена социальному знанию – истории, философии, литературоведению, психологии;

в) заставили признать, что социальное знание, ранее считавшееся «полным» и «универсальным» для всех без различия пола, таковым не является, поскольку традиционные теории познания приуменьшали значение главных в женском опыте и женских жизнях областей знания, были слишком рационалистическими;

г) обосновали историчность двух взаимодополняющих социальных сфер – публичной-«мужской» и частной-«женской» и равную значимость частной сферы для функционирования общества;

д) создали предпосылки для перехода от анализа больших структур и социальных

общностей к антропологически-ориентированным социальным наукам, интересующимся жизнью отдельных людей;

е) ввели гендерное измерение в социально-экономическую историю, пополнившуюся такими темами, как «феминизация бедности», «фемининность безработицы», «политэкономия домашнего труда», «история женского домашнего труда», заставив признать категорию «пол» одним из структурообразующих экономических принципов [2, с. 78 – 79];

2) 80-е гг. XX вв. Отличительной чертой этого этапа является признание «женских исследований» и возникновение «мужских» (андрологии).

Под непосредственным воздействием «женских исследований» возникли «мужские исследования» (Men's Studies) или социальная андрология. Андрология, или «мужские исследования», были, в известной степени, ответом на усиление феминистского движения и стремление приверженцев «исследований женщин» многосторонне (но с позиций женского опыта) изучить взаимоотношения полов. «Мужские исследования» пытались выявить основные этапы становления концепций мужественности, возможные кризисы и девиации, особенности способов, механизмов, каналов формирования института пола, в данном случае – пола мужского и предложить возможные варианты преодоления жесткости мужской гендерной роли (в частности, через так называемое «новое родительство», в рамках которого оба родителя активно участвуют в воспитании).

«Исследователи женщин» и «исследователи мужчин» на этом этапе развития гендерных исследований добились многого. Прежде всего, «исследователи женщин» сумели реабилитировать феминизм как политику, в основе которой лежит принцип свободы выбора; они заставили общество признать феминистскую идею личностного становления женщины как основы ее эмансипации и эмансипации общества от стереотипов. Благодаря «женским исследованиям» возникли «мужские исследования», и их приверженцы увидели общность своих целей с феминистками. Феминологи и андрологи сумели придать гендерный ракурс биографическому и автобиографическому методам, обратив внимание на несходство мужской и женской индивидуальной и коллективной памяти, особенностей фиксации и осмысления увиденного и замеченного [4, с. 97].

Размышляя о взаимодействии понятий «мужественность» и «женственность», андрологи и феминологи практически одновременно пришли к выводу о необходимости координации своих исследований и направлений работы. К концу 80-х гг. XX в. в науке появилась тенденция именовать все исследования, касающиеся вопросов пола, гендерными – какого бы содержания они ни были и с какой бы теоретической платформы они ни писались. Понятие «гендерные исследования» оказалось более конформным и приемлемым для научного сообщества, нежели термин «женские исследования»;

3) конец 80-х – 90-е гг. XX в. Для этого этапа развития гендерных исследований характерны:

а) переход к анализу гендерных систем (выявление и анализ разных аспектов социальности и культуры в их гендерном измерении). Новая концепция «гендера» перестала связывать его исключительно с женским опытом. Под гендером стала пониматься система отношений, которая является основой стратификации общества по признаку пола;

б) расширение содержания гендерных исследований за счёт включения проблемы маскулинности и сексуальности.

На этом этапе гендерные исследования, объединив «мужские исследования» и «женские исследования», стали признанной частью учебных программ в сотнях вузов Западной Европы и США.

Однако перспективы объединительных тенденций в гендерных исследованиях радовали далеко не всех их приверженцев. В частности, уже в конце 80-х гг. XX в. многие из работ, написанных на основе гендерного подхода к анализу социальных явлений, подверглись критике за нечувствительность к расовым различиям (поскольку исследователи обращались в основном к проблемам белых образованных европейских и американских женщин среднего класса). Эта тенденция была связана с усилением позиций «цветного феминизма».

Вместо попыток находить и анализировать социальные истоки гендерной асимметрии и дискриминации гендерологи задались задачей создания метатеории, раскрывающей отношения между Наукой, Властью и Гендером. Для этого им необходимо было убедить пересмотреть многие привычные представления и научно доказанные «истины», в частности, усомниться в возможности создания «абсолютно объективного», свободного от пристрастий и субъективной заинтересованности научного исследования. Обсуждая эти вопросы, гендерологи 80-х гг. XX в. так и не пришли к единому мнению о том, можно ли считать себя примкнувшими к данному направлению научного знания, не разделяя феминистских идей и феминистской идеологии. При этом убежденные феминистки выступали на этом этапе с резкой критикой так называемой «ложной теории гендера», а вместе с ним – многих примкнувших к гендерным исследованиям ученых, не разделявших и не разделяющих феминистских взглядов. Дискуссии и споры привели, во-первых, к большей поляризации позиций радикальных и либеральных феминисток. Во-вторых, расхождения между сторонницами «феминизма равенства» (сходства мужского и женского типов субъективности) и «феминизма различий» («различений» между мужским и женским типами субъективности и идентичности) развели по разным сторонам американскую науку и науку европейскую, особенно французскую. Среди американских гендерологов больше сторонников феминизма равенства (хотя в США можно отыскать представительниц всех течений в феминизме), а среди европейских больше сторонниц феминизма различий [3, с. 57];

4) конец 90-х гг. XX – начало XXI вв.

В последнее время гендерные исследования стали признанным направлением развития гуманитарного знания не только в США и Западной Европе, но и в странах Африки, Азии, Восточной Европы, России, на постсоветском пространстве. Это связано с ростом внимания к проблемам женщин, имеющим международный характер.

Принципы современных гендерных исследований основаны на открытом признании личной ангажированности ученого, его вовлеченности в движение за гендерное равенство. Основная и наиболее влиятельная часть гендерного сообщества начала XXI в. полагает, что причисление того или иного ученого к гендерологам означает его ясно выраженное согласие с феминистской перспективой. Среди задач, которые ставят те, кто использует гендерный подход к анализу социальных явлений, можно выделить:

а) специальное исследование всех видов социальных практик женских сообществ и позиционирование женщин как «ключевых информаторов»;

б) преодоление андроцентризма, категорический отказ от «смешения» мужских и женских нарративов при реконструкции жизни отдельных этносов;

в) неформальное внимание к гендерным различиям, раздельное изложение жизненных практик мужчин и женщин;

г) особое внимание – анализу женского/мужского опыта с точки зрения самих его носительниц/носителей, их жизненной перспективы, взгляд на респондентов «снизу» и «изнутри», а не «сверху», с позиций умудренного носителя высших истин;

д) концептуализация женского/мужского поведения как влияния разных социальных и исторических контекстов;

е) нацеленность на оптимистическую перспективу и преодоление практик виктимизации (попыток представить объекты своего изучения – например, немужественных мужчин или мужеподобных женщин – бессильными жертвами);

ж) обучение «изучаемых объектов» методам анализа их собственных жизней, формулированию целей и жизненных задач, связанных с устранением неполноправия [1, с. 39 – 40].

The article deals with the problem of gender studies. The author pays attention on the problem of the development of gender researches. The analysis of the stages of the development of gender studies is made in the article.

Список источников и литературы

1. Введение в гендерные исследования: учеб. пособие для студентов вузов / И.В. Костикова [и др.]; под общ. ред. И.В. Костиковой. – М.: Аспект Пресс, 2005. – 255 с.
2. Пушкарёва, Н.Л. Гендерные исследования: рождение, становление, методы и перспективы / Н.Л. Пушкарёва // Вопросы истории. – 1998. – № 6. – С. 76 – 86.
3. Репина, Л.П. Гендерная история: проблемы и методы исследования / Л.П. Репина // Новая и новейшая история. – 1997. – № 6. – С. 41 – 58.
4. Теория и методология гендерных исследований: курс лекций / под общ. ред. О.А. Ворониной. — М.: МЦГИ – МВШСЭН – МФФ, 2001. – 416 с.

Научный руководитель – ***И. О. Змитрович,*** кандидат философских наук, доцент.

